АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ЖАРТОЎНЫЯ ПЕСНІ



ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1974

Складанне, сістэматызацыя тэкстаў,
уступны артыкул і каментарыі
**І. К. Цішчанкі**

Музычная частка
і ўступны артыкул да яе
**С. Г. Нісневіч**

Рэдактары тома
**А. С. Фядосік, Г. І. Цітовіч**

Ж36 **Жартоўныя песні.** Рэд. А. С. Фядосік, Г. І. Цітовіч. Мн., «Навука і тэхніка», 1974.

728 с. з нот. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). У перапл.

У том уключана ўсё лепшае з беларускай жартоўнай песеннай творчасці. Кніга складаецца з уступных артыкулаў, у якіх даследуюцца жартоўныя песні, тэкстаў, нот і каментарыя.

Песні, пададзеныя ў томе, шырока могуць быць выкарыстаны калектывамі мастацкай самадзейнасці, прафесійнымі хорамі, а таксама кампазітарамі.

С(Бел)Ф

Ж $\frac{0743\text{-}096}{М316\text{-}74}$ 45-74

# БЕЛАРУСКАЯ ЖАРТОЎНАЯ ПЕСНЯ

Жартоўныя песні — важная частка беларускай народнай вуснапаэтычнай творчасці. Яны з'яўляюцца духоўным скарбам нацыянальнай культуры беларусаў, помнікам мастацтва народнага слова, узорам паэтычнай дасканаласці. Глыбіня зместу і паўнакроўнасць паэтычных вобразаў гэтых песень заўсёды захаплялі выдатных майстроў мастацтва. Для кампазітараў, пісьменнікаў, мастакоў жартоўная песня — крыніца вобразаў, сюжэтаў, тэм.

Гісторыя духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў гаворыць, што ў мінулым кожная справа, звычайныя будні, радасці і трывогі народа суправаджаліся песняй. У народзе жыла багатая традыцыя і звычаі ствараць песню там, дзе, здавалася б, ёй няма месца.

І. Насовіч, указваючы на старадаўнасць беларускай песнятворчасці, якая, лічыў ён, нясе ў сабе «прыгажосць выказаных пачуццяў» простага народа, на першы план ставіў жартоўную песню і адзначаў, што яна выконвалася «пры радасных, забаўных, не менш як і пры журботных, сумных і непрыемных абставінах жыцця чалавека» [1].

Як піша П. Бяссонаў, «песняй і вершам, не шырокім і не доўгім, на дзіва разнастайным, з прыгожым і часткова жартоўным характарам, напаўняўся ўвесь гэты бачны і нябачны вобраз жыцця народнага: даволі сказаць, што «Слова аб палку Ігаравым» без яе ўбавілася б на трэць, што многае для цэлай славянскай песнятворчасці згінула б няясным і няпоўным без яе спадчыны, нават у цяперашніх яе астатках...»[2]

Цікавыя назіранні аб характары бытавання і асаблівасцях выканання беларускай жартоўнай песні дае там жа П. Бяссонаў: «...Баба, маладуха як завядзе сваю «Скакуху», пачне набіраць свае песні-карантышкі тысячу зярнят, як закідае імі направа, налева, наўкола, як пачне кідаць гукамі і агеньчыкамі позіркаў, замахае хусткаю, як затупае дробненька чаравічкамі, закруціцца ваўчком, — гэта ўсе віхор на скрыжаванні»[3].

Усе жанры і віды беларускага фальклору, пачынаючы ад казак і песень і канчаючы прыказкамі і прымаўкамі, багата насычаны гумарыстычнымі творамі. Што ж датычыць так званых прыгаворак (кароценькіх вершаваных

---

[1] И. И. Носович. Белорусские песни. Спб, 1874, стар. 47.
[2] П. Бессонов. Белорусские песни. М., 1871, стар. I—II.
[3] Там жа. стар. LXXIX.

або празаічных твораў, якія ўжываюцца дзеля пацехі пры самых розных жыццёвых выпадках (сустрэчах, прывітаннях, расставаннях, пажаданнях, віншаваннях, запрашэннях, за святочным сталом, на ярмарках, ігрышчах, гульнях, вяселлях, пры танцах і нават пры курэнні тытуню), гэтага самага пашыранага ў народзе і мала даследаванага жанру, то яны, паводле П. Шэйна, з'яўляюцца цэлым кладам народнай дасціпнасці і «могуць служыць новым доказам таго, наколькі жывучая творчасць нашага народа ў яго слове, як ён па-майстэрску ўмее карыстацца гэтым словам для выказвання ўсяго таго, што яго радуе, цешыць і весяліць»[4].

На жаль, беларуская жартоўная песня доўгі час незаслужана заставалася па-за ўвагай даследчыкаў. У дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі можна назваць усяго адзін кароткі агляд акадэміка Я. Ф. Карскага [5].

І толькі ў апошняе дзесяцігоддзе да жартоўнай песні звярнуліся ў сваіх манаграфічных даследаваннях Н. С. Гілевіч [6] і А. С. Фядосік [7].

Да рэвалюцыі беларускія жартоўныя песні асобным выданнем не выпускаліся. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што сярод некаторых прадстаўнікоў афіцыйнай навукі панавала думка, што беларуская народная песня наогул тужлівая і сумная.

На пачатку XX ст. адзін буржуазны даследчык пісаў: «Цяжка ўявіць сабе што-небудзь больш тужлівае, нуднае і горшае, чым беларуская песня, якая да гэтай пары ў гадзіны спёкі і жніва праносіцца над шырокімі пясчанымі палеткамі паўночна-заходняй Расіі, і славутыя словы Пушкіна аб тым, што «скорбный вой — песнь русская», — бліжэй за ўсё стасуюцца да хваравітых, жаласна-бездапаможных галашэнняў і прыпевак беларускіх вёсак»[8].

Іншыя ж збіральнікі, не адмаўляючы беларускай жартоўнай песні, спрабавалі вытлумачыць яе ўзнікненне з пазіцый буржуазнарэакцыйнай ідэалогіі. Так, у прадмове да свайго зборніка песень, сабраных на Палессі, Д. Булгакоўскі пісаў, што «часам у вясёлую мінуту, зразумела, не ад прывольнага жыцця, а ад шумнага вінца ў песнях пінчукоў чуецца гумар»[9].

Што ж, у беларускім фальклоры сапраўды адбілася горкая доля-нядоля народная — стагоддзі прыгону, уціску, бяспраўя. І сапраўды, багата было ў народа песень тужлівых — і плачаў, і галашэнняў. Але не толькі гэта, як намагаліся давесці буржуазныя ідэолагі. Беларускі народ не толькі плакаў,

---

4 П. В. Шейн. Приговоры или причеты о табаке. Этнографические заметки.— Известия имп. общества любителей естествознания, антропологии и этнографии, т. XLVIII, вып. I. Труды этнографического отдела, кн. VII. М., 1886, стар. 179.

5 Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III. Очерки словесного белорусского племени. I. Народная поэзия. М., 1916.

6 Н. С. Гілевіч. Наша родная песня. Мінск, 1968.

7 А. С. Фядосік. Трапным народным словам. Мінск, 1971.

8 «Живая старина», 1901, № 11, стар. 25.

9 Д. Булгаковский. Пинчуки.Спб, 1890, стар. 15.

але і весела смяяўся. Кпіў дасціпным словам з паноў, гультаёў, хціўцаў, манюк, жартаваў, высмейваў, проста ўсміхаўся. У гэтым выяўлялася здаровая натура беларускага працаўніка, яго мараль і яго вялікая сіла жыццядзейнасці.

Савецкія вучоныя пераканаўча паказалі ўсю недарэчнасць сцвярджэнняў буржуазных даследчыкаў. У спецыяльным даследаванні пра беларускую сатыру і гумар А. С. Фядосік піша: «Не «шумнае вінцо» было крыніцай гумару, якім прасякнуты ўсе жанры песеннай творчасці беларусаў. Гумарыстычныя песні з'яўляюцца перш за ўсё яркім выразнікам жыццярадаснага характару беларусаў, якія, нягледзячы на ўсе цяжкасці паднявольнага жыцця, ніколі не гублялі надзеі на перамогу справядлівасці»[10].

Пачуццё гумару як рысу нацыянальнага характару беларускага народа таксама адзначае Н. С. Гілевіч. І гэта якасць беларусаў, даводзіць даследчык, болей за ўсё праявілася ў лірыцы пазаабрадавай, сацыяльна-бытавой. «Сатырычная і гумарыстычная падсветка ў ёй, — падкрэслівае Н. С. Гілевіч,— з'яўляецца той істотна важнай, арганічнай і неад'емнай рысай, без якой, уласна кажучы, беларускую народную лірыку нават нельга ўявіць»[11].

Старэйшы беларускі фалькларыст і этнограф М. Я. Грынблат у сваіх даследаваннях неаднаразова ўказваў, што ў беларускім фальклоры, як і ў вуснапаэтычнай творчасці рускага і ўкраінскага народаў, багата гумарыстычных і сатырычных песень[12].

Песню называюць спадарожніцай жыцця чалавека. Вясёлая і сумная, яна суправаджала яго ад калыскі да самай магілы. Суровая рэчаіснасць не зламала духу і волі народа, яго любві да жыцця. Тонкі гумар, лёгкая ўсмешка і задорна-пацешная песня давалі людзям у цяжкія часы сілу і ўпэўненасць.

Беларуская гумарыстычная песня такая ж старадаўняя, як і старадаўняя вусная народная творчасць. Узнікненне і фарміраванне яе адносіцца да часоў узнікнення і фарміравання каляндарнаабрадавай паэзіі — самага старажытнага пласта музычна-песеннай творчасці, у якім найбольш захавалася архаічных рыс. Сярод вясельных і хрэсьбінных, летніх і жніўных песень жартоўныя займалі прыкметнае месца. Аднак найболей жартоўных песень знаходзім сярод вясельнай паэзіі. Жартоўныя вясельныя песні вылучаюцца надзвычай дасціпнай сатырай і гумарам.

Цудоўныя ўзоры пазаабрадавай жартоўнай песні знаходзім у публікацыях першай палавіны XIX ст.[13]. Аднак, трэба меркаваць, і на больш ранніх стадыях свайго бытавання жартоўная песня вылучалася дасканалай паэтычнай формай і зместам. Пашырэнню гэтага жанру песні садзейнічалі скама-

---

[10] А. С. Фядосік. Трапным народным словам, стар. 68.
[11] Н. С. Гілевіч. Наша родная песня, стар. 162.
[12] М. Я. Грынблат. Сацыяльна-бытавая лірыка. У кн.: «Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць. Гісторыка-тэарэтычнае даследаванне». Мінск, 1967, стар. 185.
[13] A. Rypiński. Białoruś. Paryż, 1840.

рохі. Вясёлыя людзі, без якіх у беларусаў не праходзіла ніводная гулянка, ігрышча ці вяселле, аб'яднаўшыся падчас у цэлыя арцелі, вандравалі ад вёскі да вёскі, пацяшалі народ у святы і будні, на міру і проста ў сялянскай сям'і. Скамарохі самі нярэдка складалі жартоўныя і сатырычныя песні на мясцовыя тэмы, выкарыстоўваючы канкрэтны матэрыял. У такіх песнях дзеючымі асобамі былі рэальныя людзі, часта прадстаўнікі мясцовых улад, свяшчэннікі, ксяндзы, паны. Такія творы, натуральна, блізка ўспрымала аўдыторыя і давала ім новае жыццё. Дзейнасць скамарохаў адыграла прыкметную ролю ва ўзбагачэнні жартоўнага песеннага рэпертуару ўжо ў перыяд Кіеўскай Русі і наступныя эпохі — фарміравання трох братніх народнасцей — рускіх, украінцаў і беларусаў [14].

У вывучэнні і даследаванні жартоўнай песні застаецца многа нявысветленых аспектаў. Так, канчаткова не ўстаноўлена яе грамадская функцыя. А. І Дэй лічыць, што «жартоўная песня, як правіла, выконваецца пры наяўнасці слухачоў, на аўдыторыю, бо галоўная яе мэта не столькі выказаць бадзёры настрой спевакоў, колькі перадаць яго слухачам, заразіць іх весялосцю, уключыць у забаву, даць у дасціпнай і лёгкай форме своеасаблівы ўрок маралі, жыццёвых паводзін і г. д.» [15]. Такога ж пункту погляду прытрымліваецца і даследчыца беларускай песеннай лірыкі З. Я. Мажэйка. Слушна адзначыўшы, што для жартоўнай песні, як і наогул для ўсёй пазаабрадавай паэзіі, не характэрна дастасаванасць выканання, Мажэйка піша: «У адрозненне ад лірычных песень, якія выконваюцца «абы-калі», «на міру» і «для сябе» (і нават часцей «для сябе»), жартоўныя *абавязкова* (курсіў наш.— *І. Ц.*) выконваюцца ў калектыве і спяваюцца «на міру» [16].

Нам здаецца, пры такім падыходзе да жартоўнай песні недаравальна звужаецца яе грамадская функцыя. Жартоўная пазаабрадавая песня — гэта лірычная творчасць. Як і ва ўсёй пазаабрадавай лірычнай паэзіі, у яе грамадскае прызначэнне мнагастайнае. Будучы выказнікам самых розных пачуццяў, жартоўная песня можа выступаць у розных функцыях. Адной з найважнейшых асаблівасцей, якой вылучаецца гэта песня сярод усёй песнятворчасці, з'яўляецца яе здольнасць ствараць настрой. Яна не заўсёды служыць імпульсам для шырокага, бурнага і публічнага ўсплёску чалавечых эмоцый. Мелодыя і змест многіх твораў, асаблівасці бытавання паказваюць, што жартоўныя песні, як і многія пазаабрадавыя лірычныя, могуць выступаць і ў функцыі выключна інтымнай, для стварэння асабістага, індывідуальнага настрою. Для такіх класічных гумарыстычных песень, як «Хлопец пашаньку пахае» ці «Чаму ж мне не пець», аўдыторыя не абавязкова.

Васьмідзесяцігадовая спявачка Агапа Ляпкова з в. Улукі Слаўгарадскага р-на, ад якой мы запісалі дзесяткі песень, на наша пытанне: «Дзе вы

---

[14] Жартівливі пісні. Київ, 1967, стар. 15.

[15] Там жа, стар. 5.

[16] З. Я. Можейко. Песенная культура Белорусского Полесья. Минск, 1971, стар. 99.

вучыліся спяваць?» адказала: «У лесе, на балоце, кароў пасучы. Спявала — гора весяліла. Спяваю-спяваю, а потым заплачу. Тады давай вясёлыя песні спяваць. Не ўсё ж па гору плакаць». Відавочна, калі б у жартоўнай песні была толькі адна грамадская функцыя — выкананне на аўдыторыю, грамадскі матыў адпаведна вызначаў бы ўсю прыроду песні, яе змест і напеў.

Акрэсліць месца жартоўнай песні сярод іншых песенных жанраў спрабаваў П. П. Ахрыменка, аднак яго вывады аказаліся непаслядоўнымі і блытанымі. Назваўшы жартоўныя песні «састаўной часткай народна-песеннай лірыкі», П. П. Ахрыменка сцвярджае, што «яны надта блізкія да гумарыстычных і сатырычных» [17], у той час як, вядома, жартоўныя і гумарыстычныя песні — гэта адно і тое ж, тэрміны «жартоўная» і «гумарыстычная» ў навуковай літаратуры ўжываюцца як сінонімы. Таксама памылковае сцвярджэнне, што жартоўныя песні набліжаюцца да лірычных. Жартоўныя песні — гэта пераважна лірычная песнятворчасць, якая спецыфічнымі, уласцівымі толькі ёй сродкамі паэтычнай выразнасці стварае камічныя вобразы, якія адлюстроўваюць аб'ектыўную рэальнасць. Не мае таксама рацыі П. П. Ахрыменка, калі гаворыць, што ў жартоўных песнях «лірычны струмень прыкметна аслаблены з-за ўстаноўкі на камічны эфект» [18]. У многіх выпадках лірычная нота набывае большую сілу і выразнасць там, дзе камічная сітуацыя асабліва напружаная («Мой міленькі захварэў»).

М. Я. Грынблат прапанаваў класіфікаваць сацыяльна-бытавую лірыку па гісторыка-тэматычнаму прынцыпу, вылучыўшы наступныя цыклы або групы: песні пра прыгон; песні дваракоў і прыгонных рабочых; любоўныя і сямейныя песні; песні ваяцкія і рэкруцкія; песні бурлацкія і чумацкія; ліра-эпічныя баладныя песні; песні сатырычныя, жартоўныя і танцавальныя [19]. Гэты прынцып патрабуе некаторых удакладненняў. Танцавальныя песні, напрыклад, могуць скласці самастойную групу. Але нам здаецца, што па гісторыка-тэматычнаму прынцыпу класіфікаваць жартоўную песню немагчыма: гістарычныя рэаліі ў жартоўных песнях амаль адсутнічаюць, а тэматычна яны надзвычай шматгранныя. Нарэшце, ёсць нямала жартоўных песень антыпрыгонніцкіх, любоўных, прымацкіх, сямейна-бытавых і інш.

Не зусім распрацавана ўнутрыжанравая класіфікацыя песень. Упершыню ў беларускай фалькларыстыцы паспрабаваў класіфікаваць жартоўныя песні Я. Ф. Карскі, прапанаваўшы наступны іх падзел, паводле зместу: песні з загадкамі, з гумарыстычнай ацэнкай жаніха і нявесты, пра бяду, пра розныя выпадкі з жыцця сялян, пра вялікую колькасць членаў сям'і, песні з насмешкай з беднасці, з непатрэбнымі падрабязнымі апісаннямі, пра птушак і насякомых [20].

---

[17] Беларуская вуснапаэтычная творчасць. Мінск, 1966, стар. 128.
[18] Там жа.
[19] Там жа, стар. 168.
[20] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, ч. I. М., 1916, стар. 374—377.

Слушна заўважыў А. С. Фядосік, што гэта класіфікацыя недасканалая. Пры такім падзеле не ахопліваецца ўся разнастайнасць зместу песень, тут змешваюцца абрадавыя (вясельныя) жартоўныя песні з пазаабрадавымі. Ды і самі вясельныя песні ніяк нельга абмяжоўваць толькі тэматычнай групай пра жаніха і нявесту. А. С. Фядосік распрацаваў сваю сістэму класіфікацыі: песні, у якіх адлюстраваны сацыяльныя адносіны; песні з узаемнымі насмешкамі хлопцаў і дзяўчат; з жартоўнымі спрэчкамі мужа і жонкі, дзеда і бабы, камічнымі супярэчнасцямі ў сям'і наогул; з асмяяннем заганных рыс і паводзін людзей; з асмяяннем недарэчных учынкаў; песні з алагічным зместам; пра жывёл, птушак і насякомых; песні фрывольна-эратычнага зместу; дзіцячыя жартоўныя песні [21].

На нашу думку, гэта навукова прыймальная класіфікацыя, заснаваная на ідэйна-тэматычным змесце твораў і іх функцыі, патрабуе некаторых карэктываў. Песні з асмяяннем заганных рыс і паводзін людзей і з асмяяннем недарэчных учынкаў тэматыча блізкія і могуць скласці адну групу, а песні пра бабу і дзеда, пра ляноту (лянівая жонка, муж), пра п'янства (мужа, жонкі), пра старога мужа можна вылучыць у асобныя групы. Відаць, няма патрэбы прадстаўляць асобнай групай песні фрывольна-эратычнага зместу. Твораў з такой тэматыкай багата знаходзім і ў іншых песенных цыклах — хрэсьбінных, вясельных, каляндарных. Дзіцячыя ж жартоўныя песні ў выніку сваёй выключнай спецыфічнасці, нам уяўляецца, не могуць быць далучаны да песеннага гумару «дарослых».

Здавальняючую сістэму класіфікацыі жартоўнай песні можна выпрацаваць, мы лічым, пры ўмове, калі максімальна поўна будзе выяўлены ўвесь матэрыял, усе тэксты разам са шматлікімі адменнікамі. У беларускім фальклоры адну групу складаюць сатырычныя і жартоўныя песні. Узнікненне песень сатырычнага зместу адносіцца да часоў, калі пачалі абвастрацца сацыяльныя адносіны ў грамадстве. Вобразы прадстаўнікоў эксплуататарскіх класаў у народнай лірыцы ў сувязі з напалам грамадскіх узаемаадносін займалі ўсё большае месца, матывы пратэсту супраць сацыяльнага зла, існуючых парадкаў гучалі ўсё больш рашуча і гнеўна. Народ шле праклёны сваім крыўдзіцелям, выказвае сваю думку аб прыгоне і бяспраўным становішчы.

У сатырычных песнях, як і ў іншых фальклорных жанрах (казках, прыказках і прымаўках, батлейцы), галоўным аб'ектам асмяяння былі прадстаўнікі пануючых класаў. Асабліва востра высмейваліся польскія магнаты, ганарлівая шляхта, яе напышлівасць і фанабэрыстасць («Ехаў ляшак маркавяны», «Ехаў ляшак із Варшавы»): «Ехаў ляшак па-над лугам, аж там арэ мужык плугам; ляшак шапкі не здымаў, «памагай бог» не сказаў».

Праўда, антыпанскія і антыпрыгонніцкія песні ў надрукаваных зборніках беларускага фальклору, як і ў рускім, складаюць нешматлікую групу. Гэта

---

[21] А. С. Фядосік. Трапным народным словам, стар. 68.

тлумачыцца тым, што царская цэнзура не дапускала на старонкі друку слова востраЙ сацыяльнай накіраванасці[22] Для збіральнікаў жа вуснай народнай паэзіі пазнейшых часоў гэтыя творы бясследна зніклі.

Больш захавалася песень антыклерыкальнага характару. Народ зло іранізуе над папамі, выкрывае супярэчнасці паміж словам і справай, паміж пропаведдзю аскетычнай строгасці і памаўзлівасцю прапаведнікаў царкоўна-рэлігійнай маралі. Аказваецца, зямное стаіць вышэй усялякіх папоўскіх пропаведзей, арэол святасці спадае з папа, як толькі ён сутыкаецца з простай і велічнай сілай чалавечага хараства. Парадыйна малююцца ў жартоўных песнях царкоўныя абрады, злосна выстаўляе народ прыхамаць служкаў культу. Якім смешным выглядае стары поп, прапаведнік маральнай чысціні і цнатлівасці, перад маладой прыгожай дзяўчынай, якую ён у час вянчання спрабуе спакусіць. Адчапіцца ад назойлівага рандавуса ўдаецца дзякуючы хабару.

Гвалтоўнікі і крыўдзіцелі народа ў сатырычных і жартоўных песнях паказаны ва ўсёй сваёй непрыстойнасці. Высмейваючы сваіх ворагаў, народ выказаў глыбокае пераканание працоўнага чалавека ў яго праваце і перавазе над эксплуататарскімі класамі.

У антаганістычным грамадстве, падзеленым на два полюсы — бедных і багатых, прадстаўнікі пануючых класаў выпрацавалі сваю мараль, сваю філасофію — чалавечая годнасць вымяраецца багаццем: багаты — разумны, бедны — дурны. Працоўныя ж масы, рукамі якіх створаны ўсе каштоўнасці на зямлі, на багацце глядзелі як на прычыну свайго гаротнага становішча. У песні «Сабралася галота» багаты дзядзька выклікае агіду ў «беднай галоты», і яна здзекуецца з яго.

Беднаму чалавеку не так лёгка было заваяваць сваё месца на зямлі. Матэрыяльны фактар накладваў сваю адзнаку на яго становішча не толькі ў грамадстве, але і ў сям'і. Якое незайздроснае жыццё прымака, якія абразы і прыніжэнні ён церпіць ад цешчы! Прымак — не раўнапраўны член сям'і, ён фактычна парабак.

Рэалізм песні «Прымак» даў некаторым даследчыкам падставу лічыць у творы галоўным матыў сацыяльнай няроўнасці, пратэст супраць несправядлівых адносін да беднага чалавека, «смех праз слёзы». Аднак услухаемся ў песню, учытаемся ў яе тэкст — і яна не выкліча ў вас спачування да абяздоленага чалавека, хоць драматычная калізія пададзена даволі рэалістычна. Адбываецца гэта таму, што песня ад пачатку і да канца пранізана іроніяй — не горкай, а, мы б сказалі, светлай, якая і засланяе сацыяльную

[22] Тут непераканаўчым нам здаецца тлумачэнне У. І. Чычарава, які піша, што захаванню і распаўсюджанню сатырычных песень «перашкаджала тое, што народная песня спявалася хорам, а хорам спяваць песню, якая высмейвала пана і пані, было небяспечна — яе маглі пачуць самі паны і іх выведнікі, а значыць, за гэтыя песні можна было пацярпець». (Гл.: В. И. Чичеров. Русское народное творчество. М., 1959, стар. 342—343).

накіраванасць твора Гэта добра адчуваецца ў дыялогах герояў і асабліва ў канцоўцы песні, дзе апошнія радкі гучаць мажорным акордам, напоўненым вясёлай, смехатлівай нотай. Ад невыноснага жыцця прымакі сабраліся і рашылі разам пайсці тапіцца, але трагедыі не адбылося: у адных выпадках была вада халодная, у другіх — рэчка мелкая. Выканаўцы песні добра адчуваюць і правільна даносяць да слухача іранічны падтэкст твора — прымакі не няшчасныя людзі, а вясёлыя, удалыя малойцы, і іх расказ пра сябе — пацеха на міру. Магчыма, у свае часы песня гучала інакш, але намі яна ўспрымаецца іменна так.

Асноўнай тэмай жартоўных песень з'яўляюцца сямейна-бытавыя адносіны. Таму галоўнымі персанажамі выступаюць найчасцей муж і жонка, дзед і баба, зяць і цешча, хлопец і дзяўчына. Іх заганныя рысы і становяцца прадметам асмяяння. Жартоўная песня выносіла на суд грамадскасці якасці чалавека, якія ў многіх адносінах сустракаліся ва ўсіх прадстаўнікоў сямейнага саюзу,— лянота, нядбайнасць, прагнасць, хцівасць, сквапнасць, п'янства, нявернасць, дурасхлівасць, дзівацтва і г. д. І тут важна не тое, хто з'яўляецца носьбітам заган: муж ці жонка, баба ці дзед, зяць ці цешча, хлопец ці дзяўчына. Рэалістычную сілу ўздзеяння вобраз набывае дзякуючы таму, што песня пастаянна выяўляе канкрэтныя хібы, падкрэсліваючы, перабольшваючы іх, надаючы ім абагульненасць і тыповасць. У поле зроку стваральнікаў народнага гумару траплялі розныя адмоўныя з'явы з сямейнага побыту, адхіленні ад усталяваных у грамадстве норм маралі, узаемаадносін паміж людзьмі.

Гумар з'яўляўся сродкам маральнага выхавання чалавека, асабліва моладзі. На вуліцы, на вечарынках і ігрышчах, у розных гульнях, карагодах і танцах хлопцы і дзяўчаты ўзаемна адзін другога высмейвалі дасціпнымі жартамі, падчас у самай вострай форме. Было гэта своеасаблівым спаборніцтвам у дасціпнасці, кемлівасці і, галоўнае, майстэрстве спявання.

Крытэрыем чалавечай годнасці, паводле народнага эстэтычнага ідэалу, з'яўляецца праца. Тэма працы праходзіць праз усе фальклорныя жанры. Народ уславіў працу, апяяў яе як найвялікшую стваральную сілу матэрыяльных каштоўнасцей і дабрабыту чалавека. Грэбаванне працай, абыякавыя адносіны да яе заўсёды асуджаліся народам, расцэньваліся як вялікае зло.

Вышэй мы гаварылі, што нават драматычныя моманты ў народнай песні насычаны гумарам. Здольнасць смяяцца над нягодамі жыцця — сведчанне духоўнага здароўя народа, яго высокіх маральных якасцей. У самыя змрочныя часы свайго гістарычнага мінулага народ ніколі не падаў духам, не траціў веру ў светлую надзею. Народ не скарыўся перад нягодамі жыцця — і ў гэтым веліч яго духу. У жартоўнай песні выявілася спрадвечнае імкненне чалавека да шчасця, да волі. І якім бы страшэнным цяжарам не звальваліся на яго плечы жыццёвыя выпрабаванні, народ выстаяў і захаваў выдатную якасць — у любыя, самыя змрочныя часіны ўзняцца духоўна і душэўна над «свінцовымі мярзотнасцямі». Жыццесцвярджальны пачатак — той галоўны

матыў, які праходзіць праз усю песенна-жартоўную лірыку. Вось гэта вера ў надыход шчаслівай явы і нарадзіла вясёлую, жыццярадасную паэзію, поўную дасціпнага гумару і трапнай сатыры.

Народная аўтаіронія — бліскучы ўзор умення сказаць пра сябе праўду, хай сабе горкую і непрыемную, не баючыся скампраметаваць сябе ў вачах грамадскасці. Той, хто смяецца над сваімі заганамі, моцна стаіць на зямлі. Трэба валодаць цвярозым і глыбокім розумам, каб смяяцца там, дзе можна заплакаць.

І ў якія б мастацка-фантастычныя вобразы ні трансфармавалася праўда жыцця — гіпербалічныя ці літатычныя, народ ніколі не траціў пачуцця рэальнасці. Падчас мімаходам, адным словам народ — гэты таленавіты мастак — мог вельмі многа сказаць. Памірае муж і суцяшае жонку тым, што пакідае ёй незвычайную спадчыну: «Па маёй галаве застанецца ўсё табе: і таўкач, і мялён, і старожа, і прыгон». Іранічны падтэкст твора, у якім «рыкашэтам» закранаецца і ўскрываецца сацыяльная падаснова сялянскай галечы, заўважаны і добра прааналізаваны Н. С. Гілевічам: «У спадчыну, такім чынам, перадаецца не толькі «агромністае багацце» — таўкач і жорны, але і сама крыніца гэтага багацця — прыгон. Так працоўны чалавек у іранічна-жартоўнай форме выяўляе спелае разуменне таго, хто з'яўляецца сапраўдным віноўнікам яго няшчаснага жабрацкага становішча»[23].

Класічным творам беларускай пазаабрадавай жартоўнай лірыкі можна назваць песню «Чаму ж мне не пець». Змрочная карціна сялянскага побыту пададзена ў гэтай папулярнай песні. Кожная страфа адкрывае новыя невясёлыя сцэны сялянскага побыту, дзе ўсё перакулена дагары нагамі, аднак слухачу ад гэтага сумна не становіцца. Наадварот, хочацца разам з безгаспадарлівай гаспадыняй заспяваць. Камічны эфект ствараецца проста — расказ вядзецца ў маналагічнай форме, герой сам расказвае пра сябе, сам сябе крытыкуе. Таму ў нас не ўзнікае пачуцця пратэсту ці асуджэння, бо герой сам сябе асуджае перад грамадскасцю. Свае непарадкі і непаладкі гаспадыня лепей бачыць сама, а гэта ўжо адно гаворыць пра тое, што не такая яна і нядбайніца. Рэфрэн з рытарычным пытаннем «Чаму ж мне не пець, чаму ж не гудзець, калі ў маёй хатачцы парадак ідзець» яшчэ болей узмацняе камізм твора. Стварэнню паўнакроўнага мастацкага вобраза спрыяе яшчэ і вясёлая, гарэзлівая мелодыя.

Песні пра жонку-недарэку надзвычай пашыраны ў народзе. Жонка малюе сама сябе самымі непрывабнымі фарбамі: яна і «тры дні хаты не мяла, печы не тапіла», смецце з хаты вывозіць возам і г. д. Гаспадыня старанна пералічвае доўгі спіс перарobленай ёю работы. Напрыклад, за тыдзень «напрала тры пачынкі» і недаўменна здзіўляецца: няўжо мала? Камічны вобраз тут ствараецца, як трапна заўважыў А. І. Дэй, шляхам «пазітыўнай самарэкламы негатыўнымі дэталямі»[24]. Расказ ад першай асобы нібы надае

---

[23] Н. С. Гілевіч. Наша родная песня, стар. 163.
[24] Жартівливі пісні, стар. 34.

падзеі большую верагоднасць, а тым самым яшчэ больш яскрава падкрэсліваецца несумяшчальнасць яго са звыклай жыццёвай нормай. Высмейванне адмоўных якасцей чалавека ставіла адну мэту — сцвердзіць высокую мараль; адмаўляючы зло — сцвердзіць дабро. Таму самахарактарыстыка гераіні ўспрымаецца не як публічнае самавыкрыццё, якое мяжуе з самапрыніжэннем, а як суровае ўсведамленне і разуменне правільнасці народнага ідэалу.

Даволі цікавую групу складаюць песні недарэчнага зместу, так званыя небыліцы, або небывальшчыны. У іх аб'ядноўваюцца дэталі, якія ўзаемна выключаюцца. Персанажы пастаўлены ў незвычайныя абставіны. Яны дзейнічаюць, робяць немагчымае, чаго не маглі б зрабіць у натуральных для іх, звычайных умовах. Здараюцца цуды, фантастычнае. Логіка падзей парушаецца. Камічны эфект дасягаецца дзякуючы наўмыснаму парушэнню, як дакладна вызначае Н. С. Гілевіч, «натуральнага стану рэчаў і рэальных узаемадачыненняў паміж «аб'ектамі рэчаіснасці, з падмены звыклых агульнапрынятых уяўленняў алагічнымі, бессэнсоўнымі, недарэчнымі вобразамі»[25].

Лічыцца, што жартоўныя песні алагічнага зместу ўзніклі ў глыбокай старажытнасці і мелі некалі магічнае значэнне. У некаторых даследаваннях указваецца, што ў небыліцах за знешняй абалонкай нагрувашчанай бязглуздзіцы ляжыць пэўная сацыяльная ідэя. «Песня небывальшчына не проста набор смешных, непраўдападобных падзей, — піша Д. Малдаўскі, — у пэўнай ступені гэта яшчэ і наіўная сялянская ўтопія аб свеце, дзе чалавек можа ўсё — пабываць на небе і паесці ўволю, адпомсціць пану і апрануцца ў чыстае адзенне. Песня небывальшчына расквітваецца з прыгняталынікамі. Яна робіць гэта мімаходам — не так грунтоўна, як сатырычная казка, дзе пана збіваюць, а поп адпраўляецца на той свет. Але іменна ў небывальшчына ўсе страшныя ўладары рэчаіснасці ператвараюцца ў нікчэмных жукоў, камароў і іншую дробязь»[26]. Такім чынам, пад вобразамі казюрак, птушак і жывёл, трэба лічыць, народ падразумяваў розных чыноўнікаў, служак культу, ваенных і службовых асоб.

Песні-небыліцы выконваліся пры розных абставінах, асабліва на вяселлях. Імі нярэдка пацяшалі малых дзяцей, таму некаторыя фалькларысты ўключалі іх у разрад дзіцячай творчасці. Дзіцячую фантазію захапляў дзівосны свет жывёльнага і птушынага царства, незвычайнасць іх паводзін.

Жартоўная песня пра камара і муху — адна з самых пашыраных у народзе. Яе шматлікія варыянты шырока вядомы ў рускім і ўкраінскім фальклоры. У парадыйнай форме песня паказвае пахаванне камара — «мухі-зеляншкі палюбоўніка». Алегарычны сэнс вобразаў няцяжка разгадаць — у песні высмейваецца легкадумнасць, безразважлівасць людзей.

---

[25] Н. С. Гілевіч. Наша родная песня, стар. 169—170.
[26] Д. Молдавский. Народно-поэтическая сатира. Л., 1960, стар. 31.

На думку некаторых даследчыкаў, у гэтых песнях народ, высмейваючы рэлігійныя абрады, кпіў у той жа час над тыповымі заганамі прадстаўнікоў феадальна-прыгонніцкага грамадства — лянотай, дармаедствам, п'янствам. Прыём сатырычнага паказу паноў і духавенства пад выглядам жывёл і птушак з уласцівымі тым і іншым тыповымі абставінамі даваў народнай песні шырокую свабоду высмейваць прадстаўнікоў пануючых класаў[27]. У алегарычных вобразах гэтай жартоўнай песні А. І. Чычараў бачыць канкрэтных гістарычных асоб. У прыватнасці, ён піша, што гэта песня была «створана ў XVIII ст. у сувязі з адносінамі царыцы Елізаветы Пятроўны з Аляксеем Разумоўскім»[28]. У пацвярджэнне свайго меркавання Чычараў прыводзіць не зусім пераканаўчыя аргументы, таму, нам уяўляецца, няма падстаў для такіх катэгарычных высноў. Варта адзначыць, што сюжэт песні пра жаніцьбу камара і мухі даволі пашыраны. Ёсць багата гумарыстычных песень аналагічнага зместу пра жаніцьбу птушак і звяроў — сініцы, савы, вераб'я, шчыгліка, зайца, мядзведзя і інш. Многія сітуацыі і сцэны супадаюць. Займальнасць сюжэта алегарычных жартоўных песень, камічнасць паводзін персанажаў наводзіць нас на думку, што такія творы выконваліся, можна меркаваць, больш за ўсё ў гульні і, магчыма, разыгрываліся як прадстаўленні.

У жартоўнай песні народ даў прастор сваёй фантазіі, волі, запалу, шырыні і глыбіні погляду на сябе і грамадства. Смех быў магутнай ачышчальнай сілай народа, і можна смела сказаць, што калі б не было гэтай сілы ў нашага народа ва ўсе часы яго гістарычнага мінулага, у нас сёння не было б такіх выдатных нацыянальных твораў, як ананімныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча, «Паўлінка» Я. Купалы, «Новая зямля» Я. Коласа і гумарыстычныя апавяданні, «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, камедыі А. Макаёнка і інш.

Гумар кожнага народа пры ўсім сваім падабенстве і агульнасці мае свае адметныя асаблівасці. Сярод славянскіх народаў руская сатыра і гумар вылучаюцца вастрынёй, трапнасцю, вобразнасцю і вялікай выкрывальнай сілай, якія сталі ўзорам для класічнай літаратуры. Здаўна славяцца украінцы сваімі тонкімі жартамі, пацешнымі песнямі і вострым дакладным словам — бяскрыўдна-забаўным і бязлітасна знішчальным.

Многае з таго, што ўласціва гумару братніх народаў, знаходзім і ў гумарыстычнай творчасці беларусаў. І ўсё-такі, нам здаецца, адну рысу тут можна падкрэсліць — стрыманасць беларускага гумару. Гэту асаблівасць ужо заўважылі некаторыя дарэвалюцыйныя фалькларысты і этнографы[29].

---

[27] Русское народное поэтическое творчество, т. II, кн. I. М.— Л., 1955, стар. 439.

[28] В. И. Чичеров. Русское народное творчество, стар. 343.

[29] П. Бессонов. Белорусские песни, стар. 11.

Народная жартоўная песня трывала ўвайшла ў побыт савецкага чалавека, стала арганічнай часткай сацыялістычнай культуры. Сведчанне таму — агляды мастацкай самадзейнасці, у рэпертуары якой жартоўная песня займае сталае месца.

Вялікую ўвагу надаюць прапагандзе традыцыйнай жартоўнай песні нашы праслаўленыя прафесійныя калектывы — Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР, якой на працягу дзесяцігоддзяў кіраваў народны артыст СССР Р. Р. Шырма, і Дзяржаўны народны хор БССР пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Г. І. Цітовіча. Дзякуючы ўмеламу падбору для свайго рэпертуару апрацовак гумарыстычных твораў і высокаму майстэрскаму выкананню яны ўзнялі беларускую народную песню на новую вышэйшую ступень развіцця і, што вельмі важна, зрабілі яе шырока вядомай за межамі рэспублікі.

Уцехай і радасцю для нашага народа была жартоўная песня. Уцехай і радасцю яна застанецца і для яго нашчадкаў, пакуль будзе жыць сам народ — яе стваральнік.

Пры падрыхтоўцы гэтага тома мы сустрэліся з многімі цяжкасцямі. Надзвычай складаным аказалася вырашэнне такога, на першы погляд, здавалася б, простага пытання, якія творы лічыць жартоўнымі. Зразумела, адбіраючы тэксты, мы кіраваліся перш за ўсё тым, якое месца ім у класіфікацыйнай групе адводзілі публікатары. Мы прымалі таксама пад увагу адзнакі і паметы, зробленыя збіральнікамі, якія ўказваюць на прыналежнасць твора да таго ці іншага песеннага цыклу. На жаль, такіх памет і адзнак на архіўных матэрыялах знаходзім мала, а ў дарэвалюцыйных фальклорна-этнаграфічных зборніках беларуская жартоўная песня наогул вылучалася ў асобныя групы ў вельмі нямногіх публікацыях. Такім чынам, пры адборы матэрыялу мы нярэдка вымушаны былі зыходзіць са зместу твора. Гэта адзіна рацыянальны шлях, аднак ён не гарантуе ад магчымых пралікаў. Справа не ў тым, што суб'ектыўны момант можа накласці сваю адзнаку на падыход да твора, а ў тым, што многія творы жывуць у народзе па меншай меры 100—150 гадоў. За гэты час стваральнік песні — народ перажыў некалькі грамадскіх фармацый, якія не толькі карэнным чынам змянілі ўклад яго жыцця, але і псіхіку, мараль, светапогляд, этычныя і эстэтычныя ідэалы. Зусім дапушчальна, у многіх выпадках тое, што сёння для нас здаецца ў традыцыйнай песні смешным, не было смешным для нашых продкаў і, наадварот, тое, што, магчыма, смяшыла да слёз нашых прадзедаў, не выклікае і ценю ўсмешкі ў сённяшніх праўнукаў.

Вызначэнне характару твора па яго зместу ўскладняецца яшчэ і тым, што пераважная большасць сабраных песенных тэкстаў не мае запісаў мелодый. Гэта, зразумела, змяншае і навуковыя вартасці публікацый. Трэба адзначыць, што ў дарэвалюцыйны час з'явілася ўсяго некалькі публікацый беларускіх народных песень з нотамі, куды ўвайшло каля пяцісот фальклорных

твораў[30]. Але многія публікацыі вылучаліся недакладнасцю, мелодыі падаваліся схематычна, што і выклікала незадавальненне ў сучаснікаў, якія ведалі беларускую народную песню не па кніжках. Е. Р. Раманаў, чый збор беларускай вуснай народнай паэзіі з'яўляецца самым буйным у дарэвалюцыйны перыяд, друкуючы да песенных тэкстаў некалькі мелодый, запісаных па яго просьбе маладым фалькларыстам і кампазітарам М. М. Чуркіным, з жалем адзначаў у 1909 г., што «беларускія мелодыі дагэтуль амаль невядомыя людзям навукі», што сярод мясцовай інтэлігенцыі «няма сіл, якія дастаткова падрыхтаваны да запісвання мелодый, а іншародніцкая інтэлігенцыя, якая жыве ў краі і мае салідную музычную падрыхтоўку, ставіцца да беларускай песні са свядомай ці бессвядомай пагардай»[31].

Мелодыя і тэкст у песні непарыўныя. І нярэдка галоўны матыў твора, яго ідэйна-мастацкую сутнасць вызначае мелодыя. Іначай кажучы, гумар у песні падчас трымаецца не на слове, а на напеве, музыцы. У святле сказанага зусім непазбежныя выдаткі пры адборы старадаўняй жартоўнай песні толькі па яе тэксце.

У той жа час уся сіла мастацкасці, заключаная ў тэксце і мелодыі жартоўнай песні, выяўляецца цалкам пры выкананні твора. І тут вялікая роля належыць выканаўцам. Народныя спевакі тонка адчувалі тэкстава-меладыйную падаснову песні. У іх выкананні песня ўзбагачалася ўласнымі прыёмамі інтэрпрэтацыі, выпрацаванай традыцыйнай песеннай культурай. Інтанацыя, міміка, жэст у іх выканаўчым майстэрстве станавіліся важнымі сродкамі раскрыцця ідэйнага зместу твора. На жаль, такія «дробязі» не паведамлялі збіральнікі фальклору.

Трэба адзначыць яшчэ адну складанасць. Прадугледжвалася ўключэнне ў том толькі пазаабрадавай жартоўнай песні. Але правесці мяжу паміж абрадавай і пазаабрадавай песняй у многіх выпадках ужо не маглі дарэвалюцыйныя збіральнікі і даследчыкі народнай песнятворчасці. Справа ў тым, што ўжо ў першай палавіне XIX ст. пачаўся прыкметны распад усёй каляндарна-абрадавай паэзіі. Аднак многія абрадавыя песні не зніклі бясследна, яны працягвалі бытаваць як пазаабрадавыя. Так, у выніку гэтага працэсу ў хрэсьбіннай паэзіі, піша М. Я. Грынблат, вельмі рана пачаў звужацца круг «уласна абрадавых песень і засталіся песні велічальныя, гуллівага і жартоўнага характару»[32]. Нам здаецца, ёсць болей падстаў лічыць, што разбурэнне радзіннай паэзіі пачыналася раней за ўсё і перш за ўсё з адыходам, адшчапленнем жартоўнай песні, якая станавілася пазаабрадавай лірыкай. Многія хрэсьбінныя, жніўныя, купальскія, калядныя, вясельныя песні выконваліся

---

[30] Зборнікі З. Радчанкі, І. І. Сербава, І. Бычко-Машко, М. Янчука, Е. Раманава, А. Чэрні, А. Грыневіча і інш.

[31] Е. Р. Романов. Материалы по этнографии Гродненской губ., вып. I. Вильна, 1911, стар. 111.

[32] Радзінная паэзія. Мінск, 1971, стар. 15.

незалежна ад прымеркаванасці да календара ці абраду[33]. Адначасова ў рэпертуары каляндарна-абрадавай паэзіі ўсё часцей асядала пазаабрадавая песня. Гэта з'ява назіралася і ў фальклоры суседніх народаў — рускіх і ўкраінцаў. М. Я. Грынблат адзначае, што ва ўкраінскім фальклоры таксама былі некалі вядомы хрэсьбінныя песні, але рана адпалі ад абраду і захаваліся як бытавыя пазаабрадавыя гумарыстычнага характару[34].

Працэс разбурэння каляндарна-абрадавай паэзіі аказаў прыкметны ўплыў на ўсю традыцыйную песнятворчасць, у тым ліку і на жартоўную песню. Ужо ў пачатку XIX ст. асобныя творы, напрыклад пра жывёл, птушак і насякомых, збіральнікі адносяць да рэпертуару дзіцячага фальклору. Праўда, прасачыць на канкрэтным матэрыяле пераход «дарослай» песні ў «дзіцячую» далёка не заўсёды ўдаецца. Гэта акалічнасць і стварае новыя цяжкасці пры адборы і сістэматызацыі жартоўных песень. Адбор матэрыялаў ускладняўся яшчэ і таму, што шэраг танцавальных жартоўных песень выконваецца і не ў танцы.

Прапаноўваемы том дае пэўнае ўяўленне чытачу аб тым, над чым смяяўся народ, што асуджаў і якія сцвярджаў ідэалы. А смяяцца, як і спяваць, наш народ умее хораша, прыгожа, ад душы.

У том уключаны лепшыя ўзоры беларускай жартоўнай песні, узятыя з рэдкіх і вядомых друкаваных крыніц і архіўных фондаў Мінска, Масквы, Ленінграда і Вільнюса.

У адпаведнасці з агульным планам шматтомнага выдання беларускага фальклору, у томе шырока прадстаўлены варыянты песень. Публікацыя варыянтаў мае важнае навуковае значэнне, бо дае магчымасць меркаваць аб геаграфіі і храналогіі твора, аб яго ўзнікненні і пашырэнні і, што істотна, аб зменах, выкліканых часам, рэгіянальнай і выканаўчай традыцыяй, стаўленнем да твора носьбітаў. Публікацыя варыянтаў, мы лічым, будзе мець значэнне з пункту погляду утылітарнага: аматары народнай творчасці, калектывы мастацкай самадзейнасці ды і прафесійныя майстры для свайго рэпертуару могуць выбраць твор па ўласнаму густу.

Пры адборы тэкстаў мы аддавалі перавагу публікацыям савецкага часу і архіўным матэрыялам у сучасных запісах — як найбольш дасканалым. Лепшую частку тома склалі песні са зборнікаў народных артыстаў СССР Р. Р. Шырмы і Г. І. Цітовіча, а таксама Н. С. Гілевіча і В. А. Захаравай. Значная доля матэрыялаў узята з архіва ІМЭФ АН БССР, сабраных за пасляваенны перыяд. Асабліва каштоўнай аказалася калекцыя заўчасна

---

[33] Між іншым П. Бяссонаў пісаў сто гадоў таму назад: «Многія часткі свята і абрадаў, гэтак жа сама як і многія песні Купалы, разышліся зараз на Белай Русі да вялікага дня, у валачобныя, да сейміковых ці троіцкіх з русальнымі, а таксама праз паўгода да каляд; купальскія песні, апрача таго, *распаліся* (курсіў наш.— *І. Ц.*) на простыя вясеннія ці летнія, на звычайныя жыццёвыя розных разрадаў, бытавыя і былявыя» (П. Бессонов. Белорусские песни, стар. 61).

[34] Радзінная паэзія, стар. 8.

памёршага фалькларыста, кандыдата філалагічных навук навуковага супрацоўніка ІМЭФ АН БССР М. П. Гваздзёва, якая налічвае некалькі тысяч запісаў. У яго матэрыялах абавязкова адзначана, ці бытуе зараз запісаны ім твор, а калі бытуе — то сярод якога пакалення і асяроддзя.

Том прыкметна дапаўняюць матэрыялы, сабраныя студэнтамі вну рэспублікі — Гомельскага дзяржаўнага універсітэта пад кіраўніцтвам прафесара М. М. Грынчыка і дацэнта М. А. Янкоўскага, Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута пад кіраўніцтвам дацэнта А. М. Пяткевіча, Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута пад кіраўніцтвам дацэнта У. А. Калесніка, былога Маладзечанскага настаўніцкага інстытута пад кіраўніцтвам выкладчыка М. І. Ермаловіча.

Матэрыялы падаюцца ў сучасным правапісе і ў адпаведнасці з патрабаваннямі інструкцыі, распрацаванай у ІМЭФ АН БССР і зацверджанай вучоным саветам. Там, дзе магчыма, намі ўпарадкавана строфіка песень.

Зорачкай (*) адзначаны тэксты, да якіх пададзены ноты.

*І. К. Цішчанка*

# АБ НАПЕВАХ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ЖАРТОЎНАЙ ПЕСНІ

Беларускі народ — народ-аптыміст. Нават у перыяд сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечання ён ніколі не траціў веры ў шчасце: стварыў цудоўную легенду пра папараць-кветку, вобразы дабрабыту і дастатку ў калядных, валачобных і вясельных песнях. Надзея на светлую будучыню падтрымлівала народ і пры стварэнні жартоўных песень. Праўда, у гэтых песнях не ўсё сапраўды смешнае, часам гучыць у іх смех «скрозь слёзы».

У адрозненне ад каляндарна-абрадавых песень музычная мова жартоўнай песні не мае дакладна выяўленай жанравай адзнакі. Мы сустракаем яе ўзоры ў разнастайных жанрах нацыянальнага фальклору: у каляндарна- і сямейна-абрадавых, бытавых і дзіцячых песнях, сярод карагодаў і танцаў. Значнае месца займаюць і непасрэдна жартоўныя песні: застольныя, бяседныя, а таксама прыпеўкі, якія бяруць пачатак у творчасці спевакоў-скамарохаў.

Натуральна, што жанравыя адзнакі кладуць свой адбітак і на музычную мову жартоўных песень, таму гаварыць аб якіх-небудзь агульных інтанацыйна-ладавых рысах для ўсіх жартоўных песень — гэтага багатага і разнастайнага раздзела народнай творчасці — нельга.

Вядома, што для некаторых жанраў беларускіх народных песень характэрна прымацаванне некалькіх тэкстаў да аднаго якога-небудзь напеву. Сярод жартоўных песень часта бачым адваротную з'яву — аднолькавыя тэксты ці іх варыянты выконваюцца на самыя розныя напевы, якія адлюстроўваюць асобныя рысы паэтычнага зместу, а блізкасць тэкстаў нібы падкрэсліваецца некаторай агульнасцю інтанацыйных і рытмічных абаротаў у гэтых напевах. Так, у некаторых беларускіх фальклорных зборах прыводзяцца песні аб бабульцы, якая захацела разбагацець: «Захацела бабусінька ды разбагацеці», «Куратачка», «Захацела бабуленька». «Як пагнала бабуленька куранятак пасці», «Стара бабуленька стала багацеці» (№ 78, 78а, 78б, 78 в, 78г). Агульным для гэтых песень, запісаных у розных раёнах Беларусі, з'яўляецца двухдольны памер, амаль усюды роўныя працягласці гукаў, што адпавядае тыпам полькі. Для № 78б, 78в, 78г характэрны кадансавы абарот: узыходзячы гамападобны адрэзак ад квінтавага гука да танічнага, прычым першы двойчы паўтараецца, а апошні паўтараецца не ва ўсіх

выпадках. Паміж № 78а і 78в агульным з'яўляецца ўзыходзячы кадансавы абарот:




ступені лада.

Разам з тым усе гэтыя напевы адрозніваюцца паміж сабой. Возьмем напевы № 78а, 78б. У першай песні — напеў з роўнымі працягласцямі, з рэчытацыяй супастаўляецца з прыпевам на новым тэматычным матэрыяле зменшанага дыяпазону (квінта замест малой септымы), у больш высокім рэгістры, з новымі працягласцямі гукаў. У другой — прыпеў (як і ў першай, ён вынесены за межы вакальнага перыяду) змяшчае інтанацыйныя абароты куплета і таксама, як і куплет, актаўнага дыяпазону.

Песня № 78в — новы, разгорнуты варыянт напеву з паступовым раскрыццём дыяпазону. Прыпевам з'яўляецца тут толькі трэці куплет тэксту. Ён выкладаецца на зусім новым тэматычным матэрыяле, да таго ж у двухгалоссі з пераходам з мажору ў паралельны мінор. Напеў № 78 ладава больш развіты, чым у папярэдніх песнях. У ім даецца пераход з мінору ў мажор са зваротам у мінор. І тут — прыпеў двухгалосы. Характэрны рытмічны малюнак прыпеву: з сінкопай —



Варыянт песні № 78г мае распеўную мелодыю, дыяпазон якой пашыраецца (ад малой сексты да ноны).

Да прыкладаў, якія сцвярджаюць наяўнасці рознахарактарных напеваў пры агульным або варыянтным для ўсіх іх тэксце, можна аднесці таксама два варыянты песні «Хлопец пашаньку пахае» (№ 29, 29а), дзе нават у жанравых адносінах адчуваецца разнастайнасць. Першы варыянт нагадвае павольныя, распеўныя лірычныя песні ў двухгалосым выкладанні. Другі — аднагалосы, пададзены ў імклівым тэмпе. Але і тут паміж напевамі абедзвюх песень існуюць агульныя інтанацыйныя абароты («галашэнне» ў кадансах).

Адрозніваюцца паміж сабой не толькі па напевах, але і па іх характару і блізкія па зместу песні «Замуж пайсці — трэба знаці» (№ 35), «Замуж пайсці — трэба знаць» (№ 35а), «Замуж пайсці — гора знаці» (№ 35б), «Каб я сваю долю знала» (№ 35в), «Каб я тую бяду знала» (№ 35г). Частка з іх — хуткія, іншыя — умераныя па тэмпу; адны — ярка мажорныя, другія — у міноры і г. д. Пры гэтым трэба адзначыць, што адрозніваюцца між сабой напевы песень, запісаных не толькі ў розных раёнах рэспублікі (№ 35 — на Міншчыне, № 35г — каля Беластока), але і ў адной і той жа Гродзенскай вобласці — № 35а і 35б. Можна прывесці і іншыя прыклады:

«Гэй, у нядзелю свадзьба будзе» і «Ой, ды ў нашым сяле» (№ 79б, 79в); «Сею рэдзьку» (№ 28, 28а, 28б); «Як пашоў Халімон» і «Чырында» (№ 42, 42а), «Хмарыцца — дождж будзе» (№ 51, 51а); «А жана на мужа ўсердзілась дужа», «На дварэ дожджык», «Сухое лета, мокрая лужа» (№ 45, 45а, 45б) і інш. Усе гэтыя прыклады дастаткова сведчаць, якая багатая і разнастайная творчая фантазія народа.

Аднак нельга не адзначыць, што і сярод жартоўных песень ёсць прыклады прымацавання да аднаго напеву некалькіх тэкстаў. Але напевы тут не літаральна тоесныя, а варыянтныя. Напрыклад, напеў песні № 11 бывцам з'яўляецца мелізматычна аздобленым варыянтам песні № 11а. Напеў № 11а ў сваю чаргу блізкі напеву № 28а.

Некаторыя беларускія народныя жартоўныя песні ўяўляюць сабой дыялог дзвюх груп выканаўцаў і выконваюцца антыфонна. Тут праявілі сябе традыцыі гульлівых песень. У такіх песнях кожная група індывідуалізуецца па меладычнай мове. Так, у № 75 звяртанне да дзядулькі гучыць у першай актаве (дыяпазон-секста), у ім маюцца і характэрныя глісандыруючыя інтанацыі. Адказ дзядулькі пабудаваны на новым тэматычным матэрыяле, у новым рэгістры (амаль поўнасцю ў малой актаве). У № 75а, наадварот, рэгістр павышаецца, дыяпазон не секста, як было ў бабкі, а актава. У адказ дзядулькі пранікаюць інтанацыйныя абароты пытання бабкі, што надае яму іранічнае адценне.

Дыялагічнай сцэнкай з'яўляецца і песня «Заінька» (№ 82). Тут у адказе Заінькі ўзнікае скорагаворка (замест восьмых — шаснаццатыя). Назіраем таксама і танальныя і тэсітурныя кантрасты ў параўнанні з пытаннем Зайчыхі.

Па-рознаму вырашаны сцэнкі маткі і дачкі ў № 17, 17а. У першым прыкладзе — індывідуальная характарыстыка абодвух персанажаў, пры гэтым у адказе маткі, як гэта было ў № 75а, украпваецца інтанацыйны абарот дачкі. У другой песні ў выказванні дачкі і адказе маткі паяўляецца двухгалоссе. Разам з тым тая частка напеву, якая дае адказ маткі, гучыць у больш нізкім рэгістры пашыранага дыяпазону (актава замест сексты). Нагляднаецца тут і ладавы кантраст.

У № 84 дадзены два самастойныя напевы для розных строф тэксту — пытання і адказу. Трэба, аднак, адзначыць, што абедзве групы ўдзельнікаў гульні свае тэмы выкладаюць таксама двухгалоса — ці то з тэрцавай утораЙ, ці з інтэрваламі секунды, кварты, квінты. Характар здзеку ў пытанні падкрэсліваецца глісандыруючымі інтанацыямі, «завываннямі» на словах «брацец», «Майсей», «бачыў».

Ёсць два самастойныя напевы для розных куплетаў песні ў № 78в, дзе першы куплет апісвае падзеі, а другі выкладае простую мову бабкі. Пры гэтым галашэнне бабкі падкрэсліваецца двухгалосым выкладаннем напеву. У № 7 унутры аднаго куплета даецца супастаўленне — пытанне дачкі і яе ж адказ маці шляхам змены мелодыі і рытмічнага малюнка.

Супастаўленне самастойных меладычных ліній унутры аднаго куплета песні сустракаем і пры падкрэсліванні паралелізму яе паэтычнага тэксту. Гэта адбываецца з песняй № 26б, дзе ў другой частцы напеву пашыраецца дыяпазон (з квінты да актавы), змяняецца рытмічны малюнак і знікае скерцознасць.

Іншы раз, як у № 62, 62а або ў папулярнай песні «Касіў Ясь канюшыну» (№ 23), адзін з куплетаў з'яўляецца пытаннем, другі — адказам. У гэтым выпадку музычная індывідуалізацыя вобразаў адсутнічае.

Камічная сцэнка ў песні «Учора лісухна ў госцях была» (№ 83), якая даўней суправаджалася ігрой на дудзе (бурдонныя — «валыначныя»[1] гучанні на ноце соль захаваліся ў вакальнай партыі), у першай частцы мае двухгалосы імітацыйны склад.

Сустракаюцца беларускія народныя жартоўныя песні дыялагічнага характару, але не гуллівыя: сам дыялог узнікае не ў першым куплеце тэксту, а ў наступных. У такіх песнях таксама двухчасткавая структура з кантрастам рэгістраў і фактуры, якія адлюстроўваюць паралелізмы ў паэтычным тэксце. Такі, напрыклад, напеў «Не йдзі мастом, бярэзінкаю» (№ 108). Той самы напеў у зборы М. Чуркіна (№ 129), дадзены хоць і ў хуткім тэмпе, але не на 2/4, а на 4/4, носіць ужо характар не скорагаворкі, а распеўнай песні.

Пачатак тэксту песні № 45 вызначае прычыну падзей, што наступяць, а дыялог узнікае пазней. Танцавальны характар, які носіць прыпеў песні, быццам папярэджвае скокі, аб якіх будзе гаворка потым. У прыпеве змяняецца рытмічная фігура куплета, узнікаюць фанічныя выкрыкі, трыоль, сцвярджаецца асноўная танальнасць напеву.

Сярод беларускіх народных жартоўных песень ёсць і двухгалосыя, часта яны пачынаюцца сольным запевам (№ 20, 43, 68, 78в і інш.). Часам двухгалоссе дапамагае падкрэсліць асноўную ідэю твора. Так, у песнях «Ой, хацела ж мяне маці» (№ 20), «А пайшоў Апанас» (№ 87) і інш. — гэта характарыстыка жаніхоў, добразычлівасць жонкі і да т. п.

Існуюць наогул двухгалосыя застольныя песні, у якіх колькасць галасоў не мае пэўнага значэння пры раскрыцці зместу ці ідэі (№ 59, 91, 95 і інш.). Аднак трэба адзначыць, што трохгалосая песня «Ой, праціў мужык» (№ 59) — рэдкае выключэнне сярод так званых «п'яніцкіх» песень[2], для якіх характэрны аднагалосы склад (№ 54, 55, 57, 58, 59а і інш.).

Для большай часткі беларускіх жартоўных двухгалосых песень тыповае разыходжанне галасоў у тэрцыю (тэрцавая ўтора), але ў асобных выпадках — і на секунду, кварту, квінту. У песнях, што запісаны ў савецкую эпоху (меладычна больш развітых), разыходжанне галасоў у канцы напеваў бывае часта і ў актаву. Такія цікавыя прыклады песень «Ой, хацела ж мяне

---

[1] У некаторых раёнах Беларусі дуду называлі валынкаю. Гл. № 110.

[2] Песня запісана ў Калінкавіцкім раёне, дзе, як вядома, шырока распаўсюджана шматгалоссе.

мацї ды за першага аддацї» (№ 20), «Ой, прапіў мужык» (№ 59), «Я на гары жыта жала» (№ 94).

У двухгалосых песнях № 20, 59 ніжні голас плаўна апускаецца на секунду, а верхні робіць скачок на квінту ці на кварту ўверх. У № 78 скачок не толькі верхняга голасу, але і ніжняга. У № 94 рух галасоў у завяршэнні напеву выкладаецца паралельна актавамі. У асобных выпадках завяршэнне двухгалосай песні бывае і на сугуччы тэрцыі (№ 87), кварты (№ 91). Аднак найбольш часта сярод двухгалосых жартоўных песень ёсць прыклады завяршэння напеву не на «разыходжанні» галасоў, а на «сцягванні» іх ва унісон.

«Падгалосачны» склад у беларускіх жартоўных двухгалосых напевах — з'ява не частая, а гэта азначае, што тыповая для лірычных мелодый народная паліфонія — для жартоўных песень мала характэрная

Трэба адзначыць таксама, што для пераважнай часткі жартоўных песень тыповая адназначная адпаведнасць складоў тэксту і гукаў напеву — квантытатыўнасць рытму. Але можна прывесці і прыклады распеву асобных складоў песні. Часцей за ўсё такія распевы ўзнікаюць у сувязі з тэкстам, у якім ёсць іронія і парадыраванне (№ 26б). У такіх выпадках у тэксце часта фанічныя выкрыкі. Так, у № 22 — гэта насмешка над стогнамі («Ох») закаханага; у № 32 — над прытворным засмучэннем жанчыны («ох, ды крывыя ножкі»). У № 35а — стогн («ох, я малада») нават падкрэслены скачком у мелодыі на малую септыму яўна інструментальнага паходжання. У варыянтах гэтай жа песні (№ 35, 35в, 35г) распеў таксама звязаны з выказваннем гора ў жартоўнай форме. Парадыйны характар смутку і ў песнях № 2, 2а, 2б. Унутрыскладавыя распевы характэрныя наогул для некаторых бяседных (№ 25а) і «п'яніцкіх» песень. Тут дадзена імітацыя іх размовы (№ 48, 48а, 49 і інш.).

Прыклады распеву знаходзім і ў жыццесцвярджальных «споведзях», іншы раз і на заліхвацкія выкрыкі «гэй» (№ 79в, 91 і інш.). Шмат прыкладаў распеваў (№ 92, 93, 94, 96) сустракаецца ў жартоўных песнях, якія змешчаны ў працы З. Мажэйкі «Песенная культура Белорусского Полесья», дзе песні асабліва вызначаюцца сваёй імправізацыйнасцю.

У некаторых песнях распевы мелаядычнай лініі ўяўляюць сабой мардэнты (№ 73, 93, 97), фаршлагі (№ 88, 93), глісандзіраванне (як у адна-, так і ў двухгалосых песнях — № 92, 94, 95, 96, 102 і інш.).

Меладычная структура аднагалосых беларускіх жартоўных народных песень разнастайная. Ёсць аднаэлементныя напевы, дзе шматразова паўтараецца амаль без змен меладычная фраза. Такія прыпеўкі «Ой, пайду я на гару» (№ 6) або імправізацыйная, шыроказразвітая песня «Добрэ таму» (№ 96), песня «Каб я сваю долю знала» (№ 35в) і інш.

Значна часцей у развітым напеве паўтараецца які-небудзь адзін інтанацыйны зварот або папеўка. Так, у № 75а адна папеўка паўтараецца шэсць разоў. Паўторнасць папевак назіраецца і ў № 4, 4а, 26, 34 і інш.

Больш цікавая асаблівасць — вар'іраванне напевак, як у № 39, дзе іх варыяцыйнасць спалучаецца яшчэ з рытмічным «паскарэннем». Такая паўторнасць з'яўляецца спецыфічнай інтанацыйнай структурай шмат якіх беларускіх народных песень розных жанраў і стварае своеасаблівую вакальную варыяцыйнасць.

Значная колькасць жартоўных песень характарызуецца дэкламацыйным складам выкладання напеваў, быццам «рэчытацыйнай гаворкай». Рэчытацыя можа давацца і на адным гуку або на некалькіх (№ 9, 10, 12, 26а, 68). Асабліва часта скандзіраванне на адным гуку бывае ў пачатку напеву, пасля чаго пачынаецца «рух» меладычнай лініі, гэты паўтор гука як бы з'яўляецца нейкай «раскачкай».

Іншы раз рэчытацыя служыць сродкам гукапісу, выкліканым паэтычным тэкстам песні. Напрыклад, імітацыя гучання дуды (№ 90), гудзення камароў (№ 111), «грымоты» (№ 53) і г. д.

Для большасці беларускіх народных жартоўных песень плаўны распеў не тыповы, меладызацыя сустракаецца тут даволі рэдка, але іншы раз яна сваім «сур'ёзным» характарам адцяняе сатырычны змест, як напрыклад у песні «Белая бярозачка» (№ 61). Пры гэтым пачатак тэксту таксама носіць «сур'ёзны» характар і нагадвае працяглыя лірычныя песні-роздумы.

Аднак нельга сцвярджаць, што сярод жартоўных песень цалкам адсутнічаюць плаўныя меладычныя лініі. Рэдка, але яны сустракаюцца, і тут трэба падкрэсліць, што ўзыходзячыя меладычныя лініі (№ 11а, 56, 63) выкладаюцца ў межах гукарада квінты (у асобных выпадках — № 65 — сексты), меладычныя ж лініі, што ідуць уніз, іншы раз могуць дасягнуць нават актаўнага дыяпазону: песні № 32, 79б, 81в.

Для жартоўных песень аднолькава характэрны ўзыходзячыя і ідучыя ўніз зачыны. Да напеваў, якія пачынаюцца з «вяршыні крыніцы» належаць № 4, 54, 79б, 79в, 83, 107 і інш. Пры гэтым высотны гук можа быць I ці V ступенню гукарада.

Узыходзячыя меладычныя лініі некаторых запеваў характарызуюцца рухам па гуках асноўных трохгуччаў або квартсекстакордаў (№ 6, 13, 17, 29, 38, 39а, 42а, 57). Прыкладам ідучай уніз меладычнай лініі запеву па гуках танічнага трохгучча можа служыць № 54. Своеасаблівую танальную настройку ствараюць першыя такты песень № 75а, 78, 78г і інш.

У песні «Чужы дзеўкі, як ягодкі» (№ 93) сустракаем характэрную паслядоўнасць дзвюх узыходзячых скрыжаваных кварт (другі такт). Тое самае і ў песні «Край лясамі, край барамі» (№ 5), але тут першая кварта прыходзіцца на мяжу двух самастойных сказаў [3].

Наогул трэба адзначыць, што для беларускай народнай жартоўнай песні характэрны самыя разнастайныя інтанацыі, пабудаваныя як на простых інтэрвалах (прыма, секунда, тэрцыя, кварта, квінта), так і на больш склада-

---

[3] Так званы «мёртвы інтэрвал».

ных, якія сустракаюцца ў напевах шырокага дыяпазону (секста, септыма, актава). Першыя з гэтых інтанацый знаходзім і ў зачынах напеваў, зачыны ж з квінтавым ходам уніз не сустракаюцца. Некаторыя песні з дынамічна «зломанай» лініяй, дзе значную ролю адыгрываюць скачкі ўверх і ўніз (№ 25, 106 і інш.).

Шырокія інтэрвальныя скачкі, зразумела, наглядаюцца не ва ўсіх песнях, нават вялікага дыяпазону. Для песень са скачкамі на малую і вялікую сэксту ўверх прыкладам з'яўляюцца № 22, 25, 27, 29а, 34. Пры гэтым прыклад № 29а — рэдкая з'ява сярод зачынаў жартоўных песень, і напеў, мабыць, знаходзіцца пад уплывам гарадскога раманса. У № 9, 24, 67, 79б — ход на сексту прыходзіцца на мяжу слоў або музычнай фразы. Зачыны секставым ходам уніз — з'ява вельмі рэдкая ў беларускай песнятворчасці, але ў сярэдзіне напеваў секставыя хады ўніз сустракаюцца (№ 31).

Прыкладам напеваў са скачкамі на септыму ўніз з'яўляецца песня № 34, уверх — № 35а, 74. Скачкі на актаву ўверх — не на мяжы музычнай фразы, а ўнутрыскладавыя ці ўнутры сказа—№ 10, 43, 79, на мяжы музычных фраз у № 2, 32, 37, 44а, 73 і інш. Цікава адзначыць, што ў песні № 78г знаходзім як скачкі на актаву ўверх, так і ўніз.

Для беларускай народнай песні наогул не характэрны павялічаныя і паменшаныя інтэрвалы. Не ствараюцца яны і тады, калі сустракаюцца напевы, дзе скачком (часцей у кадэнцыях), відаць, пад уплывам гарадскога раманса, бярэцца ўводны тон (№ 2, 31). Кадэнцыя з VII ступені на тоніку і апяванне танічнага ўстою ў кадэнцыі такая ж частая з'ява сярод беларускіх народных жартоўных песень, як і ход з II ступені ў тоніку. Іншы раз уводная VII ступень, узятая паступова, «павісае» без пераходу ў тоніку. Такі прыклад бачым у № 30. Некаторыя песні завяршаюцца не на асноўных гуках лада, а на няўстойлівых, пабочных ступенях. Напрыклад, на II ступені (№ 47, 76), на III ступені (№ 81б), на V ступені (№ 27). У апошнім прыкладзе так званы дамінантавы лад.

Дыяпазон беларускіх народных жартоўных песень залежыць ад часу іх нараджэння. Як ужо адзначалася, песня № 81в выкладаецца ў дыяпазоне актавы. Гэты дыяпазон вельмі часта сустракаецца сярод жартоўных песень (№ 60, 77, 109). Іншы раз гэта актава з цэлатонай субсекундай (№ 103). Можна прывесці прыклады і больш разгорнутых напеваў: № 31, 44 — у дыяпазоне ноны; № 27а, 71 — дэцымы; № 78а — тэрцдэцымы (раён Рэчыцы).

Некаторыя жартоўныя песні (частушкі) выкладаюцца двума рэгістравымі этапамі: № 31, 75, 79а, 110. Але рад песень вялікай меладычнай шырыні, наадварот, характарызуецца разваротам усяго свайго дыяпазону адразу. У гэтым выпадку напеў бывае даволі плаўны, іншы раз з меладычнай лініяй актаўнага дыяпазону, што ідзе ўніз.

Разам з тым для пераважнай большасці жартоўных песень тыповым з'яўляецца невялікі дыяпазон — кварта, квінта, секста, запоўненая і неза-

поўненая малая тэрцыя з субквартай і г. д. У № 89 дыяпазон песні — запоўненая квінта з субквартай.

Сярод некаторых старадаўніх напеваў ярка падкрэслена высотная кульмінацыя меладычнай лініі на трэцяй чвэрці, у пункце так званага «залатога сячэння» (№ 23, 33). У сучасных двухгалосых песнях кульмінацыя галоўным чынам падае на канец, дзе галасы расчапляюцца ў актаву.

Пераважная большасць беларускіх народных жартоўных песень запісана ў сярэднім рэгістры: сі — сі-бемоль малой — фа другой актавы. Ёсць прыклады, дзе закранаюцца гукі соль і ля другой актавы (№ 2, 15). Сустракаюцца напевы, якія інтаніруюцца з шырокім ахопам гукаў малой актавы (№ 75, 92, 94, 98).

Поруч з разнастайнасцю меладычных структур трэба адзначыць і метрарытмічнае багацце напеваў беларускіх народных жартоўных песень. Самае вялікае месца сярод іх займаюць цотныя памеры, пры гэтым 2/4 найбольш характэрныя для плясавых песень, частушак, прыпевак (№ 2, 6, 12 і інш.), а таксама і для шмат якіх. Аднак для напеваў жартоўных «бяседных» песень больш шырокія па меладычнай лініі і ім уласцівы змешаныя памеры. Так, у № 61 чаргуюцца 3/8, 4/8, 3/8, 4/8, 5/8, 3/8, 4/8, 3/8, 5/8. Асабліва ярка тэндэнцыя народных майстроў да разнастайнасці памераў назіраецца ў імправізацыйных напевах са збору Э. Мажэйкі, дзе што ні фраза — новы рытмічны малюнак і памер. Так, у № 92 знаходзім чаргаванне: 2/2, 6/4, 3/4, 2/2, 6/4; у № 93 — 9/8, 5/4, 3+5/4, 7/4, 3/4, 3+5/4, 4/2, 7/4.

Сярод жартоўных песень сустракаем і напевы з памерам 3/4. Некаторыя з іх узніклі пад уплывам польскага фальклору. Так, у № 30, дзе драбіцца першая чвэрць, напеў набліжаецца да мазуркі. Тое ж у пачатку № 38.

Можна прывесці прыклады песень з напевамі цалкам у пяцідольным памеры (№ 35в) або з супастаўленнем з памерам 4/4 (№ 7). У памеры 6/4 выкладаецца песня № 94, а ў памеры 6/8 — № 33.

Сярод беларускіх народных жартоўных песень прыклады сямідольных напеваў не сустракаюцца. Перыядычную ж паслядоўнасць тактаў 4/4 і 3/4 дае напеў песні № 29а. Аднак падсумоўваць у адным такце 4+3 нельга, бо тут дадзена процістаўленне асноўнай часткі напеву і яго рэфрэна («Ой-ей-ей», «Ой, божа ж мой»). У песнях № 17, 49 памер складаны — 10/8. Супастаўленне 5/8+6/8 сустракаем у напеве № 86. Памер 3/2, які надае напеву эпічны характар, ёсць у № 62а.

Рытмічная будова беларускіх народных жартоўных песень таксама разнастайная. Значнае месца займаюць роўныя кароткія працягласці з «зацягваннем» у канцы страфы — № 27, 27а, 28б, 40, 67а, 71, 72 і інш. Асабліва гэта тыпова для напеваў плясавых песень з «прытопам». Такім чынам, у пераважнай колькасці песень заўважаецца пераход дробных працягласцей у буйныя, але зрэдку бывае і наадварот — № 12, 110.

Аднатыповыя рытмічныя фігуры наглядаюцца ў напевах № 31, 44б, у скорагаворках — другая палавіна напеваў № 79в, 82, 90.

Для карагодных песень больш характэрны рытмічны малюнак (№ 34):



Ужо адзначалася танцавальная рытміка тыпу мазуркі (№ 30, 38). Іншы раз у напевах адчуваецца супастаўленне маршавага руху з частушачнай скорагаворкай (чаргаванне памераў 4/4 і 2/4 у № 79в).

У напевах № 48а, 95, дзе тэксты песень звязаны з вобразамі п'яніц, сустракаецца сінкопа. Ёсць прыклады, у якіх знаходзім элементы пункцірнага рытму (№ 18 — кадрыль, 63а, 79в, 80).

Як ужо адзначалася, для беларускіх народных жартоўных песень характэрны як вузкі, так і шырокі дыяпазон. Напевы вузкага аб'ёму (да актавы) маюць своеасаблівыя ладавыя адзнакі. Напрыклад, № 63б — квартавы лад з двума ўстоямі, што ўтвараюць вялікую тэрцыю; № 90 — тэрцавы лад з далучэннем зверху і знізу секундавых спалучэнняў.

Першыя часткі напеваў № 75, 78 пабудаваны на запоўненай малой тэрцыі і субкварце. Квартавы напеў з цэлатонай субсекундай прадстаўлены ў № 83.

Прыклады квінтавых ладоў даюць напевы № 40, 47, 50, 64, 96 і інш. У № 4а, 6, 18 верхні дапаможны гук прыводзіць да гексахордавага лада. Але сустракаюцца і напевы ў самастойным гексахордавым ладзе (№ 15, 51, 55, 104). Прыкладам шасціступеннага лада з цэлатонай субсекундай і субквартай можа служыць № 63а.

Развітыя напевы беларускай народнай жартоўнай песні ў дыяпазоне актавы і ў больш шырокім дыяпазоне заснаваны на розных натуральных ладах. Найбольш тыповым з'яўляецца напеў у мажорным ладзе (№ 11, 78а, 78б і інш.). Часта напевы песень пабудаваны ў натуральным міноры, што іншы раз надае ім суровае гучанне (№ 39, 44а, 79 і інш.).

Напевы ў гарманічным міноры звычайна (як гэта наогул тыпова для беларускіх народных песень) не змяшчаюць VI ступень (№ 30, 67). У тых выпадках, калі VI ступень прысутнічае ў гукарадзе напеву, яна ніколі не гучыць у суседстве з VII, каб не стваралася чужародная для беларускай народнай песні інтанацыя з павялічанай секундай (№ 31). Нельга сустрэць таксама ў адным напеве ў непасрэднай блізкасці мінор натуральны і гарманічны, мажор і паралельны мінор, якія б утварылі храматызмы. Храматызмы ўзнікаюць толькі «на адлегласці», як у № 24, другая палова № 27а, і 65.

Як выключэнне з тыповых рыс беларускай народнай песні наогул трэба разглядаць жартоўную песню «Ох, ці мне, ох, на балоце мох» (№ 22), дзе ў наяўнасці меладычны мінор, а ў III такце напеву — гарманічны мінор без VI ступені.

Прыкладаў супастаўлення мажору і паралельнага яму натуральнага мінору (№ 3, 10, 28, 29а і інш.) сярод жартоўных песень можна прывесці менш, чым сярод іншых жанраў песень.

Рэдка сустракаецца і трохасноўны лад, як напрыклад у № 17а (рэ-До-Соль). Гэты прыклад па тэрміналогіі В. Цукермана трэба адзначыць як «танальнае супастаўленне з вынікам». Можна прывесці і такія прыклады, дзе супастаўляюцца гарманічны мінор з паралельным мажорам (№ 2) і мажор з паралельным гарманічным мінорам (№ 30а, 78в).

Ёсць багата прыкладаў супастаўлення ў напеве двух мажорных танальнасцей на інтэрвал квінты (№ 43, 87 і інш.). Іншы раз супастаўляюцца мінорныя танальнасці — на інтэрвал чыстай кварты (№ 106).

Для ўсіх жанраў беларускіх народных песень, у тым ліку і для жартоўных, характэрны міксалідыйскі лад (№ 13, 42, 81а, 108 і інш.). Дарыйскі мінор даволі рэдка сустракаецца ў беларускай народнай жартоўнай песні, але можна знайсці прыклад і на гэты выпадак. Так, дарыйская секста гучыць у напеве песні «Ах, ты ехаў, ехаў, ехаў» (№ 8).

Найбольш простай музычнай формай беларускай народнай жартоўнай песні з'яўляецца аднарадковы напеў перыядычнага тыпу, які іншы раз вар'іруецца: A A $A_1$ A (№ 6).

Песенная страфа з двух кантрастных сказаў часта характарызуецца парна-меладычнай паўторнасцю тыпу: AABB (№ 67, 69) або ABAB (№ 99), $ABAB_1$ (№ 65), $ABA_1B$ (№ 109), AABA (№ 36). Ёсць напевы са своеасаблівай рандальнасцю: $ABA_1$ $BA_2$ $BA_3B_1$ (№ 100). Сустракаюцца выпадкі, дзе напеў складаецца з трох меладычных элементаў тыпу: AABC (№ 23, 101), ABBC (№ 66), ABCC (№ 15), ABAC (№ 64б).

У радзе выпадкаў рэфрэны паўтараюцца варыяцыйна, а часам уключаюць інтанацыі асноўнай страфы (№ 35а, 39, 64а). Яшчэ часцей знаходзім такія рэфрэны, якія адрозніваюцца ад асноўнай страфы — прыпевы (№ 67, 78г і інш.).

Прыпеў у жартоўных песнях — гэта мяжа паміж часткамі перыяду. Ён вызначаецца кантрастамі інтанацый, рытмаў, ладоў, тэмпаў. У некаторых прыпевах, дзе ўзнікаюць фанічныя выкрыкі, назіраецца рытмічнае паскарэнне — працяглы па характару запеў пераходзіць у хуткі, жвавы прыпеў (№ 79в) або наадварот (№ 78а). У апошнім выпадку ў прыпеве змяняецца і рэгістр.

Прыпеў у пераважнай большасці песень просты, каб даць магчымасць спяваць усім жадаючым. Іншы раз прыпеў сольнай песні харавы (№ 39а, 68, 79в, 87, 102 і інш.). Ёсць прыклады, калі ў песнях спачатку гучыць прыпеў, а потым запеў (№ 76).

Песня са структурай «запеў» і «прыпеў» — новы этап у развіцці формы беларускай народнай жартоўнай песні.

У варыянтах песні № 70, 70а, 70б, дзе пералік імён робіць тэкст большым, чым напеў, уводзяцца шматлікія паўторы мелодыі. Гэта парушае квадратнасць структуры песні. Яна парушана і ў № 39. Трэба адзначыць, што асіметрыя структуры наогул мала характэрная для беларускай народнай жартоўнай песні, але такія прыклады назіраюцца (№ 29, 88, 93, 107).

* * *

Нягледзячы на тое што першыя зборы беларускіх народных песень з напевамі пачалі друкавацца толькі з пачатку 80-х гадоў XIX ст., а пазаабрадавыя жартоўныя нават у канцы мінулага стагоддзя, некаторыя беларускія народныя жартоўныя песні атрымалі канцэртна-сцэнічнае жыццё значна раней. Да нас дайшлі звесткі пра выкарыстанне ўзораў дударскай песнятворчасці — розных варыянтаў песень пра дуду. Так, у 1846 г. песню «Дуда» апрацаваў Антон Абрамовіч і надрукаваў яе ў «Рочніку літэрацкім» у Пецярбурзе. У гэтым жа годзе В. Дунін-Марцінкевіч у лібрэта оперы «Сельская ідылія», якая пад назвай «Сялянка» з музыкай Ст. Манюшкі была пастаўлена ў Мінску ў 1852 г., дае аўтарскую рэмарку: «Змена тона на «Дуду». І тут Наум Прыгаворка запявае: «Я цяцерку злавіў, ух я! Ці не дудка мая, весялушка была. Весяліла мяне на чужой старане». Аднак рукапіс оперы не захаваўся, і прынцыпы апрацоўкі народнага напеву нам невядомыя.

З 1870-х гадоў песня «Ці не дудка мая» (іншы раз яе называюць «Дудка-весялуха») у апрацоўцы Д. Агрэнева-Славянскага ўвайшла ў рэпертуар яго славутай харавой капэлы. Яе выконваў змешаны хор, саліраваў хлопчык. Пра гэту апрацоўку пісаў М. Нікіфароўскі[4], назваўшы яе «Былі ў бацькі тры сыны». У 1938 г. Р. Шырма ўключыў апрацоўку Д. Агрэнева-Славянскага «Ці не дудка мая» ў свой рэпертуарны зборнік «Наша песня» (Вільня).

Музычны варыянт песні «Былі ў бацькі тры сыны» (пра якую піша М. Нікіфароўскі) з голаса П. Шэйна запісаў М. А. Рымскі-Корсакаў.

Асабліва вялікую папулярнасць у народзе атрымалі беларускія народныя жартоўныя песні ў савецкую эпоху. Яны часта гучаць на эстрадзе ў выкананні Дзяржаўнага народнага хору БССР, хору Радыёкамітэта, самадзейных харавых ансамбляў, розных салістаў. Гучаць яны і ў выкананні аркестра народных інструментаў і асобных народных інструментальных ансамбляў.

Апрацоўкі песень для гэтых выканаўцаў рабілі розныя музыканты. Сярод беларускіх аўтараў: кампазітары М. Аладаў («Ох, ці мне, вох»), А. Туранкоў («А мой мілы захварэў», «Ой, ды ў нашым сяле»), Н. Сакалоўскі («Хмарыцца — дождж будзе» — частка ягонай «Харавой сюіты», «Чабарок»), С. Палонскі («Хлопец пашаньку пахае»), М. Анцаў («Чачотачка»); хормайстры Г. Цітовіч («Хацела ж мяне маці замуж аддаці»), К. Паплаўскі («Як пагнала бабуленька», «Як паставіў верабейка», «А мой мілы захварэў», «Як я ў мамкі жыла»); кіраўнік аркестра беларускіх народных інструментаў Г. Жыхараў («Захацела бабуленька»).

Апрацоўвалі беларускія народныя жартоўныя песні і літоўскія кампазітары — К. Галкаўскас («Замуж пайсці — трэба знаць», «Хлопец пашаньку

[4] Н. В. Никифоровский. Дударь и музыка. Этнографическое обозрение. СПб, 1892, стар. 184.

пахае»), Ст. Шынкус («Ох, ці мне, вох»), і рускія — М. Аленін («Спарадзіла чачотачка»), М. Красеў («Як прачнуся я ў панядзелак», «Хлопец пашаньку пахае»), і ўкраінскія—Я. Яраславенька («Ой, ды ў нашым сяле»), М. Гайваронскі («Замуж пайсці») і інш.

Беларускія народныя жартоўныя песні выкарыстаны ў операх і балетах нацыянальных кампазітараў. Яны гучаць як цытаты ў операх М. Аладава «Тарас на Парнасе» (хор «Мужык жыта прадае»), А. Туранкова «Кветка шчасця» (песня Мікіты «Ах, ты дуй»), Я. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся» (песня Сёмкі «Ах, ты дуй») — у якасці характарыстыкі камічных ці адмоўных персанажаў. У дзіцячай оперы «Марынка» Г. Пукста напеў песні «Саўка ды Грышка» гучыць у адным з танцаў сцэны сна дзяўчынкі. Гэты ж напеў выбраў і Д. Камінскі для свайго Першага канцэрта для цымбал (фінал), дзе ён гучыць як тэма з варыяцыямі.

Наогул напевы жыццесцвярджальных, яркіх жартоўных песень часта выкарыстоўваюцца ў фіналах твораў буйных форм. Яны гучаць і ў фінальнай частцы Сімфаньеты М. Чуркіна («Ой, прала б кудзельку») і ў Трэцяй сімфоніі М. Аладава («Чаму ж мне не пець?»). Пры гэтым кампазітары імкнуцца надаць напеву большую вастрыню гучання і некалькі змяняюць яго асобныя інтанацыі. У фінале фартэпіяннага квінтэта М. Аладава напеў жартоўнай песні «Як прыехаў джанджура» гучыць першапачаткова амаль як цытата, але далей падвяргаецца варыяцыйным зменам.

Напеў народнай жартоўнай песні «Добры вечар, гаспадыня мая» Г. Вагнер выкарыстаў у якасці характарыстыкі «Кірмашовай мітусні» ў сваім балеце «Падстаўная нявеста». У сімфанічнай распрацоўцы гэта тэма набывае рысы асаблівай святочнай весялосці. Між тым ва Уверцюры В. Залатарова яна паступова набывае рысы трагедыйнасці. Трансфармацыя тут паслядоўна адлюстроўвае эвалюцыю народнага жыцця — ад ціхамірнасці ў даваенныя гады да цяжкіх выпрабаванняў у часы Вялікай Айчыннай вайны.

Драматызацыю жартоўнай песні мы назіраем і ў іншых творах беларускіх кампазітараў. Я. Цікоцкі, у прыватнасці, у драматычным плане выкарыстаў інтанацыі жартоўнай песні «Ох, ці мне, вох» у другой частцы сваёй Другой сімфоніі. У араторыі Д. Смольскага «Мая Радзіма» ў драматызаваным выглядзе гучыць напеў песні «Ой, хацела ж мяне маці замуж аддаці». Кампазітар раскрывае трагічны падтэкст гэтай жартоўнай песні.

Прыведзеныя тут шматлікія прыклады беларускіх народных жартоўных песень, якія ўвайшлі ў жыццё і побыт народа, ярка сведчаць аб тым, што гэтаму каштоўнейшаму жанру нацыянальнай песнятворчасці суджана неўміручасць у свядомасці будучых пакаленняў.

**Заўвагі:** 1. Справа пры нотных прыкладах абазначаны нумары тэкстаў.

2. Прыведзеныя тут беларускія народныя жартоўныя песні запазычаны з разнастайных фальклорных збораў і рукапісных фондаў АН БССР. Першая лічба — нумар напева дадзенага тома, а лічба ў дужках — нумар таго выдання, адкуль узяты прыклад:

Бычко-Машко І. — № 107 (38);

Гарэцкі і Ягораў — № 14 (280), 24 (312), 47 (305), 62а (228), 65 (308), 88 (291);

Грынблат М.— № 1 (142), 2а (170), 15 (148), 17а (155), 22 (146), 28 (151), 35 (163), 35в (156), 36 (141), 38 (159), 42 (157), 45 (165), 48 (168), 66 (167), 67 (152), 69 (169), 70б (171), 71 (144), 75 (161), 75а (162), 76 (145), 82 (154), 84 (164), 90 (143), 108 (147);

Грыневіч А.— № 30 (11), 70а (22), 80 (23);

Кольберг О. — № 2 (622), 59а (617);

Куба А. — № 91 (129);

Ледаховіч Э. — № 21 (58), 26б (60), 30а (45а), 37 (46), 43 (25), 46(61), 68(64), 77(63), 78г(55);

Мажэйка З. — № 92 (11), 93 (17), 94 (32), 95 (74), 96 (79), 97 (116), 98 (117);

Сербаў І. — № 106 (стар. 151);

Федароўскі М., т. V — № 6 (33), 11а (31), 12 (25), 13 (26); т. VI — № 26 (2467), 4а (2533), 16 (2524), 64б (2542), 74 (2464), 81 (2442), 81г (2503), 85 (2517);

Цітовіч Г. (выд. 1968) — № 19 (331), 20 (307), 27 (303), 27а (303а), 29а (306), 32 (302), 35а (308), 39 (294), 41 (310), 44 (291), 49 (290), 51 (292), 52 (299), 55 (280), 60 (284), 61 (289), 63а (285), 64а (288), 73 (282), 78в (311), 79в (312), 81в (105), 83 (281);

Чуркін М. — № 17 (133), 18 (171), 29 (132), 44а (112), 62 (142), 78 (141), 79а (79), 87 (177), 109 (153), 110 (144);

Шэйн П. — № 70 (17), 89 (18);

Шырма Р. — № 3 (237), 5 (228), 7 (242), 8 (227), 9 (226), 10 (243), 11 (232), 25 (235), 25а (218), 26 (219), 28а (233), 31 (230), 33 (216), 34 (245), 35б (217), 35г (215), 40 (249), 42а (213), 44б (221), 45а (238), 45б (238а), 48а (236), 50 (231), 51а (240), 53 (222), 63 (214), 64 (220), 72 (239), 78а (241), 78б (241а), 79 (247), 79б (253), 81а (224), 81б (223), 86 (121), 111 (234);

Беларускі фальклор у сучасных запісах — № 57 (стар. 176).

Песні роднага краю — № 23 (стар. 216).

Рукапісныя фонды АН БССР — № 4, 26а 28б, 39а, 54; 56; 58, 59, 63б, 67а, 99, 100, 101, 102, 103, 104, 105.

3. У сувязі з тым што ў кожным з названых збораў па-рознаму даюцца натацыі, паказальнікі тэмпаў (метраном, тэрміналогія), намі прыведзены да адзінства абрысы нот, перакладзены назвы тэмпаў з польскай мовы на беларускую (італьянскія назвы пакінуты без змен). Некаторыя напевы ў зборы О. Кольберга не маюць тэмпавых паказальнікаў, а ў Федароўскага — асобныя тэксты песень не супадаюць з запісамі напеваў.

*С. Нісневіч*

## 1. А ХТО БЯДЫ НЕ ВЕДАЕ

А хто бяды не ведае,
Няхай з бядой пабедае;
А хто бяды не знае,
Няхай мяне спытае.
Стаіць бяда пад мастом,
Едуць людзі з хвarастом,
Вялі бяду вожкамі,
Страпянула ножкамі.
Адкуль браўся Пракоп,
Тую бяду ў морду — хлоп;
А дзе браўся Тарас,
Тую бяду за лоб трас.
Пашла бяда да папа,
Збілі бяду, як снапа;
Пашла бяда да Гаўрылы,
Ад Гаўрылы носам рыла.
Ідзе бяда невялічка,
Спатыкае чалавічка.
— Дзе, бяда, ўзялася,
Што за мяне ўхапілася?
— Я ў Кіеве радзілася,
Я ў Літве ўзрасцілася,
У Гомелі замуж пашла.
Як у Мінску на торзе
Едуць людзі на козе,
Крупы прадавалі,
Полы пакупалі.
Ехалі цыгане,
Ўзялі бяду на сані,
Паехалі за Валок,
Валамалі па гарох.
Валачане пасмяялісь,
Што на гарох памяняліcь:
— Вы, цыгане, добры пане,
Сабе бяду бярыце,

А мой гарох вярніце!
Была бяда у клябане
За ключніцу у пані,
Пацярала ключы,
Сама пабегла з поўначы.
Аступілі абозы,
Палажылі бяду на возы,
Білі бяду шалагнамі:
— Не хадзі, бяда, за старцамі,
Не чапай торбы з сухарцамі.

## 1а. ХТО БЯДЫ НЕ ВЕДАЕ

Хто бяды не ведае,
Няхай з бядой пабедае,
А хто бяды не знае,
Няхай ў Хамы спытае.
Села бяда пад мастом,
Там ехалі з хварастом.
Тут бяда разыгралась,
Усім калёсы паламала.
Тут ўсхапіўся Пракоп,
Бяду ў морду — хроп.
Падбяжаў сюды Гаўрыла,
Той пачысціў бядзе рыла.
Як прыскочыць Антось,
Бяду за валасы патрос.
Пашла бяда рыгаючы,
На сем сажон стукаючы.
Пашла бяда за старца́мі,
Украла торбу з сухарцамі.
Дагналі бяду, абабралі бяду,
Палажылі пад вазамі,
Білі, білі палазамі:
— Не йдзі, бяда, за старцамі,
Не крадзь торбу з сухарцамі.
Скора ехалі улане,
Ўзялі бяду на сані,
А за імі на валох,
Памянялі на гарох.
Валовікі здзівіліся,
Што з гароху спусціліся:
— А вы ж бяду вазьміце,

А нам гарох вярніце.
— Мы на тое не мянялі,
Каб назад бяду ўзялі.
Пашла бяда да Дзям'яна,
Ад Дзям'яна вышла п'яна;
Пашла бяда да Гаўрылы,
Ад Гаўрылы носам рыла;
Пашла бяда да Дзяніса,
Ад Дзяніса вышла лыса;
Пашла бяда да пані,
За ключніцу ў клябані,
Пагубіла ключы
І ўцякала з поўначы.
У Мінску на торзе
Сядзіць бяда на козе,
Прадае муку ды крупы,
Купляюць папы.
Сама бяда невялічка,
Надыбала чалавічка:
— Скуль ты, бяда, ўзялася,
Што за мяне ўчапілася?
— Я ў Кіеве радзілася,
А ў Варшаве хрысцілася,
А ў Парыжы вырасла,
А ў Гомелі замуж пашла
У Ігумені — слаўна места,
Там гуляла шаўцоў дэвесце.
Яны пілі і гулялі,
Чарнабрыву паміналі:
— Чарнабрыва, мая міла,
Ці не здохла дзе кабыла?
— А ў папа на даліне
Во там здохла дзве кабылы:
Адна чорна, друга лыса,
Шукай сабе тавырыша.
Цап за вуха, цап за бруха:
— Не псуй скуры, мой братуха!
— А я скуры не папсую,
Пачну я ад Ватуры.
Азірнуўся на бачкі,
Там стаяць башмачкі.
Я ўзяла ды абула.
Іду я грэбелькай,

Там прачкі пяруць:
— Вы, прачкі, пярыце,
На мяне не дзівіце,
Што абула башмачкі.
Я з родам сайдуся,
За цыбульку уп'юся,
За цыбульку і за мак,
Пашла замуж, ды не так.
Мне мужавы кулачкі
Даліся у значкі:
Кулачкамі па бачках,
Ладонькамі па шчаках.
Ах, бедная галава,
На тры рублі напіла.
Прышлі [купцы] рабаваць,
У мяне нечага узяць,
Узялі венік й памяло,
Я каб дома была,
То й тога б не дала.
Ах вы, [купцы], падляцы,
Не за ваша я ўпілась,
Я ўпілася за той сыр,
Што мой пеўнік нанасіў.
Мой пеўнік гаспадар
Усе куры распрадаў.
Адну курку чубату,
Тую выкінуў на хату.
Села яна на снапе,
Знесла яек тры капе.
Вот бяда — памёрла,
Ногі задзёрла.
І харанілі яе
Шыльнікі, мыльнікі,
Трубнікі, дубнікі,
Шаўцы і краўцы,
І ўсе прыезжыя купцы.

### 16. САБРАЛІСЯ ШЫЛЬНІКІ, МЫЛЬНІКІ

Сабраліся
Шыльнікі, мыльнікі,
Шаўцы, краўцы,
Кавалі ды муляры.

Трубнікі, згубнікі,
А бяды нямаш.
Вот паслалі па папа,
Па запечнага клапа.
Едзе поп на гусе,
У чырвоным кажусе,
Пад поясам сякерачка,
Па сінічку паслаў.
Прыляцела сінічка,
Села чытаць, пісаць,
Як хто завецца:
Дуб Гаўрыла,
Лаза Кацярына,
Альха Марына,
Вол Захар'я,
Карова Дар'я,
Кабыла Матруна,
Конь Харытон,
Свінка Кулінка,
Парсючок Паўлючок,
Певень Цімафей,
Курка Сафейка.
Каршун-куратнік
Па дварах лятае,
Куры выбірае:
З каго двое,
З беднага трое.
Бедны паплача,
Багаты паскача.

## 1в. А ХТО БЯДЫ НЕ ЗНАЕ

А хто бяды не знае,
Хай у мяне пытае.

Я з бядою начавала,
Дык я бяду распазнала.

Я з бядою абедала,
Дык я бяду разведала.

Перад панам-панічом
Білі мяне дзеркачом.

Перад панам Мікітаю
Білі мяне ракітаю.

А я з таго спужалася,
Ды й пад мосцік схавалася.

Схавалася пад памост
Дый сядзела цэлы пост.

## 1г. ХТО БЯДЫ НЕ ВЕДАЕ

Хто бяды не ведае,
Няхай з бядой паабедае,
А хто бяды не знае,
Хай у Хамы спытае.

Сядзіць бяда пад мастом,
Наехалі з хварастом.
Разгулялася бяда,
Ўсім калёсы паламала.

Тут усхваціцца Пракоп,
Бяду ў морду — хлоп!
Тут усхваціцца Тарас,
Бядзе ў морду — хлясь!

Білі, бяду, білі,
Ужо і забілі,
Бяда ўжо памёрла
І ножкі задзёрла.

## 2. ЯК САБРАЛАСЯ НАС, ВУСОЎ

Як сабралася нас, вусоў —
Дзевяноста малайцоў,— многа!
Эй, да вусы, эй, да вусы!

Вусы мае, вусы, развалісты вусы,
Яны поленькам ішлі, разгаварвалі,— цішай!
Эй, да вусы, эй, да вусы!

На іх красныя рубашкі,
Ўсе косыя вораты,— на бок!
Эй, да вусы, эй, да вусы!

Як у нашага вусішча
Барада, як памялішча,— страшна!
Эй, да вусы, эй, да вусы!

Падыходзім мы пад двор
І бярэмся за забор,— крэпка!
Эй, да вусы, эй, да вусы!

— А ці дома пан-гаспадар?
Падай грошыкі — разлік,— няма!
Эй, да вусы, эй, да вусы!

Абабраўся тут малоец:
Брэшаш, грошы ёсць,— верна!
Эй, да вусы, эй, да вусы!

У засецэ, у муцэ,
У чугунным сундуцэ,— поўна!
Эй, да вусы, эй, да вусы!

### 3. БЕДАВАЛА ПАПАДДЗЯ СВАЁЮ БЯДОЮ

Бедавала пападдзя сваёю бядою,
Скаржылася на папа сваёю бядою:
— Ох, бо мне цяжка, ох, бо мне нудна,
Да на свеце з барадатым да з ім жыці трудна.

Просяць мяне на хрысціны, просяць мяне сесці,
Як пагляжу на папа — не магу я есці.
— Ох, бо мне цяжка, ох, бо мне нудна,
Да на свеце з барадатым да з ім жыці трудна.

Заказала пападдзя біць куры, індыкі,
Закладайце шасцю коні ехаць да ўладыкі.
— Ох, бо мне цяжка, ох, бо мне нудна,
Да на свеце з барадатым да з ім жыці трудна.

Прыехала да ўладыкі да стала блізенька,
Як выскачыў пан уладыка, скланіўся нізенька.
— Ох, бо мне цяжка, ох, бо мне нудна,
Да на свеце з барадатым да з ім жыці трудна.

Пазволь, пазволь, наш уладыка, з табой гаварыці,
Што заказаў стараверу бораду насіці.
— Ох, бо мне цяжка, ох, бо мне нудна,
Да на свеце з барадатым да з ім жыці трудна.

Сядай, сядай, пападдзя, на маёй канапе,
Паглядзі на папоў — мы ўсе барадаты.
— Ох, бо мне цяжка, ох, бо мне нудна,
Да на свеце з барадатым да з ім жыці трудна.

Шкода ж маёй маладосці, шкода ж майго ўзросту,
Ох, пайду ж я утаплюся з высокага мосту.
— Ох, бо мне цяжка, ох, бо мне нудна,
Да на свеце з барадатым да з ім жыці трудна.

## 3а. ЗАЖУРЫЛАСЯ ПАПАДДЗЯ *

Зажурылась пападдзя
Горкаю бядою:
— Бедна ж мая галава,
Што поп з барадою.
Ох жа мне цяжка,
Ох жа мне нудна,
Што поп з барадою,
То мне жыці трудна! [1]

Просяць мяне на васеле,
Просяць мяне піці,
Што паляджу на бораду,
Не магу я жыці!

Просяць мяне на хрысціны,
Просяць мяне сесці,
Што пагляджу на бораду,
Не магу я есці.

Як паеду я ў цэркаўку
Богу памаліцца,
Што пагляджу на бораду,
Не магу хрысціцца.

Ох, забрала пападдзя
Куры ды індыкі:
— Запрагай, кучар, лошадзі,
Гайда да ўладыкі.

---

[1] Чатыры апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Прыехала пападдзя,
Стала у парозе,
Скланілася нізенька,
У самыя ногі.

Прыехала пападдзя,
Начала прасіці:
— Чы не можа, поп ладыка,
Бараду абрыці.

— Паглядзіце, пападдзя,
У маёй камнаце,
Што тут ёсць папоў
Да ўсе барадаты.

Прыказаў поп ладыка
Крапівы нарваці,
Паваліці пападдзю,
Крапівою даці.

Як нашая пападдзя
Крапівы скаштавала,
Ўзяла папа за бараду
Дай пацалавала.

## 36. ЗАЖУРЫЛАСЬ ПАПАДДЗЯ *

Зажурылась пападдзя
Сваёю бядою:
— Бедна мая галовачка,
Што поп з барадою.
Як жа мне важка,
Як жа мне нудна,
Поп барадаты,
Жыці з ім трудна [1].

От пашла б у цэркаўку
Богу маліцца,
Да гляну на бараду,
Не магу хрысціцца.

---

[1] Чатыры апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Пашла б я на хрысціны,
Трэба з папом сесці,
Як гляну на бараду,
Не магу я есці.

Закладу я тройку коней
Да й паеду к владыку,
Штоб абрыць бараду,
Паршыву, вяліку.

— Прашу цябе, владыка,
Твайго разрашэння,
Штоб абрыці бараду,
Не стае цярпення.

Загадалі пападдзі
Ваду валачыці,
Забажылась, заклялась:
— Буду з папом жыці.

Гэй, мне не важка,
Гэй, мне не нудна,
Поп з барадою,
Жыць з ім не трудна.

## 3в. ЖУРЫЛАСЯ ПАПАДДЗЯ СВАЁЮ БЯДОЮ

Журылася пападдзя сваёю бядою:
— Доля ж мая няшчасная, што поп з барадою.
Ой, як жа мне цяжка, ой, як жа мне нудна,
Што мой поп з барадою, жыць на свеце трудна.

Просяць мяне на радзіны, просяць мяне сесці,
Як гляну на бараду, дык не магу знесці.
Ой, як жа мне цяжка, ой, як жа мне нудна,
Што мой поп з барадою, жыць на свеце трудна.

Як пачаў жа мой крапідлам крапіці,
Праклянчыла, прысягнула, што буду любіці.
Як было цяжка, так стала лёгка,
Што мой поп з барадою, жыць на свеце лоўка.

## 3г. ЗАЖУРЫЛАСЯ ПАПАНДЗЯ

Зажурылася папандзя
Горкаю бядою,
Як паглядзіць на папа,
Што ён з барадою:
— Вот жа мне цяжка,
Вот жа мне нудна,
Што мой поп з барадою,
А мне жыць трудна.[1]

Як узяла папандзя
Куры ды індыкі,
Як села на саначкі —
Гайда да владыкі.

Прыязджала папандзя,
Стала на парозе,
Пакланілася владыку
У самыя ногі.

Ды як сказаў владыка
Крапіву азяці,
Маладую папандзю
Крапівой ажаці.

Ды як наша папандзя
Крапівы скушала,
Узяла папа за бараду
Ды пацалавала.

## 4. ОЙ, ПАСЕЮ БОБ ЗА ВАДОЮ

Ой, пасею боб за вадою,
За вадою.
Унадзіўся поп з барадою,
З барадою.

А я папа ды за бароду,
За бароду.
Ды павяду па гароду,
Па гароду.

---

[1] Апошнія чатыры радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Ой, каб жа ж ты добры поп,
Добры поп,
Ды не хадзіў у мой боб,
У мой боб.

Ды насеяў бы ты свайго,
Ты свайго.
Ды не хадзіў да майго,
Да майго.

## 5. ОЙ, ЧАЧУ, ЧАЧУ, ЧАЧУ

Ой, чачу, чачу, чачу,
За паповіча хачу.
— За якога паповіча?
— За Раманавіча,—
Трое коней вараных,
Трое шлёўцаў залатых.
Як усядуся ж я,
Як паеду ж я
На Саломкін двор,
Там б'юцца, дзяруцца:
Камар пішчыць,
Муха балбочыць,
Бліны валочыць.
А Халімон-ваданос
Наругаецца.
Пад калодай вада
Сабіраецца.

## 6. РУКАВІЧКІ ДЫ БАРАНЯНЫЯ*

Рукавічкі ды бараняныя,
Ох, не ходжаны, не мараныя.
Раз, два, тры, люлі, люлі, люлі,
Ох, не ходжаны, не мараныя.

Рукавічкі ды пальчатачкі
Даравалі нам дзяўчатачкі.
Раз, два, тры, люлі, люлі, люлі,
Даравалі нам дзяўчатачкі.

Ох, маладзенькі малойчычак,
Ды чаму жа ты не жэнішся?
Раз, два, тры, люлі, люлі, люлі,
Ды чаму жа ты не жэнішся?

Ды чаму жа ты не жэнішся,
На каго жа ты надзеешся?
Раз, два, тры, люлі, люлі, люлі,
На каго жа ты надзеешся?

— Ох, надзеюся на дзевачку
І звянчаюся з дзяўчынкаю.
Раз, два, тры, люлі, люлі, люлі,
І звянчаюся з дзяўчынкаю.

А мой мілы на таку, на таку,
А я яму пірагоў напяку.
Раз, два, тры, люлі, люлі, люлі,
А я яму пірагоў напяку.

А мой мілы на парог, на парог,
А я яму на талерачку пірог.
Раз, два, тры, люлі, люлі, люлі,
А я яму на талерачку пірог.

— Чужы жонкі ды да цэрквы ідуць,
Мая шэльма ўсё ўбіраецца.
Раз, два, тры, люлі, люлі, люлі,
Мая шэльма ўсё ўбіраецца.

Чужы жонкі богу моляцца,
Мая шэльма з папом борацца.
Раз, два, тры, люлі, люлі, люлі,
Мая шэльма з папом борацца.

Ох, і борацца, качаецца,
Ніяк шэльма з ім не справіцца.
Раз, два, тры, люлі, люлі, люлі,
Ніяк шэльма з ім не справіцца.

## 7. ТРАВА-МУРАВА ЗЯЛЁНАЯ

Трава-мурава зялёная, [1]
Хаджу па траве, не нахаджуся,
Каго верна люблю, не налюблюся.
Ой, люблю, люблю куміну дачку,

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

А ў яе цела, як папера бела,
А дам я папу ды грошы капу,
Каб поп павянчаў з кумінай дачкой.
Поп не вянчае — сабе лучае,
Пападдзя мысліць — за сына цісніць,
А дзяк мармоча — за сябе хоча.
Бадай на пана трасца напала,
Як маіх капа грошы прапала!

### 7а. НА ГАРЭ ЖЫТА

На гарэ жыта,
Сцежачка ўбіта.
Хадзіў Васечка
Жыта глядзеці.
Нашоў Васечка
Перапяліцу.
Перапяліца
Дзетак вывела.
Большыя, першыя,
Проч паляцелі,
Меншыя, лепшыя,
Пасіраце лі.
Ляціце, дзеткі,
Хоць на Украіну,
Я сваю Насценьку
Век не пакіну.
Пайду да папа,
Будзе вянчаці.
Поп не вянчае,
К сабе лучае.
Пападдзя мысліць,
За сына цісніць.
А дзяк мармоча,
За сябе хоча
Бадай на дзяка,
Трасца напала,
Як мая Насценька
Зелле капала.
А што за зелле —
Хмель ды пятрушка.
Развесяліся,
Насценька-душка.

## 76. А Я СВАЙМУ ПАПУ

А я сваймý папу
Нажну пшоначкі капу.
Няхай чае, павянчае,
Мой мілы, з табою.
А поп не вянчае
Ды за сябе чае,
А дзячок мармоча
Ды за сябе хоча.
Каб на цябе, попачка,
Ды трасца напала,
Бо мая ўжо пшоначка
Дарма прапала.

## 8. ГАННУСЕЧКА ДОБРА ЖНЕЦЬ

Ганнусечка добра жнець,
Сярпа ў рукі не бярэць.

За Ганнусяй густы сноп,
Сем дзецюкоў, восьмы поп.

На паповым перавазе
Было там іх трое разам.

Быў там поп, быў там дзяк
І арганісты-небарак.

Арганісты кшыча-вола:
— Не руш, бацька, яшчэ гола.

А бацюшка пальцам ківа:
— Лепей гола, ніжлі сіва.

## 9. ВО ЯКУЮ МЯНЕ МАМКА РАДЗІЛА

Во якую мяне мамка радзіла —
Шчаслівую, таланлівую,
Смяшлівую, выгадлівую,
Што не смею я да цэрквы хадзіць.
Поп мяне ў алтар кліча,
За пазуху праскуру тыча.

Ой, я праскуры не хачу,
На ўсю царкву рагачу.
Палюбі мяне, малодзенькі папок,
Падаруй мне шаўковенькі платок.
А платок насіць не хочацца,
А папа любіць не хочацца,
Што па цэркве валочыцца,
Трасцінай падпіраецца,
Ён да мяне дабіраецца.

## 9а. НАШТО МАЦІ ПРЫГОЖУЮ РАДЗІЛА

Нашто маці прыгожую радзіла,
Нашто маці харошую радзіла?
Мне не можна да царквы хадзіць,
Мне не можна на споведзі быць:
Папы, дзякі заляцаюцца
І ў кніжачках спамыляюцца.
А адзін панамар, панамар
Сабе вока паламаў...

## 9б. МАМАЧКА, ТЫ МАЯ КВЕТКА

Мамачка, ты мая кветка,
Вытчы мне на хвартух рэдка.
У падоле ды махры ўюцца,
З-за мяне дзяцюкі б'юцца.
Ой, пайду я ў цэркаўку,
У цэркаўцы ўсё папы і дзякі.
Чытаючы, памыляюцца,
Усё на мяне прызіраюцца.

## 10. ОЙ, МІЛЕНЬКІ МОЙ, ДРУЖЫНА МАЯ

— Ой, міленькі мой, дружына мая,
Куды ты прывёз, дзе роду няма.

Няма куды выйсці мне пагаварыці,
Сваё сэрцайка развесяліці.

— Мілая мая, няпраўда твая,
У канцы вуліцы там кума твая.

Вялю табе йсці к ёй пагаварыці,
Сваё сэрцайка развесяліці.

— Ой, пайду к куме — пакумуюся,
З куміным хлапцом павянчаюся.

А поп не вянчае ды за сына чае,
А дзяк не гаворыць — сабе наровіць.

Ох, вазьму папа за патыліцу,
Павяду яго на вуліцу.

— Ой, пусці, сынку, маю чупрынку,
Звянчаю цябе ў адну часінку.

## 11. ЛЮБІЎ МЯНЕ ПАПОЎ СЫН

Любіў мяне папоў сын
Да даваў мне валоў сем.
Дурна была, што не брала,
Шасцярых узяла б,
А сёмага прадала б,
Пагоніча наняла б.
Мой пагоніч малады
Пагнаў валы да вады.
Ён волікі напасе
І дзяўчыну патрасе.
Палюбіла такога,
Што не мае нічога:
Ні каней, ні авец,
Ён сам сабе маладзец.
Адна люлька да капшук,
Ён бегае, як паршук,
Адна люлька да каптан,
Ён бегае, як шатан.

## 12. ПАНАМАР, ПАНАМАР

— Панамар, панамар!
Узыйдзі-тка на званіцу, паглядзі-тка,
Ці не йдзе к нам хто,
Не нясе нам што?

— Бачу, бацюшка, ідзе якаясь баба,
Нясе на паніхвіду стопку бліноў
І горачку мёду.
— Падай, госпадзі!

— Дзякан, дзякан!
Годзе табе вякаць, узлезь на званіцу,
Падзівіся, ці не йдзе хто, ці не нясе нам што?

— Бачу, бацюшка, ідзе мужык
І нясе дубінку на папову спінку.
— Табе, госпадзі!

## 13. ТАМ У ЛЕСЕ ТРЫ ДУБЫ

Там у лесе тры дубы
Схіліліся да зямлі.

Вецер лісце шастае,
Казак дзеўку пытае:

— Дзяўчыначка, чыя ты,
Ці не пойдзеш гуляць ты?

— Не пытайся, чыя я,
Пойдуць людзі — пайду я.

А я дочка папова,
Хоць бы з кім гуляць гатова.

— Я таксама папоў сын,
Пайду гуляць хоць бы з кім.

Там у лесе крыніца,
Там халодная вадзіца.

Там журавель ваду піў,
Не напіўся, замуціў.

## 13а. А У ПОЛІ ТРЫ ДУБЫ

А ў полі тры дубы,
Тры дубы.
Сабраліся да купы,
Да купы.

Вецер лісце шатае,
Шатае.
Казак дзеўчыны пытае,
Пытае.

— Дзяўчыначка, чыя ты,
Чыя ты?
Ой, чы пойдзеш гуляць ты,
Гуляць ты?

— А я дочка папова,
Папова.
Пагуляці гатова,
Гатова.

— А я таксама папоў сын,
Папоў сын.
Пагуляць бы хоць бы з кім,
Хоць бы з кім.

## 14. КАЛЯ РЭЧКІ Я ХАДЗІЛА, МАЛАДА

Каля рэчкі я хадзіла, малада,
Акунёчкі я лавіла, малада.

Як убачылі тут хлопчыкі,
То сказалі маёй матачцы.

Мая маці ні з худа, ні з дабра
Заставіла пшонку палоць.

Я палю, палю — не поліцца,
Серадзінка мая ломіцца.

Як прыйшоў жа ка мне войтаў сын,
Ён прынёс мне белы-белы сыр.

А мне сыру таго хочацца,
А любіць яго не хочацца.

## 15. КАЛІ Я УЗРАСТУ, УЗРАСТУ

Калі я ўзрасту, узрасту,
Пайду замуж за старасту.

А староста багат, багат,
Купіць мне сукенку й кабат.

А ў кабаце жыта жаці,
А ў сукенках танцаваці.

Я й жыцечка не дажала,
Я й сукеначкі падрала.

## 16. СЛУЖЫЎ Я Ў ПАНА

Служыў я ў пана
Паўтара лета,
Выслужыў у пана
Курачку за гэта.
Мая курачка,
Златапюрачка
Па двару ходзіць,
Курчат водзіць,
Хвост падымае,
Пана пацяшае.

Служыў я ў пана
Паўтара лета,
Выслужыў у пана
Гусінку за гэта.
Мая гусь га-га-га,
Мая курачка,
Златапюрачка
Па двару ходзіць,
Курчат водзіць,
Хвост падымае,
Пана пацяшае.

Служыў я ў пана
Поўчварта лета,
Выслужыў у пана
Індыка за гэта.
Мой індык шулду-булду,
Мая гусь га-га-га,
Мая курачка,
Златапюрачка
Па двару ходзіць,
Курчат водзіць,
Хвост падымае,
Пана пацяшае.

Служыў я ў пана
Поўпята лета,
Выслужыў у пана
Целятка за гэта.
Моё целе
Хвастом меле,

Мой індык шулду-булду,
Мая гусь га-га-га,
Мая курачка,
Златапюрачка
Па двару ходзіць,
Курчат водзіць,
Хвост падымае,
Пана пацяшае.

## 16а. СЛУЖЫУ Я У ПАНА ПЕРШАЕ ЛЕТА

Служыў я ў пана першае лета,
Выслужыў у пана курку за гэта.
Мая курачка-златапёрачка
Па двару ходзіць
Да пісклятак водзіць,
Хахол падымаець,
Пісклят сабіраець
І сакочыць: ко-ко-ко.

Служыў я ў пана другое лета,
Выслужыў у пана індыка за гэта.
Мой індык нос спускаець
Да індычак сабіраець,
Крычучы кулдык-булдык.
Мая курка ко-ко-ко,
Мой індык кулдык-булдык.

Служу я ў пана трэцяе лета,
Выслужыў у пана гуся за гэта.
Мой гусак галаву падымаець,
Галаву падымаець, гусак сабіраець,
Крычучы га-га-га.
Мая курка ко-ко-ко,
Мой індык кулдык-булдык,
Мой гусак га-га-га.

Служу я ў пана чацвёртае лета,
Выслужыў у пана цяля за гэта.
Маё целе хвастом меле,
Мая курка ко-ко-ко,
Мой індык кулдык-булдык,
Мой гусак га-га-га,
Маё целе хвастом меле.

Служу я ў пана пятае лета,
Выслужыў у пана карову за гэта.
Мая карова будзе здарова.
Мая курка ко-ко-ко,
Мой індык кулдык-булдык,
Мой гусак га-га-га,
Маё целе хвастом меле,
Мая карова будзе здарова.

## 166. СЛУЖЫЎ Я Ў ПАНА ПЕРШАЕ ЛЕТА *

Служыў я ў пана першае лета,
Даў жа мне пан курку за гэта.
Мая курка-златапюрка
Па садочку хадзіла,
Куранятак вадзіла
І чубка надзімала,
Свайго пана звелічала:
— Куд! Да куда!

Служыў я ў пана другое лета,
Даў жа мне пан і качку за гэта.
Мая качка — сама прачка,
Мая курка-златапюрка
Па садочку хадзіла,
Куранятак вадзіла
І чубка надзімала,
Свайго пана звелічала:
— Куд! Да куда!

Служыў я ў пана трэцяе лета,
Даў жа мне пан гуску за гэта.
Мая гуска носкам плюска,
Мая качка — сама прачка,
Мая курка-златапюрка
Па садочку хадзіла,
Куранятак вадзіла
І чубка надзімала,
Свайго пана звелічала:
— Куд! Да куда!
Служыў я у пана чацвёртае лета,
Даў жа мне пан індыка за гэта.

Мой індык шулды-булды,
Мая гуска наском плюска,
Мая качка — сама прачка,
Мая курка-златапюрка
Па садочку хадзіла,
Куранятак вадзіла
І чубка надзімала,
Свайго пана звелічала:
— Куд! Да куда!

Служыў я у пана пятае лета,
Выслужыў я целя за гэта.
Маё целе хвастом меле,
Мой індык шулды-булды,
Мая гуска носкам плюска,
Мая качка — сама прачка,
Мая курка-златапюрка
Па садочку хадзіла,
Куранятак вадзіла
І чубка надзімала,
Свайго пана звелічала:
— Куд! Да куда!

Служыў я у пана шостае лета,
Даў жа мне пан кароўку за гэта.
Мая карова [бегае] здарова,
Маё целе хвастом меле,
Мой індык шулды-булды,
Мая гуска носкам плюска,
Мая качка — сама прачка,
Мая курка-златапюрка
Па садочку хадзіла,
Куранятак вадзіла
І чубка надзімала,
Свайго пана пацяшала:
— Куд! Да куда!

### 16в. ЯК СЛУЖЫУ Я У ПАНА

Як служыў я ў пана
Ды чатыры лета.
Заслужыў я ў пана
Курачку за гэта.
Мая курка-сакатурка

Па двару ходзіць,
Куранятак выводзіць,
Чуб падымае,
Пана пацяшае,
А баяры дзівуюцца.
Вот што гэта за курыца,
Усё крычыць куда-куда.
Ой, служыў я ў пана
Ды пятае лета,
Заслужыў я ў пана
Гуску за гэта.
Мая гуска ге-ге-ге,
Мая курка-сакатурка куда-куда.
Ой, служыў я ў пана
Ды шостае лета,
Заслужыў я ў пана
Качачку за гэта.
Мая качачка ква-ква-ква,
Мая гуска ге-ге-ге,
Мая курка-сакатурка куда-куда.
Ой, служыў я ў пана
Ды сёмае лета,
Заслужыў я ў пана
Козачку за гэта.
Мая козачка ме-ме-ме,
Мая качачка ква-ква-ква,
Мая гусачка ге-ге-ге,
Мая курка-сакатурка куда-куда.
Ой, служыў я ў пана
Ды восьмае лета,
Заслужыў я ў пана
Цёлачку за гэта.
Мая цёлка му-му-му,
Мая козачка ме-ме-ме,
Мая качачка ква-ква-ква,
Мая гусачка ге-ге-ге,
Мая курка-сакатурка куда-куда.

### 16г. СЛУЖЫЛА Я У ПАНА

Служыла я ў пана
Не першае лета,
Выслужыла ў пана
Курачку за гэта.

Мая кура-златапюра
Па падвор'ю хадзіла,
Кураняткі вадзіла,
Рэха раздуваець,
Пана пацяшаець
І крычыць, і пяе,
І кудак-кудак-кудак!

Служыла я ў пана
Ды другое лета,
Выслужыла ў пана
Петушка за гэта.
Мая кура-златапюра,
Мой пятух-гаргатух,
Мая курачка!

Служыла я ў пана
Ды трэцяе лета.
Выслужыла ў пана
Качачку за гэта.
Мая кача ладна скача,
Мой пятух-гаргатух,
Мая курачка!

Служыла я ў пана
Чацвёртае лета,
Выслужыла ў пана
Гусачку за гэта.
Мая гуся ваду муця,
Мая кача ладна скача,
Мой пятух-гаргатух,
Мая курачка!

Служыла я ў пана
Ды пятае лета,
Выслужыла ў пана
Свіначку за гэта.
Мая свіня-гаспадыня,
Мая гуся ваду муця,
Мая кача ладна скача,
Мой пятух-гаргатух,
Мая курачка!

Служыла я ў пана
Ды шостае лета,
Выслужыла ў пана
Целе за гэта.
Маё целе хвастом меле,
Мая свіня-гаспадыня,
Мая гуся ваду муця,
Мая кача ладна скача,
Мой пятух-гаргатух,
Мая курачка!

Служыла я ў пана
Ды сёмае лета,
Выслужыла ў пана
Авечку за гэта.
Мая авечка із мястэчка,
Маё целе хвастом меле,
Мая свіня-гаспадыня,
Мая гуся ваду муця,
Мая кача ладна скача,
Мой пятух-гаргатух,
Мая курачка!

Служыла я ў пана
Ды восьмае лета,
Выслужыла ў пана
Барана за гэта.
Мой баран із дваран,
Мая авечка із мястэчка,
Мая свіня-гаспадыня,
Мая гуся ваду муця,

Мая кача ладна скача,
Мой пятух-гаргатух,
Мая кура-златапюра
Па падвор'ю ходзіць,
Куранятак водзіць,
Рэха раздуваець,
Пана пацяшаець
І крычыць, і пяець,
І кудак-кудак-кудак.

## 16д. СЛУЖЫЎ СІДАР У ПАНА

Служыў Сідар у пана,
Служыў.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
У пана.

Заслужыў ён кабылу,
Заслужыў.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Кабылу.

Паехаў ён да млына,
Паехаў ён.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Да млына.

Стала ў яго прычына,
Стала.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Прычына.

Здохла яго кабыла,
Здохла.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Кабыла.

Прыехаў ён дадому,
Прыехаў.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Дадому.

Стаў ён жонцы хваліцца,
Стаў ён.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Хваліцца.

Стала жонка журыцца,
Стала жонка.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Журыцца.

— Ціха, жонка, не журыся,
Ціха, жонка.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Не журыся.

Не прапашча кабыла,
Не прапашча.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Кабыла.

З скуры будуць кафтаны,
З скуры.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Кафтаны.

З вушэй будуць карманы,
З вушэй.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Карманы.

З храпаў будуць свісцёлкі,
З храпаў.

Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Свісцёлкі.

З хваста будзе мяцёлка,
З хваста.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Мяцёлка.

Свісток будзе зазываць,
Свісток.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Зазываць.

Хвастом будзем замятаць,
Хвастом.
Фэрдала, нафэрдала,
Фэрдала.
Тры дулі-дуленькі,
Замятаць.

## 17. Я У МАТУЛЬКІ АДНА ДАЧУШКА БЫЛА

Я ў матулькі адна дачушка была,
Мне матулька ды катанку дала.

А ў катанцы кішонка была,
А ў кішонцы машонка была.

А ў машонцы капейка бы́ла,
Я, малода, разгулялася.

Машоначка раскідалася,
Капеечка пацяралася.

Хто ж тую ды капейку знайшоў,
Каб жа ён ды ў старцы пайшоў.

## 18. ОЙ, ХАДЗІЛА ДЗЯЎЧЫНА БЕРАЖКОМ

Ой, хадзіла дзяўчына беражком
Да маніла качура піражком.

— Ідзі, ідзі, качуру, дадому,
Прадам цябе купчыну рудому.

А свайго я пеўніка не прадам:
Ён у маёй хатанцы гаспадар.

Ён жа мае смеццейка разграбе
І дадому курачку прывядзе.

Нешта ж мая курачка сакоча,
Да другога купчыка не хоча.

## 18а. ВОТ ХАДЗІЛА ДЗЕЎЧЫНА БЕРАЖКОМ

Вот хадзіла дзеўчына беражком,
Заганяла селезня батажком.

— Ідзі, ідзі, селезень, дадому,
Прадам цябе купчыку рудому.

За тры копы селезня прадала,
А за копу дударыка наняла.

Паіграй, дударычак, на дуду,
А я сваё горачка забуду.

## 19. КРАЙ ЛЯСАМІ, КРАЙ БАРАМІ *

Край лясамі, край барамі
Ішла Маня за грыбамі,
Маня малада,
Гэй, гэй, Маня малада! [1]

Краем борушка ішла,
Мухаморушка найшла,
Маня малада.

---

[1] Апошні радок паўтараецца пасля кожнай страфы.

Яна грыбчыка схапіла
І ў кішэньку палажыла,
Сама ў бор пайшла.

Запалема свечку з лою,
Выведзема Маню з бору,
Маню маладу.

## 20. ШЛА ДЗЯЎЧЫНА КАЛЯ БОРУ

Шла дзяўчына каля бору,
Знайшла яна мухамору,
Краснага грыба.
Гэй! Краснага грыба.

Адламала карашочак,
Палажыла ў карабочак
На самае дно.
Гэй! На самае дно.

Нямножачка пахадзіла,
Яна сцежачку згубіла.
— Не выйду з бору.
Гэй! Не выйду з бору.

— Запалю я свечку з лою,
Выведу дзяўчыну з бору,
Маладзюсеньку.
Гэй! Маладзюсеньку.

Запалю яваскавую,
Сем раз яе пацалую.
З сабой спаць кладу.
Гэй! З сабой спаць кладу.

Дзяўчыначка не кладзецца,
Дробна слёзкаміліецца —
Баіцца мяне.
Гэй! Баіцца мяне.

— Ты дзяўчыначка мая,
Чаравічкі табе на,
Насі здарава.
Гэй! Насі здарава.

— Лепей босенькай хадзіць,
Чым такую дрэнь любіць.
Нехарошага.
Гэй! Нехарошага.

Каб ты добранькі быў,
На бок шапачку насіў,
Цябе б дзеўкі любілі,
Па чатыры б хадзілі,
Па чатыры, па пяць —
Не давалі б табе спаць.

## 21. ЖАЛА, ЖАЛА ДЗЯУЧЫНАЧКА

Жала, жала дзяўчыначка
Дробненькае жыта.
Ну-ка, ну-ка, што за штука,
Дробненькае жыта.

Жала, жала, упацела,
Купацiся захацела.
Ну-ка, ну-ка, што за штука,
Купацiся захацела.

Ой, пайшла ж яна купацца,
Скінула сарочку.
Ну-ка, ну-ка, што за штука,
Скінула сарочку.

Адкуль ўзяўся Яська, Яська
I украў сарочку.
Ну-ка, ну-ка, што за штука,
I украў сарочку.

## 22. ПАЙДУ Я КАРОУ ДАІЦЬ

Пайду я кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць.

Я яго — даёнкаю,
Ён мяне — валёнкаю.

Каб цябе кадук парваў,
Як ты мой хвартук падраў.

Гэта ж мне татусь купіў,
Каб мяне Пятрусь любіў;

Маці шнуроўку купіла,
Каб мяне Пятрусь любіў.

## 23. ЯК НА РЭЧАЧЦЫ НА ДОШЧАЧЦЫ

Як на рэчачцы на дошчачцы
Красна дзеўка палошчацца.[1]

Палошчацца, умываецца,
Ў чаравічкі абуваецца.

— Чаравічкі мне татулька купіў,
Каб харошанькі малойчык любіў.

А матулечка панчошкі дала,
Каб хароша я дачушка была.

## 24. ЗА ГАРОЮ ЗАЙЧЫКІ ТРУБЯЦЬ

За гарою зайчыкі трубяць,
Чаму мяне хлопцы любяць?

Злажэцеся, хлопцы, па грошу,
Купеце мне ленту харошу,

Буду тую ленту насіці,
Будуць мяне хлопцы любіці.

## 25. ОЙ, ПАЙДУ Я НА ГАРУ *

Ой, пайду я на гару,
Накапаю раману.
Хоць я сама не хароша,
Хораша падману.

---

[1] Кожны другі радок паўтараецца тройчы.

Напару я ў малацы,
Каб любілі малайцы.
Яшчэ корань не ўкіпеў,
Ўжо капітан прыляцеў.

— А што цябе прынясло,
Ці чалнычак, ці вясло?
— Прынёс мяне сівы конь
Да дзеўкі на падвор.

## 26. ОЙ, МАМАЧКА, ШТО РАБІЦЬ *

— Ой, мамачка, што рабіць, [1]
Не хоча аўчар любіць.

— Бяжы, донька, да гаю,
Шукай зелля размаю.

— Я размаю не знаю,
Хоць у людзей спытаю.

Я да гаю не дайшла,
Размай зелле знайшла,

Перамыла у рацэ,
Прыпраўляла ў малацэ.

Паставіла пры жару,
Кіпі, корань, памалу.

Яшчэ корань не скіпеў,
Аўчарычак прыляцеў.

А чаго ж ты прыляцеў,
Калі мяне не хацеў?

Я вядзёрачка ўзяла
Дый па воданьку пайшла.

Адарваўся каблучок,
Я, младзенька, на бачок.

Як ляжу я ды ляжу
Ўсё й на правенькім бачку.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Вох як сорамна ляжаць,
Са ўсіх сторанаў глядзяць,

Не чужыя — ўсё свае,
Усё падружанькі мае.

## 27. КАЛЯ МАЕЙ ХАТКІ

Каля маёй хаткі
Вытаптаны слядкі,
Бо у гэткіх панічоў
Ды падковачкі значны.

А я рана ўстану
Сляды замятаці,
Туды — мах, сюды — мах,
Каб не было знаці.

Як ты ні сварыся,
Каб я не жаніўся,
Высушыла маю душу,
Жаніціся мушу.

## 28. У ГАРОДЗЕ РЭПКА

У гародзе рэпка,
Бальшая націнка.
Ніхто замуж не бярэ,
Бо я сірацінка.

А хто мяне возьме,
Богу рукі ўзойме,
Чатыры падушкі
І спаднічка ў кружкі,
І кубель бялізны,
І ц... вялізны.

## 29. У ГАРОДЗЕ НА ЎЗГОРКУ

У гародзе на ўзгорку
Зялёна бацвінка.
Хто цябе возьме,
Калі сірацінка.

У гародзе на ўзгорку
Зялёна капуста.
Хто цябе возьме,
Дзе пасагу пуста.

Чорт жа цябе просіць,
Каб ты удавіўся,
Вочы рабы, як жабы,
Сам на чорта ўдаўся.

## 30. А У ГАРОДЗЕ БУРАКІ

А ў гародзе буракі,
Чырвона ружычка.
Любяць мяне, мама, хлопцы,
Хоць я невялічка.

Хоць я невялічка,
Затое хароша.
Возьмуць мяне, мама, хлопцы
Без аднаго гроша.

Хоць я невялічка,
На прыпечак стану,
А я свайму міленькаму
Да сэрца прыстану.

## 31. У АГАРОДЗЕ РЭЧКА

Ў агародзе рэчка,
Купалася качка.
Любіць, любіць мой міленькі,
Хоць я небагачка.

Ў агародзе мята,
За агародам мята.
Любіць, любіць мой міленькі,
Хоць я не багата.

## 32. ЗА РАКОЮ ЗА БЫСТРОЮ

За ракою за быстрою
Тры каліны гнуцца.
А за мяне, маладую,
Тры малойцы б'юцца.

Адзін дзяржыць за ручаньку,
Другі — за другую,
Трэці стаіць за лазою,
Ліецца слязою.

— Вы біцеся, не біцеся,
Я ваша не буду.
Харошая й прыгожая,
Я й так перабуду.

## 33. ЯК [redacted] ВЫЙДУ НА ВУЛІЦУ

Як я выйду на вуліцу,
Сюды-туды гляну:
Адзін мілы нясе бліны,
А другі смятану.

Я з паперы зраблю дзверы,
А з хустачкі — халадок,
Каб хадзілі кавалеры
І насілі мне мядок.

## 33а. ОЙ, ВЫЙДУ, ВЫЙДУ

Ой, выйду, выйду
Я на вуліцу,
Сюды-туды гляну:
Адзін мілы нясе бліны,
А другі смятану.

А булачка — да смятанкі,
А блінцы — да шмальцу,
Мае ручкі — да работкі,
А ножкі — да танцаў.

## 34. ЦІ [redacted] Ж ТАБЕ НЕ КАЗАЛА

Ці я ж табе не казала
Ды й не гаварыла:
— Прыдзі ка мне увечары,
Я рыбку варыла.

Ў каго чорны вусок,
Таму рыбкі кусок.
У каго няма вуса,
Таму рыбка уся.
Ў каго рыжа барада,
Таму рыбкі шкада.

### 35. ЯК УГЛЕДЖУ ПЯТРУСЯ

Як угледжу Пятруся,
То я з ветру валюся.
Ох, хвароба не Пятрусь,
Бела ліца, чорны вус.

Ой, за таго Пятруся,
Біла мяне матуся.
Ой, хвароба не Пятрусь,
Бела ліца, чорны вус.

Я морквачкі капала,
На Пятруся маргала.
Ох, хвароба не Пятрусь,
Бела ліца, чорны вус.

Наварыла галушок
І напекла пампушок.
Ох, хвароба не Пятрусь,
Бела ліца, чорны вус.

Наварыла, напякла,
Не для кога — для Пятра.
Ох, хвароба не Пятрусь,
Бела ліца, чорны вус.

### 36. АХ, ТЫ ЕХАЎ, ЕХАЎ, ЕХАЎ*

Ах, ты ехаў, ехаў, ехаў,
Чом да мяне не заехаў,
Ў мяне воз, ў мяне хата,
А я дзеўка зухавата.

Ах, ты ехаў, ехаў, ехаў,
Чом да мяне не заехаў,
Ў мяне воз, ў мяне сані,
А я дзеўка з кутасамі.

Як ты ехаў, то я спала,
Як ты свіснуў, то я ўстала,
Як ты свіснуў на каня,
Я галоўку падняла.

## 37. ЯК ТЫ ЕХАЎ ДА ЯЕ*

Як ты ехаў да яе —
Брычка на райсорах,
А як ехаў ад яе —
Хата на падпорах.

Як ты ехаў да яе —
Тысячамі лічыў,
А як ехаў ад яе —
Тры грошы пазычыў.

Як ты ехаў да яе —
Боты лякаваны,
А як ехаў ад яе —
Шапкай палатаны.

## 38. УСТАНУ, УСТАНУ Я РАНЕНЬКА

Устану, устану я раненька.
Э-эх!

Умыюся бялюсенька.
Э-эх!

Сяду, сяду пад аконцам.
Э-эх!

Процiў яснага сонца.
Э-эх!

Цi не ўбачу чарнаморца.
Э-эх!

Чарнаморац з мора едзе.
Э-эх!

Ён сямёра коней гоніць.
Э-эх!

А васьмога варанога.
Э-эх!

Дзевятага буланога.
Э-эх!

Сталі коні ваду піці.
Э-эх!

Стала мора убываці.
Э-эх!

Стаў ратунку ён крычаці.
Э-эх!

— Ратуй, ратуй, мая міла!
Э-эх!

— Рада б была ратаваці.
Э-эх!

Ды не ўмею весдаваці.
Э-эх!

Каб моладу вясельцы.
Э-эх!

Не балела б маё сэрца.
Э-эх!

Пакуль людзі сабраліся.
Э-эх!

Чарнаморац утапіўся.
Э-эх!

## 39. ЧАРНАМОРАЦ, МАМАЧКА, ЧАРНАМОРАЦ

Чарнаморац, мамачка, чарнаморац
Вывеў мяне на марозец.

Вывеў мяне босую ды й пытае:
— Ці мароз, дзяўчына, ці не мае?

— Ой, няма марозу, толькі роса,
А я, маладзенька, стаю боса.

А я, маладзенька, стала боса,
Бо я чарнаморца люблю дужа.

Я ж думала, мамачка, панаваці,
Чаравічак з ножачак не скідаці.

А прышлося, мамачка, гараваці,
Пад крутою горкаю начаваці.

## 40. МЯНЕ ЯКАЎ ЛЮБІЎ

Мяне Якаў любіў,
Ў касу ленту купіў.
Ой, я яе павесіла —
Маскаль ухапіў.

Бадай цябе, маскаля,
Мяцеліца замяла.
Як ты мяне, маладу,
Замарозіў на ляду.

— Ой, я лёдам ішоў
Ды й не праваліўся.
Ой, я й сам не рад,
Што ў цябе ўлюбіўся.

## 41. РАЗ ПРЫХОДЗІЦЬ ДА МЯНЕ ЯКАЎ *

Раз прыходзіць да мяне Якаў
Ды прыносіць каробачку ракаў,
А я тыя ракі забрала
Ды Якава з хаты прагнала.

— Ідзі, ідзі, Якаве, з хаты,
Бо на печы бацька і маці,
На прыпечку братча нявеста,
Няма табе, Якаве, месца.

## 42. ЧОРНА СЕЮ, ЗЯЛЕНА УЗЫХОДЗІЦЬ *

Чорна сею, чорна сею,
Зялёна ўзыходзіць,
Ой, што ж каму да таго,
Хто да мяне ходзіць. [1]

Ой, да мяне ходзіць
Малады Ясенька,
Сам бялявы, вус чарнявы,
Белае лічэнька.

— Дзяўчынанька панна.
Маё маляванне,
Падай жа мне белу ручку
Цераз дыляванне!

— Ой, ручкі не дам я,
Мая ручка бяла,
Я такімі панічамі
Платы падпірала.

— Дзяўчынанька, дзяўчынанька,
Аддай мне грошы,
Бо ты мяне асудзіла,
Што я нехарошы.

— Ой, я цябе не судзіла,
Асудзілі людзі,
Што з нашага каханнечка
Нічога не будзе.

Ой, ты думаў, дурню,
Што я цябе люблю,
Каля цябе стою,
З цябе смешкі строю.

Ой, ты думаў, дурню,
Што я цябе клічу,
А я табе, дурненькаму,
Пад нос хвігі тычу.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

## 43. ГОП, ГОП, МОЙ КУЖАЛЮ *

Гоп, гоп, мой кужалю,
Я це рабіць не здужаю.

Сяду прасці — нітка рвецца,
Сяду ткаці — не ўдаецца.

Кіну кужаль на паліцу,
Сама пайду на вуліцу.

Няхай кужаль валочацца,
Бо мне рабіць не хочацца.

Ані прасці, ані ткаці,
Толькі з хлопцамі гуляці.

## 44. ЯК ПАСЕЮ Я ЛЯНКУ

Як пасею я лянку
У гародзе пры гайку.

Як парос мой лянок —
Вышай плота, як гаёк.

Як пайшла я, малада,
Свой ляночак палоць.

Аглянулася назад —
Аж за мною трох салдат.

А што мне рабіць?
Трэба іх любіць.

А каб першага любіць,
Трэба хораша хадзіць.

А каб другога любіць,
Трэба добрай праллян быць.

Я ж паставіла кросны
Да дзесятае вясны.

Пад маімі панажамі
Ужо траўка парасла.

Тую травачку скашу
І кароўку напасу.

## 45. ОЙ, СЯДЗІЦЬ РЫНДА ДА НА ПЕЧЫ

Ой, сядзіць рында да на печы,
Як прышлі ж к рындзе тры жаніхі,
Ой, узялі ж рынду тады варухі.
Пабегла рында па суседках.

— Ой суседачкі, вы мае матачкі,
Да пазычце ж мне сарочачкі.

— Ой, было ж, рындзя, да не спаткі,
Усе пілiпавы доўгі ночкі,
Ой, было ж лупіць у кудзельку вочкі.

— Дак чорт вас бяры, такіх суседак.
Да ў майго бацькі бярозак поўна.
Я й бярэсцечкам абвярнуся,
Да абдзюрнічкам падпяражуся,
Сваім жанішкам пакажуся.

Адзін кажа: ці вол ці карова,
Другі кажа: ці вол ці кабыла,
А трэйці кажа: ета мая рында,
То ж мая княгіня — няхай яна згіня.

## 46. КІНУ КУЖАЛЬ НА ПАЛІЦУ

Кіну кужаль на паліцу,
Сама выйду на гуліцу,
Няхай кужаль мышы рубяць,
А я пайду з хлопцам гуляць.
Палюбіла я Сцяпана,
Пайшла замуж за Івана.
Я й думала, кучаравы,
У яго чуба няма.
Палюбіла Васіля,
Така доля мая,
Я думала, кучаравы,
У яго чуба няма.
Была адна валасіна,
Тую муха адкусіла,
Я думала, кучаравы,
У яго чуба няма.

## 47. ТАТКА ДОБРЫ, ТАТКА ДОБРЫ

Татка добры, татка добры,
Мамачка ліхая,
На вулачку не пушчае,
Што я маладая. [1]

На вулачку не пушчае,
Варотцы замкнула,
А я ў мамкі ключ украла,
Мамачка не чула.

А цяпер я, матулечка,
Шчыра пабажуся,
Першы певень заспявае,
Дадому вярнуся.

## 48. КАЛЯ РЭЧКІ, КАЛЯ БРОДУ

Каля рэчкі, каля броду
Крыніца стаяла,
Там дзяўчына чарнабрыва
Сама воду брала.

Яна брала, выбірала,
Людзям гаварыла:
— А я ў мамачкі адна,
Доля нешчаслівa.
Бацька добры, бацька добры,
А маці ліхая,
Не пускае ў сад гуляці,
Кажа: маладая.

— Пусці, маці, пусці, маці,
Я не забаруся.
Праспявае першы певень,
Я дамоў вярнуся.

Пяе певень, пяе певень,
А кура сакоча.
Кліча маці вячэраці,
А дачка не хоча.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

— Ой, вячэрай, стара маці,
Што ты наварыла,
А мне, ой, да ўжо вячэраць
Ды з вамі няміла.

## 49. БІЛА МЯНЕ МАЦІ ЗРАНКУ

Біла мяне маці зранку
Ды й пабіла на мне дранку.

Мяне маці не пабіла,
Сабе шкоды нарабіла.

Па запечку ганяла,
Качарэжку зламала.

## 50. КІНУ ПРАЛКУ ПАД ЛАУКУ

Кіну пралку пад лаўку,
Сама на печ палезу.

Я й на печы паляжу,
Скарэй сераду дажду.

А ў сераду з поўначы
Прыехалі панічы.

Мяне мама біла, біла
І пад лаўку палажыла.

Мяне ж яна не набіла,
Сабе шкоду нарабіла.

Сабе шкоду нарабіла:
Качарэжку паламіла.

## 51. СЯК-ТАК МНЕ ДА ВЕЧАРА ДАЖЫЦЬ

Сяк-так мне да вечара дажыць,
А вечарам мой міленькі прыбяжыць.

А я яму накажу, накажу,
Цераз каго на вуліцу не хаджу.

Цераз Ваньку, цераз чубчыка,
Цераз сізага галубчыка.

Не хадзіла на вуліцу, не пайду,
Не любіла п'яніцу, не люблю.

## 52. ЯК Я БЫЛА МАЛАЯ

Як я была малая,
Не знала нічога.
Думала, што я любіць
Не буду нікога.
Трай-рай, трай-рай-рай,
Трай-рай, трай-рай-рай,
Думала, што я любіць
Не буду нікога.

А цяпер жа я, цяпер,
Прызнацiся мушу,
Палюбіла кавалера
Так, як сваю душу.
Трай-рай, трай-рай-рай,
Трай-рай, трай-рай-рай,
Палюбіла кавалера
Так, як сваю душу.

## 53. ЯК БЫЛА Я МАЛЕНЬКА

Як была я маленька,
Калыхала маменька.

А як стала падрастаць,
Сталі хлопцы калыхаць.

Калыхалі мяне хлопцы
То ў рэшаце, то ў каробцы.

А бадай вы не даждалі,
Як вы мяне калыхалі.

Няхай мяне той калыша,
Хто да мяне лісты піша.

## 54. ЧЫЯ ГЭТА ХАТА З КРАЮ

Чыя гэта хата з краю,
Адчынены дзверы?
Ці не да гэтай дзяўчыначкі
Ходзяць кавалеры.

Сені, хату падмяла —
Засмяялася.
Выйшла маці ваду браці —
Дагадалася.

— Чаго, дочка, чаго, родна,
Чаго ты смяешся?
Палюбіла кавалера
Ды не прызнаешся?

— Ціха, мама, ціха, мама,
Не кажы ты тату.
Як набрала поўны вёдры,
Дык нясі ты ў хату.

Ціха, мама, ціха, мама,
Не кажы нікому.
Як набрала поўны вёдры,
Дык нясі дадому.

## 54а. ЦВІЦЕ ЯВАР, ЦВІЦЕ ЯВАР

Цвіце явар, цвіце явар
Не цветам, а лістам.
Кліча хлопец дзяўчыначку
Не голасам — свістам.

А хоць клікаў, хоць не клікаў,
Я не 'дазвалася.
Хату мяла, сені мяла
Ды засмяялася.

Мамка мая, старэнькая,
Ды здагадалася:
— Дочка мая, міленькая,
З кім ты скахалася.

— Вары, маці, з той вадою,
Што я нанасіла.
Любі, маці, таго хлопца,
Што я палюбіла.

## 55. ОЙ, У ПОЛІ КРЫНІЧАНЬКА

Ой, у полі крынічанька,
Там халодна вадзічанька.

Ой, там Раман валоў пасе,
Кацярына ваду нясе.

Стаў Раманку жартаваці,
З вядзёр ваду выліваці.

— Ой, Рамане, маё сэрца,
Пакінь вады хоць вядзерца.

Мая вада халодная,
У мяне маці няродная.

Я няродну маці маю,
Будзе біці, добра знаю.

Будзе біці і караці
І шэльмаю называці.

— Дзе ты, шэльма, спазнілася,
Бо вячэра зварылася.

— Навучу, дзеўка, збрахаці,
Каб не біла цябе маці.

Наляцелі гусі з броду,
Памуцілі з пяском воду.

Я стаяла, прастаяла,
Пакуль вада састаяла.

— Брэшаш, доню, збрахалася,
Ты з Раманам кахалася.

— Цяпер, маці, прызнаюся,
Што з Раманам кахаюся.

## 55а. ОЙ, РАМАНКУ ВАЛОЎ ПАСЕ

Ой, Раманку валоў пасе, [1]
Кацярына ваду нясе.

Стаў Раманку жартаваці,
З вядзёр ваду выліваці.

— Ой, Раману-Раманачку,
Не лі ваду на травачку.

Мая вада халодная,
У мяне маці няродная.

І не маці, а мачыха,
Будзе біці мяне ліха.

Будзе біці і лаяці
І шэльмаю называці.

— Дзе ты, доня, барылася,
Бо вячэра зварылася.

— Ой, ляцелі гусі з броду,
Памуцілі чысту воду.

Я стаяла, прыстаілась,
Пакуль вада састаілась.

— Брэшаш, доня, збрахалася,
Ты з Раманам кахалася.

— Цяпер, маці, прызнаюся,
Што з Раманам кахаюся.

## 55б. ОЙ, Я СТАНУ ПРЫ ДАРОЗЕ

Ой, я стану на парозе,
Відна лесу пры дарозе.
Гуляй, гуляй,
Ля-ля-ля-ля,
Ля-ля-ля-ля. [2]

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.
[2] Тры апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Ой, там Раман валы пасе,
Кацярына ваду нясе.

Раман валы пакідае,
Кацярыну наганяе.

— Кацярына, шчыра сэрца,
Пакінь вады хоць вядзерца.

— Мяне дома жджэ ўжо маці,
Будзе біці і караці.

— Я навучу, што казаці,
Каб не біла цябе маці.

Наляцелі гусі з броду,
Скалацілі усю воду.

Я стаяла, пастаяла,
Пакуль вада светла стала.

— Хлусіш, доню, брахаешся,
Ты з Раманам кахаешся.

— Цяпер, мамка, прызнаюся,
Што з Раманам кахаюся.

— Цяпер, доню, буду знаці,
Каго зяцем называці.

Каго зяцем называці,
Каго мёдам частаваці.

## 55в. АЙ, У ПОЛІ

Ай, у полі,
Ай, у полі хмарна, дымна,
За туманам свету не відна.

Толькі відна,
Толькі відна роўнае поле,
Дзе казакі коняў пояць.

Там дзяўчына,
Там дзяўчына ваду брала,
З казакамі размаўляла.

— Досыць, казак,
Досыць, казак, размаўляці:
Ёсць у мяне чужа маці.

Ёсць у мяне,
Ёсць у мяне чужа маці,
Будзе мяне біці, наракаці.

Будзе мяне,
Будзе мяне біці, наракаці,
Будзе ў мяне праўды пытаці.

— Ты, дзяўчына,
Ты, дзяўчына, млода й дурна,
Не ведаеш, што сказаці чужой маці?

Не ведаеш,
Не ведаеш, што сказаці,
Чужой маці змахляваці.

Прыляцелі,
Прыляцелі гусі [illegible] броду,
Прыляцелі, замуцілі чысту воду.

Пакуль вада,
Пакуль вада чыста стала,
А я, млада, час стаяла.

## 56. ЦЯЧЭ ВАДА КАЛАМУТНА

Цячэ вада каламутна,
Чаго дзеўка така смутна?

— Я не смутна, не сярдзіта,
А я ўчора была біта.

Біла мяне маці з ночы
За Івана кары вочы.

Дый сказала: буду біці,
Каб Івана не любіці.

Я ж Іванку так шаную,
Дзе пабачу, там цалую.

— Ой, Іване, сэрца мое,
Нас на свеце толькі двое.

— Мамка мая, даражэнька.
Як ты была маладзенька.

Ты любіла бацьку майго,
А я люблю Йванку свайго.

Цячэ вада каля млына,
Мамка мая, я нявінна.

Мы з Іванкам спараваны,
Як арляты маляваны.

## 57. АЙ, У АГАРОДЗЕ ПАД ЛЕБЯДОЮ

Ай, у агародзе пад лебядою,
Стаіць калодзеж, повен вадою.
Там малодка ваду брала,
Тры паповічы коні паілі,
Сталі з малодкай жартаваці,
З вядра ваду выліваці.
— Стойце, не бройце, паповічы,
У мяне ў доме не свая маці,
Будзе на мяне наракаці.
— Ты ж маладая малодка,
Ці не ўмееш адгадаці,
Чужой матцы адказаці:
— Гусі ляцелі — ваду замуцілі,
А селязні ляцелі — ваду пілі,
А я, малада, пастаяла,
Пакуль вада чыста стала.

## 58. ОЙ, ПАСЕЮ Я РАМОНЮ

Ой, пасею я рамоню
Да ў гародзе пры дарозе.
А там млады коні пасе
Да да мяне нанач ідзе.
А я яго палюбіла,
На покуце пасадзіла.

Мёдам, вінам напаіла,
Кілбаскаю накарміла.
А я яму пасцель слала:
Адзін радочак падушачак,
Другі радочак пярынаў,
А пад галоўку пухоўку.
А я яго прыкрывала
Ядвабным коўджам.
А заўтра я яго выпраўляла
З музыкамі і скрыпкамі.
Ой, я на яго слядочак
Пакаціла талярочак.
Ой, пасею я рамоню
Да ў гародзе пры дарозе,
А там стары валы пасе,
Да да мяне нанач ідзе.
А я старога не любіла,
Пад печаю пасадзіла,
Дзёгцем, смалою напаіла.
Я яму пасцель слала:
Адзін радочак камечаў,
Другі радочак палечаў,
Жэзнавы камень пад галоўку.
А я яго пакрывала старою бараною
А назаўтра выпраўляла,
Сабакамі выцкавала,
А на яго слядочак
Пакаціла камушочак.

## 58а. А Ў ПОЛІ, ПОЛІ, НА ДАЛІНЕ

А ў полі, полі, на даліне
Стары каня сядлае,
Стары каня сядлае
І ў дзяўчыны пытае:
— Ах ты, дзяўчына мая,
А ці пойдзеш за мяне?
— Мяне маці навучыла,
Як старому пасцель слаць:
Адзін радок камення,
Другі радок палення:

— А спі, стары, не чніся,
За мной, маладой, не ганіся.
А ў полі, полі, на даліне
Малы каня сядлае,
Малы каня сядлае
І ў дзяўчыны пытае:
— Ах ты, дзяўчына мая,
А ці пойдзеш за мяне?
— Мяне маці навучыла,
Як малому пасцель слаць:
Першы радок крапівы,
Другі радок стрыклівы.
— А спі, малы, не чніся,
За мной, маладой, не ганіся.
А ў полі, полі, на даліне
Роўны каня сядлае,
Роўны каня сядлае
У дзяўчыны пытае:
— Ах ты, дзеўчына мая,
Ці пойдзеш ты за мяне?
— Мяне маці навучыла,
Як роўнаму пасцель слаць:
Першы радок падушак,
Другі радок пуховых.
— Спі, мой мілы, прачніся
І са мною абніміся.

## 59. ОЙ, ПАД ГАЕМ, ГАЕМ

Ой, пад гаем, гаем,
Гаем зеляненькім,
Там гарала дзяўчыненька
Волікам чарненькім.

Гарала, гарала,
Не ўмела гараці.
Папрасіла казачэнька
На скрыпаньцы граці.

Ой, казачак грае,
Вочкамі міргае.
Ой, бог яго душу знае,
На каго маргае.

Ці на мае коні,
Ці на мае волы,
Ці на маё бела ліца,
Ці на чорны бровы...

## 60. ОЙ, ЗА ГАЕМ, ОЙ, ЗА ГАЕМ *

Ой, за гаем, ой, за гаем,
Там Ясенька з конем грае [1].

На Ясеньку кудры ўюцца,
За Ясенькам дзеўкі б'юцца.

— Ой вы, дзеўкі, не біцеся,
Самі з сабою гадзіцеся.

Я, Ясенька, не ваш буду,
Як вырасту, жаўнер буду.

На Ясеньку шапка нова,
А пры боку шабля востра.

## 61. ЯК ПРЫЕХАЎ ДЖАНДЖУРА *

Як прыехаў джанджура
Ды к Ганулі з вечара.[1]

— Гануленька, сэрданька,
Пусці ночку начаваць.

— Пусціла б я джанджуру,
Меўся Яська дамоў быць.

— Гануленька, сэрданька,
Мы старожухну наймём.

Старожухна заснула,
Ясь прыехаў, не чула.

— Гануленька, сэрданька,
Што за конік на стайні?

---

[1] Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

— Ета старца ўбогага,
На ногі уломнага.

— Гануленька, сэрданька,
Трэба яго надарыць,

Тры срэбнікі залатых,
Пару коні вараных.

А ў кравацi джанджура,
А ён хворы, нездароў,

А на хаце джанджура,
А ён нішчы, убогі,

А у сенцах джанджура,
Ён уломан на ногі.

А на дварэ джанджура,
Сеў на каня, засвістаў.

Хвала ж табе, божанька,
Што я пана ашукаў.

І з паннаю начаваў,
Пане конікаў дараваў.

## 62. А ПАД ГАЕМ, ГАЕМ

А пад гаем, гаем,
Гаем зеляненькім,
Там арала дзяўчыначка
Волікам чарненькім.

Арала, арала
Праз тры баразёнкі,
Пасеяла руты-мяты,
Ўсялякія зёлкі.

Сталі тыя зёлкі,
Сталі даспяваці,
Мусіў казак для дзяўчыны
Жнеечак наняці.

Жала яна, жала,
Пакалола ножкі,
Мусіў казак для дзяўчыны
Купіці панчошкі.

Панчошкі замалы,
Ножка завялічка,
Мусіў казак для дзяўчыны
Купіць чаравічкі.

Жала яна, жала,
Пакалола ручкі,
Мусіў казак для дзяўчыны
Купіць рукавічкі.

Жала яна, жала,
Захацела есці,
Мусіў казак для дзяўчыны
Піражка прынесці.

Ела яна, ела,
Захацела піці,
Мусіў казак для дзяўчыны
Мядочку купіці.

Піла яна, піла,
Захацела спаці,
Мусіў казак для дзяўчыны
Белу пасцель слаці.

Спала яна, спала,
Захацела ўкрыцца,
Мусіў казак для дзяўчыны
Бліжэй прытуліцца.

Спала яна, спала,
Захацела ўстаці,
Мусіў казак дзяўчыначцы
Ручачку падаці.

### 63. ЦЕРАЗ ЛЯСОЧАК, ЛЯСОЧАК *

Цераз лясочак, лясочак,
Цераз рэчаньку, масточак,
Калінавы мост [1].

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Калін-мосцік уламіўся,
Бедны малойчык утапіўся,
Там бяда яго.

Дзяўчынанька прыбяжала
За ручаньку прыдзяржала,
Павяла ў лясок.

У лясочак пад кусточак,
Пад зялёненькі лісточак
Паляжаць часок.

— Пакуль сонейка ўгрэе,
Наша плацейка абвее,
Мы тады пайдзём.

Ішла дзеўка да дварца,
Цалуючы малайца,
Малойчык харош.

— Ой ты, Ванечка, харошы,
Скінь ты боты, ідзі босы,
Ой, я малада.

Каб боцікі не стучалі,
Каб падкоўкі не бражджалі,
Ой, я малада.

Каб матуля не слухала,
Што я з Ваней начавала,
Ой, я малада.

Ой, мой Ванечка харошы,
Ці ты маеш сорак грошай,
Палюблю цябе.

— Каб я меў бы сорак дзенег,
Палюбіў бы сем я дзевак,
Палучшай цябе.

## 64. ПА КАНТОРЫКУ ХАДЗІЛА

Па канторыку хадзіла,
Сама пісара любіла.

Пісар піша і малюе,
Кіне пяро — пацалуе.

Як ён мяне цалаваў,
За капейку вішань даў.

А я вішанькі паела,
З ім гуляць не захацела.

І ромачку папіла,
Ўсё за жарты прыняла.

Ох ты, пісар, ты харошы,
Скідай боты, хадзі босы.

Каб боцікі не рыпелі,
Каб вароты не скрыпелі.

Каб мамачка не чувала,
З кім донька начавала.

А я буду ёй маніць:
Прышоў люльку пакурыць.

## 65. ГАРБУЗ БЕЛЫ, САЛОДЗЕНЬКІ

Гарбуз белы, салодзенькі,
Прыдзе ка мне малодзенькі,

Каб боцікі не скрыпелі,
Каб падкоўкі не звінелі.

Каб матуся не слыхала,
З кім я ночку начавала,

Ці з казакам, ці з жаўнерам,
Ці з харошым кавалерам.

## 66. ОЙ, Я ЖАЛА, НЕ ЛЯЖАЛА

Ой, я жала, не ляжала,
Тры снапочкі нажала.

Хто са мною снапка звяжа,
Той са мною спацькі ляжа.

7. Зак. 500.

Снапка звяжа цяснюсенька.
Спаці ляжа шчыльнюсенька.

Снапка звяжа ды й падыме,
Спаці ляжа ды й абдыме.

Снапка звяжа — памацуе,
Спаці ляжа — пацалуе.

## 67. СТАІЦЬ ГРЫЦ НА ВУЛІЦЫ

Стаіць Грыц на вуліцы
І, стоячы, плача.

Мархва Грыца пытаецца:
— Чаго, Грыцу, плачаш?

— Ой, плачу я, плачу
Ды ў сенечкі хочу.

Мархва Грыца спалюбіла,
У сенечкі ўпусціла:

— Ой, цыц, Грыцу, цыц!
Чаго, Грыцу, плачаш?

Плача Грыцу, плача,
У сенечках стоячы.

Мархва Грыца пытаецца:
— Чаго, Грыцу, плачаш?

— Ой, плачу я, плачу,
У хатачку хочу.

Мархва Грыца спалюбіла,
У хатачку увадзіла:

— Ой, цыц, Грыцу, цыц!
Чаго, Грыцу, плачаш?

Плача Грыцу, плача,
У хатачцы стоячы.

Мархва Грыца пытаецца:
— Чаго, Грыцу, плачаш?

— Ой, плачу я, плачу,
На лавачку хочу.

Мархва Грыца спалюбіла,
На лавачку пасадзіла:

— Ой, цыц, Грыцу, цыц!
Чаго, Грыцу, плачаш?

Плача Грыцу, плача,
На лавачцы седзячы.

Мархва Грыца пытаецца:
— Чаго, Грыцу, плачаш?

— Ой, я плачу, плачу,
За столічак хочу.

Мархва Грыца спалюбіла,
За столічак пасадзіла:

— Ой, цыц, Грыцу, цыц!
Чаго, Грыцу, плачаш?

Плача Грыцу, плача,
За столікам седзячы.

Мархва Грыца пытаецца:
— Чаго, Грыцу, плачаш?

— Ой, плачу я, плачу
Ды естачкі хочу.

Мархва Грыца спалюбіла
Ды естачкі паднасіла:

— Ой, цыц, Грыцу, цыц!
Чаго, Грыцу, плачаш?

## 68. ОЙ, СЯМЁНЯ, СЯМЁНЯ

— Ой, Сямёня, Сямёня,
Хадзі, сэрца, да мяне,
Такі, сэрца, хадзі,
Такі верна любі, сэрданька!

— Як да цябе хадзіць,
Цябе верна любіць,
Ў цябе бацька ліхі?

— Бацькі дома не маю,
У карчомцы гуляе.
Такі, сэрца, хадзі,
Такі верна любі.

— Як да цябе хадзіць,
Цябе верна любіць,
Ў цябе матка ліхая?

— Маткі дома не маю,
У карчомцы бацьку шукае.
Такі, сэрца, хадзі,
Такі верна любі.

— Як да цябе хадзіць,
Цябе верна любіць,
Ў цябе брат ліхі?

— Ой, я брату дагаджу,
Белу пасцель пасцялю.
Такі, сэрца, хадзі,
Такі верна любі.

— Як да цябе хадзіць,
Цябе верна любіць,
Ў цябе сястра ліхая?

— Я й сястрэ дагаджу,
Русу касу расчашу.
Такі, сэрца, хадзі,
Такі верна любі.

— Як да цябе хадзіць,
Цябе верна любіць,
Калі ў цябе вароты скрыпяць?

— Я вароты дагаджу,
Кусок сала падлажу.
Такі, сэрца, хадзі,
Такі верна любі.

— Як да цябе хадзіць,
Цябе верна любіць,
У цябе сабакі ліхія?

— Я сабакам дагаджу,
Цэлу аўцу заржжу.
Такі, сэрца, хадзі,
Такі верна любі.

— Як да цябе хадзіць,
Цябе верна любіць,
Калі ў цябе куры ліхія?

— Калі ты курэй баішся,
На варотах ты павесся,
А ты ка мне не хадзі,
І ты мяне не любі,
І чорт цябе забяры!

## 68а. ДЗЕУКА У СЕНЯХ СТАЯЛА

Дзеўка ў сенях стаяла,
На казака маргала:
— А ты, сэрца, хадзі,
Мяне верна любі,
Сэрца маё, сэрца.

— Як да цябе хадзіці,
Цябе верна любіці:
Ў цябе бацька ліхі,
Ў цябе бацька ліхі,
Сэрца маё, сэрца.

— Бацькі дома нямае,
Бацька ў шынку гуляе,
А ты, сэрца, хадзі,
Мяне верна любі,
Сэрца маё, сэрца.

— Як да цябе хадзіці,
Цябе верна любіці:
Ў цябе маці ліха,
Ў цябе маці ліха,
Сэрца маё, сэрца.

— Маці дома нямае,
На вяселлі гуляе.
А ты, сэрца, хадзі,
Мяне верна любі,
Сэрца маё, сэрца.

— Як да цябе хадзіці,
Цябе верна любіці:
Ў цябе сабакі ліхі,
У цябе сабакі ліхі,
Сэрца маё, сэрца.

— Я сабакам дагажу,
Корку хлебла палажу.
А ты, сэрца, хадзі,
Мяне верна любі,
Сэрца маё, сэрца.

— Як да цябе хадзіці,
Цябе верна любіці:
Ў цябе кошкі ліхі,
У цябе кошкі ліхі,
Сэрца маё, сэрца.

— А я кошкам дагажу:
Кусок сала палажу.
А ты, сэрца, хадзі,
Мяне верна любі,
Сэрца маё, сэрца.

— Як да цябе хадзіці,
Цябе верна любіці:
Ў цябе мышы ліхі,
У цябе мышы ліхі,
Сэрца маё, сэрца.

— Калі ты мышы баішся,
На варотах павесся!
Ды і згінь, прападзі
І да мяне не хадзі!
Трасца табе, трасца табе!

## 68б. ДЗЕУКА У СЕНЯХ СТАЯЛА

Дзеўка ў сенях стаяла,
На казака міргала:
— Ты, казача, хадзі,
Мяне верна любі.

— Як да цябе хадзіці,
Цябе верна любіці:
Твой бацька ліхі,
Твая матка ліха.

— Ты, казача, хадзі,
Мяне верна любі:
Бацька дома не начуе,
Матка глуха — не пачуе.

— Як да цябе хадзіці,
Цябе верна любіці:
Ў цябе кошкі ліхі
І сабакі ліхі.

— Ты, казача, хадзі,
Мяне верна любі:
Я сабакам дагаджу,
Кусок сала палажу.

— Як да цябе хадзіці
Цябе верна любіці:
Ў цябе вароты скрыпяць,
Ў цябе мышы пішчаць.

— Калі мышкі баішся,
На варотах павесся.
Трасца хай возьме цябе,
Не заглядвайся на мяне.

## 69. А ДЗЕ Ж ТЫ БЫЛА, МІХАЛІНКА МАЯ

— А дзе ж ты была, Міхалінка мая?
— У садзе была, венчык віла,
Пані матка мая.

— А дзе ж твой венчык, Міхалінка мая?
— Ішоў немчык, сарваў венчык,
Пані матка мая.

— Трэба ж было ўцякаць, Міхалінка мая!
— Я уцекаць, ён зачэпаць,
Пані матка мая.

Закрэнць му за вуха, Міхалінка мая!
— Я за вуха, ён за бруха,
Пані матка мая.

— Трэба ж было віткай, Міхалінка мая!
— Я за вітку, ён за лытку,
Пані матка мая.

## 70. А СКАЖЫ МНЕ, МАРУСЕНЬКА

А скажы мне, Марусенька,
Не патай, душанька,
Адкуль госці былі без мяне?
— Генерал са Смаленска,
Капітан са Брыленска,
А паручык-галубчык з Сямёнава палка.

— А скажы мне, Марусенька,
Не патай, душанька,
Што елі госці без мяне?
— Генерал еў вутачку,
Капітан — гусачку,
А паручык-галубчык — рабчыка са мной.

— А скажы мне, Марусенька,
Не патай, душанька,
Што пілі госці без мяне?
— Генерал — вішнёвачку,
Капітан — водачку,
А паручык-галубчык — налівачку са мной.

— А скажы мне, Марусенька,
Не патай, душанька,
Дзе госці спалі без мяне?
— Генерал — у комнаце,
Капітан — у горніцы,
А паручык-галубчык — у пакойчыку са мной.

— А скажы мне, Марусенька,
Не патай, душанька,
Што далі госці табе?
— Генерал — грыўнічак,
Капітан — палціннічак,
А паручык-галубчык — васемнаццаць
злотых.

## 71. ОЙ МАЦІ, МАЦІ, ЧАРНАТУЗ У ХАЦЕ *

— Ой маці, маці, Чарнатуз у хаце,
Стукае, грукае, не дае мне спаці.

— Ой, замыкай, доню, да камораньку,
Няхай не ходзіць дай у хатаньку.

— Замкнула, матка, я і хатаньку,
Ой, замкнула, матка, я і камораньку.

Не магу я знаці, кудою ходзіць
К мае караваці, дай не дае спаці.

## 71а. ОЙ МАЦІ, МАЦІ, САЛДАТ У ХАЦЕ

— Ой маці, маці, салдат у хаце,
Цалуе, мілуе, не дае спаці. [1]

— Ой донька, донька, не будзь дурною,
Пабі салдата хоць качаргою.

— Ой маці, маці, нашто яго біці?
Харошы, прыгожы, трэба любіці.

## 72. ВЫГАНЯЙ, МАЦІ, КАВАЛЯ З ХАТЫ

— Выганяй, маці, каваля з хаты,
Бо каваль малады хоча начаваці.

— Ой, дочка мая, хто па сенях ходзіць?
— Ой, мама мая, каваль каня водзіць.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— Ці я табе не казала, ці не гаварыла,
Не кладзіся са мной спаць, бо будзе Гаўрыла.

— А ён мяне не паслухаў, усё пры боку клаўся,
Цяпер сама не знаю, скуль Гаўрыла ўзяўся.

Цяпер, цяпер, мая мама, гані за кумамі,
А Гаўрыла на пячы шоўгае нагамі.

## 72а. ВЫГАНЯЙ, МАЦІ, КАВАЛЯ З ХАТЫ

— Выганяй, маці, каваля з хаты,
Бо каваль малады, наробіць бяды.
Ой, рабіла, прыгаварвала,
Супраць мілага стаяла, разгаварвала.

— Ой, дочка мая, хто па садзе свішчыць?
— Ой, мамця мая, каваль каня ішчыць.
Ой, рабіла, прыгаварвала,
Супраць мілага стаяла, разгаварвала.

— Ой, дочка мая, хто ў каморы шэпчыць?
— Ой, мамця мая, каток мышак дэпчыць.
Ой, рабіла прыгаварвала,
Супраць мілага стаяла, разгаварвала.

— Ой, дочка мая, чаму пас не сходзіць?
— Ой, мамця мая, бо ўжо час прыходзіць.
Ой, рабіла, прыгаварвала,
Супраць мілага стаяла, разгаварвала.

Выпраўляла мяне маці па белую гліну
А я ёй прынясла ў пеляне дзяціну.
Ой, рабіла, прыгаварвала,
Супраць мілага стаяла, разгаварвала.

Цяпер маці, цяпер маці ды шлець за кумамі,
А Гаўрыла на пячы дрыгае нагамі.

## 73. Я ПАУЗ КУЗНЮ ІШЛА

Я паўз кузню ішла,
Вугалёк знайшла.
Любі мяне, кавалёк,
Падарую вугалёк.

Я паўз кузню ішла,
Самавар знайшла.
Любі мяне, палівар,
Падарую самавар.

Выганяй, маці,
Каваля з хаты,
Бо каваль малады,
Хоча начаваці.

А мне маці на тое
Ды гэтак кажа:
— Сцялі, доню, пасцель,
Няхай каваль ляжа.

Пасылала мяне маць
Па белую гліну,
А я ёй прынесла
Малую дзяціну.

А вось табе, маці,
За тваю навуку,
Калыхала мяне,
Калышы і ўнука.

### 74. ОЙ, МАМКА МАЯ

Ой, мамка мая,
Люблю, сэрца, каваля.
Я да печы — ён за плечы:
Пастой, душачка мая.

— Ой, доню мая,
Хто ж та ў ночы ходзіць?
— Ой, мамка мая,
Каваль каня водзіць.

— Ой, доню мая,
Хто ж та ў ночы кленча?
— Ой, мамка мая,
Кот смятану хлебча.

Дзякуй табе, мамка,
За тваю навуку.
Калыхала ты мяне —
Калышы і ўнука.

Дзякуй табе, мамка,
За тваю ласку.
Калыхала ты мяне —
Калышы Параску.

## 75. НА КАЛІНЦЫ СТАЮ

На калінцы стаю,
Перавесілася.
Каго верна любіла,
Не пацешылася.

Я любіла каваля,
Ды й нядоля мая.
Накаваў лемяшоў,
А сам к чорту пайшоў.

## 76. ЦІ Я ТАБЕ НЕ КАЗАЛА

Ці я табе не казала,
Ці не гаварыла:
— Не лажыся ля мяне,
Бо будзе Гаўрыла.

Ты ж мяне не паслухаў,
Каля боку клаўся,
А чаго цяпер пытаеш,
Скуль Гаўрыла ўзяўся.

## 77. ОЙ, ШТО Ж ТЫ МНЕ НАРАБІЎ, ЛЯШЭ

— Ой, што ж ты мне нарабіў, ляшэ,
Што ў маім жываце пляшэ?

Чы рыба, чы рыбіначка,
Чы малая дзяціначка?

— Ох, не рыба, не карасічак,
А маленькі Апанасічак.

## 78. МАМАЧКА, ЖЫВАТОК БАЛІЦЬ *

— Мамачка, жываток баліць [1].
— Дачушка, лезь на палок.
— Мамачка, на палку дзіця.
— Доня, дзе ж яго ўзяла?
— Мамачка, у бару знайшла.
— Дачушка, нашто брала?
— Мамачка, мне шкада стала.
— Доня, чым карміць будзеш?

## 78а. МАМАЧКА МАЯ, ЖЫВАТОК БАЛІЦЬ *

— Мамачка мая, жываток баліць.
— Донечка мая, лезь на печ пагрэй.

— Мамачка мая, на печы дзіця.
— Донечка мая, дзе ты ўзяла?

— Мамачка мая, у бару нашла.
— Донечка мая, нашто ты брала?

— Мамачка мая, мне шкода стала.
— Донечка мая, чым карміць будзем?

— Мамачка мая, кароўка ў хлеве.
— Донечка мая, кароўка адна.

— Мамачка мая, ■ сама дайна.

## 78б. МАТУЛЬКА МАЯ, АЯ-ЯЙ

Матулька мая, ая-яй,
Галоўка баліць, оё-ёй.

— Дачушка мая, ая-яй,
Платочкам звяжы, оё-ёй.

— Матулька мая, ая-яй,
Платок каротак, оё-ёй.

---
[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

— Дачушка мая, ая-яй,
На печы паляжы, оё-ёй.

— Матулька мая, ая-яй,
На печы квашня, оё-ёй.

На печы квашня, ая-яй,
За квашнёй дзіця, оё-ёй.

— Дачушка мая, ая-яй,
Дзе ты яго брала, оё-ёй.

— У грыбкі пайшла, ая-яй,
У лесе знайшла, оё-ёй.

— Дачушка мая, ая-яй,
Нашто яго брала, оё-ёй.

— Матулька мая, ая-яй,
Калі жаль стала, оё-ёй.

## 79. ДУНЕЧКА, НЕ ПРЫНАЖАВАЙ ПРЫНАДУ

— Дунечка, не прынажавай прынаду,
Ей, радзімая.
— Мамачка, мне прынада не нада.

— Дунечка, чаго вароты рыпелі?
Ей, радзімая.
— Мамачка, буйны ветры шумелі.

— Дунечка, хто гэта па двару ходзіць?
Ей, радзімая.
— Мамачка, конь з прывезі сарваўся.

— Дунечка, хто па хаце ходзіць?
Ей, радзімая.
— Мамачка, коцік мышачак ловіць.

— Дунечка, чаго свечачка гарэла?
Ей, радзімая.
— Мамачка, у мяне госці гулялі.

— Дунечка, чаго краватачка рыпела?
Ей, радзімая.
— Мамачка, блошка за ножку ўкусіла.

— Дунечка, чаго хвартучок надуўся?
Ей, радзімая.
— Мамачка, у крухмале не ўдаўся.

— Дунечка, што ў цябе на руках плача?
Ей, радзімая.
— Мамачка, вот прынаду пазнала.

## 80. КАЦЯРЫНА, МАЯ МАТУШКА

Кацярына, мая матушка,
Скалыхні маё дзіцятушка,
Маё дзіцятка добрае,—
З панічамі яно роблена,
З панічамі да наместнічкамі,
Ў агародзе да й пад веснічкамі.

## 81. ЯК БЫЛА Я МАЛАДЗЕНЬКАЯ

Як была я маладзенькая,
Харошая, чарнабровенькая.

Тады ж мяне кавалеры любілі,
Па чатыры ўслед за мною хадзілі.

А цяпер я прызастарылася,
Ніводнаму не знаравілася.

Ох, масты, масты калінавыя,
Перасады ўсё малінавыя.

Я па тых мастах пайду, пайду,
Да суседачкі зайду, зайду.

Суседачка сакатаць, сакатаць
Да на мяне няпраўдачку казаць.

На мяне няпраўдачку гаварыць,
Што да мяне жаўнерыкі ходзяць.

Яны мне гарэлачкі прынясуць,
Яны маю галаваньку падвядуць.

# ЛЯНІВАЯ ДЗЕЎКА

## 82. КАЗАЛІ НА МЯНЕ

Казалі на мяне,
Што я лянiва:
Каля рэчкі ішла —
Рук не памыла.

— Дзецюкі з-за ракі
Падайце мне мыла,
Учашуся, умыюся,
Буду вам міла.

## 83. ДЗЕЎКІ ЦЯПЛО НЯСЛІ

Дзеўкі цяпло няслі,
Іскарку ўранілі,
Калінавы мох запалілі,
Русу косу абсмалілі.

Не жаль нам калінава моху,
А жаль нам русыя касы.
Руса каса зачасаная,
А я ў мамкі да каханая.

Тры гады хвартух ткала,
А два гады хвартух шыла,
А два гады хвартух шыла,
За адно да абеддзя знасіла.

Панажы пад загнетам,
Парасліі жоўтым цветам,
Набіліцы пад лаўкаю
Зараслі мураўкаю.

Пайду ж я ў лапушыначку,
Пашыю хвартушыначку.
Былі козы ў лазе
Паелі лапушыначку,
З нечага шыць хвартушыначку.

## 84. СКАЧА, СКАЧА КУЛЬГАВЫ

Скача, скача кульгавы
Ад прыпечка да лавы,
Ад лавы да парога,
Чаравічкі папарола.

Чаравічкі рыпу-рыпу,
Тата кажа: куплю, куплю,
Мама кажа: трасцу,
Лянуецца прасці.

## 85. А ЦІ Я НЕ ДЗЕУКА*

А ці я не дзеўка,
Ці я не паненка,
Рукі, як бічоўкі,
Ногі, як начоўкі.

А ці я не дзеўка,
Ці я не паненка,
Спадніца ў кружкі,
Чатыры падушкі.

А ці я не дзеўка,
Ці я не паненка,
Хвартух у ёлкі,
У чатыры полкі.

А ці я не дзеўка,
Ці я не паненка,
І спаднічка ў радна,
Я з мордачкі ладна.

8. Зак. 500

## 86. ЖЫТА СПЕЕ, ЖЫТА СПЕЕ

Жыта спее, жыта спее,
Жыта палавее.
Маладая дзяўчыначка
Работкі не ўмее.

Да работкі нет ахвоткі,
Усё лажыцца спаці.
Як зайграюць музыканты —
Першая гуляці.

На вуліцы белы камень
Сонца распаліла.
Кліча маці вячэраці —
Вячэра няміла.

## 86а. СОНЦА ГРЭЕ, ВЕЦЕР ВЕЕ

Сонца грэе, вецер вее,
Жыта палавее.
Маладая дзяўчыначка
Работы не ўмее.

Вот рабіці — не прыбіці,
Жыта — не зажаці,
Як зайграюць музыканты,
Не можа стаяці...

## 87. МАЛАДАЯ МАЛАДЗІЦА

— Маладая маладзіца,
І галоўка гладка,
Чаму ў цябе, маладзіца,
Не мецена хатка?

— Я і ў маткі была,
Я і хаткі не мяла.
Матка ў печы падпаляла,
Я пад коўдраю ляжала.

Матка хату вымятала,
Я з-пад коўдры выглядала.
— Уставай, мая дочка,
Я зварыла мёчка.

## 88. ЯК ПАСЛАЛА МЯНЕ МАЦЬ

Як паслала мяне маць[1]
Яравое жыта жаць.

А я жыта пажала
Ды ў снапочкі павязала.

Скуль узяўся Мікіта,
На ём шэрая світа.

Я не знаю, што рабіць,
Ці пакінуць, ці любіць.

Ці арэшкі лускаць,
Ці Мікіту цалаваць.

Я Мікіту не люблю,
На Андрэйку ўсё гляджу.

## 88а. ПАСЫЛАЛА МЯНЕ МАЦІ

Пасылала мяне маці[1]
Зеляное жыта жаці.

А я жыта не жала,
У баразёнцы ляжала.

Баразёнка вузенька,
Не памесцілася.

Летам ночка малая,
Я й не выспалася.

Ох, я дня ўкарачу
І да ночы прытачу.

Будзе ночка вяліка,
Будзе радасць чалавіку.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца тройчы.

Вось ідзе той Мікіта,
Што я на яго сярдзіта.

— Пад акном я сагнуся,
Ці не выйдзе Маруся.

Вунь Маруся ідзе,
Мне арэшкі нясе.

Сам не знаю, што рабіць,
Ці пакінуць, ці любіць.

Ці арэшкі лузаць,
Ці Марусю цалаваць.

Я й арэшкі лузаў,
І Марусю цалаваў.

### 886. ЯК ПАСЛАЛА МЯНЕ МАЦІ

Як паслала мяне маці [1]
Зеляное жыта жаці.

А я жыта не жала,
Ў баразёнцы ляжала.

Баразёнка вузенька —
Не памесцілася.

Летня ночка маленька —
Не пацешылася.

А я дзень укарачу
Ды да ночкі прытачу.

Ой, дзе ж той Мікіта,
На ім шэрая світа.

Я Мікіту дажэну,
Шэру світу адбяру.

І Мікіту раскажу,
Што Мікіту я люблю.

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца тройчы.

## 88в. ОЙ, ПАСЛАЛА МЯНЕ МАЦІ

Ой, паслала мяне маці [1]
Яравое жыта жаці.

А я жыта не жала,
Ў баразёнцы ляжала.

Баразёнка вузенька —
Не памесцілася.

Цёмна ночка каротка —
Не нацешылася.

А я дзень укарачу,
Цёмну ночку падтачу.

Вунь Мікіта ідзе,
Мне арэшкі нясе.

Ці Мікіту любіць,
Ці арэшкі лушчыць.

Я ярэшкі лускала
І Мікіту цалавала.

## 88г. ПАСЫЛАЛА МЯНЕ МАЦЬ

Пасылала мяне маць [1]
Роўна поле жыта жаць.

Баразёнка вузенька —
Не памесцілася.

Каго верна любіла —
Не пацешылася.

Была ночка маленька —
Я й не выспалася.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца тройчы.

Пасылала мяне маць
Белу гліну капаць.

А я гліну не капала,
Толькі з міленькім гуляла.

## 88д. ВЫПРАЎЛЯЛА МЯНЕ МАЦЬ

Выпраўляла мяне маць [1]
Зеляное жыта жаць.

А я жыта не жала,
Ў баразёнцы ляжала.

Баразёнка вузенька —
Не памесцілася.

А я ўстала, раскапала
Ды й памесцілася.

Прыехалі камсамольцы,
Знайшлі Машу ў баразёнцы.

Летня ночка маленька —
Я не выспалася.

Ой, дзе ж той Мікіта,
Што ў яго сіва світа.

## 88е. А НА ГАРЭ ВЕЦЕР ВЕЕ

А на гарэ вецер вее,
Гоп-ціда-рыда-да.
Там Мікіта жыта сее,
Ох-ха-ха.

Ён пасеяў два загоны,
Гоп-ціда-рыда-да.
Адзін сабе, другі жонам,
Ох-ха-ха.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Пасылала мяне маці,
Гоп-ціда-рыда-да.
Яравое жыта жаці,
Ох-ха-ха.

А я жыта не жала,
Гоп-ціда-рыда-да.
У баразёнцы ляжала,
Ох-ха-ха.

Баразёнка вузенька,
Гоп-ціда-рыда-да.
А я дзеўка маладзенька,
Ох-ха-ха.

### 89. ХАДЗІЛА УЛЛЯНА

Хадзіла Улляна
Па ярмарку п'яна.
Ой, люлі, палюлі,
Гоп ды й гоп! [1]

Садзіся, Улляна,
На нашы калёсы.

Паедзем, Улляна,
Да нашага пана.

У нашага пана
Кабан у жупане.

Кошка ў чаравічках
Лазіць па палічках.

Пабіла гаршчочкі,
Пабіла гладышкі.

### 89а. ПАЙШЛА УЛЛЯНА

Пайшла Улляна
На ярмарку п'яна,
Ай, люлі, палюлі,
На ярмарку п'яна.

[1] Апошнія два радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Сустрэлі Уляну
Чатыры салдаты,
Ай, люлі, палюлі,
Чатыры салдаты.

Паедзем, Уляна,
Да нашага пана,
Ай, люлі, палюлі,
Да нашага пана.

У нашага пана
Ўвесь двор на памосце,
Ай, люлі, палюлі,
Ўвесь двор на памосце.

Ўвесь двор на памосце,
Прыйшла свіння ў госці,
Ай, люлі, палюлі,
Прыйшла свіння ў госці.

Свіння ў сарафане,
Вяпрук у каптане,
Ай, люлі, палюлі,
Вяпрук у каптане.

Сучка ў чаравічках,
Бяжыць па палічках,
Ай, люлі, палюлі,
Бяжыць па палічках.

## 896. ХАДЗІЛА УЛЯНА

Хадзіла Уляна
На ярмарку п'яна.

Ой, люлі, палюлі,
Гоп ды гоп.

Сустрэла Уляна
Чатыры салдаты.

Ой, люлі, палюлі,
Гоп ды гоп.

— Садзісь, Улляна,
На нашу павозку.

Ой, люлі, палюлі,
Гоп ды гоп.

Паедзем, Улляна,
Да нашага пана.

Ой, люлі, палюлі,
Гоп ды гоп.

У нашага пана
Двор на паркане.

Ой, люлі, палюлі,
Гоп ды гоп.

Двор на паркане,
Сабака ў жупане.

Ой, люлі, палюлі,
Гоп ды гоп.

Сабака ў жупане,
Свіння ў сарафане.

Ой, люлі, палюлі,
Гоп ды гоп.

Кошка ў чаравічках,
Ходзіць па палічках.

Ой, люлі, палюлі,
Гоп ды гоп.

Кружкі скідае,
Вяршочкі з'ядае.

Ой, люлі, палюлі,
Гоп ды гоп.

## 90. Я Й УЧОРА БЫЛА П'ЯНА

Я й учора была п'яна,
Я й сваю курку спацірала.

Ішлі хлопцы чужаземцы,
Найшлі маю курку ў баразенцы.

Я й прасіла, я й маліла:
— Аддайце, хлопцы, я згубіла.

Яны смяюцца і не вераць,
Дагары чубочкам перавернуць.

Яны смяюцца і хахочуць,
Начапілі на лычку да й валочуць.

## 91. СЯДЗЕЛІ МУЖЧЫНАЧКІ НА СТРАСЕ

Сядзелі мужчыначкі на страсе,
Убачылі курачку на лясе.

Ціпы-ціпы, курачкі, дадому,
Не рабіце шкодачкі нікому.

А я шкоды нікому не раблю,
За то, цябе, курачка, я люблю.

Прыехалі мінскія таргашы,
Хочуць гэту курачку патрашыць.

А я гэту курачку не прадам,
Есць на гэту курачку гаспадар.

## 92. ХОЧА МЯНЕ МАЦІ ЗА ДЗЯНІСА АДДАЦІ

Хоча мяне маці
За Дзяніса аддаці.

Не хачу, не хачу,
За Дзяніса не пайду,

Бо ў Дзяніса жыта міса,
Буду я штодзень лыса.

Хоча мяне маці
За Дзям'яна аддаці.

Не хачу, не хачу,
За Дзям'яна не пайду,

Бо ў Дзям'яна жыта яма,
Буду я штодзень п'яна.

Хоча мяне маці
За пастуха аддаці.

Не хачу, не хачу,
За пастуха не пайду,

Бо пастух быдло пасе,
За хвост каровы трасе.

Хоча мяне маці
За каваля аддаці.

Не хачу, не хачу,
За каваля не пайду,

Каваль куе малаточкам,
Дзяржыць пад бок жар-цвічочак.

## 92а. ВЯЛЕЛА МНЕ МАЦІ

Вялела мне маці
За Дзям'яна замуж даці.
Не хачу, не люблю,
За Дзям'яна не пайду:

У Дзям'яна грошы яма,
А я буду штодзень п'яна.
Не хачу, не люблю,
За Дзям'яна не пайду.

Вялела мне маці
За шэўчыка замуж даці.
Не хачу, не люблю,
За шэўчыка не пайду:
Шэўчык шые, дратву вяжа,
Да поўначы спаць не ляжа.
Не хачу, не люблю,
За шэўчыка не пайду.

Вялела мне маці
За пісара замуж даці.
Не хачу, не люблю,
За пісара не пайду:
Пісар піша, пісаруе,
Прыдзе дамоў — пацалуе.
Не хачу, не люблю,
За пісара не пайду,

Вялела мне маці
За Данілу замуж даці.
Я й магу, я й люблю,
За Данілу я й пайду.
У Данілы жыта нівы,
А я буду гаспадыняй.
Я й магу, я й люблю,
За Данілу я пайду.

## 93. ОЙ, ХАЦЕЛА Ж МЯНЕ МАЦЬ

Ой, хацела ж мяне маць
За каваля замуж аддаць.
Ой, дуду маю дуду,
Дуду-дуду [1].

За каваля не пайду,
Каваль будзе куці-куці,
А мне скажа мехам дуці.

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Ой, хацела ж мяне маць
За рымара замуж даць.

Рымар будзе шыці-шыці,
А мне скажа дратву віці.

Ой, хацела ж мяне маць
За п'яніцу замуж даць.

Бо п'яніца будзе піці,
Мяне, младу, будзе біці.

Ой, хацела ж мяне маць
За мельніка замуж даць.

За мельніка замуж пайду,
Мельнік меле і шатруе,
Абярнецца, пацалуе.

А ў мельніка хата чорна,
А ў хаце стаяць жорна.

Жорна будуць пытляваць,
А я буду цалаваць.

## 94. ОЙ, ХАЦЕЛА Ж МЯНЕ МАЦІ ЗАМУЖ АДДАЦІ *

Ой, хацела ж мяне маці
Ды за першага аддаць,
А той первы,
Первы няверны.
Ой, не аддай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маці
Ды за другога аддаць,
А той другі
Ходзіць да падругі.
Ой, не аддай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маці
Ды за трэцяга аддаць,
А той трэці
Як у полі вецер.
Ой, не аддай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маці
За чацвёртага аддаць,
А той чацвёрты
Ні жывы, ні мёртвы.
Ой, не аддай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маці
Ды за пятага аддаць,
А той пяты
П'яніца праклятьі.
Ой, не аддай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маці
Ды за шостага аддаць,
А той шосты
Малы, недарослы.
Ой, не аддай мяне, маць!

Ой, хацела ж мяне маці
Ды за сёмага аддаць,
А той сёмы
Прыгожы ды вясёлы,
Ён не схацеў мяне ўзяць.

# КАХАННЕ ХЛОПЦА. СВАТЫ. ЖАНІЦЬБА

## 95. СМУТНА МНЕ, СМУТНА *

Смутна мне, смутна,
Не развесялюся.
Дзеўкі не любяць
Пайду утаплюся [1].

Пайду утаплюся
У зялёным віне,
Пайду заб'юся
Ў пуховай пярыне.

## 96. ЖУРБА МАЯ, ЖУРБА

Журба мая, журба,
Ты мяне журыла,
Маладога хлопца
Ты з розуму збіла [1].

Я хлопец млоды,
Журбы не баюся,
Пайду я ў карчомку,
Гарэлкі нап'юся.

Ты маеш капейку,
Я маю тры грошы,
Пойдзем павянчацца,
Калі я харошы.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

## 97. ОХ, ЦІ МНЕ, ОХ *

Ох, ці мне, ох!
На балоце мох,
Хлопчык па дзяўчыначцы
Сем гадоў сох.

Сох жа ён, сох,
Высах на былінку,
Закахаўся ў дзяўчынку —
Журавінку.

Ды на той дзяўчыначцы
Не жаніўся,
На горкай асіначцы
Задавіўся.

## 98. СОНЦА У АКОНЦА

Сонца ў аконца
Моцна прыпякае,
Антон на Ганулю
Скоса паглядае.
— Гануля мая,
Сіні вочы твае.
Як цябе не бачу,
Баліць сэрца маё [1].

Як тая цяцера,
Што ў лесе балбоча,
Так маё сэрцанька
Па табе сакоча.

Дам табе гадзіннік,
Вялікі, як рэпу,
Няхай ён пры сэрцы тваім
Моцна клепе.

А ты ўсё кажаш,
Што я недарэчы,
Я ж па табе высах,
Як лапаць на печы.

---

[1] Чатыры апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Ой, скрыпяць калёсы,
Бо не маюць мазі,
Я ж да цябе прывык,
Як свіння да гразі.

## 99. ПА ЯЧАННІ, ПА ЯЧМЕННІШЧУ

Па ячанні, па ячменнішчу
Ходзіць голуб і з галубачкай.

А ў голуба ды сізая галава,
А ў галубкі пазалочаная.

А ў галубкі пазалочаная,
Розным шоўкам павыстрочаная.

Як убачыў ды Міколка церама:
— Ой, каб мая ды Манечка такава.

Я ж бы тады ёй і жаў і малоў,
Я ж бы тады ёй і грады палоў.

Я ж бы тады ёй кухаварку наняў,
Я ж бы тады ёй няньку узяў.

Каля печы кухаварачка,
Каля люлькі сядзіць нянечка.

Вары, вары, кухаварачка,
Нянчы, нянчы дзіця, нянечка.

Нянчы, нянчы дзіця, нянечка,
Гуляй, гуляй, мая Манечка.

## 100. ЭЙ, ШТОБЫ Я МЕЎ МАЛЯРЭ СВАЕ

Эй, штобы я меў малярэ свае,
Вымаляваў бы мілую сабе.

Вымаляваў бы на канцы стала,
Паглядаў бы я, як на сакала.

Вымаляваў бы хоць на дошчачку,
Паглядаў бы я, як на пташачку.

Вымаляваў бы хоць на той сцяне,
Над тым ложанькам, а дзе спаці мне.

## 101. ЯК ПАСЕЯЎ ГАРОШАК

Як пасеяў гарошак
На шырокай ніўцы.
Куплю, куплю чаравічкі
Сваёй чарнабрыўцы.

Шчэ гарошак не паспеў,
Толькі лапаточкі,
Патаптала чаравічкі,
Самыя спадочкі.

Патаптала пасталы,
Белыя анучы
Цераз цябе, пранцаваты,
Штовечара йдучы.

## 102. СІДАР, СІДАР ДЫ НАТАЛКУ ЛЮБІЎ

Сідар, Сідар ды Наталку любіў,
Чырвоную фуфайку купіў.

— Гэта табе ды, Наталачка,
Чырвоная ды фуфаечка.

А ў той фуфайцы ды кішэнька была,
А ў той кішэньцы капейка была.

А кішэнька адарвалася,
А капейка пацяралася.

## 103. ОЙ, ГОРА, ГОРА ШАЎЦОВА ДОЛЯ

Ой, гора, гора шаўцова доля,
Што дзеўкі не любяць.
Адна дзяўчына, сэрца ядына,
Шэўчыка палюбіла.

А палюбіўшы, ды загадала
Чаравічкі шыці:
— Пашый, мой мілы, мне чаравічкі
З камаровай скуры.

— Калі я буду чаравічкі шыці
З камаровай скуры,
Тады ты будзеш дратвачку прасці
Таней павуціны.

— Калі я буду дратвачку прасці
Таней павуціны,
Тады ж ты будзеш рыбачку лавіці
Без чаўна, без невада.

— Калі ж я буду рыбачку лавіць
Без чаўна, без невада,
Тады ж ты будзеш рыбачку варыць,
Каб была жывенькая.

— Калі ж я буду рыбачку варыць,
Каб была жывенькая,
Тады ж ты будзеш рыбачку есці,
Каб была цаленькая.

## 104. КАСІЎ ЯСЬ КАНЮШЫНУ

Касіў Ясь канюшыну [1]
І заглядаў на дзяўчыну.

А дзяўчына жыта жала
І на Яся паглядала.

— Чы ты, Ясь, чы ты не,
Спадабаўся ты мне.

Кінуў Яська касіць,
Пайшоў мамкі прасіць.

— Люба мамка мая,
Ажані ж ты мяне.

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца тройчы.

— Бяры тую Станіславу,
Што сядзела на ўсю лаву.

— Станіславы не хачу,
Бо на ложак не ўскачу.

— Так бяры ты Яніну,
Працавітую дзяўчыну.

## 105. ПРЫДЗІ, ПРЫДЗІ, ЯНАЧКА

— Прыдзі, прыдзі, Яначка,
Я твая каханачка.

— А я да цябе прыходзіў,
Чаравічкі прыносіў.

Цябе дома не знайшоў,
Заплакаў і пайшоў.

## 106. ТЫ СКАЗАЛА: ПРЫДУ, ПРЫДУ

Ты сказала: прыду, прыду,
Не сказала, куды, куды.

Ты сказала: пад камору,
Не сказала, пад катору.

Ці пад тую, дзе цяляты,
Ці пад тую, дзе ягняты.

Ці пад тую, дзе каровы,
Там дзяўчына чарнаброва.

## 107. ТЫ КАЗАЛА У ПАНЯДЗЕЛАК

— Ты казала ў панядзелак,
Павядзеш мяне да дзевак,
Я прышоў — цябе няма:
Падманула, падвяла.
Ты ж мяне падманула,
Ты ж мяне падвяла,

Ты ж мяне, маладога,
З ума, з розуму звяла.
— Я ж цябе, я ж цябе падманула,
Я ж цябе, я ж цябе падвяла,
Я ж цябе, я ж цябе, маладога,
З ума, з розуму звяла. [1]

— Ты казала ў аўторак
Пацалуеш разоў сорак,
Я прышоў — цябе няма:
Падманула, падвяла.

— Ты казала, што ў сярэду
Пойдзем разам на бяседу.
Я прышоў — цябе няма:
Падманула, падвяла.

— Ты казала, што ў чацвер
Будзе лепей, чым цяпер,
Я прышоў — цябе няма:
Падманула, падвяла.

— Ты казала у пятніцу
Пойдзем разам у святліцу,
Я прышоў — цябе няма:
Падманула, падвяла.

— Ты казала, што ў суботу
Пойдзем разам на работу,
Я прышоў — цябе няма:
Падманула, падвяла.

— Ты казала, што ў нядзелю
Пойдзем разам на вяселле,
Я прышоў — цябе няма:
Падманула, падвяла.

## 108. ЛЮБІЎ Я ДЗЯЎЧЫНУ

Любіў я дзяўчыну —
Дзяўчына мяне.
Казала дзяўчына:
— Прыдзі да мяне.
Прыдзі, прыдзі, прыдзі да мяне.

[1] Апошнія восем радкоў паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Зайшоў я да яе ў панядзелак,
А мая дзяўчына поле барвінок.
Няма, няма дзяўчыны дома,
Няма, няма дзяўчыны дома.

Зайшоў я да яе ў аўторак,
А мая дзяўчына пайшла на ўзгорак.
Няма, няма дзяўчыны дома,
Няма, няма дзяўчыны дома.

Зайшоў да яе я ў сераду,
А мая дзяўчына пасе чараду.
Няма, няма дзяўчыны дома,
Няма, няма дзяўчыны дома.

Зайшоў я да яе ў чацвер,
А мая дзяўчына пайшла на шпацыр.
Няма, няма дзяўчыны дома,
Няма, няма дзяўчыны дома.

Зайшоў да яе я ў пятніцу,
А мая дзяўчына пасе цяліцу.
Няма, няма дзяўчыны дома,
Няма, няма дзяўчыны дома.

Зайшоў да яе я ў суботу,
А мая дзяўчына канчае работу.
Застаў, застаў дзяўчыну дома,
Застаў, застаў дзяўчыну дома.

## 108а. КАЗАЛА САРОКА

Казала сарока: прыдзі, прыдзі.
Ой, пайшоў жа я ды ў панядзелак —
Няма сарокі дома,
Пайшла да дзевак.
Няма, няма сарокі дома,
Няма, няма сарокі дома.

Казала сарока: прыдзі, прыдзі.
Ой, пайшоў жа я ды ў аўторак —
Няма сарокі дома,

Пайшла да ўдовак.
Няма, няма сарокі дома,
Няма, няма сарокі дома.

Казала сарока: прыдзі, прыдзі.
Ой, пайшоў жа я ды ў сераду —
Няма сарокі дома,
Пайшла па ваду.
Няма, няма сарокі дома,
Няма, няма сарокі дома.

Казала сарока: прыдзі, прыдзі.
Ой, пайшоў жа я ды і ў чацвер —
Няма сарокі дома,
Пайшла жаць ячмень.
Няма, няма сарокі дома,
Няма, няма сарокі дома.

Казала сарока: прыдзі, прыдзі.
Ой, пайшоў жа я ды і ў пятніцу —
Няма сарокі дома,
Пайшла жаць пшаніцу.
Няма, няма сарокі дома,
Няма, няма сарокі дома.

Казала сарока: прыдзі, прыдзі.
Ой, пайшоў жа я ды і ў суботу —
Няма сарокі дома,
Пайшла на работу.
Няма, няма сарокі дома,
Няма, няма сарокі дома.

Казала сарока: прыдзі, прыдзі.
Ой, пайшоў жа я ды ў нядзелю,
Знайшоў сароку дома —
Сцеліць пасцелю.
Знайшоў, знайшоў сароку,
Знайшоў, знайшоў сароку.

Казала сарока: прысядзь, прысядзь
Казала сарока: прысядзь, прысядзь.
То ты ж будзеш найлепшы зяць,
То ты ж будзеш найлепшы зяць.

## 109. А НА МОРЫ, НА МОРЫ, НА ЦЁМНЫМ АЗЁРЫ

А на моры, на моры, на цёмненькім азёры,
Дуброўка, ты дуброўка, ты зялёная мая! [1]
Пісар гусей ганяіць, у скрыпачку іграіць.
— Да скажыце паненцы, што ў чырвонай сукенцы,
Няхай замуж не ідзе, няхай мяне падажджэ.
Я ест пісар малады, к таму яшчэ багаты:
Дзевяць коні ў аборы, яшчэ столькі ў полі,
А дзесяты вечаты, што паехаць у сваты.
Матка, капай карэня з-пад белага каменя,
А вымый жа на рацэ, а ўпар яго ў малацэ,
А вымыйце на ляду, а ўсмажце ў мяду.
Яшчэ корань не кіпеў, ужо пісар прыляцеў.
— Што, што цябе прынясло? Чы чаўночак чы вясло?
— Прынёс мяне сівы конь да дзяўчынкі маладой.

## 109а. ТАМ ДЗЕВАЧКІ ГУЛЯЛІ

Там дзевачкі гулялі,
Вечарынкі спраўлялі.
Эй-эй, ох-ха-ха,
Вечарынкі спраўлялі.

Эх вы, хлопцы-малайцы,
Накажыце той дзяўцы.
Эй-эй, ох-ха-ха,
Накажыце той дзяўцы.

Накажыце той дзяўцы,
Што ў чырвонай спадніцы.
Эй-эй, ох-ха-ха,
Што ў чырвонай спадніцы.

Няхай замуж не ідзе,
Няхай мяне падажджэ.
Эй-эй, ох-ха-ха,
Няхай мяне падажджэ.

А другая зачула
І з вуліцы пабягла.
Эй-эй, ох-ха-ха,
І з вуліцы пабягла.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Не дабегла да хаты,
Пытаецца ў маці.
Эй-эй, ох-ха-ха,
Пытаецца ў маці.

## 110. ЗА ГАРОЮ СВІТАЕ

За гарою світае,
Пісар гусі ганяе.

Пісар гусі ганяе,
На малойцаў міргае.

— Ой вы, хлопцы, малайцы,
Накажыце той дзяўцы.

Накажыце той дзяўцы,
Што ў сіняй сукянцы.

Няхай яна мяне не жджэ,
За другога замуж ідзе.

— Парай, мама, што рабіць,
Пісар не хоча любіць.

— Ідзі, донька, да гаю,
Капай зелле размаю.

Накапала караня
З-пад белага каменя.

Перамыла ў рацэ,
Наварыла ў малацэ.

Яшчэ корань не ўскіпеў,
А ўжо мілы прыляцеў.

— Ой, што цябе прынясло,
Ды ці човен, ці вясло?

— Прынёс мяне сівы конь
Ды к паненцы пад пакой.

Прынёс мяне сіў баран
Ды к паненцы пад паркан

## 111. ДОБРЫ ВЕЧАР, ДЗЕУЧЫНА

— Добры вечар, дзеўчына,
Куды йдзеш?
Скажы, скажы праўдачку,
Дзе жывеш?

— Я жыву ля рэчачкі,
Ля вады,
Збудаваўшы хатачку
З лебяды.

— Я да тога сенечкі
Прыпляту
З высокага дзерава,
З асату.

— Унадзілісь свіначкі
Ў лебяду,
Павярнулі хатачку
На ваду.

Плыве, плыве хатачка
З вадою.
Як я, бедна, хатачку
Збудую.

Хлопец пасвіў коніка
На лугу.
— А я табе, дзеўчынка,
Памагу.

## 112. СТУК, ДЗЯУЧЫНА, АДЧЫНІ

— Стук, дзяўчына, адчыні [1],
Хоць ты маё серца развесялі.

— Ой, не буду адчыняць,
Ты захочаш ночаньку начаваць.

— Ой, не буду начаваць,
Сядзем пагаворым, пойдзем спаць.

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Ой, мы сядзелі да зары,
Ажно стала відненька на двары.

Ой, дзяўчына, шуміць гай,
Каго верна любіш, не забывай.

## 113. НЕ СТАІ НА ЛЁДЗЕ

— Не стаі на лёдзе,
Бо правалішся.
Ці ты мяне верна любіш,
Ці ты хвалішся?

— Калі цябе не люблю,
Скарай мяне, божа,
Цалаваў, мілаваў,
Пакуль сэрца можа.

Мілаваў, цалаваў,
Не нацалаваўся.
Як у садзе салавей
Не нашчабятаўся.

## 114. У ПАНЯДЗЕЛАК ЗАКАХАЎСЯ

У панядзелак закахаўся,
У аўторак сумаваў.

А ў сераду прызнаўся,
А ў чацвер адказу ждаў.

У пятніцу пайшоў да любай,
У суботу чакаў шлюбу.

А ў нядзелю — пад вянец.
Вось і песеньцы канец.

## 115. СЮДЫ ЕДУ, ТУДЫ ЕДУ

Сюды еду, туды еду,
Карчмы не мінаю.
Заехаў бы да дзяўчыны,
Ды часу не маю.

Ты дзяўчына, ты малода,
Аддай мае грошы,
Ды ты ходзіш, ды ты судзіш,
Што я нехарошы.

Ты дзяўчына, ты малода,
Аддай мае карты,
Ды ты ходзіш, ды ты судзіш,
Што я небагаты.

Ты дзяўчына, ты малода,
Аддай чаравікі,
Ды ты ходзіш, ды ты судзіш,
Што я невялікі.

## 116. ДЗЯЎЧОНАЧКА ГОЖАЯ *

— Дзяўчоначка гожая,
Любі мяне голага.
Хоць я хаты не маю,
А жаніцца думаю.

— Здзелай хату з лебяды,
Ды ў чужую не вядзі,
Чужа хата — не свая,
Будзе біці гультая.

## 116а. ДЗЯЎЧЫНАЧКА, О-ГО-ГО

Дзяўчыначка, о-го-го,
Любі мяне голага.

Кашулечкі не маю,
Жаніцеся думаю.

Толькі люлька ды жупан,
А ён кажа, што я пан.

Толькі люлька ды цыбук,
А сам голы, як барсук.

— Збудуй хату з лебяды,
А ў чужую не вядзі.

Чужа хата не свая,
Гоняць з хаты гультая.

## 117. ЖЫЎ-БЫЎ ЧАРКЕС У БАРЫ

Жыў-быў чаркес у бары,
Паставіў ён хату саламяную,
Збудаваў ён печку калапняную.
Пайшоў чаркес у бор па ваду,
Напаткаў ён дзевак стаду-грамаду.
Агляпуўся чаркес — хатка гарыць.
— Дзевачкі-сястрыцы, пойдзем тушыць,
Сорак стаканаў арэхавых з мёдам стаіць,
Сорак пар кілбас мушыных вісіць.

## 118. АРАЎ СЯМЁН КРАЙ ДАРОГІ

Араў Сямён край дарогі,
Гэй, цуб, руб, гэй, край дарогі.

У яго валы крутарогі,
Гэй, цуб, руб, гэй, крутарогі.

Павесіў торбу на бярозе,
Гэй, цуб, руб, гэй, на бярозе.

Дзеўкі-шэльмы ваду бралі,
Гэй, цуб, руб, гэй, ваду бралі.

У Сямёна торбу ўкралі,
Гэй, цуб, руб, гэй, торбу ўкралі.

## 118а. ПАЕХАЎ КАЗАК АРАЦІ

Паехаў казак араці,
Э-эй, цабы, рабы, тпру.

Ой, араў мужык край дарогі,
Э-эй, цабы, рабы, тпру.

Ды павесіў торбу на бярозе,
Э-эй, цабы, рабы, тпру.

А там дзеўкі грыбы бралі,
Э-эй, цабы, рабы, тпру.

Яны торбу з хлебам укралі.
Э-эй, цабы, рабы, тпру.

Шчэ ў той торбе паўбутэлька,
Э-эй, цабы, рабы, тпру.

## 119. ІШОЎ ЖА Я ВЕЧАРКОМ

Ішоў жа я вечарком
З паўцёмнае ночы.
Сядзіць сава на дарозе,
Вытрашчыўшы вочы.

Я на яе: гыля, гыля,
Дык яна прысела.
Каб не палка не чурбалка,
Яна б мяне з'ела.

## 120. КАБ ТАБЕ, АНДРЭЙКА

— Каб табе, Андрэйка,
Кот вочкі выдраў,

Як ты маладую
Нехарошую выбраў:

Сама на возе,
Ногі на парозе,

Стаіць ля ступы,
Развесіўшы лупы,

Стаіць ля ямкі,
Просіць дзялянкі.

— Ох вы, дзевачкі,
Мае сястрыцы.

Я ездзіў па ночы,
Не глядзеў ёй у вочы.

А як стала відна —
Самому стыдна.

## 121. ОЙ, ТАМ, КАЛЯ МЛЫНА

Ой, там, каля млына,
Там стаяла дзяўчына.

Хацеў яе пачапаці,
Там стаяла яе маці.

— Маці, маці, аддай цурку,
Куплю мёду паўгарцуўку.

— Купі, зяцю, яшчэ кварту,
Мая цурка венцэй варта.

## 122. ТРУБКА МАЯ ЧЫРВОНАЯ

Трубка мая чырвоная
Звечара курылась.
Як паклаў я на паліцу —
Спала, разабілась.

Як пайду я, маладзенькі,
Трубачку купляці,
Ляжаць, ляжаць красны трубкі,
Не з кім таргаваці.

Там дзяўчаты, там малыя
Шоўкам таргавалі,
Яны мяне, маладому,
Трубку старгавалі.

За трубачку — капеечку,
За цыбучок — грошык.
— Куры, куры, мой харошы,
Ты хлапец харошы.

Як пайшоў я у карчомку
Трубачкі курыці,
Сабраліся стары жоны
Ды хацелі біці.

Як пайду я уцякаці
Ды цераз гароды,
Знайшоў я там гарбузікі,
Нарабіў ім шкоды.

Ой, я бокам, ой, я скокам
Ў крапіву схаваўся.

Там дзяўчаты, там малыя
Крапіўцу жалі.
Яны, мяне, маладога,
Па слядку ўгадалі.

Усхапіўсь я, усхапіўсь я
Ды ўзяўся у бокі.
— Паглядзіце, красны дзеўкі,
Які я высокі,
І высокі, і прыгожы,
А шчэ к таму гладкі.

Наглядзелісь красны дзеўкі —
На ўвесь год нігадкі.

## 122а. ЛЮЛЬКА МАЯ ПЕНЬКАВАЯ

Люлька мая пенькавая,
Дзе ж ты падзелася?
Палажыў я на паліцу —
Упала, пабілася.

Ой, прапала валоў пара,
Прападай другая,
Абы толькі мне знашлася
Люлька пенькавая.

Ой, пайду я на кірмаш
Люльку купаваці.
Ляжыць люлька пенькавая,
Не з кім таргаваці.

Там дзяўчына чарнаброва
Пшону прадавала,
Папрашу я дзяўчынаньку,
Каб мне старгавала.

— За люлечку — златувачку,
За цубочак — грошак.
Куры, куры, мой міленькі,
Куры, мой харошы.

Ой, пайдзём мы у карчомку
Гарэлачку піці.
Змаўляюцца лайдакі,
Хочуць мяне біці.

Ой, я хлопец не дурны,
Хутка дагадаўся,
Да, скінуўшы сарочаньку,
У зелле схаваўся.

Шлі дзяўчаты маладыя
Да зеллечка рваці.
Сталі мяне, маладога,
Па слядках ўзнаваці.

А я хлопец недурны,
Хутка дагадаўся.
Нізам, нізам каля плоту,
Ў крапіву схаваўся.

Шлі дзяўчаты маладыя
Крапівачку рваці,
Сталі мяне, маладога,
Па слядках ўзнаваці.

Ой, я хлопец недурны,
Хутка дагадаўся.
Нізам, нізам каля плоту,
У каноплі схаваўся.

Шлі дзяўчаты маладыя
Канапелькі рваці.
Сталі мяне, маладога,
Па слядках ўзнаваці.

Ой, я хлопец недурны,
Хутка дагадаўся.
Нізам, нізам каля плоту,
На гару схаваўся.

Ішоў бацька на гару
Да мяне шукаці.
І ўпаў ён з гары,
Моцна не дзержачы.

Ляжыць бацька на зямлі,
Дай лежачы стогне,
Я, седзячы на гары:
— Ото ж табе добра.

## 122б. ЛЮЛЬКА МАЯ ЧЫРВОНАЯ

Люлька мая чырвоная,
Я ўчора курыў.
Палажыў я на паліцу,
Папалам разбіў.

Бедна мая галовачка,
Няма ў што курыць.
Ляжыць люлька сярод рынку,
Няма за што купіць.

Як пайду я да Кіева
Люльку пакупаць.
Люлька ляжыць сярод рынку,
Няма за што купіць.

А там дзеўка-красавіца
Шоўку пакупала,
Яна ж мне, маладому,
Люльку старгавала.

— За люлечку — капеечку,
За цыбук — грош.
Куры, куры, мой міленькі,
Бо ты мне харош.

Куры, куры, мой міленькі,
Ды не закурайся.
І на мяне, маладзеньку,
Ты не забывайся.

## 122в. ЛЮЛЬКА МАЯ ПЕНКЛАВАЯ

Люлька мая пенклавая
З вечара курылася.
Палажыў я яе на паліцу,
Звалілась, пабілась.

Вот зайшоў я у карчомку,
Хацеў закурыці.
Сабраліся тры бабёнкі,
Хочуць мяне біці.

Адна кажа — сваце!
Другая — браце!
А трэцяя — куме!
Ды за плечы суне.

Як ударыць кулаком,
Аж я пакаціўся,
Котам, котам каля плоту
Ў крапіву ўваліўся.

Там дзевачкі-красавіцы
Крапівачку жалі.
Яны мяне, маладога,
Адтуль напужалі.

Вот прыйшоў я пад акно:
— Добры людзі, добры!
Упусціце старыка,
Шкоды вам не будзе.

## 122г. ОЙ, ІШОУ Я ДАРОГАЮ *

Ой, ішоў я дарогаю,
Зайшоў да дзяўчыны,
Зайшоў жа я да дзяўчыны
Трубку закурыці.

Зайшоў жа я да дзяўчыны
Трубку закурыці,
Змаўляюцца дзяўчатачкі,
Хацелі набіці.

Змаўляюцца дзяўчатачкі,
Хацелі набіці,
Казачанька дагадаўся,
Ў канаплі схаваўся.

Ой, пайшлі ж дзяўчатачкі
Канапелькі рваці,
Сталі яны казаковы
Слядкі пазнаваці.

Ой, уцякаў казачанька
Цераз тры гароды,
Ублытаўся ў гарбузенні,
Нарабіў нам шкоды.

— Вы, дзяўчаты, маладзіцы,
Вы, добрыя людзі,
Выблытайце з гарбузення,
Вам шкоды не будзе.

Пераскочыў казачанька
З вады на грудочак.
Адна дзеўка штаны нясе,
А друга сарочку.

Каторая штаны нясе,
То та мая будзе,
Каторая сарочачку —
Пушчу міжы людзі.

## 122д. БЫЛА Ў МЯНЕ НОВА ЛЮЛЬКА *

Была ў мяне нова люлька,
Ўчора курылася,
Ныне ўпала із паліцы,
Ўзяла пабілася.

Не ведала мая маці,
Што нет мяне ў хаце,
А я пайшла на базар
Люлечку купляці.

За люлечку — капеечку,
За цыбук — два грошы:
Куры, куры, мой міленькі,
Кудравы, харошы.

Куры, куры, мой міленькі,
Ды не накурайся,
На чужыя харошыя
Ты не заглядайся.

— Ой, зайшоў я да суседа —
Просяць мяне сесці,
Самі ядуць журы-буры,
Просяць мяне есці.

Я на тыя журы-буры
Скоса пагдядаю,
На паліцы варэніцы,
Я іх паважаю.

Пагасілі агонь ў хаце,
Палягалі спаці,
Я за тыя варэніцы —
Давай уцякаці.

Ой, ляцеў я цераз плот,
Цераз тры гароды,
Запутаўся ў гарбузенні,
Нарабіў там шкоды.

Ой, зайшоў я у карчму:
— Добры вечар, людзі.
Выпутайце з гарбузення,
Вам шкоды не будзе.

Ой, зайшоў я да суседа
Люльку прыкурыці,
Здзёрлі з мяне нагавіцы,
Яшчэ хочуць біці.

А я, хлопчык маладзенькі,
Хутка здагадаўся:
Ракам, ракам, беражочкам —
Ў канапле схаваўся.

## 123. ЗАХАЦЕЎ Я ЖАНІЦІСЯ *

Захацеў я жаніціся,
Што каму да тога?
Не хватае дзесяць грошаў
Да паўзалатога.
Тумба, тумба, тумба, тумба,
Тумба, тумба, тумба,
Не хватае дзесяць грошаў
Да паўзалатога!

А хоць мне іх і бракуе,
То я пазычаю,
А што каму да таго,
Што сваіх не маю.
Тумба, тумба, тумба, тумба,
Тумба, тумба, тумба,
А што каму да таго,
Што сваіх не маю.

Прыехаў я да дзяўчыны,
Казалі мне сесці,
Паставілі бараболю
З мундзірамі есці.
Тумба, тумба, тумба, тумба,
Тумба, тумба, тумба,
Паставілі бараболю
З мундзірамі есці.

Я да тае бараболі
Ахвоты не маю,
На паліцы варэніцы —
На іх паглядаю.
Тумба, тумба, тумба, тумба,
Тумба, тумба, тумба,
На паліцы варэніцы —
На іх паглядаю.

Пагасілі святло ў хаце,
Палягалі спаці,
Я за тыя варэніцы —
Давай уцякаці.
Тумба, тумба, тумба, тумба,
Тумба, тумба, тумба,
Я за тыя варэніцы —
Давай уцякаці!

Ой, ляцеў я, ой, ляцеў я
Праз усе гароды,
Зачапіўся ў гарбузенні,
Нарабіў там шкоды.
Тумба, тумба, тумба, тумба,
Тумба, тумба, тумба,
Зачапіўся ў гарбузенні,
Нарабіў там шкоды.

Вышла баба, вышаў дзед:
— Чаго ты забраўся?
Як пацягне мяне цэпам,
Аж я засмяяўся.
Тумба, тумба, тумба, тумба,
Тумба, тумба, тумба,
Як пацягне мяне цэпам,
Аж я засмяяўся.

Ой, ляцеў я, ой, ляцеў я
Праз чатыры ямы,
Не папаў я да Марысі,
А да яе мамы.
Тумба, тумба, тумба, тумба,
Тумба, тумба, тумба,
Не папаў я да Марысі,
А да яе мамы.

## 123а. ЗАДУМАЎ Я ЖАНІЦЦА

Задумаў я жаніцца,
Што каму да тога.
Дзесяць грошы не стае
Дай паўзалатога.[1]

Дзесяць грошы не стае,
А пяць пазычаю.
І на той жа дзяўчынаньцы
Жаніціся маю.

Ой, прыехаў я ў сваты,
Казалі мне сесці.
Наварылі булабонаў
З мундзірамі есці.

Я на тыя булабоны
Ахвоты не маю.
На паліцы варанікі —
Ўсё на іх ўважаю.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Пагасілі святло ў хаце,
Самі ляглі спаці,
Я за тыя варанікі
Да й уцёк із хаты.

Выеў усе, усе выеў
Тыя варанікі,
Да й у сені макацёр
Паставіў на паліцы.

Як ляцеў, як ляцеў,
Да й не аглядаўся,
А як крыкнуў мужык з цэпам,
То я засмяяўся.

## 1236. СТАРЫ ДУБ, СТАРЫ ДУБ*

Стары дуб, стары дуб
Яшчэ не расцвіўся.
Стары хлопец, стары хлопец
Яшчэ не жаніўся. [1]

Як паехалі ў сваты,
Дык сказалі сесці.
Паставілі барабулі
З мундзірамі есці.

Ён на тыя барабулі
Ахвоты не мае.
На паліцы вараніцы,
Ён на іх міргае.

Як пад'елі госці ўсе,
Паклаліся спаці,
Ён за тыя вараніцы —
Давай уцякаці.

Уцякаў ён, уцякаў
Цераз тры гароды.
Заблытаўся ў гарбузах,
Нарабіўшы шкоды.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

І парваў сваё адзенне.
— Ой, суседзі-людзі,
Разблытайце гарбузенне,
Вам гарэлка будзе.

## 123в. ЯК ПАЕХАУ Я Ў СВАТЫ

Як паехаў я ў сваты
Сярод цёмнай ночы,
Сядзіць сава на дарозе,
Вытрашчыўшы вочы.

Я на яе гыля, гыля,
Яна вышэй села,
Каб не той сівы конь,
Яна б мяне з'ела.

Як прышоў я ў хату,
Не ўспеў на лаву сесці,
Далі бульбу з лушпікамі,
Прыказалі есці.

Я на тую бульбу
Скоса паглядаю.
Ляжаць бліны на паліцы.
Я на іх маргаю.

Паслалі пасцельку,
Прыказалі спаці,
А я бліны пад палу
І пачаў ўцякаці.

Уцякаў я, уцякаў,
Бег цераз гароды,
Учапіўся ў гарбузы,
Нарабіў трывогі.

Як прышоў я да карчмы:
— Добры вечар, людзі.
Выкапайце з гарбузоў,
Гарнец водкі будзе.

## 123г. ЯК ПАЙШОЎ Я У СВАТЫ

Як пайшоў я у сваты,
Папрасілі сесці,
Паставілі бараболь
З мундзірамі есці.

Я на тыя бараболі
Скоса пазіраю.
На паліцы пірагі,
Я на іх міргаю.

Патушылі аганёк,
Пакладіся спаці.
Я за тыя пірагі —
Давай уцякаці.

Уцякаў я, уцякаў,
Аб печ галавою.
Стара баба з-за каміна
Па мне качаргою.

Уцякаў я, уцякаў
Цераз агароды,
Ублытаўся ў гарбузенне,
Нарабіў я шкоды.

Уцякаў я, уцякаў
Цераз пералазы.
Як ударыць нехта цэпам
Да чатыры разы.

Уцякаў я, уцякаў,
У плот зачапіўся.
Як ударыць нехта бічам,
Аж я задзівіўся.

Уцякаў я, уцякаў
Цераз сенакосы.
Сядзіць жаба на купіне,
Вытрашчыўшы вочы.

Я на яе: гыля, гыля,
Аж яна прысела.
Каб не гэта мая палка,
Яна б мяне з'ела.

## 123д. МЫ ПАЕДЗЕМ У ВАРШАВУ

Мы паедзем у Варшаву
Дзевак выбіраці.
Эй, тумба, тумба,
Дзевак выбіраці.

Бо там дзеўкі не багаты,
А толькі красівы.
Эй, тумба, тумба,
А толькі красівы.

Чаравік сваіх не маюць,
Толькі пазычаюць.
Эй, тумба, тумба,
Толькі пазычаюць.

А як пойдуць на вяселле,
Ногі выстаўляюць.
Эй, тумба, тумба,
Ногі выстаўляюць.

Увайшоў жа я у хату,
Запрасілі сесці.
Эй, тумба, тумба,
Запрасілі сесці.

Пасыпалі барабулю
З мундзірамі есці.
Эй, тумба, тумба,
З мундзірамі есці.

Я на тую барабулю
Скоса пазіраю.
Эй, тумба, тумба,
Скоса пазіраю.

На паліцы бараніцы,
Я на іх міргаю.
Эй, тумба, тумба,
Я на іх міргаю.

Як міргаў, так міргаў,
Паклаліся спаці.
Эй, тумба, тумба,
Паклаліся спаці.

Я за тую бараніцу —
Давай уцякаці.
Эй, тумба, тумба,
Давай уцякаці.

Як ляцеў, так ляцеў,
У тын галавою.
Эй, тумба, тумба,
У тын галавою.

Як дагоніць стары дзед,
Гоніць качаргою.
Эй, тумба, тумба,
Гоніць качаргою.

Як ляцеў, так ляцеў
Цераз тры гароды.
Эй, тумба, тумба,
Цераз тры гароды.

Як убіўся ў гарбузенне,
Нарабіў я шкоды.
Эй, тумба, тумба,
Нарабіў я шкоды.

Як ляцеў, так ляцеў:
— Добры вечар, людзі!
Эй, тумба, тумба,
Добры вечар, людзі!

Адчапіце з гарбузоў,
Гарнец водкі будзе.
Эй, тумба, тумба,
Гарнец водкі будзе.

## 123е. ЯК ПАЙШОЎ Я К ЦЕШЧЫ

Як пайшоў я к цешчы,
Цешча нездарова.
Паставіла мне лаўку
І сказала сесці.
Паставілі бульбы з мундзірамі
І сказалі есці.

Я на гэту бульбу коса паглядаю,
Ляжаць блінцы на паліцы,
Я на іх міргаю.
Паслалі мне койку
І сказалі легчы,
А я блінцы з-пад паліцы —
І пусціўся бегчы.
Бег, бег цераз гарод,
Зачапіўся за гарбуз
І нарабіў шкоды.
З той пары я к цешчы
Больш не вяртаўся.
Як стукнуўся аб пень,
Ледзь жывы астаўся.

## 124. ЗНАЦІ, ЗНАЦІ, ХТО НЕЖАНАТЫ

Знаці, знаці, хто нежанаты:
Лічанька бела, як паняняты.

Знаці, знаці, хто ажаніўся:
Скорчыўся, зморшчыўся, з ліца змяніўся.

Ой, худа ж, худа нежанатаму,
Як тому гаршчочку шчарбатаму.

Гаршчочак кіпіць — з шчэрбачкі льецца,
У нежанатага сэрцайка б'єцца.

А знаці, знаці, хто любіць руску,
Пратаптаў сцежачку цераз пятрушку.

А знаці, знаці, хто любіць польку,
Пратаптаў сцежачку цераз квасольку.

## 125. САМ НЕ ЗНАЮ

Сам не знаю,
Што чыніці маю.
Людзі кажуць, жаніцеся,
А я і не думаю.

Ажанёмшыся,
Трэба тое знаці:
Трэба жонку карміць,
Дзяцей гадаваці.

А ў мяне жонка,
Як добра нявеста.
Мужык едзе ў поле араць,
А жонка на места..

Мужык арэ, арэ
Ды пагуквае.
Жонка з места ідзе
Ды пагульвае.

— А мой мужычышча
У полі араў,
А я, малада,
Была на ігрышчы.

— Ты мая міла,
Дзе ты хадзіла?
— Я не знала, дзе ты араў,
Па полю хадзіла.

— Ты мая міла,
Не кажы тога.
Дай вячэраць,
Ці не маеш чога?

— А ты мой мужычына,
У полі араў;
А я, малада,
Была на месце.

— Якая шэльма маці
Не варыла есці!
Мужычышча ўзяў дубінішча,
Пайшоў з жонкай гайдучышча.

Пайшла жонка к пану
Скарэй саскладаці,
Прыказалі мужыку
Жонку цалаваці.

Тады выйшла жонка
Усім пахваліцца:
— Я свайго мужыка
Паўчыла гайдучка:
Не піўшы, не еўшы,
Скача ашалеўшы.

## 126. САМ НЕ ЗНАЮ, НЕ ВЕДАЮ *

Сам не знаю, не ведаю,
Што рабіці маю:
Людзі кажуць жаніціся,
А я і не думаю.

Ой, што ж мне жаніцца,
Ой, нашто ж мне жонка?
Есць у мяне суседачка,
Добра прыяцелька.

Маладзіцы-удавіцы
На мяне маргаюць,
То ў нядзельку, то у свята
К сабе зазываюць.

— Прыдзі, прыдзі, мой міленькі,
Ка мне на хвілінку,
А я вышлю свайго дзеда
У лес па малінку.

Ідзі, стары, барадаты,
У лес па малінку,
А не пойдзеш у маліну,
Любіці пакіну.

## 127. СЕЮ РЭДЗЬКУ, СЕЮ РЭДЗЬКУ *

Сею рэдзьку, сею рэдзьку,
Сею, пасяваю.
Расці, рэдзька, расці, рэдзька,
На зіму схаваю.

Не з кім сесці рэдзьку есці,
Кажуць людзі — горка,
Ой, не буду жаніціся,
Штоб не біла жонка.

Вот пайду я да суседа
Праўдай пагукаці:
— Пасаветуй мне, суседзе,
Жонку выбіраці.

Я ж пасеяў мерку рэдзькі,
Людзі кажуць — горка,
А задумаў жаніціся,
Кажуць, б'ецца жонка.

— Ой, ты браце, дурнаваты,
Выбірай любую,
Штоб не біла, да любіла,
За жысць праўдалую.

### 127а. СЕЮ РЭДЗЬКУ, СЕЮ *

Сею рэдзьку, сею,
Сею, рассяваю,
Я не буду рэдзькі есці —
На зіму схаваю.[1]

Я не буду рэдзькі есці,
Людзі кажуць — горка,
Я не буду жаніціся,
Будзе біці жонка.

Біла жонка мужыка,
Рукі закасаўшы,
А ён яе перапросіў,
Дый шапачку зняўшы.

— Дзякуй табе, міла,
Што ты мяне біла,
Куплю табе гарнец мёду
І шкляначку піва.

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Твайго піва не піла
І піці не буду,
А як біла мужыка,
Так і біці буду.

### 128. А ШТО Я БУДУ РАБІЦІ

О-ё-ё-ёй!
А што я буду рабіці,
Як я буду дзеці меці?
О-ё-ё-ёй,
Фалдарыдон.

О-ё-ё-ёй!
Як ты будзеш дзеці меці,
Тады будзеш іх глядзеці.
О-ё-ё-ёй,
Фалдарыдон.

О-ё-ё-ёй!
Як мы будзем дзеці меці,
А чым будзем спавіваці?
О-ё-ё-ёй,
Фалдарыдон.

О-ё-ё-ёй!
У мяне ёсць старыя махрачы,
Будуць добры спавівачы.
О-ё-ё-ёй,
Фалдарыдон.

О-ё-ё-ёй!
Будуць добры спавівачы,
А дзе будзем калыхаці?
О-ё-ё-ёй,
Фалдарыдон.

О-ё-ё-ёй!
Ёсць у мяне стара бочка,
Будзе добра калысачка.
О-ё-ё-ёй,
Фалдарыдон.

О-ё-ё-ёй!
Чым мы будзем іх карміці,
[Чым мы будзем іх карміці?]
О-ё-ё-ёй,
Фалдарыдон.

О-ё-ё-ёй!
У мяне ёсць старая кача,
[У мяне ёсць старая кача].
О-ё-ё-ёй,
Фалдарыдон.

О-ё-ё-ёй!
Будзем мы качу даіці,
Будзем малаком карміці.
О-ё-ё-ёй,
Фалдарыдон.

# ЖОНКА НЯЎДАЛІЦА

## 129. ХЛОПЕЦ ПАШАНЬКУ ПАХАЕ *

Хлопец пашаньку пахае,
Божа ж мой!
Ў яго сошанька крывая,
Божа ж мой!

Прышла к яму кудравая,
Божа ж мой!
— Вазьмі мяне, хлопец, замуж,
Божа ж мой!

Хлопец здуру ажаніўся,
Божа ж мой!
Навек бабай падавіўся,
Божа ж мой!

А ні міскі, а ні лыжкі,
Божа ж мой!
Павесілі тры калыскі,
Божа ж мой!

## 129а. ХЛОПЕЦ ПАШАНЬКУ ПАХАЕ *

Хлопец пашаньку пахае, ой-ёй-ёй!
Ў яго сошанька крывая, ой, божа ж мой! [1]

Прышла к яму чарнявая;
— Вазьмі ж мяне, хлопец.

Дзеўка замуж захацела,
Ледзь уся не абамлела.

---

[1] Прыпевы «Ой-ёй-ей!» і «Ой, божа ж мой!» паўтараюцца адпаведна пасля 1-га і 2-га радкоў кожнай страфы.

Хлопец з дуру ажаніўся,
Навек жонкай падавіўся.

Ані лыжкі, ані міскі,
Павесілі тры калыскі.

Ля калыскі трэба нянькі,
А ля печы кашаваркі.

Даў ёй хлопец тры капейкі:
— Пайдзі купі хлеба, солі.

Хлеба, солі не купіла,
На базары заблудзіла.

## 129б. НЕ ЖАНІЎСЯ — БЫЛО ГОРА, ГОРА, БОЖА МОЙ

Не жаніўся — было гора, гора, божа мой;
Ажаніўся — яшчэ болей, гора, божа мой.
Ані лыжкі, ані міскі, гора, божа мой,
Прыйду ў хату — дзве калыскі, гора, божа мой.
На падаткі грошы трэба, гора, божа мой,
Вядуць каня прадаваці, гора, божа мой.
Нясуць збрую, а, нарэшце, гора, божа мой,
Бяруць жонку маладую, гора, божа мой.

## 129в. МАЛАДЫ Я АЖАНІЎСЯ

Малады я ажаніўся,
Ай-я-яй.
Навек жонкай падавіўся.
Ай, божа мой.

Ані лыжкі, ані міскі,
Ай-я-яй.
Павесілі дзве калыскі,
Ай, божа мой.

Ля калыскі трэба нянька,
Ай-я-яй.
Для дзіцяткі кашаварка,
Ай, божа мой.

Даў я жонцы дзве капейкі,
Ай-я-яй.
Пайшла жонка на базар,
Ай, божа мой.

Хлеба-солі не купіла,
Ай-я-яй.
На базары заблудзіла,
Ай, божа мой.

Малады я ажаніўся,
Ай-я-яй.
Навек жонкай падавіўся,
Ай, божа мой.

## 129г. НЕ ЖАНІУСЯ — БЫЛО ГОРА

Не жаніўся — было гора,
Ой, ё-ёй.
А жаніўся — стала горай,
Ой, ё-ёй.
Няма ў хаце лыжкі, міскі,
Ой, ё-ёй.
Павесілі дзве калыскі,
Ой, ё-ёй.
Да калыскі трэба нянек,
Ой, ё-ёй.
А да печы кашаварак,
Ой, ё-ёй.
Даў я жонцы тры капейкі,
Ой, ё-ёй.
Пайдзі, жонка, на базар,
Ой, ё-ёй.
Купі, жонка, хлеба, солі,
Ой, ё-ёй.
Хлеба, солі не купіла,
Ой, ё-ёй.
На базары заблудзіла,
Ой, ё-ёй.
А вы людзі, мае людзі,
Ой, ё-ёй.

Не бачылі жонкі мае,
Ой, ё-ей.
Мая жонка з прызнакамі,
Ой, ё-ей.

## 129д. ХЛОПЕЦ ПАШАНЬКУ ПАХАЕ

Хлопец пашаньку пахае,
Ой-ё-ей!
Яго сошанька крывая,
Ой, божа мой!

Хлопец з дуру ажаніўся,
Ой-ё-ей!
Навек бабай падавіўся,
Ой, божа мой!

А ні лыжкі, а ні міскі,
Ой-ё-ей!
Павесілі тры калыскі,
Ой, божа мой!

Пад прыпечкам свінні рыюць,
Ой-ё-ей!
А сабакі ложкі мыюць,
Ой, божа мой!

Куры хату падмятаюць,
Ой-ё-ей!
Хлопцы ў вокны заглядаюць,
Ой, божа мой!

## 129е. ХЛОПЕЦ З ДУРУ АЖАНІЎСЯ

Хлопец з дуру ажаніўся,
Ой-йа-ей!
На век жонкай падавіўся,
Ой, божа ж мой!

А ні ложкі, а ні міскі,
Ой-йа-ей!
Павесілі дзве калыскі,
Ой, божа ж мой!

Даў я жонцы тры капейкі,
Ой-йа-ёй!
Схадзі, жонка, купі хлеба,
Ой, божа ж мой!

Жонка хлеба не купіла,
Ой-йа-ёй!
На базары заблудзіла,
Ой, божа ж мой!

Ці мне жонкуісці шукаці,
Ой-йа-ёй!
Ці мне дзетак калыхаці,
Ой, божа ж мой!

### 129ж. НЕ ЖАНІЎСЯ — БЫЛО ГОРА

Не жаніўся — было гора,
Ой, ёй-ёй.
Ажаніўся — стала удвое,
Ой, божа ж мой.

Няма лыжкі, няма міскі,
Ой, ёй-ёй.
А на лета дзве калыскі,
Ой, божа ж мой.

Даў я жонцы два рублі,
Ой, ёй-ёй.
Пайдзі, жонка, купі хлеба,
Ой, божа ж мой.

Жонка хлеба не купіла,
Ой, ёй-ёй.
На кірмашы заблудзіла,
Ой, божа ж мой!

А я выйду на вуліцу,
Ой, ёй-ёй.
Папытаў я няўдаліцу,
Ой, божа ж мой!

## 129в. НЕ ЖАНІЎСЯ — БЫЛО ГОРА

Не жаніўся — было гора,
А жаніўся — больша стала.
А ўзяў жонку з сямілеткі,
Не вытапіць печы ў летку,
Ложкі, міскі не памые,
Дзве калыскі пачапіла.
А ні ў печы падтапляць,
Ні дзіцятка калыхаць.
У мяне ў печы не гарыць,
І дзіцятка крычыць.
А ў печы тапіць —
Нада кухарку наняць.
А дзіцятка калыхаць —
Нада нянечку наняць.

## 130. А У ВІЛЬНІ ЗА ДЗВЕРЦАМІ

А ў Вільні за дзверцамі
Стаіць ложак з каверцамі,
Дзоў, дзоў, з каверцамі.
А ў тым ложку казак ляжыць,
Дзоў, дзоў, казак ляжыць.
Правай рукой скрыпку дзяржыць,
Дзоў, дзоў, дзоў, скрыпку дзяржыць
Левай рукой падцінаець,
Дзоў, дзоў, дзоў, падцінаець.
Сваю долі праклінаець,
Дзоў, дзоў, дзоў, праклінаець.
Мая доля няшчасная,
Дзоў, дзоў, дзоў, няшчасная.
Мая жонка не красная.
Дзоў, дзоў, дзоў, не красная.
А дась есці ў дайніцы,
Дзоў, дзоў, дзоў, у дайніцы.
Сама сядзіць без спадніцы,
Дзоў, дзоў, дзоў, без спадніцы.
А дась ложкі не мытыя,
Дзоў, дзоў, дзоў, не мытыя.
Будуць рукі пабітыя,
Дзоў, дзоў, дзоў, пабітыя.

А дась хлеба яравога,
Дзоў, дзоў, дзоў, яравога.
Сама сядзіць ніц дабрэго,
Дзоў, дзоў, дзоў, ніц дабрэго.

## 131. ЗАГАДАУ МНЕ МУЖЫК

Загадаў мне мужык,
Загадаў чалавек:
— Вары, жонка, ліны,
Вары, жонка, ліны.
Я на сенях ты-лі-лі,
Я на новых ты-лі-лі.
Быццам вару ліны,
Быццам вару ліны.
А я ліноў не варыла,
Свайго мужа адурыла.
Яй-богу ж, адурыла,
Ей жа богу, адурыла.

Загадаў мне мужык,
Загадаў чалавек:
— Вары, жонка, гарох,
Вары, жонка, гарох.
Я на сенях та-ра-рох,
Я на новых та-ра-рох.
Быццам вару гарох,
А я гарох не варыла,
Свайго мужа адурыла.
Яй-богу ж, адурыла,
Ей жа богу, адурыла.

## 132. ОЙ, ПАЙДУ Я КРУГОМ ЛУГА

Ой, пайду я кругом луга,[1]
Дзе мой мілы арэ плугам.

А ён арэ волікамі,
А я плачу слёзанькамі.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Ой, пакіну хату месці,
А панясу яму есці.

Ён наеўся, ён напіўся,
Ды на раллю паваліўся.

— Ці ты здурэў, ці збясіўся,
Што на раллю паваліўся?

— Я не здурэў, не збясіўся,
Так на раллю паваліўся.

## 132а. ОЙ, ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ

Ой, пайду я лугам, лугам,
Дзе мой мілы арэць плугам.
Ой, пайду я лугам, лугам.

Ён арэць поле валамі,
А [redacted] плачу ўсё слязамі.
Ён арэць поле валамі.

Занясу я яму есці,
Ці не скажа ён мне сесці.
Занясу я яму есці.

Занясу я яму піці,
Ці не будзе гаварыці.
Занясу я яму піці.

І наеўся, і напіўся,
Сеў на плуг ды засмуціўся.
І наеўся, і напіўся.

— Што ж ты, мілы мой, думаеш,
На мяне не паглядаеш?
Што ж ты, мілы мой, думаеш?

— А я сяджу ды думаю,
Што благую жонку маю.
А я сяджу ды думаю.

— Браў мяне ты ў дзень, не ў ночы,
Дзе ж тады свае меў вочы?
Браў мяне ты ў дзень, не ў ночы.

## 132б. ОЙ, ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ *

Ой, пайду я лугам, лугам, [1]
Дзе мой мілы арэ плугам.

А ён арэ, а я плачу,
Бо няшчасце сваё бачу.

Ой, панясу яму есці,
Ці не скажа ён мне сесці.

Ой, панясу яму піці,
Ці не будзе гаварыці.

Ён наеўся і напіўся,
Ў сыру ролю паваліўся.

Сыра роля не тугая,
Мая доля няшчасная.

## 132в. А ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ

А пайду я лугам, лугам, [2]
Дзе мой мілы арэць плугам.

Ён арэць чужую ніўку,
Ён любіць чужую жонку.

Я панясу яму есці,
Ці не скажыць разам сесці.

Я панясу яму піці,
Ці не будзе гаварыці.

Ён наеўся, ён напіўся,
Стаў над плугам — засмуціўся.

— Я не хачу есці-піці,
Прашу ка мне не хадзіці.

— А дзе ж твае былі вочы,
Браў мяне удзень, не ўночы.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.
[2] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Браў ад мамкі, як былінку,
Ссушыў мяне, як лісцінку.

Браў ад мамкі, як ягодку,
Ссушыў мяне, як лябёдку.

## 132г. ОЙ, ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ

Ой, пайду я лугам, лугам,
Дзе мой мілы арэ плугам.

Ой, ён арэ, а я скачу,
Ён смяецца, а я плачу.

Ён смяецца, а я плачу,
Маладыя леты трачу.

Панясу я яму есці,
Ці не скажа ён мне сесці.

Панясу я яму піці,
Ці не будзе гаварыці.

Ён наеўся, ён напіўся
Ды на раллю паваліўся.

— Ралля мая суравая,
Жонка мая нелюбая.

## 132д. ОХ, ТАМКА ПА-НАД ЛУГАМ

Ох, тамка па-над лугам
Ці не арэ мілы плугам.

Ох, пайду я на ту ніву,
Ох, ён любіць чужу мілу.

Чужа ніва неўрадліва,
Чужа міла чарнабрыва.

Ох, панясу яму есці,
Ці не скажа ён мне сесці.

Ох, панясу яму піці,
Ці не будзе гаварыці.

Ён наеўся, ён напіўся,
На баразну паваліўся.

— Чаго сядзіш дай думаеш,
Чаму са мной не гаворыш?

— Ох, я сяджу дый думаю,
Што няўдалу жонку маю.

— Ох, пайду я, прыбяруся,
На чарняву падзіўлюся.

Хоць я росту невялічка,
Ды прыгожа маладзічка.

Хоць я ростам небальшая,
Ды гадамі маладая.

## 132е. ЯК ПАЙДУ Я ЛУЖКОМ, ЛУЖКОМ

Як пайду я лужком, лужком,
Ці не арэ мой ды мілы плужком.

Ох, ён арэ ды й гукае,
Ой, на біты шлях ды паглядае.

— Што ўсе жонкі ды й абед нясуць,
А маё ды не мае.

Як панясу я яму есці,
Ці не скажа ён мне сесці.

Ён наеўся, ён напіўся
Ды на раллю паваліўся.

— Ой, каб жа мне жонка такая,
Як і мая братавая.

— А я бровы ў сажу ўмажу,
Братавую пераважу.

А лічанька ды памалюю,
З казакамі пamандрую.

## 132ё. ОЙ, ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ*

Ой, пайду я лугам, лугам,
Ну ды я, ну ды я [1].
Дзе мой мілы арэ плугам.
Панясу я яму есці,
Ці не скажа радам сесці.
Ён наеўся і напіўся,
Сеў на плуг і засмуціўся.
— Чаго сядзіш і не арэш,
Чаго, мілы, не гаворыш?
— А я сяджу і думаю,
Што ліхую жонку маю.
— Ці ж ты сватаў мяне ўночы,
А дзе ж былі твае вочы?
— Каб жа ты была такая,
Як і мая братавая.
— А я бровы ў сажу ўмажу,
Братавую пераважу.

## 132ж. ОЙ, ПАЙДУ Я ЛУЖКОМ, ЛУЖКОМ

Ой, пайду я лужком, лужком,
Там мой мілы гарэ плужком.

Ой, ён гарэ да й паводзіць,
Ён са мною не гаворыць.

Ён гарэ да й думае,
Што ён дома жонку мае.

Ой, панясу яму ж есці,
Чы не скажа ён прысесці.

Ой, панясу яму піці,
Чы не скажа гаварыці.

Ён наеўся, ён напіўся,
Да й на раллю паваліўся.

— Чаго ляжыш, чым думаеш,
Чаму са мной не гаворыш?

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Ох, я ляжу да й думаю,
Што няўдалу жонку маю.

Што не спячы, не зварыці,
Не да людзей гаварыці.

Ох, чаму ж не такая,
Ох, як мая братавая.

— Ох, я бровы сажай ўмажу,
Братавую пераважу.

А я броўкі падмалюю,
Братавую падхітрую.

Не вылезлі табе ж вочы,
Не сватаці было ўночы.

Да сватаці было ўдзень
Ды пытаць старых людзей.

Стары людзі не татары,
Яны табе расказалі б.

Чы ахвоча, чы рабоча,
Чы да людзей прывароча.

Я й да сахі, й да арала,
Я й ля карчмы баль збірала.

## 132з. ЯК ПАЙДУ Я ПА-НАД ЛУГАМ

Як пайду я па-над лугам,
Ой, пайду я па-над лугам,
Ой, там мілы арэ плугам.

Ён арэ, шчэ й нукае,
Ой, ён арэ, шчэ й нукае,
Ой, серых валоў падганяе.

— Серы валы, чужа ніва,
Ой, серы валы, чужа ніва,
Ой, мая жонка некрасіва.

Як панясу яму есці,
Ой, як панясу яму есці,
Ой, ці не скажа мілы сесці.

Як панясу яму піці,
Ой, як панясу яму піці,
Ой, ці не стане гаварыці.

Ён наеўся, ён напіўся,
Ой, ён наеўся, ён напіўся,
Ой, на барозну нахіліўся.

— Што ж ты, мілы, што ж ты не п'еш,
Ой, што ж ты, мілы, што ж ты не п'еш,
Ой, што ты са мной не гаворыш?

— А я сяджу, шчэ й думаю,
Ой, а я сяджу, шчэ й думаю,
Ой, што пагану жонку маю.

— Хоць я рыжа ды пагана,
Ой, хоць я рыжа ды пагана,
Ой, да ўсякага дзела брана.

Да ўсякага дзела брана,
Ой, да ўсякага дзела брана,
Ой, да плуга, хоць да рала.

Хоць да плуга, хоць да рала,
Ой, хоць да плуга, хоць да рала,
Ой, да шыночку боса драла.

Да шыночку боса драла,
Ой, да шыночку боса драла,
Ой, бутылачкі выпівала.

Бутылачкі выпівала,
Ой, бутылачкі выпівала,
Ой, пад шыночкам начавала.

## 132. ЯК ПАЙДУ Я КАЛЯ ЛУГА

Як пайду я каля луга,
А мой мілы рые плугам.

А ён рые і гуляе,
Чужа жана валоў ганяе.

Свая стаіць за вазамі,
Абліваецца слязамі.

— Што ж ты, мілы,
чарнабрывы,
Што ж ты сядзіш і думаеш?

— Вот я сяджу і думаю,
Што я руду жонку маю.

— Хоць я руда, рудаліца,
З мяне добра маладзіца.

А ты чоран і паганы,
Не гадзішся і ў цыганы.

## 132й. ЯК ПАЕДУ Ў ЛЕС ПА ДРОВЫ

Як паеду ў лес па дровы,
Ну да я, ну да я [1].
Мая жонка чарнаброва.
Мая жонка знакаміта,
Задрыпана ззаду світа.
Як пайду я па-над лугам,
Там мой мілы арэ плугам.
А ён арэ шчэ й паводзіць,
А са мною не гаворыць.
Як панясу яму есці,
Ці не скажа, дзе мне сесці.
Ён напіўся, ён наеўся,
Ды й на раллю паваліўся.
Ой, ты чорны ды паганы,
Ідзі к чорту з цыганамі.
А я рыжа, даўгаліца,
З мяне перша маладзіца.
А я рыжа, доўгастана,
Хачу замуж я за пана.
Хачу замуж я за пана,
Будзе доля не пагана.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 132к. ОЙ, ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ

Ой, пайду я лугам, лугам,
Дзе арэ мой мілы плугам.
Панясу я яму есці,
Ці не скажа ён мне сесці.

Панясу я яму піці,
Ці не будзе гаварыці.
Ён наеўся і напіўся
І на раллю паваліўся.

— Чаго ляжыш, не арэш,
Чаго са мной не гаворыш?
— Ой, ляжу я ды й думаю,
Што няўдалу жонку маю.

Ой, няўдалу, нерадліву,
Да людзей негаварліву.
— Ці ты сватаўся уночы,
Каб вылезлі табе вочы.

Трэба было хадзіць удзень,
Ды й пытаціся ў людзей.
Нашы людзі не татары,
Што папала не сказалі б.

## 132л. ОЙ, ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ

Ой, пайду я лугам, лугам,
Там мой мілы арэ плугам.

Ён арэ ды й паводзіць,
Ён са мною не гаворыць.

Панясу я яму есці,
Ці не скажа ён мне сесці.

Ён наеўся, ён напіўся,
Ды й на лужок пахіліўся.

— Чаму, мілы, не арэш,
Чаму са мной не гаворыш?

— Ой, я ляжу ды й думаю,
Што рудую жонку маю.

— Я такая радзілася,
Чарняваму судзілася.

— Вой ты чорны ды паганы,
Ідзі к чорту ў цыганы.

А я бровы сажай ўмажу,
Чарнявую пераважу.

Не вылезлі табе вочы,
Як ты сватаў мяне ўночы.

Было сватаць табе ўдзень,
Папытацца ў людзей.

Нашы людзі не татары,
Усю праўдачку сказалі б.

## 132м. А Я РАЮ І НЕ РАЮ

А я раю і не раю,
Пару валоў запрагаю.
Ой, пару валоў запрагаю.

Панясу міламу есці,
Ці не пачую добры весці.
Ой, ці не пачую добры весці.

Міл наеўся, міл напіўся,
Пад цялегу зваліўся.
Ой, пад цялегу заваліўся.

Не вырвала бы табе вочы,
Не сватаўся бы мяне ўночы.
Ой, не сватаўся бы мяне ўночы.

Распытаў бы ў добрых людзей,
Пасватаўся бы мяне ўдзень.
Ой, пасватаўся бы мяне ўдзень.

Маё ж лічка брусянічка,
Сама слода, як ягода.
Ой, сама слода, як ягода.

## 132н. ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ

Пайду я лугам, лугам,
Там мой мілы арэ плугам.

Ён арэ, а я бачу,
Ён спявае, а я плачу.

Панясу я яму есці,
Ці не скажа: сядзем ўмесце.

Ён напіўся і наеўся,
Да й на бок пахіліўся.

— Чаго ляжыш да й не арэш,
Да й са мною не гаворыш?

— Ты нялюба, некрасіва,
Ідзі ад мяне ўтапіся.

Ідзі ад мяне ўтапіся,
Ты для мяне не гадзішся.

— На што сватаў мяне ўночы,
Ці не бачылі твае вочы?

Было сватаць мяне ўдзень
Ды пытацца ў людзей.

Нашы людзі не татары,
Яны б праўду расказалі.

## 132о. А [redacted] ПАЙДУ ЛУГАМ, ЛУГАМ

А я пайду лугам, лугам,
Дзе мой мілы арэ плугам.

Гарэ мілы і думае,
Што чарняву жонку мае.

— Бо чарнява радзілася,
Для белага згадзілася.

Панясу ж я яму есці,
Ці не скажа ён мне сесці.

Панясу ж я яму піці,
Ці не стане гаварыці.

Ён наеўся і напіўся,
На межачку адваліўся.

— Адчапіся, нелюбая,
Ёсць у мяне другая.

— Хоць у цябе тры-чатыры,
Я старшая над усімі.

На каберцу я стаяла,
Пярсцёнікамі мяняла.

## 132п. ОЙ, ПАД ЛЕСАМ, ОЙ, ПАД ЛУГАМ

Ой, пад лесам, ой, пад лугам
Там мой мілы арэ плугам.

Ой, ён арэ, а я плачу,
Маладыя гады трачу.

Панясу ж яму я есці,
Ці не скажа ён мне сесці.

Панясу ж яму я піці,
Ці не будзе гаварыці.

Ён наеўся, ён напіўся,
На межачку нахіліўся.

— Чаму, мілы, не гаворыш,
Маё сэрца нажом кроіш?

— Ой, адсунься ж, нелюбая,
Няхай сядзіць тут другая.

— Хоць пасадзі тры-чатыры,
А я старшая над імі.

А дзе былі твае вочы,
Як ты ехаў ка мне ўночы?

Чаму ў людзей не пытаўся,
Як ты са мной заручаўся?

## 133. МАЯ ЖОНКА ЗНАКАМІТА

Мая жонка знакаміта,
Задрыпана ззаду світа.

І на ножку налягае,
І на спіне горбік мае.

І згорбіцца, бы старая,
І сядзіць, як жаба тая.

Гадка, брыдка, рудаброва,
А твар, як кара дубова.

Мая жонка пышна вельмі,
На работу не йдзе, шэльма,

Толькі спіць ды ляжыць
І не хоча рабіць.

Скажаш: снедаць — за лоб смыча,
Дай абедаць — хвігі тыча.

На вячэру кулакі
Усё тычыць пад бакі.

А як ляжа яна спаці,
Выганяе мяне з хаты.

## 134. Я І УЧОРА КАСІЎ

— Я і ўчора касіў
І сягоння касіў.
— Ой, хто ж табе, мой міленькі,
Ды абедаць насіў?

— Прынасіла ж яна,
Ды галубка мая.
Кудравая ды бялявая,
Лябёдачка мая.

— Я і ўчора араў
І сягоння араў.
— А хто ж табе, мой міленькі,
Ды волікаў паганяў.

— Паганяла ж яна,
Ды галубка мая.
Кудравая ды бялявая,
Лябёдачка мая.

### 135. АХ, БЯДА, БЯДА, БЯДА *

Ах, бяда, бяда, бяда,
Пайду я да суседа,
А ў суседа люба жана,
Як пабачу — сэрца млее.

Суседава ўрадліва,
Тлуста, бела, чарнабрыва,
Мая худа, рудаброва,
Суха, як кара дубова.

Суседава па бяседах,
Па хрэсьбінах, па ладзьбінах,
Мая дурна, як сініца,
Ў кампанію не гадзіцца.

Суседава скача, пляша,
Мая толькі людзей страша,
І згорбіцца, як старуха,
І сядзіць, як каматуха.

Суседаву гуляць просяць,
Маю хочуць вон выбросіць,
Ці не жаль, ці не жаль
Маладому казаку!

### 136. БУДЗЕМ ЖОНАК МЯНЯЦЬ

Дваранін селяніну:
— Будзем жонак мяняць.
Твая тонка і высока,
Мая груба, касавока.
Дам табе прыдатачку —
Сто рублёў бумажачку,
Сто рублёў бумажачку,
Коніка і хатачку.

— А я жонкі не мяняю
І прыдачы не жадаю.
— Ды хоць я ў бяду ўпаду,
Ад селяніна жонку ўкраду.
Ды хоць я павалюся,
А за жонкай паганюся.

## 137. ЕХАЎ ЛАЗАР З УКРАІНЫ

Ехаў Лазар з Украіны,
Згубіў жонку ў каляіне.
— Чом ты, жона, не крычала,
Як із воза выпадала?

— Ой, каб жа ты, добры муж,
То зрабіў бы добры воз.
— Ой, каб ты, добра жона,
То сядзела б заўшэ дома.

## 138. У МАЙГО МІЛОГА

У майго мілога
Няма праўды ніякой:
Чужым жонам башмачкі,
Сваёй жонцы лапцікі.
— Насі, жана, не марай,
Па святах абувай.
А [redacted] мужу саграшу,
Як пашыю сарочку
З крапіўнага лісточку,
Каб і цела не свярбела
І у лазню не хацела.

## 139. ПАЕХАЎ МУЖ НА МЕЛЬНІЦУ

Паехаў муж на мельніцу,
Пазабыў, пазабыў, пазабыў мяшкі,
А я, малада, нелянівая была,
Не лянівa, тараплівa, шчэ й дагадлівая.
Схвачу мяшкі ды за ім бяжкі,
Ды за ім, ды за ім, ды за ім бяжкі.

Паехаў муж бараніці,
Пазабыў, пазабыў, пазабыў барану,
А я, малада, нелянівая была,
Не ляніва, тарапліва, шчэ й дагадлівая.
Схвачу борну ды за ім дзёрну,
Ды за ім, ды за ім, ды за ім дзёрну.

Паехаў муж ваду браці,
Пазабыў, пазабыў, пазабыў бочку,
А я, малада, нелянівая была,
Не ляніва, тарапліва, усё й дагадлівая.
Схвачу бочку ды за ім скочу,
Ды за ім, ды за ім, ды за ім скочу.

## 140. ПАЕХАЎ, ПАЕХАЎ СЦЯПАН ПА ЛЕСУ

Паехаў, паехаў Сцяпан па лесу,
Пакінуў, пакінуў дома Тарэсу.

Тарэса, Тарэса абед гатуе,
У Тарэсы, у Тарэсы казёл начуе.

А ў печы, а ў печы пятух пячэцца,
На сцяне, на сцяне бізун смяецца.

На стале, на стале чаркі гарэлкі,
За сталом, за сталом дзеўкі-паненкі.

На стале, на стале ражкі табакі,
Пад сталом, пад сталом хлопцы-сабакі.

На стале, на стале ляжаць скарынкі,
Пад сталом, пад сталом хлопцы як свінкі.

# НЕ ТАКІ МУЖ, ЯК ХАЦЕЛА

## 141. ЧАБАРОК, ЧАБАРОК *

Чабарок, чабарок,
Ды каля дарожкі,
Харошанькі мой міленькі,
Ды крывыя ножкі.
Ох, ох, ды крывыя ножкі [1].

А мой жа ты даўганосы,
Ой, які ж ты нехарошы,
Каб ты быў такі, як я,
Дык даўно была б твая.

Каля саду я хадзіла,
Ды шчыпала вішні.
Дай жа, божа, кавалера,
Ды пад мае мыслі.

Каб і люльку не курыў,
Табакі не нюхаў,
Чужых жонак не любіў,
Адну мяне слухаў.

## 142. МЯНЕ, МОЛАДУ, ВЯЗУЦЬ

Мяне, моладу, вязуць,
Усёй пагібеллю бяруць,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Усёй пагібеллю бяруць.

А свякроўка гаварыць:
— Змяю лютую вязуць.
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Змяю лютую вязуць.

---

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца двойчы з воклікам «Ох, ох».

А свёкар гаварыць:
— К нам мядзведзіцу вязуць,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
К нам мядзведзіцу вязуць.

А дзевяры гавараць:
— К нам не ткаллю вязуць.
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
К нам не ткаллю вязуць.

Ляжыць свёкар на палаці,
Як сабака на канаці,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Як сабака на канаці.

А свякроўка на печы,
Як сучка ў клеці,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Як сучка ў клеці.

А дзевяры сакалы,
Як чорныя сабалі,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Як чорныя сабалі.

А залоўкі-калатоўкі,
Ўсё калоцяць ды муцяць,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Усё калоцяць ды муцяць.

Ўсё калоцяць ды муцяць,
Хочуць з мілым разлучаць,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Хочуць з мілым разлучаць.

Вы, залоўкі-калатоўкі,
Самі ў людзі пайдзіце,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Самі ў людзі пайдзіце.

Самі ў людзі пайдзіце,
Сабе гэтае найдзіце,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Сабе гэтае найдзіце.

А муж на лавачцы сядзіць,
Скоса на мяне глядзіць,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Скоса на мяне глядзіць.

Ты касіся, не касіся,
Не баюся я цябе,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Не баюся я цябе.

Не баюся я цябе,
Не ўдарыш ты мяне,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Не ўдарыш ты мяне.

Муж на гаранькі пайшоў,
Жонку по вуху аплёў,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Жонку по вуху аплёў.

Жана руку адвяла,
Па ўсёй хары задала,
Ха-ха-ха, ха-ха-ха,
Па ўсёй хары задала.

## 143. ОЙ, БЯДА Ж МАЯ *

Ой, бяда ж мая
Ды над бядою,
Маёй матулькі
Двор над вадою [1].

Не хачу піці,
Ані я есці,
Што не для кога
Тугу разнесці.

Мая матулька
Перабарліва,
Выбрала зяця,
Што мне не мілы.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Касіць не ўмее,
Араць не смее,
Хто ж, маладой, мне
Поле засее?

Засею поле
Хоць канаплямі,
Забараную
Хоць вераб'ямі.

Засею поле
Хоць пшаніцою,
Забараную
Хоць курыцою.

Пшаніца ссохла,
Курыца здохла,
А канапелька
Ўсё зяляненька.

А канапелька
Ўсё зяляненька.
Я, маладая,
Ўсё маладзенька!

### 143а. МАЯ МАТУЛЯ

Мая матуля
Па мне бядуе:
— Дзе мая дочка
Ночку начуе.

Начуе ночку
Пад каліною,
Белыя ручкі
Пад галавою.

— Мая матуля,
Не бядуй па мне,
Ты гаварыла,
Не забудзеш мяне.

Пазбыць пазбыла
У адзін дзянёчак,
Цяпер не ўбачу
Цэлы гадочак.

Ой, каб я мела
Цяцер'е пер'е,
Я б да матулі
Пераляцела.

Ой, каб я мела
Цяцер'е скрыдла,
Я б да матулі —
Хоць сярод тыдня.

Ой, каб я мела
Саколлі вочкі,
Я б да матулі —
Хоць сярод ночкі.

Мая матуля
Перабарніца,
Выбрала зяця
Не рабатніка.

Касіць не ўмее,
Араць не смее.
А хто маладой ніўку засее,
Ніўку засее?

Засею ніўку
Хоць пшаніцою,
Забараную
Хоць курыцою.

Засею ніўку
Хоць канаплямі,
Забараную
Хоць вераб'ямі.

Засею ніўку
Хоць дробным макам,
Забараную
Дворным сабакам.

## 144. ОЙ, БЫУ У МЯНЕ МУЖЫЧОК З КУЛАЧОК

Ой, быў у мяне мужычок з кулачок,
А не ўмее мой мужычок ні араць, ні касіць.
Толькі ўмее мой мужычок са мной наругацца
Ды за мае русы косы ў аберучкі брацца.
Ды вазьму я, малодачка, раменныя лейцы,
Ды павяду свайго мілага ў лес у мурашкі.
Сядзі, сядзі, мой міленькі, хоць і тры нядзелі,
Чаму ж цябе, мой міленькі, мурашкі не з'елі?
— А мая ж ты міленькая, я болей не буду,
Колькі жыці буду, цябе не забуду,
Тваёй кары, тваёй кары павек не забуду.

## 145. А Ў МЯНЕ ЁСЦЬ МУЖЫЧОК З КУЛАЧОК

А ў мяне ёсць мужычок з кулачок,
А я яго завяжу ў вузялок.

А я яго на куце пасаджу,
А я яго ладачкай угашчу.

А [redacted] яму латку масла,
Каб ён мяне цалаваў часта.

## 146. ОЙ, НЕ ЖАЛЬ ЖА МНЕ НІ НА КОГА

Ой, не жаль жа мне ні на кога [1],
Як на татульку раднога,
А што аддаў мяне за малога.
А малы не ўмее абувацца,
Толькі ўмее наругацца.
А перак пасцелькі спаць лажыцца,
А к сцяне ліцом варацінца,
А к сцяне ліцом, ка мне плячком.
Пайду я, молада, у новы сені,
Вазьму я, молада, круты вожкі,
Звяжу я малому ручкі, ножкі,
А тады ў малога папытаю:
— А ці будзеш, малы, наругацца,

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

А перак пасцелькі спаць лажыцца,
А к сцяне ліцом варацíцца,
А к сцяне ліцом, ка мне плячком.
— Не буду, мілая, я не буду,
А навек, мілая, не забуду.

## 147. А Ў МЯНЕ, МАЛАДЗЕ

А ў мяне, маладзе,
Ды чатыры бяды.
А чацвёртую бяду
Я ніколі не збуду.
А як першая бяда,
Што далёка замужам.
А другая бяда,
Што мацеры няма.
А як трэцяя бяда —
Шэры конь на дварэ,
А чацвёртая бяда,
Што мой муж нехарош.
На базары была —
І цаны яму няма.
Усе водзяцца з бычком,
Я важуся з мужычком,
Усім грошы даюць,
Майго й дарам не бяруць.

## 148. ЦЕРАЗ САД-ВІНАГРАД *

Цераз сад-вінаград
Па ваду хадзіла,
Чаму ж мяне той не ўзяў,
Каго я любіла?

Ой, ўзяў мяне той,
Каго я не знала,
Ўсё за тыя пераборы,
Што перабірала.

І капуста мая,
І качанне маё,
Харошая дзяўчыначка
І каханне маё!

І капуста мая,
І лісточкі мае,
Дзе мой мілы пахаджае,
Там і вочкі мае!

## 149. І, ОЙ, ПАРАЙ, МАМКА, ПАРАЙ

— І, ой, парай, мамка, парай, [1]
І як з нялюбым мужам жыць?
— І параю, дзіцятка,
— І параю, дзіцятка,
І параю, міленькае:
І занясі ў цёмны лес,
І палажы пад ёлачкай,
І накрый саломачкай,
І падпалі лучыначкай,
І выйдзі на вулачку,
І крыкні гвалт-ратуначку.
І, здаецца, і гром не быў,
І мілога пярун забіў.
І маланка не смаліла,
І мілога запаліла.

## 150. А ЖАНА МУЖА ДА НЕ ЛЮБІЛА

А жана мужа да не любіла,
Завяла ў садок ды загубіла.

А жана мужа ды пацешыла,
Завяла ў садок ды павесіла.

На добрым дрэўцы ды на яблынцы,
Пайшла ў карчомку, выпіла чарку.

Прыйшла дадому, села на полу,
Разувалася, раздумлялася.

Як пайшла ў садок паслухаючы,
Свайго мілога паклікаючы.

Злазь, мой міленькі, злазь ты далоў,
Пайдзём, міленькі, з табою дамоў.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

13. Зак. 500

Ці ты яблычкаў не наеўся,
Ці ты пташачак не наслухаўся?

Еў ты яблычкі вінаградныя,
Чуў ты пташачкі ненаглядныя.

## 151. ЖАНА МУЖА ШАНАВАЛА

Жана мужа шанавала,
На папары навязала.
І паклала сена вязку
І паставіла вады ражку.
Сама прышла на трэці дзень:
Сена вязка цалюсенька
І вады ражка паўнюсенька.
— А жана ж мая міленькая,
Пусці мяне жывенькага.

## 151а. ЖАНА МУЖА ШАНАВАЛА

Жана мужа шанавала,
На папары навязала:

— Ой, еш, мужу, папарніцу
Ды пі ваду лугавую.

Папарная вада сытна,
А лугавая вада пітна.

Жана мужа пацешыла,
Узяла яго павесіла.

— Няхай ён праветрае,
Можа да мяне палепшае.

## 151б. ЖОНКА МУЖА ШАНАВАЛА

Жонка мужа шанавала,
На папары павязала:

— Еш, муж, траву папарную,
Пі ваду крынічную.

Папарная трава сытная,
Крынічная вада пітная.

Мужа злосць апанавала,
І паплёўся ён да сала.

Шчэ адрэзаў краец хлеба
Ды намяўся так, як трэба.

### 151в. ЖАНА МУЖА ШАНАВАЛА

Жана мужа шанавала [1],
На папары навязала,

Палажыла сена вязку,
Паставіла вады рашку:

— Еж, мой міленькі, ды напівайся,
На чужых жонак не заглядайся.

Я б навязала на канюшыне,
Дык я баюся, што ён загіне.

Я б навязала на сарадэлі,
Так баюся, каб ваўкі не з'елі.

Сама пашла назаўтра глядзець:
Вязка сена цалюсенька,

Ражка вады паўнюсенька,
А мой мілы круглюсенькі.

### 151г. ПАРОС ЯЧМЕНЬ ДЫ НА КАРАНІ

Парос ячмень ды на карані,
Прывязала жана мужа на рамяні.

Палажыла сена вязачку,
Паставіла вады ражачку.

Не хадзіла яна дзень-другі,
А на трэці захацела паглядзець.

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

— Жона мая ды баярына,
Пусці мяне на пакаянне.

Буду табе і талоць і малоць,
Буду табе і вадзіцу насіць.

Буду табе і дзіця калыхаць,
Буду табе і ў спіну даваць.

## 151д. ДЫ У АСІНАВЫМ ЛЕСЕ

Ды ў асінавым лесе
Жана мужа выбіла.

Жана мужа выбіла
Ды на папар вывела:

— Пі ваду балотную,
Еж траву асотную,

Еж траву асотную,
Не траві бязродную.

Калі ўзяў мяне за жоначку,
Шануй мяне.

Не хочаш шанаваць,
Не буду даглядаць.

## 152. ЖОНКА МУЖА ЗНАРАВІЛА

Жонка мужа знаравіла,
Тры дні ў печы не паліла.

Тая печ адубела,
Бо палена дроў не мела.

Жонка мужа запрагае,
У лес па дровы выязджае.

Прыехала да лесу:
— Тпру! Стой! Бо павешу.

Сама дровы сабірае,
Велькі воз накладае.

Велькі воз накладае,
На дарогу выязджае.

Яшчэ бічам падганяе.
Пад гару сама сядае:

— Вы, панове, дарогу дайце,
Мне коніка не пугайце.

Бо ён панскага роду,
Не вазіў ён дроў з роду.

Пад гару прыстанавіўся,
Муж у жонкі папрасіўся:

— Прадай, жонка, ўсю скацінку,
Купі яму кабылінку.

А вы, хлопцы, тое знайце,
Што з пасагам не шукайце.

Хто з пасагам жонку мае,
На хрыбце дровы цягае.

## 153. ЖАНА МУЖЫКА ДА Й ПАЦЕШЫЛА

Жана мужыка да й пацешыла,
Ай, да пацешыла,
Павяла ў зелен сад ды завешала,
Ай, ды завешала.

Прайшоўшы ў двор, села на палу,
Ай, села на палу.
Села на палу, павешала галаву,
Ай, павешала галаву.

Села на палу, павешала галаву,
Ай, павешала галаву.
Павешала галаву ды заплакала,
Ай, ды заплакала.

— Пры худым мужу жыць было худа,
Ой, жыць было худа.
Без худога мужыка жыць пахужала,
Ой, жыць пахужала.

— Мужуленька мой, палязай далой,
Ой, палязай далой.
Ці ты пташачак не наслухаўся,
Ой, не наслухаўся?

Ці ты пташачак не наслухаўся,
Ой, не наслухаўся,
Сладкіх яблычкаў не накушаўся,
Ой, не накушаўся?

## 154. ОЙ, НАЙДЗІ, ХМАРКА

Ой, найдзі, хмарка,
Нада мною, маладою.
Ой, убі ж, убі ж, хмарка,
Нялюбага у дарозе.
Нялюбага у дарозе,
А свякруху на парозе,
А свякруху на печы
Таўкачом ёй у плечы.

## 155. ОЙ, БОЖА МОЙ, ШТО Я НАРАБІЛА

Ой, божа мой, што я нарабіла,
Ды пашла замуж за двараніна.

Пашла па ваду — вядро разбіла,
Прышла дадому — свякроў набіла.

# ЛЮТАЯ СВЕКРЫВА І ЛЯНІВАЯ НЯВЕСТКА

## 156. МАЛАДАЯ МАЛОДАНЬКА

— Маладая малоданька,
Стала табе прыгоданька:
Упала твая матка з печы,
Забіла сабе плечы.

— Каб я тую бяду знала,
То б я пасцеленьку слала:
Пад бачэнькі пярынанькі,
Пад галоўкі падушачкі.

— Маладая малоданька,
Стала табе прыгоданька:
Упала твая свякроў з тыну
У жыжку крапіўку.

— Каб жа я тое знала,
То б я пасцеленьку слала:
Пад бачэнькі паленанькі,
Пад галоўку каменанькі.

## 157. МАЛАДАЯ МАЛОДАЧКА

— Маладая малодачка,
У цябе дома прыгодачка:

Звалілася свякроў з тыну,
Паламала ўсю крапіву.

— Не жаль жа мне свякровачкі,
А жаль жа мне крапівачкі.

Свякроў стара, сама ўстане,
А крапіўка ссохне, звяне.

## 157а. У МЯНЕ ДОМА БЯДА СТАЛА

У мяне дома бяда стала,
У мяне дома бяда стала:
Свякровачка з плоту ўпала,
З плоту ўпала.

Ой, не жаль свякровачкі,
Ой, не жаль свякровачкі,
Да жаль жа крапівачкі,
Крапівачкі.

Ой, жаль мне крапівачкі,
Ой, жаль мне крапівачкі,
Крапівачку паламала,
Паламала.

Крапівачка, як мост, ляжыць,
Крапівачка, як мост, ляжыць,
Свякровачка, як конь, бяжыць,
Як конь бяжыць.

## 157б. А У МЯНЕ ЎЧОРА БЯДА ЗРАБІЛАСЯ

А ў мяне ўчора бяда зрабілася:
Свякроўка з печы звалілася.

Свякроўка з печы звалілася,
На барану прабілася.

Не жаль жа мне свякровачкі,
А жаль жа мне бароначкі.

Бароначка пахаць будзе,
Свякровачка здыхаць будзе.

Ты свякровачка мамка,
А прышла б на цябе ямка.

Няма на цябе смерці,
Не задавяць цябе чэрці.

## 157в. Я, МОЛАДА, ДАМОЎ ІДУ

Я, молада, дамоў іду,
А я дома бяду знайду:

Звалілася свякроў з тыну
У жычкавую крапіву.

Не так шкода свякровачкі,
А як шкода крапівачкі.

Я свякровачку журыць буду,
Я крапівачку варыць буду.

## 157г. ОЙ, Я Ў ПОЛІ ЛЯНОК БРАЛА

Ой, я ў полі лянок брала,
Сама сябе забаўляла.

Цэлы дзень я работала,
Ў мяне дома бяда стала:

Свякроў мая ў гарод пайшла
Травы шукаць — бяду знайшла.

Крапівачку патаптала,
На печ легла — захварала.

Не жалка мне свякровачкі,
А жалка мне крапівачкі.

Свякровачка здыхаць будзе,
Крапівачка ляжаць будзе.

Свякровачку ў пяскі звязуць,
Крапівачку свінні з'ядуць.

## 157д. СВЯКРОВАЧКА ЖУРЛІВАЯ

Свякровачка журлівая
На баране прабілася.

Не жаль жа мне свякроўкі,
А жаль жа мне баронкі.

Свякроўка ў сваім доме,
А баронка ў полі.

Свякроўка хварэць будзе,
А баронка араць будзе.

## 157е. СКІНЬ СВЯКРОУКУ У КРАПІВУ

Скінь свякроўку ў крапіву.
Зваліласся свякроўка з тыну,
Стаіць галавой у крапіву.
Сабе шыі не зламала,
Мне крапіўку патаптала.
Не жаль жа мне свякровачкі,
Да жаль жа мне крапівачкі.
Крапівачка — яда мая,
Свякровачка — журба мая.

## 157ё. А Я У ПОЛІ ЖЫТА ЖАЛА

А я ў пылі жыта жала,
Ў мяне дома бяда стала:

Свёкар з печы зваліўся,
У карыце ўтапіўся.

У карыце ўтапіўся,
Мякінаю падавіўся.

## 158. А ШТО У МЯНЕ

А што ў мяне
За свякроўка,
Божа мой!

Загадала мне
Тры работачкі,
Божа мой!

Загадала мне
У суботачку мачыць,
Божа мой!

У суботачку мачыць,
У нядзелю жлукціць,
Божа мой!

На моры бяліць,
Верх лесу сушыць,
Божа мой!

Па небу качаць,
У дзерцы складаць,
Божа мой!

Ці ж я татарка —
У суботу мачыць,
Божа мой!

Ці ж я таргоўка —
У нядзелю жлукціць,
Божа мой!

Ці ж я вутачка —
На моры бяліць,
Божа мой!

Ці ж я птушачка —
Верх лесу лятаць,
Божа мой!

Ці ж я зорачка —
Паверх небу качаць,
Божа мой!

Ці ж я пчолка —
Ў дзерціну складаць,
Божа мой!

## 158а. ЕЛЬ МАЯ ЗЯЛЁНАЯ

Ель мая зялёная,
Свякроўка мая шалёная.

Загадала мне работку рабіць,
Работку рабіць, мне адзежу памыць.

Адзежу памыць у нядзельку,
У нядзельку памыць, верх лесу сушыць.

Верх лесу сушыць, па небу каціць,
Па небу каціць, у варэшак злажыць.

— Мая свякроўка, я ж не таргоўка,
Я ж не таргоўка ў нядзельку мыць.

Я ж не птушачка верх лесу сушыць
Я ж не зорачка па небу каціць.

Я ж не зорачка па небу каціць,
Я ж не белачка ў варэшак злажыць.

## 159. А ЕЛЬ МАЯ ЗЯЛЁНАЯ

А ель мая зялёная,
Свякроў мая шалёная.

На ель лезла —
Кару грызла.

А з елі зваліласся,
Крэпка пабілася.

Аб пень бокам,
На сук вокам.

## 160. ЗАСТУЧЫ, МАЯ ДУБІНКА

Застучы, мая дубінка,
Загудзі, мая валынка,
Люба, люба, люба, люба,
Задудзі, мая валынка.

Баба стара напілася
Ды па вуліцы прайшлася,
Люба, люба, люба, люба,
Ды па вуліцы прайшлася.

Усю траўку прытаптала,
Тры чобаты патаптала,
Люба, люба, люба, люба,
Тры чобаты патаптала.

У нас дома нездароўе,
Свёкар з печы зваліўся,
Люба, люба, люба, люба,
Свёкар з печы зваліўся.

Свёкар з печы зваліўся,
За калоду заваліўся,
Люба, люба, люба, люба,
За калоду заваліўся.

За калоду заваліўся,
Каўбасою падавіўся,
Люба, люба, люба, люба,
Каўбасою падавіўся.

Калі б я зараней знала,
Я б павышай печ узняла,
Люба, люба, люба, люба,
Я б павышай печ узняла.

## 160а. КАБ ЧАРАЧКА ГАРЭЛКІ

Каб чарачка гарэлкі,
Я б п'яна напілася.
Люлюшкі, люлі.

Я б п'яна напілася,
Ўдоўж па вуліцы прайшлася б.
Люлюшкі, люлі.

Мяне дома не бывала,
Ў мяне дома бяда стала.
Люлюшкі, люлі.

Свёкар з печкі зваліўся,
За калоду заваліўся.
Люлюшкі, люлі.

За калоду заваліўся,
Ветчыною падавіўся.
Люлюшкі, люлі.

### 161. ЯК Я ДЗЕЎКАЙ БЫЛА

Як я дзеўкай была,
Я й работніцай была.
Ой, дуды, дуды, дуды,
Я й работніцай была.

А як замуж пайшла —
Разгультаілася.
Ой, дуды, дуды, дуды,
Разгультаілася.

Як пайшла я па ваду
Ды й забавілася.
Ой, дуды, дуды, дуды,
Ды й забавілася.

Маладзіцу напаткала —
Загукалася.
Ой, дуды, дуды, дуды,
Загукалася.

А кісель у пячы
Падгарэў кіпючы.
Ой, дуды, дуды, дуды,
Падгарэў кіпючы.

А свёкарка на пячы
Ашалеў крычучы.
Ой, дуды, дуды, дуды,
Ашалеў крычучы.

А свякроўка на пячы,
Памагаючы яму.
Ой, дуды, дуды, дуды,
Памагаючы яму.

А дзеверка на лаве,
Памагаючы маме.
Ой, дуды, дуды, дуды,
Памагаючы маме.

А міленькі праз парог,
Ён усіх перамог.
Ой, дуды, дуды, дуды,
Ён усіх перамог.

## 161а. ЯК Я ДОМА ЖЫЛА

Як я дома жыла,
То й работніца была.
Ой, дуды ж мае, дуды,
То й работніца была.

А як замуж пайшла —
Разгультаілася.
Ой, дуды ж мае, дуды,
Разгультаілася.

Па вадзіцу пайшла —
Прызабавілася.
Ой, дуды ж мае, дуды,
Прызабавілася.

А кісель у пячы
Прыгарэў кіпючы.
Ой, дуды ж мае, дуды,
Прыгарэў кіпючы.

А свёкар на пячы
Ашалеў крычучы.
Ой, дуды ж мае, дуды,
Ашалеў крычучы.

А свякроўка на палу,
Памагаючы яму.
Ой, дуды ж мае, дуды,
Памагаючы яму.

Мой муж за сталом
Абуваецца.
Ой, дуды ж мае, дуды,
Абуваецца.

Мяне біць, маладу,
Сабіраецца.
Ой, дуды ж мае, дуды,
Сабіраецца.

— Ой, не бі ж мяне ўдзень,
Не смяшы ўсіх людзей.
Ой, дуды ж мае, дуды,
Не смяшы ўсіх людзей.

А бі мяне з паўначы,
Каб было як уцячы.
Ой, дуды ж мае, дуды,
Каб было як уцячы.

### 161б. У МАТУЛІ ЖЫЛА

У матулі жыла,
Работніца была.
Ой, люлі, хараша,
І работніца была.

А замуж пайшла —
Разгультаілася.
Ой, люлі, хараша,
Разгультаілася.

Па вадзіцу пайшла —
Ды й забавілася.
Ой, люлі, хараша,
Ды й забавілася.

А свёкар на пячы
Ашалеў крычучы.
Ой, люлі, хараша,
Ашалеў крычучы.

А свякроўка на палу,
Памагаючы яму.
Ой, люлі, хараша,
Памагаючы яму.

Дзевярочкі ж мае,
Бараніце мяне.
Ой, люлі, хараша,
Бараніце мяне.

### 161в. А Я У МАМКІ БЫЛА

А я ў мамкі была
За работніцу,
А як замуж пайшла —

Разгультаілася.
Ох, так харашо,
Разгультаілася.

Па вадзіцу пайшла —
Прызабавілася.
Гаршкі ў печы
Раскіпеліся.
Ох, так харашо,
Разгультаілася.

А свякроўчык на пячы
Аж ахрып, крычучы.
Ох, так харашо,
Разгультаілася.

Дзевяр'ё, як звяр'ё,
Па-за столлю сядзяць
Аба мне, маладой,
Усяго гаварацъ.
Ох, так харашо,
Разгультаілася.

А мой міленькі
Абуваецца,
Мяне біць, маладу,
Сабіраецца.
Ох, так харашо,
Разгультаілася.

— А не бі мяне ўдзень,
Не смяшы ўсіх людзей.
Ох, так харашо,
Разгультаілася.

## 161г. ЯК Я У ТАТКІ БЫЛА

Як я ў таткі была,
Работніца была.
Эй, люлі, хараша,
Работніца была.

Як к свёкру пайшла,
Разгультаілася.
Эх, люлі, хараша,
Разгультаілася.

Па вадзіцу пайшла
Прызабавілася.
Эй, люлі, хараша,
Прызабавілася.

А ў печы гаршкі
Раскіпеліся, стоячы,
Эй, люлі, хараша,
Раскіпеліся, стоячы.

А мой свёкар на печы
Разбубнеўся, лежачы.
Эх, люлі, хараша,
Разбубнеўся, лежачы.

А свякруха на палу,
Памагаючы яму.
Эх, люлі, хараша,
Памагаючы яму.

Дзевяры, як звяры,
І ўсе тыя на мяне.
Эх, люлі, хараша,
І ўсе тыя на мяне.

А залоўкі, як звяроўкі,
Падгаварваючы.
Эх, люлі, хараша,
Падгаварваючы.

А мой мілы ды ў куток,
А бярэцца за пруток.
Эх, люлі, хараша,
Ды бярэцца за пруток.

А бадай ты не даждаў,
Каб мяне ты забіваў.
Эй, люлі, хараша,
Каб мяне ты забіваў.

Не ты ж мяне гадаваў,
Не ты ж мяне няньчыў.
Эх, люлі, хараша,
Не ты ж мяне няньчыў.

А ўсе тває труды,
Што мяне ты перавёз.
Эх, люлі, хараша,
Што мяне ты перавёз,

На саломе і на валу,
На чужую старану.
Эх, люлі, хараша,
На чужую старану.

## 161д. ЯК Я У МАМКІ ЖЫЛА

Як я ў мамкі жыла.
Дык работніца была.

А як замуж зайшла —
Разгультаілася.

Па вадзіцу пайшла —
Маладзіцу знайшла,

Маладзіцу знайшла —
Загукалася.

А ў печы кісель,
Кіпючы, прыгарэў,

А свякор на пячы,
Ашалеў крычучы.

А свякроўка на палу,
Памагаючы яму,

А залоўка на лаве,
Памагаючы маме.

А дзеверка на парог,
Ён усіх перамог,

А міленькі за сталом
Ні па сім ні па том.

— Ты, мілая, уцякай,
Праз аконца умыкай.

— А чорт яго ўцячэ,
Як здагоніць — абаб'е.

## 162. СЯДЖУ-ПАСЯДЖУ, НА КУМУ ГЛЯДЖУ

Сяджу-пасяджу, на куму гляджу,
На куме кашуля семсот каштуе.

Не сама ткала, не сама прала,
За крупы, сала тоненька скрала.

Пшонка-шатроўка гусценька ткала,
А гарох, бурачок беленька бяліў,

А ячмень-шаршок у трубку скаціў.
Сачыўка дробная пашыла добра,
Беленькі авёс у хату прынёс.

## 163. ЯК ПА ВУЛІЦЫ ДЗЯРКАЧ, ПА ШЫРОКАЙ ДЗЯРКАЧ

Як па вуліцы дзяркач, па шырокай дзяркач.
Ён нагу праз нагу перавальвае,
Сваю дочку Хадорачку падхвальвае:
— Як была, была доч, доч Хадоранька мая,
Учыніла дзяжу ды на сем жа нядзель.
Як на восьмую нядзелю стала хлеб мясіці.
На прыпечку пякла, качаргой валакла.
Паклала ў карабок, панясла на таржок.
Ніхто хлеба не купляе, ніхто дурна не бярэ.
Адкуль ўзяліся салдаты, гасударавы рабяты.
Яны хлеба не куплялі, толькі цану накладалі:
— Харош хлеб, харош, па тры хунцікі на грош.
Адкуль узялася ды папова свіння.
Яна хлеба не кушала, толькі лыч памарала.
Тры нядзелі пахварала, на чацвёртую прапала.

## 164. УЧЫНІЛА Я БЛІНЫ

Учыніла я бліны
На ўчарашняй вадзе.
Ой, бліны мае, бліны,
Бліны масляныя [1].

Уваліўся прусак,
Зверху ножкі намакаў.

А я бліны напякла,
На базар іх панясла.

А ніхто маіх бліноў
На базары не купіў.

Адна свіння падышла,
Панюхала ды пайшла.

А другая падышла,
Усё паела ды пайшла.

На гары агонь гарыць,
У свінні жывот баліць.

На гары агонь патух,
У свінні жывот распух.

## 165. ЗАМУЖ ІСЦІ — ТРЭБА ЗНАЦЬ

Замуж ісці — трэба знаць:
Позна легчы, рана ўстаць.
Хаху-хаху, баю-баю,
Галаваньку бедну маю [1].

Хату таплю, дзяжу мяшу,
Дзіця крычыць, я калышу.

Пакуль дзяжу замясіла,
Свіння дзверы выставіла.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Ідзі, свіння, да карыта,
Будзеш, свіння, больна біта.

А глядзелі хлопцы з бору
Ды на мяне, чорнаброву.

А глядзелі хлопцы з садку
Ды на мяне тоўсту, гладку.

## 165а. ЗАМУЖ ПАЙСЦІ — ТРЭБА ЗНАЦІ *

Замуж пайсці — трэба знаці,
Позна легчы, рана ўстаці.
Ох, я, бедна ж я,
Бедна галоўка мая [1].

Мужычок мой муку сее,
А я рада, што ўмее.

Пакуль хлеб я замясіла,
Свіння дзверы заваліла.

Пакуль дзверы ўставіла,
Дык і мужа ўгнявіла.

Пакуль мужа загадзіла,
Свіння ўсе гаршкі пабіла.

## 165б. ЗАМУЖ ПАЙСЦІ — ТРЭБА ЗНАЦЬ *

Замуж пайсці — трэба знаць,
Позна легчы, рана ўстаць.
Ох, я, малада,
Бедна галоўка мая! [1]

Ледзьве тыдзень па вяселлі —
І прыносіць муж кудзелю.

— Кудзелю і верацёна,
Для цябе, мая ты жона.

Трэба ткаці, трэба прасці:
Няма белля ані ўскласці.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

А мужык муку сее,
А я рада, што ўмее.

Пакуль хлеб я замясіла,
Свіння дзверы адчыніла

Пакуль дзверы зачыніла,
Дык і мужа ўгнявіла.

Пакуль мужа загадзіла,
Дык свіння гаршчок пабіла.

### 165в. ЗАМУЖ ПАЙСЦІ — ГОРА ЗНАЦІ *

Замуж пайсці — гора знаці:
Позна легчы, рана ўстаці [1].

Ледзьве тыдзень па вяселлі
І прыносіць муж кудзелю.

— Кудзеля і верацёна
Ля цябе, мая ты жона!

А мужык мой муку сее,
А я рада, што ўмее.

Пакуль хлеб я замясіла,
Свіння дзверы адчыніла.

Пакуль дзверы зачыніла,
Дык і мужа ўгнявіла.

Пакуль мужа спакаіла,
Дык свіння гаршчок пабіла.

### 165г. А БОЖА МОЙ, ГОРА, ГОРА

А божа мой, гора, гора
Выйсці замуж маладою.
Гэта ж гора, гора,
Галовачка бедна мая [2].

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.
[2] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

А замужам трэба знаць:
Позна легчы, рана ўстаць.

Дзяжу мяшу, ў печы палю,
Дзіця плача, я калышу.

А мой мужык муку сее,
А я рада, што ўмее.

А залвіца не сястрыца,
Да дзіцяці, як кастрыца.

А свякроўцы гадзіць,
Як па брытве хадзіць.

Каб жа я гэта знала,
Не йшла б замуж ды гуляла.

### 165д. КАБ [redacted] СВАЮ ДОЛЮ ЗНАЛА *

Каб я сваю долю знала,
Замуж не йшла ды гуляла.
Гуляй, гуляй, галовушка бедная мая [1].

Замуж ісці — трэба знаці,
Позна легчы, рана ўстаці.

Хату таплю, дзяжу мяшу,
Дзіця плачыць, я й калышу.

Хату, сені трэба месці,
У луг есці трэба несці.

Хату, сені я й памяла,
У луг есці я й занясла.

Вот [redacted] адтуль драла, драла,
Да карчомкі чуць дабрала.

Ад работкі ручкі баляць,
А кялішак добра дзяржаць.

Ад пякоты вусны смагнуць,
А з кялішка добра цягнуць.

---

[1] Апошні радок паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 165е. КАБ Я ТУЮ БЯДУ ЗНАЛА *

Каб я тую бяду знала,
Не йшла замуж ды гуляла.
Ох я, бедна я,
Бедна галоўка мая! [1]

Цяпер трэба гора знаці —
Позна легчы, рана ўстаці.

Ўсю чэраду пабудзіці,
Дзяжу хлеба замясіці.

Яшчэ мае рукі ў цесце,
А ўжо дзеці крычаць есці.

— А вы, дзеткі, не крычыце,
У ваконца паглядзіце.

А я хлябок пасаджаю,
Вам што-кольвек паспяваю.

А я хлябок пасадзіла
Ды ў карчомку паляцела.

Да карчомкі мыку, мыку,
Гарэліцу лыку, лыку.

Гарэліца запраўлёна,
Ляціць ў горла, як шалёна.

Ой, прыходжу я дахаты
Ды й кудзелю села прасці.

Кудзеліца не прадзецца,
Бо галованька віецца.

Кудзеліцу на паліцу,
Сама выйду на вуліцу.

На вуліцы паспяваю,
Кучу бабаў назбіраю.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

## 165ж. ПАТРАЦІЛА МЛОДА ЛЯТА

Патрацілa млода лята,
Выйшла замуж за вар'ята.
Ох я, бедна я,
Бедна гловушка мая [1].

Здымай, міла, шубы таты,
І да маёй курнай хаты.

Вынімай, міла, тонкі шпількі,
Пазатыкай у хаце дзіркі.

Уставай, міла, пойдзем млуціць,
Няма чаго ў горла жуціць.

Я ў мамусі добра жыла,
Нігды млуціць не хадзіла.

Уставай ты, гаспадыня,
Выпушчай у поле свіння.

А я свіння выпушчала,
Да мамусі ліст пісала.

А мамуся пшэчытала,
Белы ронкі заламала.

Белы ронкі заламала,
Чорны вочкі заплакала.

## 166. ЧАМУ Ж НАМ НЕ ПЕЦЬ

Чаму ж нам не пець,
Чаму не гудзець,
Калі ў нашай хатаньцы
Парадак ідзець,
Парадак ідзець?

Мушка на акенцы
Ў цымбалікі б'ець,
Ў цымбалікі б'ець.
Чаму ж нам не пець,
Чаму не гудзець?

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Павучок на сценцы
Кросенцы снуець,
Кросенцы снуець.
Чаму ж нам не пець,
Чаму не гудзець?

Парсючок пад лаўкаю
Бульбачку грызець,
Бульбачку грызець.
Чаму ж нам не пець,
Чаму не гудзець?

Нашая ж сучачка
Дворык сцеражэць,
Дворык сцеражэць.
Чаму ж нам не пець,
Чаму не гудзець?

Нашая ж кошачка
Хатку падмяцець,
Хатку падмяцець.
Чаму ж нам не пець,
Чаму не гудзець?

## 166а. ЧАМУ Ж МНЕ НЕ ПЕЦЬ *

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець?
Калі ў маёй хатаньцы
Парадак ідзець.

Чаму ж мне не мець,
Чаму ж не гудзець?
Мушка на вакенцы
Ў цымбалкі тнець.

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець?
Павучок на сценцы
Кросенцы снуець.

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець?
Мой сынок у калысцы,
Як бычок, равець.

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець?
Парсючок пад лаўкаю
Бульбачку грызець.

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець?
Жонка на печы
Прусакоў таўчэць.

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець?
Петушок на сметнічку
Зерняткі дзяўбець.

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець?
Сучачка на лычку
Хатку сцеражэць.

## 167. ОЙ, МОЙ МІЛЫ ПРАКОПАЧКА

Ой, мой мілы Пракопачка,
Не едзь ка мне на полечка,

А едзь-ка ты ў дубровачку,
Ссячы-ка ты бярэзінку.

Ды вытап-ка лазіначку,
Ды папар маю сярэдзінку,

Каб я жала, не ляжала,
Па тры вазы нажынала.

## 168. ЯК ПАСЕЯЎ АНДРЭЙ ГРЭЧКУ

Як пасеяў Андрэй грэчку,
Раю, рай.
Як пасеяў Андрэй грэчку,
Гоп, раю, Грыцу, рай.

На беразе каля рэчкі,
Раю, рай.
На беразе каля рэчкі,
Гоп, раю, Грыцу, рай.

А я грэчкі не палола,
Раю, рай.
А я грэчкі не палола,
Гоп, раю, Грыцу, рай.

Пад гарой казу пасла,
Раю, рай.
Пад гарой казу пасла,
Гоп, раю, Грыцу, рай.

Назбірала бочку масла,
Раю, рай.
Назбірала бочку масла,
Гоп, раю, Грыцу, рай.

Бочку масла, гаршчок сыру,
Раю, рай.
Бочку масла, гаршчок сыру,
Гоп, раю, Грыцу, рай.

Усіх хлопцаў накарміла,
Раю, рай.
Усіх хлопцаў накарміла,
Гоп, раю, Грыцу, рай.

Яшчэ, хлопцы, не кідайце,
Раю, рай.
Яшчэ, хлопцы, не кідайце,
Гоп, раю, Грыцу, рай.

На гарэлку выбачайце,
Раю, рай.
На гарэлку выбачайце,
Гоп, раю, Грыцу, рай.

### 169. А БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА

А белая бярозачка,
Чырвоная вольха [1].

[1] Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Распякнела, растаўсцела
Рыгоркава жонка.

Па вяселлях, па кірмашах
Толькі раз'язджае.

А хто яе, маладзенькай,
Хатку даглядае?

А у садзе-вінаградзе
Есць дробныя кветкі.

Даглядаюць яе хатку
Маленькія дзеткі.

А у садзе-вінаградзе
Сіненькі цвяточак.

Даглядае яе хатку
Маленькі сыночак.

## 170. ДВА ГАРОДЫ АБРАБІЛА

Два гароды абрабіла —
Адна дыня урадзіла.
Гуляю я, ой, гуляю я [1].

Павязла я прадаваці
Ды не знаю, што казаці.

Пакуль людзі цану склалі,
Дык цыгане дыню ўкралі.

Вы, цыгане, добры людзі,
А што мне за гэта будзе?

Пакуль цеста замясіла,
Свіння дзверы разламіла.

Пакуль дзверы залатала,
Дык дзіця з печы упала.

---

[1] Трэці радок паўтараецца пасля кожнай страфы.

Куры хату падмятаюць,
Хлопцы ў вокны заглядаюць.

Ў агародзе кветкі ўюцца,
А з-за мяне хлопцы б'юцца.

## 171. ОЙ, ДАМОУ, ДАМОУ, ДАМОВАЧКІ

Ой, дамоў, дамоў, дамовачкі,
А мне дамоў не хочацца.

У мяне многа работачкі,
Учыніла тры дзежачкі.

Учыніла тры дзежачкі,
А на замеску ні жменечкі.

Каб добрыя суседачкі,
Прынеслі б мне тры жменечкі.

Прынеслі б мне тры жменечкі,
Замясіла б я тры дзежачкі.

А мне дамоў не хочацца,
Дома многа работачкі.

Аснавала тры сценачкі,
А патыкаць — ні цэвачкі.

Каб добрыя суседачкі,
Прынеслі б мне тры цэвачкі.

## 172. ПРОСІЦЬ БРАТ СЯСТРУ

Просіць брат сястру
У сваё вяселле.
Хіханькі, хаханькі,
У сваё вяселле.

А ў сястры няма,
Няма што надзеці.
Хіханькі, хаханькі,
Няма што надзеці.

Пайшла ж яна
Да суседачкі.
Хіханькі, хаханькі,
Да суседачкі.

А суседачка
Не пазычыла.
Хіханькі, хаханькі,
Не пазычыла.

Не пазычыла,
Так прывітала.
Хіханькі, хаханькі,
Так прывітала.

— Як я прала,
Тады ты спала.
Хіханькі, хаханькі,
Тады ты спала.

Як я ткала,
Тады ты гуляла.
Хіханькі, хаханькі,
Тады ты гуляла.

Як я бяліла,
Ты ножкі мыла.
Хіханькі, хаханькі,
Ты ножкі мыла.

## 173. ПРАСІЛІ ХОХУ У ВЯСЕЛЛЕЙКА

Прасілі Хоху
Ў вяселлейка.
О-ху, ох-ну,
У вяселлейка.

Не маю у чым,
Не маю па чым.
О-ху, ох-ну,
Не маю па чым.

Конік у лесе.
А мох на стрէсе.

О-ху, ох-ну,
А мох на страсе.

Пайшла Хохачка
Да суседачкі.
О-ху, ох-ну,
Хохачка да суседачкі.

Да суседачкі,
Кашулечкі.
О-ху, ох-ну,
Суседачкі, кашулечкі.

— А дзе ж ты была,
Як я прала.
О-ху, ох-ну, была
Як я прала.

— А як ты прала,
Я з мужам спала.
О-ху, ох-ну,
Я з мужам спала.

— А дзе ж ты была,
А як я ткала.
О-ху, ох-ну, была
Як я ткала.

— А як ты ткала,
Дык я гуляла.
О-ху, ох-ну, ткала
Дык я гуляла.

— А дзе ж ты была,
Як я бяліла.
О-ху, ох-ну, была
Як я бяліла.

— Як ты бяліла,
Я ножкі мыла.
О-ху, ох-ну,
Я ножкі мыла.

Пашла Хохачка
Ў ляшчыначку.

15. Зак. 500

О-ху, ох-ну,
У ляшчыначку.

Пашыла сабе
Кашуленечку.
О-ху, ох-ну,
Кашуленечку.

Пашла Хохачка
Ў вяселлейка.
О-ху, ох-ну,
У вяселлейка.

У нас хлопчыкі
Жартаўлівыя.
О-ху, ох-ну,
Жартаўлівыя.

Узялі Хоху
Ў шалёны танец.
О-ху, ох-ну,
У шалёны танец.

Тады як пакруцілі,
Дык асвяцілі.
О-ху, ох-ну,
Дык асвяцілі.

Тады яе кашулька
Разарвалася.
О-ху, ох-ну,
Разарвалася.

Наша Хохачка
Застыдалася.
О-ху, ох-ну,
Застыдалася.

У цёмны куточак
Захавалася.
О-ху, ох-ну,
Захавалася.

А пашла Хоха
І стала прасці.

О-ху, ох-ну,
І стала прасці.

Вывела нітку
Даўжэй калена.
О-ху, ох-ну,
Даўжэй калена.

Даўжэй калена,
Таўсцей палена.
О-ху, ох-ну,
Таўсцей палена.

Вёскі перайшла,
Бёрда не найшла.
О-ху, ох-ну,
Бёрда не найшла.

Павяла ў плот,
Дык надта цесна.
О-ху, ох-ну,
Дык надта цесна.

Як у пераплёт,
Барзда пацешна.
О-ху, ох-ну,
Барзда пацешна.

Стала Хохачка
Палатно бяліць.
О-ху, ох-ну,
Палатно бяліць.

У ваду — каламі,
З вады — канямі.
О-ху, ох-ну,
З вады — канямі.

А як сушылі —
Тын абвалілі.
О-ху, ох-ну,
Тын абвалілі.

Тын абвалілі —
Сем баб забілі.
О-ху, ох-ну,
Сем баб забілі.

## 174. ЯК ЗАЗВАЛІ СУСЕДА У БЯСЕДУ

Як зазвалі суседа ў бяседу,
Няўжо, мне, моладзі, прыбрацца?
Як пайду я, маладзюсенька, у пазыкі.
— Пазыч, пазыч, кумуленька.
— Не пазычу, а мне гэтыя пазыкі надаелі
І не адну маю кашулечку знасілі.
А я табе, кумуленька, ды нараю:
Ёсць у полі травіца-лапушыца,
А ў горадзе травіца-павіліца.
Травіцай-лапушыцай абапніся,
Травіцай-павіліцай абавіся.
А я гэта, маладзенька, паслухала,
Травіцай-лапушыцай абпіналася,
Травіцай-павіліцай абвівалася.
Як пайшла я, маладзенька, танцаваць,
Травіца-лапушыца адпіналася,
Травіца-павіліца адвілася,
Асталася я, маладая, голая.
Усе суседзі з бяседы паўцякалі,
Толькі адзін папішча астаўся
І той за стаўнішча схаваўся.
Як узяла я папішчу ў свае клешчы:
— Пакажы ты мне, папішча, свае вешчы.

# ЛЯНІВАЯ ЖОНКА

## 175. НА БАЛОЦЕ КОСАР КОСІЦЬ

На балоце косар косіць
Ды кінуў касу, ды й галосіць:

— Ой, ці ты, мая каса, тупа?
Ой, ці ты, мая жонка, скупа?

Ой, сем дзён не тапіла
Ды й нічога не варыла.

## 175а. НА БАЛОЦЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

На балоце касец косіць,
Кінуў касу ды галосіць:

— Ой, ці мая каса тупа?
Ой, ці мая жонка скупа?

Каса гострая, як меч,
Жонка тоўстая, як печ.

Наварыла чачавіцы
Ды ўкінула чамярыцы.

Наварыла гаршчок квасу,
Укінула купарвасу.

Улажыла кусок сала,
Ой, каб добра каса брала.

## 175б. НА БАЛОЦЕ КАСАР КОСІЦЬ

На балоце касар косіць
Дай, прыпаўшы, галосіць:

— Чы касіца тупая,
Чы травіца сухая?

У мяне каса не тупая,
У мяне трава не сухая.

У мяне каса не тупая,
У мяне жонка скупая.

Сем дзён не тапіла,
Абедаці не варыла.

Наварыла бацвіннічка,
Накідала каменнічка.

Наварыла гароху,
Накідала пароху.

Наварыла сачавіцы,
Накідала чамярыцы.

## 175в. КАСЕЦ СЕНА КОСІЦЬ

Касец сена косіць,
Паклаў касу на пакосе.

Паклаў касу на пакосе,
А сам лёг і галосіць:

— Ці мая каса тупа,
Ці мая жонка скупа?

Мая каса не тупая,
Мая жонка скупая.

Наварыла буракоў,
Насыпала чарвякоў.

Наварыла гаршчок кашы,
Насыпала чорнай сажы.

## 175г. НА БАЛОЦЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

На балоце касец косіць,
На пракосе ён галосіць:

— Ці то мая каса тупа,
Ці то мая жонка скупа?

Тры дні печы не тапіла
І абедаць не варыла.

Наварыла куламесы,
Паставіла мужу есці.

— Еш, мужу, не сцясняйся,
На лепшае не спадзявайся.

## 175д. НА БАЛОЦЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

На балоце касец косіць,
Кінуў коску ды й галосіць:

— Ды ці мая каса тупа?
Ды ці мая жонка скупа?

Сем дней яна не тапіла
Ды вячэраць не варыла.

На васьмому затапіла
Ды вячэраньку зварыла.

Ды наварыла сачавіцы,
А бацeньку чамярыцы.

— Ежце, дзеткі, сачавіцу,
А бацeньку — чамярыцу.

## 175е. А У ПОЛІ КАСЕЦ КОСІЦЬ

А ў полі касец косіць,
А прылёгшы, галосіць:

— Ці мая каса тупа,
Ці мая жонка скупа?

Людзі ідуць палуднаваць,
А яна мне нясе абедаць.

Людзі ідуць абедаць,
А яна мне нясе вячэраць.

### 175ж. А У ПОЛІ КАСЕЦ КОСІЦЬ

А ў полі касец косіць,
А прылёгшы, галосіць:

— Ці мая каса тупа,
Ці мая жонка скупа?

Людзі ідуць палуднаваць,
А яна мне — абедаць:

Бацвінне адлівачку
І хлеба скарыначку.

### 175з. НА БАЛОЦЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

На балоце касец косіць,
Ён прылёг ды галосіць:
— Ды чаго, касец, плачаш?
Ці твая жонка скупа,
Ці твая каса тупа?
— Мая каса не тупа,
Мая жонка скупа.
Дала хлеба скарыначку,
Цыбулі пярыначку,
А вады барылачку.

### 175і. НА БАЛОЦЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

На балоце касец косіць,
Ох, прылёгшы, ён галосіць:

— Ці мая ж каса тупа,
Ці мая ж жонка скупа?

Мая ж каса, як медзь войстра,
Мая ж жонка, як печ тоўста.

Прынесла мне адну скарыначку
Ды прынесла вадзіцы бутылачку.

### 175й. ЗА ГАРОЮ КАСЕЦ КОСІЦЬ

За гарою касец косіць,
Кінуў касу, сам галосіць:
— Чаго ты, касец, плачаш?
Ці твая каса тупа,
Ці твая жонка скупа?
— Мая каса не тупая,
Мая жонка скупая.
Прынясла абедаці:
Бацвіння ўлівачку,
Солі драбіначку,
Хлеба скарыначку.

### 175к. У БАЛОЦЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

У балоце касец косіць,
Ён, прылёгшы, галосіць:

— Ды ці мая каса тупа,
Ды ці мая жонка скупа?

Прынясла абедаці
Бацвіння ў адлівачку.

Бацвіння ў адлівачку,
А хлеба скарыначку.

— Еж бацвінне, хоць заліся,
А хлебам хоць падавіся.

### 175л. А У ЛУЗЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

А ў лузе касец косіць,
Ён, прылёгшы, галосіць:

— Ці мая каса тупа,
Ці мая жонка скупа?

Прынясла палуднавадь
Малака бутылачку.

Малака бутылачку,
Сольцы драбіначку.

Сольцы драбіначку,
Хлеба скарыначку.

## 175м. А Ў ЛУЗЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

А ў лузе касец косіць,
Кінуў касу і галосіць:

— Ці мая каса тупа,
Ці мая жонка скупа?

Прынясла абедаці
У маленькім гарнушачку.

У маленькім гарнушачку
Хлеба гарбушачку.

## 175н. НА БАЛОЦЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

На балоце касец косіць,
Кінуў касу ды галосіць:

— Ці мая каса тупа,
Ці мая жонка глупа?

Прынесла палуднаваць
Цыбулькі пярыначку
І солі драбіначку.

І солі драбіначку,
А хлеба скарыначку.

Ці касу пакляпаці,
Ці жонку пабіваці?

Касу пакляпаеш —
Касіць лепей будзе.

Жонку пабіваеш —.
Палуднаваць насіць смачней будзе.

## 175о. НА БАЛОЦЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

На балоце касец косіць,
Кінуў касу, сеў галосіць:

— Нешта мая каса тупа,
Мусіць мая жонка скупа.

Наварыла сыраваткі,
Прынясла палуднавацї.

Прынясла палуднаваці,
Забылася лыжкі ўзяці.

Забылася лыжкі ўзяці,
Завялела куском мачаці.

## 175п. НА БАЛОЦЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

На балоце касец косіць,
Кінуў касу ды галосіць:
— Чаго мая каса тупа,
Чаго мая жонка скупа?
Прынясла мне абедаці
Ды голай сыраватачкі
І то ложку забылася.
Яна па ложку вярнулася —
Сыраватачка абярнулася.

## 175р. НА БАЛОЦЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

На балоце касец косіць,
Кінуў касу — сам галосіць:

— Каса ж мая ды тупа,
Жонка ж мая глупа.

Трэба ж касу намянціці,
Жонку ж трэба навучыці.

## 175с. НА БАЛОЦЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

На балоце касец косіць,
Кінуў касу ды й галосіць:

— Чы ж то мая каса тупа,
Чы ж то мая жонка глупа?

Мая каса, як меч войстра,
Мая жонка, як печ тоўста.

Трэба касу пакляпаці,
Трэба жонку пакараці.

Трэба касу памянціці,
Трэба жонку пасварыці.

## 175т. ЗА БАЛОТАМ МУЖЫК КОСІЦЬ

За балотам мужык косіць,
Ён і косіць, і галосіць:

— Ці то мая каса тупа,
Ці то мая жонка глупа?

Каса тупа — тачыць будзем,
Жонка глупа — вучыць будзем.

Касу кляўцом, кляўцом,
Жонку дубцом, дубцом.

## 175у. ДЫ КАСАР СЕНА КОСІЦЬ

Ды касар сена косіць,
Кінуў касу ды галосіць:

— Ды чаго, касар, плачаш,
Ды чаго, касар, плачаш?

Чы коска тупая,
Чы жонка ліхая?

Ой, як коска тупая,
То трэба пакляпаці.

Ой, як жонка ліхая,
Трэба яе пакараці.

## 175ф. АЙ, У ЛУЗЕ КАСЕЦ КОСІЦЬ

Ай, у лузе касец косіць [1],
Прыгнуўшыся, ён галосіць:

— Ай, ці мая каса тупа,
Ай, ці мая жонка скупа?

Не зварыла кусок сала,
Дык мая каса стала.

Ай, вазьму касу на плечы
Ды сам пайду да печы.

Касу точаць малаткамі,
А жонку б'юць кулакамі.

## 176. ЦВІЦІ, ЦВІЦІ, ЧАРЭШАНЬКА, КАЛЯ ПЕРАЛАЗУ*

Цвіці, цвіці, чарэшанька, каля пералазу,
Надаела прымачэньку ад першага разу [2].

— А я ў прымах усё й бываю ды ўсё гора знаю,
Кулачэнькі пад бачэнькі ды спаці лягаю.

Ой, прыходзіць яго цёшча ўсё й сон разбуджаці:
— Уставай, уставай, прымачышча, ідзі ў поле араці.

Пайшоў прымак, пайшоў прымак у поле араці,
Папрасіў ён сваю жонку абед гатаваці.

Арэ прымак, арэ прымак, на свет паглядае,
А ўсе жонкі абед нясуць, а прымак не мае.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.
[2] Другі радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Ой, прынесла яму цешча лебяды без солі,
Нахлябаўся, насярбаўся ды й сказаў: даволі.

— Не хацеў ты абедаці лебяды без солі,
Запрагай ты сівы волы, паедзем дадому.

Як прыехаў ён дадому, не ўспеў з воза злезці,
Яго цешча прымушае свінням несці есці.

— Бадай свінні паздыхалі, а хата згарэла,
Як мне гэта прымацкае жыццё надаела.

## 176а. ЦВІЦЕ, ЦВІЦЕ ЧАРАМШЫНА

Цвіце, цвіце чарамшына,
Ягадак не мае.
А хто ў прымах не бывае,
Той гора не знае.

Ой, паехаў прымачэнька
У поле араці,
А прымусіў сваю жонку
Абед гатаваці.

Арэ прымак, арэ прымак
Ды ўсё пазірае:
— Усе жонкі абед нясуць,
А мае чорт мае.

Аж прыходзіць мая міла
На другі дзень рана.
Накрычала, нагукала,
Што вывараў мала.

Бадай табе, мая міла,
Розуму не стала,
Як я араў ды не стаяў,
А ты крычыш: мала.

Арэ прымак, арэ прымак,
Даараўся да краю,
Пусціў волы па дуброве,
Сам пайшоў дадому.

Вот заходзіць прымачэнька
Да новае хаты,
Яму цешча загадала:
— Ідзі дроў рубаці.

## 1766. ОЙ, ЗАЦВІЛА КАЛІНАНЬКА

Ой, зацвіла калінанька
Каля пералазу,
Не шыхуе прымачэньку
Ад першага разу.

Ой, паехаў прымачэнька
У поле араці,
Не схацела яму цешча
Хлеба, солі даці.

Арэ прымачэнька,
Дааpaўся да луга,
Выпрагае сівы валы
З жалезнага плуга.

Ой, прыехаў прымачэнька
І з поля да хаты,
Аж выходзіць стары цесць:
— Йдзі дровы рубаці!

Рубаў, рубаў прымачэнька,
Стукнуў у калоду,
Аж выходзіць стара цешча:
— Йдзі, прымак, па воду.

Нясе, нясе прымак воду,
На парог ступае,
Яму цешча з сямі місак
У адну злівае.

— Ото табе, прымачэньку,
Снеданне з абедам.
А як будзе недахватна,
То далажы хлебам!

Ой, не бярэ прымачэньку
З бохана цалога,
Адно бярэ на паліцы
Сухарца цвілога.

— Ой, каб табе было, цешча,
Так цяжка ўміраці,
Як мне цяжка, прымачэньку,
Сухарца гладаці.

## 176в. ЦВІЛА, ЦВІЛА ЧАРЭШАНЬКА

Цвіла, цвіла чарэшанька,
Ягадак не мае.
А хто ў прымах не бывае,
Той гора не знае.

А я ў прымах ўсё бываю,
Усё гора знаю.
Кулачэнькі пад галоўку,
Спатанькі лягаю.

Кулачэнькі пад галоўку,.
Спатанькі лягаю.
Заўтра рана свет світае,
Валы запрагаю.

Як запрог я сівы волы,
То пайшоў араці.
Усе жонкі абед нясуць,
Маёй не відаці.

Як прынесла мне абедаць
Без хлеба, без солі.
Нарадзіўся прымачэнька
Без шчасця, без долі.

— Калі хочаш абедаці,
То еш хлеб з вадою,
Як не хочаш абедаці,
То пойдзем дадому.

Едзе прымак, едзе прымак,
На парог ступае.
Яго цешча з усіх місцаў
Абедаць злівае.

Не справіўся прымачэнька
За стол сесці з'есці.
Яму цешча загадала
Несці свінням есці.

— Бадай свінні паздыхалі
І хата згарэла,
Як мне гэта прымацкае
Жыццё надаела.

Вот сышліся Дуня з Дуняй,
Сталі гаварыці:
— І твой прымак, і мой прымак
Не хочуць рабіці.

І твой прымак, і мой прымак
Не хочуць рабіці.
А як жа іх адправіці
І не заплаціці?

Ідзе прымак, ідзе прымак,
На дудачцы свішча.
— Прымай, дочанька, варэнне,
Ідзе прымачышча.

Прымачэнька стаяў,
Слухаў за дзвярыма.
Як увайшоў у хатачку,
Заліўся слязіма.

— Будзеш, мілка, ўспамінаці,
Будзеш ўспамінаці,
Як пайду сівы волы
У дубровачку гнаці.

Сівы волы зарыкалі,
У дубровачку ідучы.
Заплакалі прымачэнькі,
З прымакоў ідучы.

## 176г. ЦВІЦЕ, ЦВІЦЕ ЧАРЭШАНЬКА

Цвіце, цвіце чарэшанька,
Цвіце, расцвітае.
А хто ў прымах не бывае,
Той гора не знае.

А я прымак, а я прымак,
А я гора знаю.
Два кулачкі пад галоўку —
Гэтак спаць лягаю.

Будзіць цешча, будзіць цешча:
— Пара ўставаці,
Запрагай ты пару коней
Ды язджай араці.

Арэ прымак, арэ прымак,
На свет паглядае.
Усе жонкі абед нясуць,
Прымак усё чакае.

Прыняслі яму паесці
Лебяды без солі.
Нарадзіўся прымачэнька
Без шчасця, без долі.

Вот прыехаў ён дадому,
Не ўспеў з каня злезці.
Загадала яму цешча,
Каб нёс свінням есці.

— Бадай тыя свінні здохлі,
А хата згарэла.
Як мне гэта прымацкае
Жыццё надаела.

Сабраліся прымачыхі
І сталі судзіці:
— І твой прымак, і мой прымак
Не хочуць рабіці.

А прымак жа пад дзвярыма
Усё выслухае.
І ён сваю прымацкую
Долю праклінае.

Сабраліся два прымакі,
Між сабой гаворацъ:
— І ты прымак, і я прымак,
Прымакоў нас двое.

Ты гаруеш, я гарую,
Гаруем абоя.
І ты плачаш, і я плачу
Па сваёй нядолі.

## 176д. ВІШАНЬКА, ЧАРЭШАНЬКА

Вішанька, чарэшанька
Ягадак не мае.
А хто ў прымах не бывае,
Той гора не знае.

А я ў прымах пабываў
Ды ўсё гора знаю:
Кулачэнькі пад бачэнькі
Дый спаці лягаю.

— Годзе, годзе, прымак, спаці,
Пара уставаці.
Запрагай ты сівы волы
Ды язджай араці.

Едзе, едзе прымачэньку,
Ўгору пазірае:
— Усе жонкі абед нясуць,
А мая не дбае.

Ой, прынесла яму жонка
Лебяду без солі.
— На еж, на еж, прымачэньку,
Дый начуй у полі.

Як не хочаш абедаці,
То еж хлеб з вадою.
Запрагай ты сівы волы
Ды язджай дадому.

Едзе, едзе прымачэнька
Дый песеньку свішча.
— Прымай, доню, хлеб са стола,
Едзе прымачышча.

Як прыехаў на падвор'е,
Валы распрагае.
Яго жонкі родна маці
Абед налівае.

Яго жонкі родна маці
Абед налівае,
Яго жонкі родна маці
Нічога не знае.

Увайшоў прымак у хату,
Не успеў прысесці,
Яму цешча загадала
Несці свінням есці.

— Бадай свінні паздыхалі,
Цешча ашалела,
Як мне гэта прымацкае
Жыццё надаела.

Сабраліся дзве кумачкі,
Сталі гаварыці:
— Што твой прымак і мой прымак
Не хочуць рабіці.

Сабраліся два браценькі,
Стоя, размаўлялі:
— Ой, як жыў я дома ў бацькі,
То ўсе людзі зналі.

Ой, як жыў я дома ў бацькі,
То ўсе людзі зналі.
Як застаўся я ў прымах,
Гультаём назвалі.

### 176е. А Ў ПОЛІ ГАЛІНАЧКУ

А ў полі галіначку
Вецер не шатае,
А хто ў прымах не бывае,
Той гора не знае.

А я ў прымах пабываў
Дый нагараваўся.
Кулачэнькі пад бачэнькі
Дый спаці лажыўся.

А не ўспеў я спаці легчы,
Як сталі буджаці:
— Ўставай, прымак, ўставай, прымак,
Паязджай араці.

Арэ прымак, арэ прымак,
Назад паглядае:
— Усе жоны абед нясуць,
А мая не дбае.

Як прынесла жонка абед
Дый той несалёны,
Насярбаўся, нахлябаўся
Дый сказаў: даволі.

— Як не хочаш гэта есці,
Еж хлеб ты з вадою,
А не хочаш ты араці,
Паязджай дадому.

Едзе прымак, едзе прымак,
У дудачку свішча:
— Прымай, дочка, хлеб са столу,
Едзе прымачышча.

Не паспеў у хату ўвайсці
Дый на лаву сесці,
Загадала яму цешча
Есці свінням несці.

— А каб тыя свінні здохлі,
Дый хата згарэла,
Як мне гэта прымацкае
Жыццё надаела.

Сабраліся дзве суседкі,
Сталі гаварыці:
— І твой прымак, і мой прымак
Не хочуць рабіці.

— І ты прымак, і я прымак,
Нечага таіцца,
Сабраліся два прымакі
І пайшлі тапіцца.

### 176ё. ОЙ, ШТО ГЭТА ЗА КАЛІНА

Ой, што гэта за каліна,
Што цвету не мае.
Ой, што гэта за дзяўчына,
Што прымака мае.

Як паехаў прымачэнька
На поле араці,
Ды забыў жа прымачэнька
Хлеба, солі ўзяці.

Арэ, арэ, прымачэнька
Ды ўсё пазірае:
— А ўсе людзі абед нясуць,
А мая не знае.

Ой, прынесла жонка абед
І той не салёны.
Нахлябаўся, насярбаўся
Ды сказаў: даволі.

— Ой, не хочаш ты абедаць,
Еж хлеб і з вадою.
Ой, не хочаш ты абедаць,
Паязджай дадому.

Едзе, едзе прымачэнька
І ў дудачку свішча.
— Прымай, дочка, хлеб са столу:
Едзе прымачышча.

Ой, не ўспеў каня адпрэгчы
Ды на лаву сесці,
Загадала яму цешча
Свінням бульбу несці.

Як сабраліся прымакі
Ды сталі раіцца:
— І ты прымак, і я прымак,
Мы пайдзём тапіцца.

Падыйшлі яны к вадзе,
А вада халодна.
— А багдай ты, цешча, здохла
Ды яшчэ галодна.

### 176ж. РАСЦВІЛАСЯ ЧАРЭШАНЬКА

Расцвілася чарэшанька,
Ды ягад не мае.
А хто ў прымах не бывае,
Той гора не знае.

Бо я прымак, бо я прымак,
Бо я гора знаю:
Кулачонькі пад бачонькі,
Сам спаці лягаю.

Ідзе Дуня, ідзе Дуня,
Ідзе абуджаці.
— Уставай, уставай, прымачэнька,
Ідзі ў поле араці.

Пашоў прымак, пашоў прымак,
У поле гараці.
Ён забыўся, нешчаслівы,
Куска хлеба ўзяці.

Гараў прымак, гараў прымак,
Стаў ды паглядае:
— Усе жонкі абед нясуць,
А мая не дбае.

Нясе Дуня, нясе Дуня,
Нясе хлеб з вадою.
— Калі хочаш абедаці,
То еж хлеб з вадою.

Гараў прымак, гараў прымак,
Дагараў да дому.
Распрагае сівы коні,
Сам ідзе дадому.

Ідзе прымак, ідзе прымак,
На дудачку свішча.
— Хавай, маці, абед, сала,
Едзе прымачышча.

Ішоў прымак, ішоў прымак,
Зашоў на падворы,
А тут цешча прыказала:
— Рубай, прымак, дровы.

Рубаў дровы, рубаў дровы,
Разрубаў калоду.
Яму цешча прыказала:
— Ідзі, прымак, па воду.

Прынёс вады, прынёс вады,
Захацеў ён есці.
Яму цешча загадала:
— Нясі свінням есці.

— Бадай вашы свінні здохлі,
А цешча згарэла,
Як мне гэта прымацкая
Служба надаела.

Як зышлася кума з кумой,
Сталі гаварыці:
— І твой прымак, і мой прымак
Не хочуць рабіці.

І твой прымак, і мой прымак
Не хочуць рабіці,
А як жа нам разлічыцца,
Каб не заплаціці.

Стаяў прымак, стаяў прымак
У сенях пад дзвярыма,
Як учуў ён гэты словы,
Абліўся слязіма.

І ты прымак, і я прымак,
Нечага стыдзіцца.
Сабраліся ўсе прымакі
Ды пайшлі тапіцца.

Прыйшлі бліжэй да рэчачкі —
Мелкая вадзіца.
Ой, і доля прымацкая,
Недзе утапіцца.

Ах вы, хлопцы маладыя,
Не йдзіце у прымы,
Жаніцеся ў сваёй хаце
На чвэрць дэсяціне.

## 177. ПАЕХАЎ ЧУМАК У ДАРОГУ

Паехаў чумак у дарогу,
Я без яго жыць не могу.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

Людзі канапелькі сеюць,
Нашы з табою ў мяшэчку прэюць.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

Да ўжо ж людзі жыта пажалі,
А мы з табой, сэрца, ляжалі,
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

Людзі канапелькі малоцяць,
Нашы з табою свінні калоцяць.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

О, прадала чумачыха свінку,
А купіла для чумака світку.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

Світку за свінку купіла,
Бо чумака верна любіла.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

О, прадала чумачыха гуску,
А купіла для чумака хустку.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

Хустку за гуску купіла,
Бо чумака верна любіла.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

О, прадала чумачыха курку,
А купіла для чумака люльку.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

Люльку за курку купіла,
Бо чумака верна любіла.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

О, прадала чумачыха індычку,
А купіла для чумака пратычку.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

Пратычку за індычку купіла.
Бо чумака верна любіла.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

Да ўжо ж чумак расчумакаваўся,
Штаны згубіў, учкур разарваўся.
Сэрца, чумача нябожа,
Як табе бог дапаможа.

### 178. ЕХАЎ ЧУМАК З УКРАІНЫ

Ехаў чумак з Украіны,
Згубіў жонку ў каляіне,
Агляนуўся за тры мілі:
Ляжыць жонка ў каляіне[1].

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

— Ох, я чумак нешчаслівы,
З гора, з бяды ледзьве жывы,
Сам не веду, што рабіці,
За што рукі зачапіці.

Пайду з гора утаплюся,
Чы аб камень разаб'юся.
Няхай тое людзі знаюць,
Як без жонак уміраюць.

## 179. БЫЛА У МУЖА ХАРОШАЯ ЖОНКА *

Была ў мужа харошая жонка [1].
— Прадай, мілы, карову й кабылу,
Купі, мілы, бяліла-румяна,
Каб я была, маладзенька, як паня.
Прадаў мілы кабылу й карову,
Купіў жонцы бяліла й румяна.
Як запрог жа міл жонку па дровы,
Як із гары, кіем паганяе,
Як на гару, дык сам падсядае.
— Прадай, мілы, бяліла й румяна,
Ды купі малае жарабятка,
Буду расціць, гадаваць, як дзіцятка.

## 180. БЫЛА У МУЖА ХВАСЛІВАЯ ЖОНКА

Была ў мужа хваслівая жонка [1],
А не ўмела у што прыбірацца.
— Прадай, мілы, каня і кароўку,
Купі, мілы, чугай і шнуроўку.
Прадаў мілы каня і кароўку,
Купіў мілы чугай і шнуроўку.
Як не стала ні дроў, ні лучыны,
Запрог мілы хваслівую жонку
І паехаў у лес па лучыну.
Як ну, дык ну, хваслівая жонка,
Гэта ж табе чугай і шнуроўка.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Як пад гору, болей ускладаіць,
А як з гары — і сам уссядаіць.
— Прадай, мілы, чугай і шнуроўку,
Купі, мілы, хаця жарабятка,
Буду соўгаць, як мало дзіцятка.

## 180а. БЫЛА У МУЖА ПРЫГОЖАЯ ЖОНКА

Была ў мужа прыгожая жонка,
Не было ў яе ні мыла, ні бяліла.
— Прадай, мужу, каня і карову,
Купі мне, мужу, мыла і бяліла.
Прадаў мужу каня і карову,
Купіў мужу мыла і бяліла.
Не стала ў мужа ні дроў, ні лучыны.
Запрог муж прыгожую жонку,
Ой, паехаў у дровы, у лучыну.
З гары едзе — кнутом паганяе,
А пад гару едзе — сам падсядае.
Прывёз мужу дровы і лучыну.
— А прададзім мы мыла і бяліла,
А купім, мужу, хаця жарабятка,
А я буду жалець, як сваё дзіцятка.

## 180б. БЫЛА У МУЖА СВАРЛІВАЯ ЖОНКА

Была ў мужа сварлівая жонка,
— Прадай, мужу, кабылку і кароўку,
Купі ты мне чугай і шнуроўку.
Як не стала ні дроў, ні лучынкі,
Надзеў жонцы клешчы-хамуціны,
Сеў, паехаў у дровы ў лучынку.
Як пад горку, дык сам падсядае,
А як з гары — кіем паганяе.
А як «но» — дык па сварлівай жонцы.
— А вот табе чугай і шнуроўка.
— Прадай, мужу, чугай і шнуроўку,
Купі сабе кабылку і кароўку,
Буду гадаваці, як малога дзіцёнка.

## 180в. БЫЛА У МУЖА ЛЯНІВАЯ ЖОНКА

Была ў мужа лянівая жонка,
Лянівая работкі рабіці,
Толькі любіла харашо хадзіці.
— Прадай, мужу, коніка й кароўку,
Купі, мужу, спадніцу й шнуроўку,
Прадай, мужу, коніка й кароўку,
Купі жане спадніцу і шнуроўку.
Трэба ехаць у бор па лучыну,
Запрог мужык жонку ў цялегу
І паехаў у бор па лучыну.
Як пад гару — бічам падганяе,
Як із гары — сам прысядае.
— Прадай, мужу, спадніцу й шнуроўку,
Купім жа мы хоць і жарабятка,
Будзем хаваць як малое дзіцятка,
Ты паедзеш у бор па лучыну,
А я дома хоць і адпачыну.

## 180г. БЫЛА У МУЖА ЛЯНІВАЯ ЖОНКА

Была ў мужа лянівая жонка,
Ды не ўмела работкі рабіці.

Ды не ўмела работкі рабіці,
Толькі ўмела чысценька хадзіці.

— Прадай, мужу, каня і кароўку,
Купі, мужу, спадніцу-шнуроўку.

Надзеў мужу на мяне хамуціну
Ды паехаў у лес па лучыну.

Як на гару — мяне паганяе,
А як з горкі — сам падсядае.

— Прадай, мужу, спадніцу-шнуроўку,
Купі, мужу, хоць жарабёнка.

Купі, мужу, хоць жарабёнка,
Буду глядзеці, як мала дзіцёнка.

## 180д. А ШТО Ж ГЭТА ЗА ПРЫЧЫНА

А што ж гэта за прычына,
Жонка мужа навучыла:
— Прадай, муж, усю скаціну,
Купі для мяне пярыну,
Бо я ж панскага роду,
Не ляжала цвёрда зроду.
Прадай, муж, авечкі,
Купі для мяне чаравічкі,
Бо я панскага роду,
Не хадзіла боса зроду.
Прадай, муж, гурачэчкі,
Купі для мяне палітэчкі,
Бо я панскага роду,
Не хадзіла гола зроду.
А ўжо печ акалела,
Няма дроў ні палена.
Муж жану запрагае,
У лес па дровы выязджае,
Поўны воз накладае
І пад гору сам сядае,
Дубінаю паганяе:
— Вы, людзі, дарогу дайце,
Мне кабылы не спужайце,
Яна панскага роду,
Не хадзіла ў возе зроду.

## 181. ПРАДАЙ, МІЛЫ, РАБЫ БЫЧКІ

Прадай, мілы, рабы бычкі,
Да купі мне чаравічкі,
Бо я панскага роду,
Не хадзіла боса зроду.
Прадай, мілы, кабылінку
Ды купі мне хутравінку.
Палез мілы на гару,
Дастаў хамут і дугу,
Стаў на мілу накладаць,
У лес па дровы выязджаць.
Прыехаў мілы да лесу,
Прывязаў мілы да бесу,

Стаў пазлядаць мілюсенька.
Прыехаў мілы дадому
Ды даў мілай салому.
— Ой, на ж табе, міла, есці!
— Ой, дай жа ж мне хоць прысесці,
Як ты ехаў — я цягнула,
Маю спіну вельмі гнула.

### 181а. ПРАДАЙ, МІЛЫ, РАБЫ БЫЧКІ

— Прадай, мілы, рабы бычкі,
Купі, мілы, чаравічкі.
Я харошага роду,
Не хадзіла боса зроду.

Прадай, мілы, кабыліну,
Купі, мілы, футарыну.
Я харошага роду,
Не хадзіла без футра зроду.

Прадаў мілы рабы бычкі,
Купіў мілы чаравічкі.
Прадаў мілы кабыліну,
Купіў мілы футарыну.

Палез мілы на гару,
Дастаў хамут і дугу
Да на мілу накладае
І ў лес па дровы выпраўляе.

Прыехаў мілы да лесу,
Прывязаў мілу к сасне:
— Стой, стой, мая міла,
Каб пад гору не спыніла!

Мілы дровы збірае,
Міла на яго пазлядае.
— Да ўжо вечар, не рана,
А ў нас дроў саўсім мала.

Высек мілы дубіну
Да на мілай спіну:
— Гоп, гоп, мая міла,
Каб пад гору не спыніла!

Прыехаў мілы дадому,
Заклаў мілай салому:
— Пі і еш, мая міла,
Бо ты дроў навазіла!

— Прадай, мілы, чаравічкі,
Купі, мілы, рабы бычкі,
Каб я дроў не вазіла,
Каб я людзей не смяшыла.

## 1816. ПРАДАЙ, МІЛЫ, СІВЫ БЫКІ

Прадай, мілы, сівы быкі,
Ды купі мне чаравікі,
Бо я панскага роду
Не хадзіла боса зроду.
Гэй, гэй, гэй, гэй,
Не хадзіла боса зроду [1].

Прадай, мілы, дзве цяліцы,
Купі, мілы, дзве спадніцы,
Бо я панскага роду,
Прыбірацца люблю зроду.
Гэй, гэй, гэй, гэй,
Прыбірацца люблю зроду.

Прадай, мілы, пуд пшаніцы,
Купі, мілы, шнуравіцы,
Бо я панскага роду,
Прыбірацца маю моду.
Гэй, гэй, гэй, гэй,
Прыбірацца маю моду.

Як стаў мілы прадаваці
Ды стаў мілы купаваці,
Нечым печкі падпаліць,
Нешта дзецям наварыць.
Гэй, гэй, гэй, гэй,
Нешта дзецям наварыць.

Палез мілы на гару,
Дастаў хамут і дугу,
Прыцягае да дому —

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

Зацягае на мілу.
Гэй, гэй, гэй, гэй,
Зацягае на мілу.

Ой ты, міла, чарнаброва,
Паедзем мы у лес па дрова.
Тпру, стой, мая люба,
Прывяжу цябе да дуба.
Гэй, гэй, гэй, гэй,
Прывяжу цябе да дуба.

Як стаў мілы дроў рубаці,
Ды на сонца паглядаці,
А сонейка ўжо не рана,
А яму ўсё тых дроў мала.
Гэй, гэй, гэй, гэй,
А яму ўсё тых дроў мала.

Пад'язджае пад гару,
Бярэ мілу пад чалу.
Тпру, стой, чарнаброва,
Пераверне ш ты мне дровы.
Гэй, гэй, гэй, гэй,
Пераверне ш ты мне дровы.

Прыязджае дадому,
Дае есці салому.
— Ой, што ты даеш мне есці,
А я б рада трошкі сесці.
Гэй, гэй, гэй, гэй,
А я б рада трошкі сесці.

Прадай, мілы, чаравікі,
Купі, мілы, сівы быкі,
Бо я панскага роду,
Не хадзіла ў возе зроду.
Гэй, гэй, гэй, гэй,
Не хадзіла ў возе зроду.

## 182. ОЙ, ПРАЧНУСЯ Я У ПАНЯДЗЕЛАК *

Ой, прачнуся я ў панядзелак,
Ці не напраду я кудзелек?
Ой, прала ці не прала,
Людзі скажуць, што збрахала.

А лучына курыць,
А галоўка баліць,
На ігрышча карціць. Ой![1]

Ой, прачнуся я ў аўторак,
Ці не напраду пасмаў сорак?

Ой, прачнуся я ды ў сераду,
Ці не напраду ўсіх напераду?

Ой, прачнуся я ды ў чацвярток,
Ці не напраду я кудзелі стог?

Ой, прачнуся я ў суботу,
Ці не скончу я ўсю работу?

## 183. ЦІ Я МУЖУ НЕ ЖАНА

Ці я мужу не жана?
Ці не гаспадыня?
Сем дзён хаты не мяла,
Шумы не насіла.

Ох, ты б'еш мяне, б'еш,
За якія ўчынкі?
Ці ж я табе не напрала
За год тры пачынкі?

Я не сама прала,
Кума памагала.
Дала куме міску пшоны
І тры кускі сала.

Ды яна не сама прала,
Былі ў ёй памачніцы.
Яны прасці памагалі
Ей за паляніцы.

Ах, ты б'еш мяне, б'еш,
Можа я й рабіла б.
Ды я, мілы, не магу,
Няма матавіла.

[1] Апошнія пяць радкоў паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Можа я й рабіла б,
Няма матавіла.
Ў печы дровы не гарэлі,
Дык я падпаліла.

## 184. ЦІ Я БЫЛА НЕ ХАЗЯЙКА

Ці я была не хазяйка,
Ці не гаспадыня?
Тры дні хаты не мяла,
Смецця не насіла.
А вымела разком,
А вывезла вазком.
Прышлі ка мне казачэнькі
Смецце таргаваці,
Сталі яны за смецце
Цану мне даваці:
Туды коп, туды хоп,
За смеццїка восем коп.

## 184а. ТРЫ ДНІ ХАТУ НЕ МЯЛА

Тры дні хату не мяла,
Смецця не насіла,
Ой, вымету разком
Ды вывезу вазком,
Павязу я на базар
Смецце прадаваці.
Туды хіп, сюды хіп,
Да вазьму сорак кіп,
А за тыя кіпкі —
Чырвоны чабыткі.
Чалавечу, чалавечу,
Купі мне лентачку
За капеечку!

## 185. ЦІ Я У МАТКІ НЕ ДАЧКА *

Ці я ў маткі не дачка,
Ці я не дачушка,
Руса каса да пояса —
Чырвоная стужка.

Руса каса за плячыма —
Чырвоная жычка,
Усе мяне хлопцы любяць,
Што я невялічка.

Хоць я невялічка,
Ды і не багата,
Есць у мяне кавалераў
Паўненькая хата.

* * *

На вуліцы гоман, гоман,
А хто там гамоніць?
Мужык жоначку б'е
І дадому гоніць.

— За што, мужу, б'ешся,
За якія ўчынкі,
Ці я табе не напрала
За рок тры пачынкі.

Хоць не адна прала —
Кума памагала
То за крупы, то за муку,
То за кусок сала.

Яшчэ таму не канец —
Дала хлеба баханец,
А яшчэ гэта не ўсё —
Дала куме парасё.

## 186. А ЧУЖЫЯ МУЖЫ ДОБРЫ

А чужыя мужы добры
Пакуплялі жонкам бобры,
А мой мужык не дабёр,
Не купіў мне ні куніцы, ні бабёр.
А мой мужычок, як дурачок,
Ды купіў мне каровачку
На маю бедну галовачку.
Я кароўку напой ды накармі,
Рана ўстаўшы, на паранкі хадзі.

## 186а. УСЕ МУЖЫ ДОБРЫ

Усе мужы добры
Пакупалі жонам бобры.
А мой мужычок дурачок,
Купіў мне каровачку
На маю буйну галовачку.
Мне кароўку даіць не хочацца
І даёначку мыць не можацца.
Як пагонім мы кароўку на расу,
А дзе браўся мядзведзь на лясу
— А мядзведзечка, бацечка,
Ты забі маю каровачку,
Абузволь маю галовачку.
Я кароўку даіць не буду
І даёначку мыць не буду.

## 186б. А ЧУЖЫЯ МУЖЫ ДОБРЫ

А чужыя мужы добры,
Пакуплялі жонкам бобры.
Ах, люлі, калінка мая,
Сладкі ягадкі, малінка мая [1].

А мой муж не ліх, не дабёр,
Не купляе мне ні ліс, ні бабёр.

А купіў мне муж каровачку,
На маю бедну галовачку.

Я не ўмею ні кароўкі даіць,
Я не ўмею ні даёнкі памыць.

Паганю я карову на расу,
Ажно стаіць мядзведзь у верасу.

Я ж мядзведзечкі спужалася,
Я за кусцічак схавалася.

— Ты мядзведзюхна-бацюхна,
Не дзяры маё бела ліцо.

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Задзяры ж маю каровачку,
Аслабані маю галовачку.

Папрашу я ваўчоначка,
Каб задзёр майго цялёначка.

Аж нашто было гарод гарадзіць,
А нашто было капусту садзіць?

Гарод гарадзіць ля каровачкі,
Капусту садзіць ля цялёначка.

### 186в. ДЫ НАШТО БЫЛО ГАРОД ГАРАДЗІЦЬ *

Ды нашто было гарод гарадзіць?
Ды нашто было капусту садзіць?
Ай, люлі, люлюсенькі вы мае [1].

Ды нашто было капусту садзіць?
Не лянiва я ў шнітачку хадзіць.

Як чужыя мужыкі ўсе дабры,
Пакуплялі сваім жоначкам бабры.

А як мой мужычок-дурачок
Ды купіў ён мне каровачку.

Ды купіў ён мне каровачку
На маю бедну галовачку.

Ды нашто ж было гарод гарадзіць?
Ды нашто было капусту садзіць?

### 186г. А ЧУЖЫЯ МУЖЫКІ ДОБРЫ

А чужыя мужыкі добры,
Пакуплялі сваім жонкам бобры.
Ой-лі, ой-лі, ой-люлі,
Пакуплялі сваім жонкам бобры.

---
[1] Апошні радок паўтараецца пасля кожнай страфы.

А мой муж ні такі, ні сякі,
Не купіць мне чорныя сапажкі.
Ой-лі, ой-лі, ой-люлі,
Не купіць мне чорныя сапажкі.

А купіў ён мне каровачку
На маю бедну галовачку.
Ой-лі, ой-лі, ой-люлі,
На маю бедную галовачку.

Пры кароўцы трэба рана ўставаць,
А я люблю да абеда паспаць.
Ой-лі, ой-лі, ой-люлі,
А я люблю да абеда паспаць.

Выганяла я кароўку на расу,
А спужалася мядзведзькі у лясу.
Ой-лі, ой-лі, ой-люлі,
А спужалася мядзведзькі у лясу.

За лазовы куст схавалася,
За лазовенькі трымалася.
Ой-лі, ой-лі, ой-люлі,
За лазовенькі трымалася.

А казалі, што мой муж добры,
Няхай будзе таму век доўгі.
Ой-лі, ой-лі, ой-люлі,
Няхай будзе таму век доўгі.

### 186д. А МОЙ МУЖЫК ДОБРЫ

А мой мужык добры
Добры, добры... [1]

Таўчэ, меліць, меліць,
Меліць, меліць...

Вады прынясе,
Прынясе, прынясе...

І абойме, пацалуе,
Пацалуе, пацалуе...

---

[1] Апошняя слова кожнай страфы, як заўважае выканаўца, паўтараецца столькі, колькі хопіць духу.

Майму сэрцу так пануе,
Так пануе, так пануе...

А мой мужык не ўлюбіўся,
Не ўлюбіўся, не ўлюбіўся.

Майму сэрцу справініўся
Справініўся, справініўся...

Паганю ж я прадаваці,
Прадаваці, прадаваці...

Я ж не ведаю, што ўзяці,
Што ўзяці, ўзяці...

Ці сто рублёў залаценькіх,
Залаценькіх, залаценькіх..

Ці конікаў вараненькіх,
Вараненькіх, вараненькіх...

Ці волікаў палавенькіх,
Палавенькіх, палавенькіх...

З конікамі не вадзіцца,
Не вадзіцца, не вадзіцца...

З грошыкамі не насіцца,
Не насіцца, не насіцца...

А з міленькім памірыцца,
Памірыцца, памірыцца...

## 187. ПАБЯЦАЎСЯ МЕШЧАНІН МЯШЧАНАЧКУ ЎЗЯЦІ

Пабяцаўся мешчанін мяшчаначку ўзяці.
Яна ж яму адказала: — Я не ўмею жаці,
Будзе твая пшанічэнька ў полі зімаваці.
— Бадай жа ты, мяшчаначка, не даждала,
А каб мая пшанічанька ў полі зімавала!
У нядзелю была п'яна, ў панядзелак, ведзьма, спала.
А ў аўторак снапоў сорак пшанічкі нажала.
У сераду насадзіла, у чацвер змалаціла,
А ў пятніцу веяла, ў суботу мерала.
У нядзелю, малада, я да торгу павязла,
Пшанічаньку прадала, руб з палцінай узяла,
З казакамі прапіла.

Нямножачка пасядзела ля мядовай бочкі,
Нямножачка прапіла — чатыры клубочкі,
Нямножачка засталося — клубок на пахмелле,
Не баюся мужыка: сваё рукадзелле.

## 187а. ЗАХАЦЕЎ МЕШЧАНІН

Захацеў мешчанін
Мяшчаначку ўзяці,
А яна яму сказала,
Што не ўмее жаці.

А яна яму сказала,
Што не ўмее жаці.
— Напні мне палажок,
Я буду ляжаці.

Вылезу з палажка,
Напраду сарочку,
Ды вароны аснуюць,
А сарокі выткуць,
А белыя лебядзе
Выбеляць на вадзе.

## 187б. ЗАХАЦЕЎ МУЖЫЧОК

Захацеў мужычок
Мяшчаначку ўзяці.
Ён зрабіў новы сярпок,
Павёз жыта жаці.

Жала яна, жала,
Жала, пажынала,
Азірнулася назад,
Снапоў не вязала.

— А мая ж ты міла,
Што ж ты нарабіла?
А нашто я цябе браў,
Раз не ўмееш жаці?

— А навошта мяне браў,
Раз не ўмею жаці?
Зрабі хатку-губернатку,
Буду шыкаваці.

Як паехаў мужычок
У поле араці.
Яго жонка мяшчаначка
Ў карчомку гуляці.

Мужычок арае,
На цень пазірае.
Усе жонкі абед нясуць,
А яго гуляе.

Прыйшоў мужычок з арбы,
Яго ж жоначка з гульбы.

— Гаспадынька мая,
Парадушачка,
Ці дасі мне вячэраці,
Мая душачка?

— На паліцы луста хлеба,
Што мышаня ела,
Пад прыпечкам капустачка,
Што сем дзён калела.

### 188. ЗАХАЦЕЎ МУЖЫЧОК МЯШЧАНАЧКУ ЎЗЯЦІ

Захацеў мужычок мяшчаначку ўзяці,
Зрабіў ёй новы серп і павёў жыта жаці.
— Не буду я жаці, не буду вязаці,
Зрабі хатку, як камнатку,
Буду шынкаваці.
Як пайшоў мужычок
Ды ў поле араці.
Яго жонка мяшчаначка —
Ды ў места гуляці.
Арэ, арэ мужычок
Ды паднукавае,
Яго жонка мяшчаначка
Усё й падгукавае.
Як прыйшоў мужычок
Ды з аранейка.
Яго жонка мяшчаначка
З пагулянейка.
— Кацярына мая,
А ці ёсць што паесці?

— На паліцы скіба хлеба,
Што мыш не даела,
А пад лаўкай капустачка,
Што сем нядзель кіпела.
Раззлаваўся мужык
І стаў наракаці,
Што гультая-мяшчаначку
Захацеў узяці.

## 189. ОЙ, ПАЕХАЎ ХАЛІМОН

Ой, паехаў Халімон
Рана поле араці.
А забыўся Халімон
Хлеба, солі ўзяці.

— Ой, чужыя жонкі
Абедаць нясуць,
А маёй жа ж жонкі
Не відаць, не чуць.

Як я толькі на парог,
Мая жонка цуп да ног:
— А мой жа ты мілы,
Ды не бі ж ты мяне.

Я ў бяседзе была,
Я гарэлку піла:
Адну румку за цябе,
А другую за сябе.

## 189а. ЯК ПАЕХАЎ ХАЛІМОН ДЫ Ў ПОЛЕ АРАЦІ

Як паехаў Халімон ды ў поле араці,
Ды забыўся Халімон хлеба, солі ўзяці.
— Як чужыя жонкі ўсе абед нясуць,
Ад мае шэльмы нямашака й снедаць.
Як пайду ж я дамоў ды цераз дуброўку
Ды вырублю тры дубчыкі на жонкіну галоўку.
Толькі ж ён на парог, а жонка да ног:
— А мой мілы, Халімонка, ды не бі ж ты мяне.
Не карай ты мяне, я ў суседа на бяседзе мёд-
гарэлку піла,
За сябе то стакан, за цябе ж другі.
— А спасіба, жона, табе, што не забылася пра мяне.

## 189б. ЯК ПАЙШОЎ ХАЛІМОН *

Як пашоў Халімон
Ды у поле араць, гэй!
І забыўся Халімон
Хлеба, солі ўзяць,
Чырында!

Як араць, так араць,
Усе пасвіствае, гэй!
А чужыя жонкі
Мужам есці нясуць,
Чырында!

Ужо чужыя жонкі
Мужам есці нясуць, гэй!
А маёй Чапялінкі
Не чуваць, не відаць,
Чырында!

Ды пайшоў Халімон
На палудзень дамоў, гэй!
Халімон на парог —
Чапялінка да ног,
Чырында!

— Ой, не бі ж ты мяне,
Не свары на мяне, гэй!
Я на рынку была,
Па тры чаркі піла,
Чырында!

Я на рынку была,
Па тры чаркі піла, гэй!
За цябе, за сябе,
За здароўе сваё,
Чырында!

## 189в. ЯК ПАЙШОЎ ФІЛІМОН

Як пайшоў Філімон
Роўна поле araці,
Чырында.

Пазабыў Філімон
Солі, хлеба ўзяці,
Чырында.

Усе жоначкі ідуць,
Мужам есці нясуць,
Чырында.

А маёй чапяліны
Як няма, так няма,
Чырында.

Ой, пастаўлю ж я валы
На крутыя берагі,
Чырында.

Як пайду ж я ў даліну,
Ды й высеку я дубіну,
Чырында.

Як высеку я дубіну
І на жончыну спіну,
Чырында.

Дубіна на парог —
Чапяліна мне да ног,
Чырында.

— Ой, не бі ж ты мяне,
Не губі ж ты мяне,
Чырында.

Я й на рыначку была,
Я й гарэлачку піла,
Чырында.

Адну румку за сябе,
А другую за цябе.
Чырында.

### 189г. ОЙ, ПАЕХАЎ ХАЛІМОН

Ой, паехаў Халімон
Ў чыста поле араць
Ды забыўся Халімон
Хлеба-солі ўзяць.

Ой, арэ ж ён, арэ
Ды наворвае,
Ды на красна сонейка
Паглядвае.

— Чужыя жонкі
Абед нясуць,
Мае шэльмы
Не відаць, не чуваць.

Ой, пастаўлю я валы
Ды на чорнай раллі,
А сам пайду ў даліну
Ды высеку дубіну.

Ды пайду ж я,
Ды жонку наб'ю.
Як я толькі на парог —
Дык мне жонка пуц да ног.

— А не бі ж ты мяне,
Не карай ты мяне.
Я на рыначку была,
Мёд-гарэлку піла.

Адну чарку — за сябе,
А другую — за цябе,
А трэцюю — за здароўечка твае.

## 189д. ЯК ПАЙШОЎ САЛАМОН

Як пайшоў Саламон
Ды ў поле араці,
Ды чырында!

Пазабыў, пазабыў
Хлеба, солі ўзяці,
Ды чырында!

Як арэ ды арэ,
А ўсё сонечка ўгарэ,
Ды чырында!

— Усе бабы ідуць,
Падпалуднічак нясуць,
Ды чырында!

А майго гультая
Ды з падпалуднічкам няма,
Ды чырында!

Ой, пайду я на гару
Ды выламаю галіну,
Ды чырында!

Прыступіў на парог —
Пала жоначка да ног,
Ды чырында!

— Не бі мяне, мужу мой,
Я яешніцу спяку,
Ды чырында!

Я яешніцу спяку,
Падвячорак прынясу,
Ды чырында!

Залавіца за сталом:
— Давай, давай гультаём,
Ды чырында!

Ляжыць Габрусь на пячэ,
Ды вытрашчыўшы зяграчэ,
Ды чырында!

Апалонік на паліцы:
— Давай, давай залавіцы,
Ды чырында!

### 189е. ЯК ПАЙШОЎ САЛЯМОН ХУТКА ПОЛЕ АРАЦЬ

Як пайшоў Салямон хутка поле араць,
Чарадой.
І забыў Салямон хлеба й солі ўзяць,
Чарадой.
— Усе бабкі ідуць, падвячоркі нясуць,
Чарадой.
Як пастаўлю каня на крутую гару,
Чарадой.

Ну пайду ж пагляджу, дзе ты, шэльма, была,
Чарадой.
— Я ў карчомцы была, па тры румачкі піла,
Чарадой.
За цябе і за сябе, за здароўечка тваё,
Чарадой.
Салямон на парог — чапяліна каля ног,
Чарадой.
— Ой, не бі ж ты мяне, пажалей жа ты мяне,
Чарадой.
Ой, тавар мой, тавар, тавар вярні ты мой,
Чарадой.

## 190. ПАЙШОЎ СЫМОН, ПАЙШОЎ СЫМОН *

Пайшоў Сымон, пайшоў Сымон
Ды у поле араці,
Яго жонка Кацярына —
З казакамі піць-гуляці [1].

Арэ Сымон, арэ Сымон,
Даараўся да броду.
Пусціў волы на дуброву,
А сам пайшоў дадому.

Прыйшоў Сымон, прыйшоў
Сымон
Дый да новай хаты,
Пытаецца сваіх дзетак:
— Куды пайшла наша маці?

— Ой, пайшла наша маці
У лес па каліну,
Бажылася і клялася,
Што вас, дзеткі, пакіну.

Пайшоў Сымон да каморы
Дый да новай скрынкі.
— Няма срэбра, няма злота,
Няма жынкі Кацярынкі.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

Кацярына дый не дура,
Новы чобаты абула,
У кажух новы адзелася,
З казакамі папляласся.

А Сымон з такога гора
Ды аб печ галавою,
Ой, божа мой едыненькі,
Ды з такой жаною.

## 190а. ЯК ПАЕХАЎ СЯМЁНАЧКА

Як паехаў Сямёначка
Ды й на поле араці.
Араў, араў, Сямёначка
Ды й на шлях зазірае:
— Усе жанкі абед нясуць,
А мая не дбае.

Як выпрагу сівых валоў
Ды з новага плуга
Да пушчу я сівых валоў
Да зялёнага луга:

— Пасіцеся, сівы валы,
Ды не бойцеся воўка,
А я пайду ды дадоміку,
Ды баліць мая галоўка.

Як прыйшоў жа Сямёначка
Ды і з поля дадому,
Пытаецца ў сваіх дзетак:
— Ой, дзе ваша маці.

— Наша маці, наша маці
Пайшла ў луг па каліну,
Забажылася, заклялася,
Што я вас тут пакіну.

Як пайшоў Сямён
Ды да сваёй святліцы:
Няма хлеба ні скарынкі,
Няма ні пярыны.

Як стукнуў жа Сямёначка:
Да й аб стол кулакамі:
— Дзеткі ж мае дробненькія,
Ды прапаў жа я з вамі!

## 1906. ТАМ У ЛЕСЕ, ТАМ У ЦЕМНЫМ

Там у лесе, там у цёмным
Новыя навіны.
Спадманула Кацярына
Хазяйскага сына.

— Кідай бацьку, кідай маці,
А я кіну дзеці.
Пойдзем жа мы ў даліну
Навіны глядзеці.

Не бойся ты, Ляксеечка,
Няма каму жаці.
Выправіла свайго мужа
Ў поле араці.

Арэ, арэ Арсеечка,
Назад пагладае.
— Усе жонкі есці нясуць,
А мая чорт знае.

Кінуў плугі на ўсе лугі,
Пайшоў ён глядзеці.
Прыходзіць ён да хатачкі,
Ажно адны дзеці.

Прыходзіць ён да хатачкі,
Ажно адны дзеці,
Пытаецца ў дзетачак:
— А дзе ваша маці.

— Пайшла маці наша з ранку
У бор па цялятка.
Выходзячы нам сказала:
— Я не ваша маці.

Пайшла маці наша з ранку
У луг па каліну.
Выходзячы нам сказала,
Што я вас пакіну.

Як кінецца Арсеечка
Галавой аб скрыню:
— Няма срэбра, няма злота,
Няма Кацярыны.

Як кінецца Арсеечка
Аб пол галавою:
— Прапаў жа я, загінуў я
З такою жаною.

### 190в. АЖАНІЎСЯ ХАЛІМОН

Ажаніўся Халімон,
Узяў жонку Любку,
Ай, я-я, ай, я-я, гопа,
Шундар-мундар, гу-цу-цу [1].

Ён цалуе, ён мілуе,
Як сізу галубку.

Як паехаў Халімон
У поле араці.

Ды забыў Халімон
Хлеба-солі ўзяці.

Ён арэ, ён арэ,
На шлях паглядае.

— А ўсе жонкі абед нясуць,
Мая шэльма не дбае.

### 191. СЛУЖЫЎ ІВАН ПРЫ ПАНУ

Служыў Іван пры пану,
А выслужыў Таццяну.

Пашоў Іван у поле араць,
А Таццяна ў карчомку гуляць.

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Ідзе Іван з арання,
А Таццяна з гуляння.

На Таццяне чаравічкі,
Што спраўлялі невялічкі.

На Таццяне панчошкі,
Што спраўлялі скамарошкі.

На Таццяне фартушкі,
Што спраўлялі пастушкі.

На Таццяне андаракі,
Што спраўлялі дваракі.

На Таццяне кашуля,
Што сто злотых каштуе.

На Таццяне грабяні,
Што спраўлялі кавалі.

На Таццяне чугаі,
Што спраўлялі цыганы.

# ЖОНКА ГУЛЯЕ, У КАРЧМЕ ВЫПІВАЕ

## 192. ПРАЛА Б Я КУДЗЕЛЕЧКУ *

Прала б я кудзелечку,
Галоўка баліць,
Пашла б у карчомачку,
Ды муж не вяліць.

Паехаў мой міленькі
У полейка арацъ,
А я, маладзенькая,
Уздумала гуляць.

Я сваю кудзеліцу
Аб зямельку бразь!
Пабегла ў карчомачку
Ды там упілась.

Вот прыехаў міленькі
З полейка, з арбы,
А я на пярыначках
Сплю сабе з гульбы.

— Ой, бяжыце, дзетачкі,
Мамачку будзіць.
— Ціха, ціха, татачка,
Няхай мамка спіць.

— Уставай, уставай, мілая,
Уставай, прабудзісь.
Вазьмі саракавачку,
Да йдзі пахмялісь.

## 192а. ЯК ПАЕХАЎ МОЙ МІЛЕНЬКІ *

Як паехаў мой міленькі
Ды й па сена ў стэп,
А я сваю кудзеленьку
Ды аб землю гэп!

Ляжыць мая кудзеленька
Ды й надулася,
А я пайшла да карчомкі
Ды й напілася.

Ой, прыехаў мой міленькі
Ад сена дахаты,
Пытаецца сваіх дзетак:
— Дзе ваша маці?

— Нідзе наша матуленька
Ныне не была,
Толькі ўчора ды й з вечара
Гарэлку піла.

— Ох, устань, ох, устань, мая міла,
Ох, устань, не журыся,
А на табе цалковічак,
Пайдзі расплаціся!

— Ой, нашто мне цалковічак,
Ой, нашто мне два.
Ўчора піла на карову,
Ныне на вала.

### 1926. ПРАЛА Б Я КУДЗЕЛІЦУ

Прала б я кудзеліцу,
Галава баліць,
А пайшла б да карчомкі,
Мужык не вяліць.

Як пайшоў мой міленькі
У поле араць,
А я сваю кудзеліцу
Палажыла спаць.

Спіць мая кудзеліца
Ды надулася,
А я пайшла да карчомкі
Ды напілася.

Як прыехаў мой міленькі
З поля, з арання,
Пытаецца ў дзетак:
— Дзе мама была?

— Наша мама ў караваці,
У шынкарачкі спіць.
— Ціха, дзеці, не будзіце,
Няхай яна спіць.

— Устань, устань, міла,
Устань, прабудзісь,
Дам табе чырвончык,
Ды ідзі расплацісь.

— Не паможа мне чырвончык,
Не паможа два.
Учора піла на карову,
Сёння на вала.

— Ой, бадай ты, мая міла,
Здарова была.
Калі ты майго рабочага
Вала прапіла.

### 192в. ПРАЛА Б, ПРАЛА Б КУДЗЕЛІЦУ

Прала б, прала б кудзеліцу,
Галоўка баліць.
Пайшла ж бы я ў пір гуляць,
Ды муж не вяліць.

Як паехаў мой міленькі
Поле барнаваць,
А я, млада-младзёшанька,
У кабак гуляць.

Вот прыехаў мой міленькі
І з поля дамоў,
Пытаецца ў малых дзетак:
— А дзе ж наша маць?

Пытаецца ў малых дзетак:
— А дзе ж наша маць?
— Наша маці ў гораньцы,
Легла яна спаць.

— Ціхуйце, малы дзеткі,
Няхай мама спіць,
А я пайду ў гораньку
Сам яе будзіць.

— Устань, устань, мая міла,
Устань, прабудзісь,
А на ж рублік табе грошай,
Ідзі пахмялісь.

Мала табе рубельчыка,
Вазьмі ж ты і два,
Прапіла ты каровачку,
Прапі ж і каня.

Прапіла ты каровачку,
Прапі і каня,
Абы мая мілая
Здарова была.

### 192г. ПРАДУ, ПРАДУ КУДЗЕЛІЦУ

Праду, праду кудзеліцу,
Галава баліць.
Пайшла б у карчомку —
Мілы не вяліць.

Як паехаў мой міленькі
У поле араць,
А я, млада-младзёшанька,
У карчму гуляць.

Як прыехаў мой міленькі
І з поля дамоў,
Пытаецца ў дробных дзетак:
— А дзе ж наша маці?

— Наша маці у кравbooці
П'яная ляжыць.
— Ціша, дзеці, не шуміце,
Няхай маці спіць.

Як прачнецца матуленька,
Яе пахмяліце,
А як прыдзе тры шынкаркі,
Вы ім заплаціце.

— Пахмялілі, татулечка,
Пахмялілі.
Заплацілі сорак рублёў
І чатыры.

— А бадай ты, мая міла,
Здарова была.
Учора піла на карову,
Сёння — на вала.

## 192д. ПРАЛА Б, ПРАЛА Б КУДЗЕЛІЦУ

Прала б, прала б кудзеліцу,
Галава баліць.
Піла б, піла б гарэліцу,
Ды муж не вяліць.

Як паехаў мой міленькі
У поле, у стэп,
А сваю кудзеліцу
Ды аб землю гэп.

Ляжыць мая кудзеліца
Ды надулася,
А я, млада-младзенечка,
Ды напілася.

Як прыехаў мой міленькі
Ды з поля дамоў,
Ён пытае малых дзетак:
— А дзе ваша маць.

Цыцце, дзеці, цыцце, малы,
Няхай маці спіць.
Устань, устань, мая жонка,
Устань, прабудзісь.

Устань, устань, жоначка,
Устань, прабудзісь.
На-ка табе грывень восем,
Ідзі пахмялісь.

— А мне мала восем грывень,
Мала і рубля.
Учора піла за карову,
Сёння за вала.

Ой, зараўла каровачка,
Ой, зароў і вол.
Запрапала галовачка
За бабскі прапой.

## 193. А ЖАНА НА МУЖА *

А жана на мужа
Ўсердзілася дужа.
Ай, ды люлі [1].

На печку палезла,
Шубаю накрылась.

— Устань, устань, міла,
Прынёс табе піва.

— Не хачу я піва,
Баліць мая спіна.

— Устань, устань, міла,
Прынёс і гарэлкі.

— Не хачу гарэлкі,
Шукай сабе дзеўкі.

## 193а. НА ДВАРЭ ДОЖДЖЫК, А У ХАЦЕ ЛУЖА *

На дварэ дожджык, а у хаце лужа,
Нагневалася жонка на мужа.

Нагневалася жонка на мужа,
Залезла на печку, сказала: нядужа!

Міленькі ходзіць, ручанькі ломіць,
Міла на печы ані не гаворыць.

[1] Другі радок і прыпеў паўтараюцца двойчы пасля кожнай страфы.

— Уставай, мілая, я прынёс мёду!
— Дай жа мне спакой — галоўкі не звёду!

Міленькі ходзіць, ручанькі ломіць,
Міла на печы ані не гаворыць.

— Уставай, міла, я прынёс піва!
— Дай жа мне спакой, я ледзьве што жыва!

Міленькі ходзіць, ручанькі ломіць,
Міла на печы ані не гаворыць.

— Уставай, міла, я прынёс гарэлкі!
— Дай жа мне спакой — шукай сабе дзеўкі!

Міленькі ходзіць, ручанькі ломіць,
Міла на печы ані не гаворыць.

— Уставай, міла, я прынёс дубінку,
Я прынёс дубінку ды на тваю спінку!

Міленька ўстала, як бы не ляжала,
Узяла мілога дый пацалавала:

— Дзякуй табе, мілы, што ты дагадаўся,
На маю хваробу спосабу стараўся.

Бо мне не балелі ні цела, ні косці,
Толькі я ляжала з вялікае злосці.

## 1936. СУХОЕ ЛЕТА, МОКРАЯ ЛУЖА *

Сухое лета, мокрая лужа,
Загневалася жонка на мужа.

Загневалася жонка на мужа,
Узлезла на печку, сказала: нядужа.

Прыйшоў міленькі, стаў каля печкі,
Стаў каля печкі, просіць міленьку:

— Лезь, мілка, з печы, прынёс табе дулек.
— Памру, міленькі, толькі з адных думак .

— Лезь, мілка, з печы, я прынёс гарэлкі.
— Памру, міленькі, шукай сабе дзеўкі.

— Лезь, мілка, з печы, я прынёс дубінку,
Прынёс дубінку я на тваю спінку.

Тут мая мілка як у печы згарэла:
— Ах, мой міленькі, я ж і не хварэла.

## 193в. НА ДВАРЭ ДОЖДЖЫК

На дварэ дожджык,
А ў хаце лужа.
Разгневалася жонка
Ды на свайго мужа.

Міленькі ходзіць,
Ручанькі ломіць:
— Чаго ж мая любка
Са мной не гаворыць?

Разгневалася жонка
Ды на свайго мужа,
Залезла на печку,
Сказала: нядужа.

Міленькі ходзіць,
Ручанькі ломіць:
— Чаго ж мая любка
Са мной не гаворыць?

Устань, устань, міла,
Прынёс табе піва.
— Дай жа мне спакой,
Я ледзьве жыва.

Міленькі ходзіць,
Ручанькі ломіць:
— Чаго ж мая любка
Са мной не гаворыць?

Устань, устань, міла,
Я прынёс гарэлкі.
— Чорт цябе забяры,
Шукай сабе дзеўкі.

Міленькі ходзіць,
Ручанькі ломіць:
— Чаго ж мая любка
Са мной не гаворыць?

Устань, устань, міла,
Прынёс табе мёду.
— Дай жа мне спакой,
Я не ем яго зроду.

Міленькі ходзіць,
Ручанькі ломіць:
— Чаго ж мая любка
Са мной не гаворыць?

Устань, устань, міла,
Прынёс я дубінку
Тонкую, гібкую
Ды й на тваю спінку.

Міла ўстала
Як бы не ляжала,
Абняла мілога
Ды й пацалавала.

— Дзякую табе, мілы,
Што ты здагадаўся,
Ад маёй хваробы
Зелля расстараўся.

Не балела цела,
Не балелі косці.
Гэта ж я ляжала
З вялікае злосці.

## 193г. ЗАГНЕВАЛАСЯ ЖОНКА НА МУЖА

Загневалася жонка на мужа,
Лягла на печы, сказала: нядужа.

А міленькі ходзіць ды ручанькі ломіць.
Жона да мужа нічога не гаворыць.

— Уставай, уставай, міла,
Я прынёс табе піва.

— Дай жа мне спакой,
Бо не буду жыва.

— Уставай, уставай, міла,
Я прынёс табе квасу.

— Дай мне спакой,
Не выбуду часу.

— Уставай, уставай, міла,
Я прынёс гарэлкі.

— Дай жа мне спакой,
Шукай сабе дзеўкі.

Як пайшоў жа мілы
Ды на рыначак
Ды купіў жа мілы
Ды дубіначак.

Як стаў жа мілы
Ды мілую біці,
Тады стала міла
Мілага любіці.

— Дзякуй табе, мілы,
За тваё надоб'е,
Што ты дагадаўся
На маё здароўе.

## 193д. БЫСТРАЯ РЭЧКА, ШЫРОКАЯ ЛУЖА

Быстрая рэчка, шырокая лужа,
Гневалася жонка на свайго мужа.

Легла на печ, расхварэлася,
Ей жа галоўка разбалелася.

Пайшоў міленькі, прыносіць ёй піва.
— Не буду піць піва — вялікае дзіва.

Пайшоў міленькі, прыносіць ёй мёду.
— Не буду піць мёду — вялікага роду.

Пайшоў міленькі ў лес па дубінку,
Прынёс дубінку на жончыну спінку.

Убачыла жонка — з печы зваліласяу
Мужу ў ножкі нізка скланілася.

— Дзякуй, міленькі, за тваё здароўе,
Што ты перазнаў усё маё нароўе.

Не балела галава, не баляць і косці,
Толькі я ляжала дзеля сваёй злосці.

### 193е. ЖОНА НА МУЖА

Жона на мужа
Раззлавалася дужа.

Легла ў кравацi,
Пачала стагнаці.

— Не хачу я піва,
Я не буду жыва.

Прыходзіць мілы,
Прынес ёй гарэлкі.

— Не хачу я гарэлкі,
Бяры сабе дзеўку.

Прыходзіць мілы,
Прыносіць дубінку,

Прыносіць дубінку
На маю спінку.

З печы саскачыла,
Хлеба укусіла,

Вады напілася
І ўбокі ўзялася.

— А спасіба, мілы,
Дай бог табе здароўя.

Як ты з мяне выгнаў
Усё панароўе.

У мяне ж не балела
Ні галава, ні косці,

Толькі я ляжала
Ад вялікае злосці.

## 193ж. ОЙ, У ЛУЗЕ, ЛУЗЕ РАЗЛІЛАСЯ ЛУЖА

Ой, у лузе, лузе разлілася лужа,
Загневалася дай жонка на мужа.

Ой, загневалася дай жонка на мужа,
Дай лягла на печы, як быццам нядужа.

Ой, прыйшоў жа мілы дай прынёс віна.
— Адступі, нялюбы, бо не буду жыва.

Ой, пайшоў жа мілы дай прынёс вілы.
— Адступі, нялюбы, шукай маладзіцы.

Ой, пайшоў жа мілы дай прынёс дубінку.
— Гэта табе, міла, ды на тваю спінку.

Ой, устала міла, ля мілога села,
Ля мілога села, песеньку запела.

Ой, пытае мілы, што ў цябе балела,
Ці белыя косці, ці румяна цела.

— Ой, не румяна цела, не белыя косці,
Я ж ляжала, мілы, ад свае ад злосці.

## 193з. А НА ГАРЭ ДОЖДЖ, ДОЖДЖ

А на гарэ дождж, дождж,
А на нізе лужа.
Загневалася
Жонка на мужа,
Палезла на печ,
Хвора і нядужа.

— Устань, устань, жонка,
Дам табе я піці.
— Дай, мужу, спокуй,
Не буду я жыці.

— Устань, устань, жонка,
Прынясу я мёду.
— Дай, мужу, спокуй,
Не ела я зроду.

Пайшоў дзед да лесу,
Выламаў дубіну:
— Злазь, скаціна, з печы,
Вось — на тваю спіну!

— Дзякуй табе, дзедка,
Што ты здагадаўся,
На маю хваробу
Зелля расстараўся.

## 193і. А У МАЙГО МУЖА

А ў майго мужа
Сярод двара лужа.
Ай, да люлі! [1]

Я на свайго мужа
Разгневалась дужа.

На печку палезла —
З печкі звалілася.

— Устань, мая міла,
Напіся ты піва.

— Не хачу я піва,
Баліць мая спіна.

— Устань, мая міла,
На табе гарэлкі.

— Не хачу гарэлкі,
Шукай сабе дзеўкі.

[1] Апошні радок паўтараецца пасля кожнай страфы.

— Устань, мая міла,
У парозе дубіна.

Мая міла ўстала,
Ля парогу стала.

Па-за сталом села,
Краец хлеба з'ела.

Краец хлеба з'ела,
Вады напілася.

Вады напілася
І ўбокі ўзялася.

Убокі ўзялася,
Пайшла танцаваць.

Пайшла танцаваць,
Мілага ўцяшаць.

### 193й. ОХ, І У ЛУЗЕ, У ЛУЗЕ

Ох, і ў лузе, ў лузе
Трава зеляная.
Харошага мужа
Жонка маладая.

Ой, і ў лузе, ў лузе
Трава зашумела.
Харошага мужа
Жонка забалела.

— Ой, ідзі ж ты, мілы,
Прынясі гарэлкі,
А я памру сама,
Шукай сабе дзеўкі.

Ідзі, ідзі, мілы,
Нясі гарнец піва,
Памру, памру, мілы,
Я й не буду жыва.

Як пайшоў жа мілы
У лес, у лясінку.
Як выразаў мілы
Пругкую дубінку.

Як выразаў мілы
Пругкую дубінку,
Як папарыў мілы
Спінку-серадзінку.

Яна ж тады ўстала,
Здароваю стала.
Яна ж ля яго села,
Тры песенькі спела.

## 194. ЯК НА МУЖА Я УГНЕВАЛАСЯ

Як на мужа я ўгневалася,
Не вячэраўшы, спаткі лягла.
Як устала ранюсенька,
Запаліла яшчэ свечачку,
Як палезла я ў печачку,
А там парася, парася.
Скруціла, звярцела,
Адна яго з'ела,
Вот я й хараша, хараша.
Чатыры шчэ качачкі,
Наверх гаршчок кашачкі,
Усё з'ела, усё змяла
Ды шчэ таго мала, мала.

## 195. АД НЯДЗЕЛІ ДА НЯДЗЕЛІ

Ад нядзелі да нядзелі
Жана праляжала.
А ў аўторак снапоў сорак
Пшаніцы нажала.
У сераду сушыла,
У чацвер малаціла.
У пятніцу веяла,
У суботу мерала,

А ў нядзелю ўзяла
Усю пшаніцу павязла,
На базары прадала.

## 195а. Я Ў НЯДЗЕЛЮ СПЛЮ, СПЛЮ

Я ў нядзелю сплю, сплю,
Ў панядзелак жну, жну,
А ў аўторак снапоў сорак
Пшанічанькі жну, жну.

У сераду вазіла,
Ў чацвер малаціла,
У пятніцу веяла,
У суботу мерала.

А ў нядзелю прадала,
З хлопцамі прапіла.
Слава табе, госпадзі,
Што да ладу давяла.

Не да ладу ж я
І не работа мая.
З хлопцамі пагуляць —
Ўся ахвота мая.

## 195б. У ПАНЯДЗЕЛАК МАЛАДАЯ

У панядзелак маладая
Увесь дзень ляжала,
А ў ваўторак снапоў сорак
Пшаніцы нажала.
А ў сераду вазіла,
А ў чацвер малаціла,
А ў пятніцу веяла,
А ў суботу мерала,
А ў нядзелю малада
На таржок павязла.
На таржок павязла
Руб з палцінай ўзяла.
Руб з палцінай ўзяла,
З казакамі прапіла.

## 195в. У НЯДЗЕЛЮ П'Ю, П'Ю

У нядзелю п'ю, п'ю,
Ў панядзелак сплю, сплю,
А ў аўторак снапоў сорак
Пшанічанькі б'ю, б'ю.
Набіла пшаніцы
Чатыры дайніцы.
— Памажыце прадаць,
Мае вы сястрыцы.
А й пшаніцу прадала,
Усе грошы прапіла,
Усе грошы прапіла
І п'яная не была.
А ў майго таткі
Вялікі дастаткі:
Дзве курыцы дойны
З усёй гаспадаркі,
Пятух не цяленькі,
Кот не жарабенькі.
Пятух ацяліўся,
Кот ажарабіўся —
Вот тады мой татулька
Багаты зрабіўся.
А я свайго мужа
Шанаваці буду:
Запрагу ў барану,
Баранаваць буду.
Бараную, бараную,
Сяду адпачыну.
Выпрагаю з бараны,
Еду па лучыну,
Пад гару сядаю,
З гары падпіхаю,
Бо я свайго мужа
Вельмі паважаю.
— Цягні, мужу, цераз лужу,
Хоць падарвіся,
А са мною, маладою,
Болей не сварыся.

## 195г. А Ў НЯДЗЕЛЮ РАНА

А ў нядзелю рана,
У панядзелак п'яна.
А ў аўторак снапоў сорак
Пшаніцы нажала.

Нажала пшаніцы
Толькі дзве дайніцы.
Ой, пойдзем прап'ём,
Мае вы сястрыцы.

Пілі мы, пілі,
Усю пшаніцу прапілі,
Як прыйшлі мы да хатанькі,
Нас мужыкі білі.

Біце не біце,
Пшаніца не вернецца,
Бо мы ўжо ўсю тую
Пшаніцу прапілі.

— Мы не за тое вас білі,
Што вы пшаніцу прапілі,
А за тое білі,
Што рана не былі.

## 196. У НЯДЗЕЛЮ НА ТАРЖОЧКУ

У нядзелю на таржочку,
Ой, гуляла,
Эй, верацён на рубель
Накупляла.

А ад тае работачкі,
Ой, у аўторак,
Эй, напрала танюсенька
Кудзель сорак.

У сераду і чацвер,
Ой, сядзела.
Эй, у чацвер учадзеўшы,
Я хварэла.

У пятніцу ўсе людзі,
Ой, гулялі,
Эй, у суботу радзіначку
Спаміналі.

У суботу радзіначку,
Ой, успаміналі,
Эй, а ў нядзелю на вяселле
Дый пазвалі.

### 197. У НЯДЗЕЛЮ Я НА РЫНАЧАК ХАДЗІЛА

У нядзелю я на рыначак хадзіла,
За тры грошы я кудзелечку купіла,
За латынец верацёнец падхапіла,
А, прышоўшы дамоў, палажыла.
— А ляжы, мая кудзелька, хоць нядзельку,
На добрую папрадуху, хоць другую.
Ў панядзелак жа я баню пратапіла,
А ў аўторак жа я парыцца хадзіла,
А ў сераду я з угару праляжала,
А ў чацвер жа буйну галаву часала,
А ў пяцінку добры жоны не прадалі,
А ў суботу радзіцелей памінaлі,
А ў нядзелю я ўставала ранюсенька,
Выводзіла тры нітачкі танюсенька
Ды нагнала тры мазолечкі крывавых.
— Не прадзі ж ты, мая міла, не мазолься,
Як настане вясна красна, лета цёпла,
Як вырасце лес шырокі падлапушны,
Я ж пашыю сарахванчык-раздуманчык.
— Не хадзі ж ты, мая міла, каля тыну,
Каб паповы шэры козы не ўвідалі,
Сарахванчык-раздуманчык не парвалі.
Як пайшла мая міла каля тыну
А паповы шэры козы увідалі,
Сарахванчык-раздуманчык не парвалі.

### 197а. А СКАЗАЛІ ПРА МЯНЕ, МАЛАДЗІЦУ

А сказалі пра мяне, маладзіцу,
А сказалі пра мяне небыліцу,
Што я, молада, не ткаха, не праха.

Я ў нядзельку на таржочак хадзіла,
За рубель я верацён старгавала,
На капеечку кудзелькі купіла.

Як устала ў панядзелак ранен
Як вывела ды тры ніткі таненька,
Ды нацёрла тры крываві мазалі.

А ў сераду я ў лазню хадзіла,
А ў чацвер я з угару ляжала,
А ў пятніцу ўсе людзі не пралі,
А ў суботу радзіначку паміналі.

А ў нядзелю на вяселле пазвалі,
А нямашака ў мяне ні сарочкі,
А нямашака ў мяне ні намёткі.

Як пайду я, молада, у чыста поле,
Укручуся, увярнуся ў лапушынку,
Ды пайду я да суседа на бяседу.

А дзе бралася ды чарка мядовая,
Ды я стала, молада, упівацца,
Стала на мне лапушынка разлязацца.

Як пачалі з мяне людзі смяяцца
Ды ад сораму дамоў разбягацца.
Адзін толькі гаспадар прызнаўся
І той ад мяне за ступу схаваўся.

## 198. Я Ў СЕРАДУ РАДЗІЛАСЯ

Я ў сераду радзілася,
Хі-лі-лі [1].
На ўсё ліха вучылася,
І касіці, і араці,
І барану валачыці.
З паўзагона не ўзарала,
Да карчомкі дала драла,
Ад карчомкі да карчомкі,
Нясі паўгарца гарэлкі.
Мне паўгарца не спаможа,
Нясі гарнец, а то й болей.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 199. АХ ТЫ, РУМАЧКА-КАБІНЕТКА

Ах ты, румачка-кабінетка,
Прыходзіла ка мне рэдка.

А я яе люблю піці,
А выпіўшы, пагуляці.

Рыба шчука з акунямі,
А я, млода, з малайцамі.

Рыба шчука па пясочку,
А я. млода, па садочку.

## 200. ГАРЭЛАЧКА-ПІТУШАЧКА

Гарэлачка-пітушачка,
Як я цябе люблю,
А хто ж цябе піць будзе,
Як я, малада, памру!
А будуць піці, успамінаці
Суседачкі мае.
— А дзе ж тая пітушачка,
Што з намі выпівала,
А дзе ж тая гулюшачка,
Што з намі гуляла?

## 201. ЧАРАЧКА-КАТОК

Чарачка-каток,
Кацiся ў раток.
Не йдзі ў галоўку,
А йдзі ў жываток.

У галоўку пойдзе —
Балеці будзе,
У жываток пойдзе —
Добранька будзе.

## 202. А ХТО П'Е — НАЛІВАЙЦЕ

А хто п'е — налівайце,
Хто не п'е — не давайце.
А я буду піці-піці,
Як малыя дзеці.
Адвярнуся ў куток —
Восем чарак у раток,
Праўда й то.
Ой, выпіла, выпіла,
Сама сябе пахваліла:
— А я з добрага роду,
П'ю гарэлку як воду.
П'ю гарэлку — не скрыўлюся,
Раблю дзела — не скрабуся,
Праўда й то.

## 202а. А ХТО П'Е — НАЛІВАЙЦЕ

А хто п'е — налівайце,
Хто не п'е — не давайце.
А ■ буду піці, піці,
Як малыя дзеці.
Завярнуся ў куток —
Сем чарак у раток,
Праўда й то.
Ой, чарка мала
Ды й гарэлкі няма.
Хілю, хілю — не цячэ,
Каля сэрца пячэ.

## 203. Я ВЫПІЛА, ЗАКУСІЛА

Я выпіла, закусіла,
Па століку пакаціла.

Захінулася ў куток,
Па тры чарачкі ў раток.

Яшчэ гэта мала,
Прапіла і сала.

Яшчэ мяне павяло,
Прапіла і памяло.

Яшчэ гэта радку
І цыбулькі градку.

І цыбулькі градку,
І новую хатку.

## 204. ОЙ, МЫ ПЕСЕНЬКУ СПЕЛІ *

Ой, мы песеньку спелі,
Усю закусачку з'елі.
Ой, гулі, ой, гулі,
На паліцы бліны! [1]

Каб гарэлачкі далі,
Весялейшыя сталі б.

Каб чарачку гарэлачкі,
То я напілася б.

Як за добрым мужычком,
То я разжылася б.

Чарачка-чубарачка,
Новы гарадочак.

Як не бачу — тры дні плачу,
Баліць жываточак.

Каб чарачку гарэлачкі,
Драбіначку перцу.

Палячыла б жываточак,
Лягчэй было б сэрцу.

## 205. МУЖЫК ЖЫТА ПРАДАЕЦЬ*

Мужык жыта прадаець,
Жонцы грошы не даець.
А я з родным сыйдуся,
За быбульку нап'юся.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Прышоў шышка за даўгом,
Мяне дома не было,
Узяў качаргу й памяло.

## 206. ЯК ДУДУ, ТАК ДУДУ

Як дуду, так дуду,
Па калені ў лебяду.
— Ці я табе наймітка,
Што босая хаджу?
— Хадзі, жонка, боса,
Так табе ўдалося.
А мне падаецца,
Гарэлачка й п'ецца.

## 207. ОЙ, П'ЯНА Я, П'ЯНА *

Ой, п'яна я, п'яна,
Я ўжо напілася,
Каб за добрым мужам,
Дык я б нажылася.

Каб за добрым мужам,
Дык я б нажылася,
За табою, шэльма,
Дык я знебылася.

## 207а. ОЙ, П'ЯНА Я, П'ЯНА*

Ой, п'яна я, п'яна,
На парозе ўпала.
Ой, падвядзі, мужу,
Бо п'яна я дужа.

Мілы падымае,
Мілае пытае:
— Дзе ж ты, міла, была,
Што мяне забыла?

— Была на рыночку,
Піла гарэлочку.
Як з родам зышлася,
То вельмі ўпілася.

Каб ты, мужу, быў добры,
Ды ўзяў нагай доўгі,
Ды стаў жонку біці:
— Не йдзі ў корчму піці!

Ой, дома напіся
Ды не валачыся.
Ой, вазьмі кватэрку,
Зазаві радзінку!

Кватэрка малая,
Радня вялікая.
Пагаворым, сэрца,
Прынясём вядзерца.

Пагаворым, дружа,
Прынясём другое.
Пагаворым шчыра,
Прынясём чатыры.

### 2076. ОЙ, П'ЯНА Я, П'ЯНА

Ой, п'яна я, п'яна,
На парозе ўпала.
— Адчыні, мілы, дзверы,
Я іду п'яна вельмі.

— Дзе ты, міла, была,
Што пра дом забыла.
— На рыначку была,
Гарэлачку піла.

На рыначку была,
Гарэлачку піла,
Гарэлачку піла,
Аб доме забыла.

Каб быў муж мой добры,
Узяў бы канчук добры
Да стаў жонку біці:
— Не йдзі ў карчму піці.

— Ты вазьмі кварціну
Да збяры радзіну,
І будзем мы піці,
Нашто жонку біці.

## 207в. ОЙ, П'ЯНА Я, П'ЯНА

Ой, п'яна я, п'яна,
На парозе ўпала.

Мілы адчыняе,
За ручку трымае.

— Дзе ж была, міла,
Што пра дом забыла?

— Была на рыночку,
Піла гарэлочку.

Я з родам сышлася,
Ўзяла напілася.

Каб мой муж быў добры,
Узяў бы бат доўгі.

Стаў бы мяне біці:
— Не йдзі ў карчму піці.

Ды ўзяў бы кварціну,
Сазваў бы радзіну:

— Да й дома напіся,
Да й не валачыся.

## 208. О МУЖУ, МУЖУ

— О мужу, мужу,
Што я учыніла:
Не ведала, гдзе авечкі,
Па полю блудзіла.

— Ой, жона, жона,
Як жа ты салгала.
На рыначку ты была.
Упіўшыся, спала.

Пашоў мужык да двара
Скаргі занашаці,
Прысудзілі мужыку
Жонку цалаваці.

Сядзіць жонка за сталом,
Ножкі пазгібаўшы,
А мужычок перад ёй,
Дый шапачку зняўшы.

— Ой, мужу, мужу,
Учынь маю волю,
Паскачы ж казачка
Ты перада мною.

## 209. А Ў СУБОТУ Ў ПАЎНОЧ

А ў суботу ў паўноч
Пашла жонка проч,
А ў нядзелю ранюсенька
Ідзе жонка п'янюсенька.
— Мужчыначкі вы мае,
Парадпічкі сіраце,
Дзе мне яе дзеці?
Зачапіў бы на вяроўку
І завёў бы ў каморку —
Мышы аб'ядуць.
Зачапіў бы на лычачку,
Пасадзіў бы на прыпечку —
Хлопцы абарвуць.
Увінуў бы ў паперку,
Пасадзіў бы ў куферку —
Не будзе сядзець.
Усадзіў бы ў агарод,
Дык збярэцца карагод —
Бацвінне патопчуць.

## 210. Я УЧОРА Ў ПІРУ БЫЛА *

Я ўчора ў піру была,
П'яненька дамоў прыйшла.
Ой, ёй-ёй-ёй, божа мой,
П'яненька дамоў прыйшла [1].

У вароты пастукала,
У вакенца паслухала.

Па хаце свёкар ходзіць,
У руках бізун носіць.

Ён у руках бізун носіць,
Залоўку набіць вяліць.

Мой мілы ўслед ходзіць,
Ён свайго татку просіць:

— Татанька радн юсенькі,
Не бі ты хмяльнюсеньку.

Бі жану цвярозую,
Белаю бярозаю.

Бярозанька беленька,
А мне жонка міленька.

Бярозанька з веткамі,
Мая жонка з дзеткамі.

## 211. НЕ Ў ПІРУ БЫЛА, НЕ Ў БЯСЕДАЧЦЫ

Не ў піру была, не ў бяседачцы,
Не віно піла, а гарэлачку.
Я й піла, піла — не ўпівалася,
А к дому прыйшла — пашатнулася,
За вярэечку захвацілася.
Вярэя й мая ўсё тачоная,
Усё й тачоная, пазлачоная.
Не ругай мяне, бабу п'яную,
Бабу п'яную, бабу старую.

---

[1] Прыпеў «Ой, ёй-ёй-ёй, божа мой» паўтараецца з 2-м радком кожнай страфы.

## 211а. Я Ў ПІРУ БЫЛА ДЫ Ў БЯСЕДАЧЦЫ

Я ў піру была ды ў бяседачцы,
Мёд-віно піла ды налівачкі.

Мёд-віно піла — не ўпівалася,
Цёмным лесам ішла — не баялася.

Цёмным лесам ішла — не баялася,
Роўным полечкам — не шаталася.

А дамоў прыйшла — пахіснулася,
За бярозачку я хватнулася.

Ты бярозачка, ты бяленькая,
Падтрымай мяне ды п'яненькую.

## 212. ЯК ПАЗВАЛІ МЯНЕ НА БЯСЕДУ

Як пазвалі мяне на бяседу,
Цераз вуліцу ды к суседу,
Ці самому ісці, ці жонку пусціці.
— А ідзі, жонка, на бяседу,
Цераз дарогу ды к суседу,
Павышы людзей не садзіся,
За поўны стакан не бярыся,
Ідучы дамоў, не хістайся.
А я мужыка не слухалася,
Павышы людзей садзілася,
За поўны стакан бралася,
Дамоў ішла — шаталася,
За чужыя платы хваталася,
А чужыя платы ламаліся,
А з мяне людзі смяяліся.

## 213. ПА САДОЧКУ Я ХАДЗІЛА*

Па садочку я хадзіла,
Лебядучку ламіла,
А я ў цябе, мой міленькі,
За наймічку служыла.

Ты ўсё жытка прадаеш,
А мне грошай не даеш,
Хоць я ў цябе, мой міленькі,
За наймічку служыла.

А я з родам сышлася
Й за цыбулю ўпілася.
За цыбулю дай за мак,
Пашла замуж, дай не так.

Пашла раз, ой гараз!
Не падманеш другі раз.
Даліся мне ў знакі
Чалавечы кулакі.

Даліся мне ў знакі
Чалавечы кулакі:
Кулакамі па баках,
Далонямі па шчаках.

— Чаго, міла, надулась,
Чом кажуха не ўздзела?
— А каб у цябе так быў дух,
Як у мяне ёсць кажух.

А мой Гэваль — гаспадар.
Усе куры папрадаў.
Адну заставіў чубатку
І тую закінуў на хату...

## 213а. ПА САДОЧКУ ХАДЗІЛА *

Па садочку хадзіла
Лябёдушку ламіла,
Ці я ў цябе, мой міленькі,
За наймічку рабіла?

А ты жыта прадаеш,
А мне грошай не даеш,
Я з радочкам зышлася,
За цыбулю ўпілася.

За цыбулю ды за мак,
Пайшла замуж, ды не так:
Пайшла раз — не гараз,
Не абманеш другі раз.

Надаелі мужыкі,
Мужыковы кулакі:
Кулакамі па баках,
Далонямі па шчаках.

Цераз вуланьку іду,
Як зязюленька, гуду,
А мне людзі завідуюць,
Што я п'яная іду.

Заглянула я пад стол:
Ляжыць чобат і пастол.
Дзякуй богу, што найшла,
Абулася і пайшла.

Цераз вуланьку іду,
Як зязюленька, гуду,
А мне людзі завідуюць,
Што я п'яная іду.

Пайшоў Хаім рабаваць,
Ды не мае чаго ўзяць,
Кацюба і памяло —
Мяне дома не было.

Тупу, тупу па хаці,
Будзем яго лапаці,
Хаім з велькага страху
Адказаўся ад даўгу.

## 214. ХМАРЫЦЦА — ДОЖДЖ БУДЗЕ *

Хмарыцца — дождж будзе.
Прызнаюся вам, людзі,
Што за гэту вячорку
Я прапіла кароўку.

Сама сабе журуся,
Што мілага баюся.
Едзе мілы з дарогі,
А я яму бац у ногі:

— Што я, мілы, зрабіла,
Каровіцу прапіла.
— Пі, міла, здарова,
Будзе друга карова.

Я шчаслiва — малада,
Маю мужа — галуба.
Прызнаюся — салгала,
Што кароўку прапіла.

Рыкнула каровіца,
Заржаў сівы конь:
— Вось табе, мой міленькі,
Увесь мой прапой.

## 214а. ОЙ, ХМАРЫЦЦА — ДОЖДЖ БУДЗЕ *

Ой, хмарыцца — дождж будзе,
Прызнаюся вам, людзі,
Што за сваю сваволю
Папалася ў няволю [1].

Пайшоў мілы ў дарогу,
Я прапіла карову,
Сяджу, плачу, журуся,
За карову баюся.

Прышоў мілы з дарогі,
А я яму — бац у ногі:
— Што я, мілы, зрабіла,
Каровіцу прапіла.

Мілы мілу бац у вуха:
— Не пі болей, псяюха,
А як будзеш болей піці,
Буду яшчэ мацней біці.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

Мілы мілу жалуе,
Каровіцу даруе:
— Ой, ці, міла, здарова,
Будзе друга карова!

— Прадай, мілы, рабы бычкі,
Купі жонцы чаравічкі,
Каб я боса не хадзіла,
Каб я людзей не смяшыла!

## 2146. ЦЁМНА ХМАРА — ДОЖДЖ БУДЗЕ

Цёмна хмара — дождж будзе,
Дождж будзе, дождж будзе,
Прызнаюся вам людзі,
Вам людзі, вам людзі.

Што за сваю сваволю,
Сваволю, сваволю,
Папалася ў няволю,
Ў няволю, ў няволю.

Муж паехаў у дарогу,
Ў дарогу, ў дарогу,
Я прапіла карову,
Карову, карову.

Цяпер сяджу журуся,
Журуся, журуся,
Бо я мужа баюся,
Баюся, баюся.

Муж прыехаў з дарогі,
З дарогі, з дарогі,
Я упала на ногі,
На ногі, на ногі.

— Што ж я, мілы, зрабіла,
Зрабіла, зрабіла:
Я карову прапіла,
Прапіла, прапіла.

А мне мілы бух у вуха,
У вуха, у вуха:
— Што зрабіла, псяюха,
Псяюха, псяюха.

— Як ты будзеш мяне так біці,
Так біці, так біці,
Дык я болей тады буду піці,
Буду піці, буду піці.

Цяпер міл шануе,
Шануе, шануе,
За карову даруе,
Даруе, даруе.

— Гуляй, жонка, здарова,
Здарова, здарова,
Будзе ў нас другая карова,
Карова, карова.

## 215. ЯК ПАЕХАЎ МОЙ МІЛЕНЬКІ

Як паехаў мой міленькі
Да млына, да млына,
А я сабе рандавуса
Наняла, наняла.

Як прыехаў мой міленькі
З паўначы, з паўначы,
Знайшоў мяне з рандавуса
На пячы, на пячы.

Як пачаў жа мой міленькі
Мяне біць, мяне біць.
Загадаў ён рандавуса
Не любіць, не любіць.

А я сама дзівуюся,
З рандавусам цалуюся.

## 216. Я Ж, МОЛАДА, У ГРЫБЫ ПАЙШЛА

Я ж, молада, у грыбы пайшла,
З грыбоў ішла, у банкет зайшла.

А ў банкеце забавілася,
З суседачкай размовілася.

Дамоў прышла — ўжо зара зайшла,
Аж новы двор адчыняецца.

Аж новы двор адчыняецца,
Аж мой мілы прачынаецца.

— Дзе ж адна, малада, была?
— Я ж, мой мілы, ля цябе спала.

Я ж, мой мілы, ля цябе спала,
Белы ручкі на цябе клала.

Ці ж ты, мілы. адурачыўся?
Чаму ж ка мне не 'дварачаўся?

## 216а. Я, МОЛАДА, ДЫ Ў ГРЫБЫ ПАЙШЛА

Я, молада, ды ў грыбы пайшла,
З грыбоў ішла — у пір зайшла.
А я ў піры прызабавілася,
З малайцамі разгулялася.
Пятух пяе — я дамоў не іду,
Другі пяе — я й не думаю.
Зара ўзыйшла — я дамоў пайшла.
— Дзе ты, міла, валачылася,
Што па пояс намачылася?
— Ой, міленькі, што ж табе стала?
Я ж ля цябе ўсю ночку спала.
Я ж ля цябе — ды як дзень відны,
Ты ж ля мяне — ды як пень гнілы.

## 216б. ЭХ, ПЯТУХ ПЯЕ, Я Й ДАМОЎ НЕ ЙДУ

Эх, пятух пяе, я й дамоў не йду,
Ой, люлі-люлі.

А зара ўзышла, ■ дамоў прыйшла,
Ой, люлі-люлі.

Самі вароцейкі адчыняюцца,
Ой, люлі-люлі.

А мой міленькі ў мяне пытаецца,
Ой, люлі-люлі.

— Дзе ж ты, міла, так позна была?
Ой, люлі-люлі.

Ці не ў карчомцы ўсю ночку піла?
Ой, люлі-люлі.

— Нідзе ж, міленькі, я не была,
Ой, люлі-люлі.

Усю ночку з табой спала,
Ой, люлі-люлі.

Белыя ручкі на цябе клала,
Ой, люлі-люлі.

## 217. МІЛ ГАРЭЛКІ НЕ П'Е

Міл гарэлкі не п'е
І мне не дае [1].

Набяруся я ума,
Пайду я сама.

За руб вып'ю гарэлачкі,
За другі — віна.

Як гуляць так гуляць —
Да белага дня.

Петушочкі пяюць —
Я ж дамой не йду.

Ўжо зара узышла —
Я дамой прыйшла.

Дзевярок-лебядзёк
У вароцечках стаіць:

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— Братавая маладая,
Будзе мілы біць.

— Дзевярок, лебядзёк,
Прашу бараніць.

— Братавая маладая,
Было так не біць.

## 218. А У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ САВА КУГІЧА

А ў цёмным лесе сава кугіча,
А ў чыстым полі муж жонку кліча.
Люлі, люлі, жонку кліча.

А ў цёмным лесе сава кугіча,
Рана, рана муж жонку кліча.
Люлі, люлі, жонку кліча.

— Ты, жонка Ганна, хлопцам падмана,
Хоць мужа маеш — усім міргаеш.
Люлі, люлі, усім міргаеш.

— Ці ж, мой міленькі, я таму вінна,
Што за мной хлопцы, як за дзяўчынай.
Люлі, люлі, як за дзяўчынай.

— Ай, жонка, жонка, досыць ілгаці,
Бо я прымушу праўду сказаці.
Люлі, люлі, праўду сказаці.

— Калі, міленькі, ты мне не верыш,
Павесь званочак на падалочак.
Люлі, люлі, на падалочак.

Як хто затроніць — званок зазвоніць,
А ты пачуеш, мяне ўратуеш.
Люлі, люлі, мяне ўратуеш.

Званочак звоніць у садзе ля хаты,
А муж не чуе, бо глухаваты.
Люлі, люлі, бо глухаваты.

## 219. А КАБ ДАЛІ ДЫ КАБ ДАЛІ

А каб далі ды каб далі
Пяць чарак гарэлкі,
А выпіла б я чарачку,
Дык бы пацяплела,
А другую б я выпіла,
Песеньку б запела.
А выпіла б я трэцюю,
Тады б было дужа,
А як вып'ю чацвёртую,
Тады паб'ю мужа.

## 219а. ОЙ, ДАЙЦЕ Ж МНЕ, ДАЙЦЕ СЕМ ЧАРАК ГАРЭЛКІ

Ой, дайце ж мне, дайце сем чарак гарэлкі.
Ой, першую дайце, каб я пасмялела,
А другую дайце, каб я лепей ела,
А трэцюю дайце, каб я лепей пела,
Чацвёртую дайце, каб я лепей спала,
А пятую дайце, каб я здарова ўстала,
А шостую дайце, каб я была дужа,
А сёмую дайце, каб пабіла мужа.

## 219б. ОЙ, ДАЙЦЕ МНЕ, ДАЙЦЕ

Ой, дайце мне, дайце
Шэсць чарак гарэлкі:
Першую чарку —
Дзеля смялосці,
Другую чарку —
Дзеля весялосці,
Трэцюю чарку —
Каб была я п'яна,
Чацвёртую чарку —
Каб я напяяла,
Пятую чарку —
Каб я была дужа,
А шостую чарку —
Каб выбіла мужа.

## 219в. ДАЙЦЕ Ж МНЕ, ДАЙЦЕ Ж МНЕ

Дайце ж мне, дайце ж мне
Сем чарак гарэлкі:

Адну чарку, адну чарку
Да мне для смялосці,

А другую, а другую
Для весялосці,

А трэцюю, а трэцюю,
Каб я была п'яна,

Чацвёртую, чацвёртую,
Каб я запяяла,

А пятую, а пятую,
Каб я была дужа,

А шостую, а шостую,
Каб набіла мужа,

А сёмую, а сёмую,
Каб спаць палажыла.

## 220. ОЙ, ПІЛА, ПІЛА, ЧАПЕЦ ЗГУБІЛА

Ой, піла, піла, чапец згубіла,
Прыйшла дамоў — мужа набіла:

— Такі-сякі, не сядзі ў хаце,
Ідзі ля рэчкі чапца шукаці.

Ой, ідзе мужу і плача, рыдае,
Каго не стрэне, чапца пытае:

— Здаровы былі, добры людзі,
Хто чапец знойдзе, магарыч будзе.

## 220а. ОЙ, ПІЛА, ПІЛА

Ой, піла, піла,
Чапец згубіла.
Прышла дадому,
Мужа набіла.

Ой, біла, біла,
Стала караці.
— Ідзі, сукін сын,
Чапца шукаці.

Ідзе і плача,
Плача, рыдае,
Каго не стрэне,
Чапца пытае:

— Хто чапец найдзе —
Магарыч будзе!
Сустрэў ён хлопцаў,
Хлопцаў-малойцаў.

— Ой, хлопцы вы, хлопцы,
Праўдалы малойцы,
Хто чапец найдзе —
Магарыч будзе.

Дам мерку жыта
І гарнец проса.
Сядзіць бясцюга
Праставалоса.

## 221. БІЛА ЖОНКА МУЖЫКА

Біла жонка мужыка,
Рукі закасаўшы,
А ён жа ёй пакланіўся
І шапачку зняўшы.
— Ды спасіба, мая міла,
Што паціху біла.
Куплю табе гарнец мёду
І конаўку піва.

## 221а. БІЛА ЖОНКА МУЖЫКА, РУКІ ЗАКАЧАУШЫ

Біла жонка мужыка, рукі закачаўшы,
А ён яе перапрасіў, шапачку зняўшы:
— Дзякуй табе, мая міла, што не моцна біла,
Куплю табе гарнец віна і конаўку піва.
— Мой ад мёду жывот баліць, а ад піва галава,
Каб гарэлкі далі, вясёленька была.
Мяне піва апушыла, гарэліцы дайце,
Я на сына заступіла, аб радзінах дбайце.

## 221б. БІЛА ЖОНКА МУЖЫКА

Біла жонка мужыка,
Рукі закасаўшы,
А ён яе перапрашаў,
Шапачку зняўшы.
— Дзякуй табе, міла,
Што ты мяне біла,
Куплю табе гарнец мёду
І конаўку піва.
— А я піва не піла
І не буду піці,
А як біла мужыка,
Так і буду біці.

## 221в. НА ГАРЭ КАМАРЫ

На гарэ камары,
А ў даліне гусі,
Біла жонка мужыка:
— Давай, шэльма, бусі!

Біла яна, біла,
Рукі закасаўшы,
А ён яе перапросіў,
Ды шапачку зняўшы.

— Дзякуй табе, міла,
Што ты мяне біла,
Куплю табе чаравічкі
І шкляначку піва.

— Ой, ад піва баліць спіна,
А ад мёду галава,
Купі ты мне гарэліцы,
То я буду здарава.

На гарэ камары,
А ў даліне гусі,
Біла жонка мужыка:
— Давай, шэльма, бусі!

## 222. БІЛАСЯ ШАЎЧЫХА З ШАЎЦОМ

Білася шаўчыха з шаўцом,
Выбіла тры зубы чапцом.

— Вось табе, шэўчык, за тое:
Не сучы драцвіну ўтрое,

А сучы драцвіну ўраз,
Каб былі чаравічкі ў час.

## 223. НЕ ПАЙДУ Я ДВОРУ

Не пайду я двору,
Гарэлкі не піўшы,
Я не лягу спаці,
Мужа не пабіўшы.

Вазьму за чупрыну,
Укіну ў пярыну:
— Паляжы-ка, мужу, тута,
Пашукаю прута.

— А спасіба табе, міла,
Што не больна біла,
Што не больна біла,
Не на худа ўчыла.

## 224. НА ВУЛІЦЫ ГРЫМАТА *

На вуліцы грымата,[1]
Грымата, грымата,
Грымата, мата, мата.

Жана мужа прапіла,
Прапіла, прапіла,
Прапіла, піла, піла.

Тры капеечкі ўзяла,
І ўзяла, і ўзяла,
І ўзяла, ўзяла, ўзяла!

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

І купіла тры кані,
Тры кані, тры кані,
Тры кані, кані, кані.

Абарала ўсе палі,
Ўсе палі, ўсе палі,
Ўсе палі, палі, палі.

Паклікала ўсіх людзей,
Ўсіх людзей, ўсіх людзей,
Ўсіх людзей, людзей, людзей.

Людзі чарку выпілі,
Выпілі, выпілі,
Выпілі, пілі, пілі.

Гаспадыньку выбілі,
Выбілі, выбілі,
Выбілі, білі, білі.

## 224а. НА ВУЛІЦЫ ГРАМАДА

На вуліцы грамада,
На вуліцы грамада.
Грамада, грамада,
Грамада, грамада.

Жонка мужа прадала,
Жонка мужа прадала.
Прадала, прадала,
Прадала, прадала.

І нядорага ўзяла,
І нядорага ўзяла.
І ўзяла, і ўзяла,
І ўзяла, і ўзяла.

Тры грошыкі шылягом,
Тры грошыкі шылягом.
Шылягом, шылягом,
Шылягом, шылягом.

21. Зак. 500

## 225. ГАРЭЛІЦА, ГАРЭЛІЦА

Гарэліца, гарэліца,
Як я цябе люблю.
А хто ж цябе піці будзе,
А як жа я памру?

А я памру, а я памру,
Схавайце на месце.
А над маёю магілачкай
Барэлку павесце.

А хто будзе ісці-ехаць,
Будзе ўспамінаці:
А дзе тая п'янічэнька,
Нідзе не відаці.

# МУЖ НЯЎДАЛІЦА, П'ЯНІЦА

## 226. КАБ ТО МНЕ ЗРАНКУ

Каб то мне зранку
Гарэлачкі шклянку
І тытуню люльку,
Дзяўчыну Ганнульку.

Гарэлку піў бы,
А люльку курыў бы.
Ганнульку маладзеньку
Да сябе туліў бы.

## 227. ПІУ БЫ Я МЕД І ВІНО

Піў бы я мёд і віно,
Цяжкое пахмелле маё.
П'юць, гуляюць у мяне,
Судзяць і гавораць пра мяне,
Што я гарэлкі не п'ю
І жонкі не люблю.
Жонка — пакраса мая,
Дзеткі — пацеха мая.
Жонка пакрасіць у піру,
А дзеткі пацешаць у даму.

## 227а. ОЙ, ПІУ БЫ Я МЕД ДЫ ВІНО

Ой, піў бы я мёд ды віно,
Ой, жыў бы я з жонкай харашо.
Злыя суседзі на мяне,
Суседзі гавораць пра мяне,
Вучаць: набі ж ты яе.

— Як жа мне біць пачынаць,
З кім жа мне век векаваць.
Жонка — пакраса мая,
Дзеткі — пацеха мая.

## 228. І МАГЕРКА ТРАСЕЦЦА

І магерка трасецца,
Проста ў карчму нясецца.
— Бачыш, пане, як гарую:
З адной карчмы — у другую,
І пры боку каліта
Поўна грошай наліта
Бачыш, жана, як гарую:
З адной карчмы — у другую,
Саракоўка, пяцьдзесятка,
Залатоўка і дзесятка.
Яшчэ дробных трохі маю,
Пайду й тыя прагуляю.

## 229. А БОЖА МОЙ, НЕ ПІ, НЕ ПІ

А божа мой, не пі, не пі,
Будзе табе лепей, лепей.
А як будзеш упівацца,
Будзе табе зло здавацца.
Маці мая дабрахвоча,
Вып'е кварту, яшчэ хоча.
Мой бацька добры быў,
Па тры кварты ў дзень піў.

## 229а. А ЦІ ДОБРАГА РОДУ

А ці добрага роду?
П'ем гарэлачку, як воду.
А мой бацька добры быў,
Па два літры на дзень піў,
А мамуся добрахвоча
Вып'е літру — яшчэ хоча.

## 230. А ПІЎ Я Ў ПАНЯДЗЕЛАК

А піў я ў панядзелак,
Прапіў машну дзенег.
З табою, дзяўчынка,
З табою, малінка! [1]

А піў я ў аўторак,
Прапіў валоў сорак.

А піў я ў сераду,
Прапіў я чэраду.

А піў я ў чацвер,
Прапіў вала чацверць.

А піў я ў пятніцу,
Прапіў і астатніцу.

А піў я ў суботу,
Прапіў усю работу.

А піў я ў нядзелю,
Прапіў усю надзею.

## 230а. ПІЛІ, ПІЛІ У ПАНЯДЗЕЛАК

Пілі, пілі ў панядзелак,
А прапілі нядзель сорак.

Пілі, пілі ў аўторак,
А прапілі жонак сорак.

Пілі, пілі ў сераду,
А прапілі чэраду.

Пілі, пілі ў чацвер,
А так помню, як цяпер.

Пілі, пілі ў пятніцу,
А прапілі астатніцу.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Пілі, пілі ў суботу,
А прапілі ўсю работу.

Пілі, пілі ў нядзелю,
А прапілі ўсю надзею.

## 230б. АД ПАНЯДЗЕЛКА ДА ПАНЯДЗЕЛКА *

Ад панядзелка да панядзелка
Смачна п'еццa нам гарэлка.

Як прадама жыта ворак,
Яшчэ вып'ем і ў аўторак.
Ад панядзелка да панядзелка
Смачна п'еццa нам гарэлка [1].

Як прадама скавараду,
Яшчэ вып'ем і ў сераду.

Як прадама ўвесь ячмень,
Яшчэ вып'ем і ў чацвер.

Як прадама жонкі спадніцу,
Яшчэ вып'ем і ў пятніцу.

Як закончым усю работу,
Яшчэ вып'ем і ў суботу.

Як прадама лёну кудзелю,
Яшчэ вып'ем і ў нядзелю.

Як прадама ўсю скаціну
І купіма сабе машыну.

## 230в. АД ПАНЯДЗЕЛКА ДА ПАНЯДЗЕЛКА

Ад панядзелка да панядзелка
П'еццa салодка госцям гарэлка.

А збяром мы снапоў сорак,
Яшчэ вып'ем і ў аўторак.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюццa пасля кожнай страфы.

А збяром мы ўсю чараду,
Яшчэ вып'ем і ў сераду.

А збяром, як цяпер,
Яшчэ вып'ем і ў чацвер.

А збяром мы астатніцу,
Яшчэ вып'ем і ў пятніцу.

А парабіўшы ўсю работу,
Яшчэ вып'ем і ў суботу.

А я маю яшчэ надзею,
Што мы вып'ем і ў нядзелю.

## 230г. ОЙ, КУМЕ, КУМЕ, СМАЧНА ГАРЭЛКА

Ой, куме, куме, смачна гарэлка,
Будзем піці да панядзелка.

Прадайма, куме, авечак сорак,
Будзем піці шчэ й у аўторак.

Прадайма, куме, міскі дай ложкі,
Будзем піці і ў чацвер трошкі.

Пакіньма, куме, рабую цяліцу,
Будзем піці шчэ й у пятніцу.

Пакіньма, куме, усю надзею,
Будзем піці шчэ й у нядзелю.

Ад панядзелка да панядзелка
Будзем піці — смачна гарэлка.

Будзем піці і да аўторка,
Будзем піці, хоць яна горка.

## 230д. ОЙ, КУМЕ, КУМЕ, ДОБРА ГАРЭЛКА

Ой, куме, куме, добра гарэлка,
Вып'ема, куме, шчэ з панядзелка.
А з панядзелка аж да аўторка,
Вып'ема, куме, добра гарэлка.

Прадайме, куме, усю чарэду,
Вып'ема, куме, шчэ і ў сярэду.
Прадайме, куме, міскі ды ложкі,
Вып'ема, куме, шчэ і ў чацвер трошкі.

Прадайма, куме, рабу цяліцу,
Вып'ема, куме, шчэ і ў пятніцу.
Кідайма, куме, усю работу,
Вып'ема, куме, шчэ і ў суботу.

## 231. МЫ У НЯДЗЕЛЮ НЕ ПРАЦУЕМ

Мы ў нядзелю не працуем,
Шчыра-шчыранька святкуем.
Уха-ха-ха, доля наша нелягка [1].

У панядзелак аддыхаем,
У нядзелю ўспамінаем.

У аўторак думаць трэба,
Што рабіць і дзе патрэба.

У сераду збіраем сілы,
Каб не лопнулі нам жылы.

У чацвер бяром ахоту,
Заўтра пойдзем на работу.

У пятніцу аблічаем,
Што рабілі й дзе што маем.

У суботу падлічылі
І бацькам мы далажылі.
Уха-ха-ха, доля наша лягка.

## 232. ЗАМКНУУ ЖОНКУ НА ЗАМОК

Замкнуў жонку на замок,
А сам пайшоў да дзявок,—
Ку-ку! [2]

Ой, дзень добры, дзеўкі, вам,
Я ўжо жонку пахаваў.

---

[1] Апошні радок паўтараецца пасля кожнай страфы.
[2] Выклічнік «Ку-ку!» паўтараецца пасля кожнай страфы.

Я ўжо жонку пахаваў,
Пару конікаў украў.

Я ў вянзені сядзеў,
Людзям у вочы глядзеў.

Прадай, жонка, сапагі,
Выкупляй мяне з бяды.

— Сапагоў я не прадам,
Як папаўся — сядзі там.

— Прадай, жонка, гусака.
Выкупляй мяне, мужыка.

— Гусака [illegible] не прадам,
Як папаўся,— сядзі там.

— Прадай, жонка, петуха,
Выкупляй мяне, дурака.

## 233. ОЙ, ПЯЦЬ, БРАТЦЫ, ПЯЦЬ*

Ой, пяць, братцы, пяць,
Будзем піць, гуляць,
Кругом мае таварышы
За сталом сядзяць. Да гэй!
За сталом сядзяць.

Шынкарачка, лей,
Павер на мяне,
Ёсць у мяне родны татка,
Выкупіць мяне. Да гэй!
Выкупіць мяне.

Татка не ідзець,
Грошы не нясець,
Маладая шынкарачка,
Застаюсь з табой. Да гэй!
Застаюсь з табой.

Шынкарачка, лей,
Павер на мяне,
Ёсць у мяне родны брацец.
Выкупіць мяне. Да гэй!
Выкупіць мяне.

Брацец не ідзець,
Грошы не нясець,
Маладая шынкарачка,
Застаюсь з табой. Да гэй!
Застаюсь з табой.

Шынкарачка, лей,
Павер на мяне,
Ёсць у мяне мая міла,
Выкупіць мяне. Да гэй!
Выкупіць мяне.

Маладая ідзець
Грошыкі нясець,
Маладая шынкарачка,
Цяпер я не твой. Да гэй!
Цяпер я не твой.

## 234. А Ў ПОЛІ ЖЫТА НЕ ЯРЫЦЦА *

А ў полі жыта не ярыцца,
Казалі, мой муж не п'яніца.
Ой, доля, долюшка горкая,
Казалі, мой муж не п'яніца.

У карчме не быў, а каня прапіў,
Прапіў каня ды й абротачку.
Ой, доля, долюшка горкая,
Прапіў каня ды й абротачку.

У карчме не быў ды каня прапіў,
Прыйшоў дамоў ды жану пабіў.
Ой, доля, долюшка горкая,
Прыйшоў дамоў ды жану пабіў.

— Ты, жоначка, мая любая,
Прадай кажух ды намётачку,
Ой, доля, долюшка горкая,
Прадай кажух ды намётачку.

Прадай кажух ды намётачку,
Выкуп каня і абротачку.
Ой, доля, долюшка горкая,
Выкуп каня і абротачку.

## 234а. КАЗАЛІ, ЯЧМЕНЬ НЕ ЯРЫЦА

Казалі, ячмень не ярыца,
Казалі, мой муж не п'яніца.
Прапіў коніка варанога
І прышоў дамоў па другога.
Прапіў коніка з аброткаю,
Прышоў дамоў за намёткаю.
— Ай, жана, жана, выкупі каня.
Калі выкупіш — люблю цябе,
А не выкупіш — паб'ю цябе.
А мне, моладзе, не першыне
Па-за стрэшкаю начаваці,
З птушачкамі шчабятаці.
Птушачкі кажуць — чачу-чачу,
А я, маладая, плачу-плачу.

## 235. ПРАПІЎ МУЖЫК ЖАРАБЦА

Прапіў мужык жарабца,
Мужыкова жонка —
Кабылу й жарабёнка.
Ці не досыць ужо нам піць,
Ці не досыць ужо нам гуляць?
Пайдзём дамоў пакаімся,
Пайдзём дамоў, параімся:
Ці няма чаго прапіць,
Ці няма чаго прагуляць? [1]

Прапіў мужык вала,
Мужыкова жонка —
Карову і цялёнка.

Прапіў мужык казла,
Мужыкова жонка —
Казу і казлёнка.

Прапіў мужык парсюка,
Мужыкова жонка —
Свінню і парасёнка.

---

[1] Апошнія шэсць радкоў паўтараюцца пасля кожных трох новых радкоў.

Прапіў мужык барана,
Мужыкова жонка —
Аўцу і ягнёнка.

Прапіў мужык гусака,
Мужыкова жонка —
Гусыню і гусёнка.

Прапіў мужык індыка,
Мужыкова жонка —
Індычку й індычонка.

Прапіў мужык селязня,
Мужыкова жонка —
Вутку і вучонка.

Прапіў мужык петуха,
Мужыкова жонка —
Курыцу й пісклёнка.

Прапіў мужык сабаку,
Мужыкова жонка —
Сучку і шчанёнка.

Прапіў мужык сіты,
Прапіў і рашоты,
Мужыкова жонка —
Міскі і латушкі
І ўсе хлапатушкі.

Прапіў мужык чапялу,
Прапіў скавародзёнку,
Мужыкова жонка —
Лапці і аборы
І ўсе свае заборы.

## 235а. ПРАПІЎ ЧУМАК КАНЯ

Прапіў чумак каня,
Чумакова жонка кабылу й лашонка.
Сэрца чумача галубча,
Чаму ты не робіш, як луччай? [1]

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Прапіў чумак вала,
Чумакова жонка карову й цялёнка.

Прапіў чумак кабана,
Чумакова жонка свінню й парасёнка.

Прапіў чумак барана,
Чумакова жонка аўцу і ягнёнка.

Прапіў чумак гусака,
Чумакова жонка гуся і гусёнка.

А ўсё ж чумак прачумакаваўся:
Згубіў штаны, учкур абарваўся.

## 235б. ДЫ ПРАПІЎ ЧУМАК ВАЛА

Ды прапіў чумак вала,
А жонка кароўку і цяля.
Вой ну, мужа, да не дужа,
Да хадзем дадому;
Да пакаймася, да парадзьмася,
За што будзем піць.
— За то п'ю, за што маю,
Яшчэ лучшэ палучаю [1].

Ды прапіў чумак барана,
А жонка авечку і ягня.

Ды прапіў чумак япрука,
А жонка свінку і парсюка.

Ды прапіў чумак качаргу,
А баба вілкі і чапляю.

## 235в. ДА ПРАПІЎ ЧУМАК ЖЫТА

Да прапіў чумак жыта,
А жонка авёс і пшаніцу:
— Ой, мужу, да не пі дужа!
Да хадзем дадому,

[1] Апошнія шэсць радкоў паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Да пакаймася,
Да парадзімся,
За што будзем піць [1].

Да прапіў чумак каня,
Жонка кабылу і жарабя.

Да прапіў чумак вала,
Жонка карову й цяля.

Да прапіў чумак кабана,
Жонка свінню і парася.

Да прапіў чумак барана,
Жонка аўцу і ягня.

Да прапіў чумак гусака,
Жонка гуску і гусяня.

Да прапіў чумак петуха,
Жонка курыцу і кураня.

Да прапіў чумак хату,
А жонка дзяжу і лапату.

Да прапіў чумак світку,
Жонка каптур і спаднічку.

Да прапіў чумак усяго,
Што ўжо нету нічаго.
— Гэй, мужу, да не пі дужа!
Да пакаемся,
Да хадзем у поле
Пашукаем боле чаго,
За што будзем піць.

## 235г. САБРАЛІСЯ МЫ З МІЛЕНЬКІМ

Сабраліся мы з міленькім
Дый абое п'яніцы.
Гэй, п'ём ды гуляем,
Повен кішэнь грошай маем [2].

---

[1] Апошнія пяць радкоў паўтараюцца пасля кожнай страфы.
[2] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

— Сядзьма, мужу, ды парадамся,
Ды за што заўтра будзем піць.

Прапіў мужу жарабца,
Жонка кабылу ды жарабя.

— Сядзьма, мужу, ды парадамся,
Ды за што заўтра будзем піць.

Прапіў мужу бугая,
Жонка карову і цяля.

— Сядзьма, мужу, ды парадамся,
Ды за што заўтра будзем піць.

Прапіў мужу вепрука,
Жонка свінні й парася.

— Сядзьма, мужу, ды парадамся,
Ды за што заўтра будзем піць.

Прапіў мужу барана,
Жонка авечку і ягня.

— Сядзьма, мужу, ды парадамся,
Ды за што заўтра будзем піць.

Прапіў мужу гусака,
Жонка гусю й гусяня.

— Сядзьма, мужу, ды парадамся,
Ды за што заўтра будзем піць.

Прапіў мужу петуха,
Жонка куру й кураня.

— Сядзьма, мужу, ды парадамся,
Ды за што заўтра будзем піць.

Прапіў муж лапсярдак,
Жонка хустку й андарак.

— Сядзьма, мужу, ды парадамся,
Ды за што заўтра будзем піць.

Прапіў мужу сарочку,
Сядзіць голы ў куточку.

— Сядзьма, мужу, ды парадамся,
Ды за што заўтра будзем піць.

## 236. БОЖА ТЫ МОЙ ДЫ МІЛЮСЕНЬКІ

Божа ты мой ды мілюсенькі,
А што ж мой мілы ды п'янюсенькі.
Ні мне яго дамоў везці,
Ні мне яго ды пакінуці.
Дамоў везці — паваліцца,
Тут пакінуць — набадзяцца.
Дык пайшлі мы — не хіляліся,
А людзі з нас ды пасмяяліся.
Мы ў вароцях паваліліся,
Людзі добрыя падзівіліся.

## 237. ОЙ, НА ДВАРЭ КРАСІВА

Ой, на дварэ красіва,
Жана мужа прасіла:
— Ах, міленькі мой,
Паедзем дамой!
Нашы конікі крычаць,
Яны есцікі хацяць.
Ах, міленькі мой,
Паедзем дамой!

— Ды нашто нам конікі,
Перад намі столікі.
Яшчэ пасядзім,
Людзей паглядзім.

Ой, на дварэ красіва,
Жана мужа прасіла:
— Ах, міленькі мой,
Паедзем дамой!
Нашы кароўкі крычаць,
Яны есцікі хацяць.
Ах, міленькі мой,
Паедзем дамой!

— Ды на што нам кароўкі,
Перад намі яндоўкі,
Яшчэ пасядзім,
На людзей паглядзім.
Ой, на дварэ красіва,
Жана мужа прасіла:
— Ах, міленькі мой,
Паедзем дамой!
Нашы авечкі крычаць,
Яны есцікі хацяць.
Ах, міленькі мой,
Паедзем дамой!

— Ды на што нам авечкі,
Перад намі яечкі.
Яшчэ пасядзім,
На людзей паглядзім.

Ой, на дварэ красіва,
Жана мужа прасіла:
— Ах, міленькі мой,
Паедзем дамой!
Нашы свіначкі крычаць,
Яны есцікі хацяць,
Ах, міленькі мой,
Паедзем дамой!

— Ды на што нам свіначкі,
Перад намі румачкі.
Яшчэ пасядзім,
На людзей паглядзім.

## 237а. НА ГАРЭ СТАІЦЬ КРАПІВА

На гарэ стаіць крапіва,
Там жона мужа прасіла:
— Эх, мужанёчак мой,
Паедзем дамой.
Нашы курачкі сакочуць,
Яны піці-есці хочуць.
Эх, мужанёчак мой,
Паедзем дамой.

— А нашто нам курачкі,
Перад намі румачкі.
Будзем піць і гуляць,
Пакуль нам вяляць.

На гарэ стаіць крапіва,
Там жона мужа прасіла:
— Эх, мужанёчак мой,
Паедзем дамой.
Нашы конікі рагочуць,
Яны піці-есці хочуць.
Эх, мужанёчак мой,
Паедзем дамой.

— А нашто нам конікі,
Перад намі столікі.
Будзем піць і гуляць,
Пакуль нам вяляць.

## 238. ПАЕДЗЕМ МЫ, ЖОНАЧКА, НА ЯРМАЛАК ГУЛЯЦЬ

Паедзем мы, жоначка, на ярмалак гуляць,
Будзем мы, жоначка, хазяйства нажываць,
Купім мы, жоначка, курачку сабе.
Эх, курачка па сенечках пахаджвае.
Тра-ля-ля, тра-ля-ля.
Эх, курачка па сенечках пахаджвае.

Паедзем мы, жоначка, на ярмалак гуляць,
Будзем мы, жоначка, хазяйства нажываць,
Купім мы, жоначка, вутачку сабе.
Эх, вутачка ге-ге-ге-ге,
А курачка па сенечках пахаджвае.
Тра-ля-ля, тра-ля-ля.
Эх, курачка па сенечках пахаджвае.

Паедзем мы, жоначка, на ярмалак гуляць,
Будзем мы, жоначка, хазяйства нажываць,
Купім мы, жоначка, гусачку сабе.
Эх, гусачка ска-ска-ска-ска,
А вутачка ге-ге-ге-ге,
А курачка па сенечках пахаджвае.
Тра-ля-ля, тра-ля-ля.
Эх, курачка па сенечках пахаджвае.

Паедзем мы, жоначка, на ярмалак гуляць,
Будзем мы, жоначка, хазяйства нажываць,
Купім мы, жоначка, дзюсачку сабе.
Эх, дзюсачка дзю-дзю-дзю-дзю,
А гусачка ска-ска-ска,
А вутачка ге-ге-ге-ге,
А курачка па сенечках пахаджвае.
Тра-ля-ля, тра-ля-ля.
Эх, курачка па сенечках пахаджвае.

Паедзем мы, жоначка, на ярмалак гуляць,
Будзем мы, жоначка, хазяйства нажываць,
Купім мы, жоначка, індзюсачку сабе.
Эх, індзюсачка кэ-кэ-кэ-кэ,
А дзюсачка дзю-дзю-дзю-дзю,
А гусачка ска-ска-ска-ска,
А вутачка ге-ге-ге-ге,
А курачка па сенечках пахаджвае.
Тра-ля-ля, тра-ля-ля.
А курачка па сенечках пахаджвае.

## 239. ЯКІ ЧОРТ ГАСПАДАР

Які чорта гаспадар,
Усіх курак распрадаў.

Я сваю чубатую,
Закінула за хату я.

Не за хату, за снапы,
Знайшла яе тры капы.

Будзем яйкі прадаваць,
Будзем даўгі адбываць.

## 240. ПІ, ПІ, ДЫ НЕ ЛІ

Пі, пі, ды не лі,
Любі жонку, ды не бі!
Калі будзеш мяне біць,
Я пайду у карчму піць.

Пабяру клубочкі,
Сяду каля бочкі,
А ты, мой міленькі,
Сядзі без сарочкі.

## 241. БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА *

Белая бярозачка,
Ці не цёмненька табе,
Сярод бору стоючы,
У роўна поле гледзючы?

Малада малодачка,
Ці не сумненька табе,
З ліхім мужам жывучы,
На добрыя гледзючы?

— Жоначкі-суседачкі,
Парадзьце параданьку,
Як мне мужа навучыць,
Як ад п'янства адлучыць?

Вазьмі ячменю жменю,
А другую — ды хмелю,
Звары піва п'янага,
Напой мужа ліхога.

Выведзі ў роўна поле,
Прывяжы да тапалі,
Аблажы саломкаю,
Падпалі лучынкаю.

Бяжы ў дом гукаючы,
Ручанькі ламаючы:
— Здаецца, і гром не быў —
Мілага пярун спаліў!

## 242. ОЙ, РАСЦВІЛА РУЖА КРАЙ АКНА

Ой, расцвіла ружа край акна,[1]
Мела я мужа, мела я мужа,
Мела я мужа півака.

---
[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Нічога не робіць, толькі п'е.
А прыдзе дадому, а прыдзе дадому,
А прыдзе дадому, жонку б'е.

— Не бі мяне, мужу, не карай,
Бо цябе кіну і дзетак маленькіх,
А сама паеду за Дунай.

Не паспела лодка адыйсці,
Бяжыць мой міленькі, бяжыць мой міленькі,
Бяжыць мой міленькі ды й крычыць.

— Ой, вярніся, жонка, дадому,
Ой, не буду біці, а буду любіці,
А то нудна жыці аднаму.

Ой, вярнулась жонка дадому,
Ложкі не мыты, а гаршкі пабіты,
А дзетачкі плачуць без яды.

## 242а. ПАСАДЖУ Я РУЖУ КРАЙ АКНА

Пасаджу я ружу край акна,[1]
Мела сабе мужа, мела сабе мужа,
Мела сабе мужа падляца.

Нічога не робіць, толькі п'е,
А прыдзе дадому, а прыдзе дадому,
А прыдзе дадому — жонку б'е.

— Не бі мяне, мужу, не карай,
А не то паеду, а не то паеду,
А не то паеду за Дунай.

А там, на Дунаі, добра жыць,
Няма таго права, няма таго права,
Няма таго права жонку біць.

— Ой, вярніся, жонка, дадому,
Бо мне надаела, бо мне надаела,
Бо мне надаела аднаму.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Вярнулася жонка дадому,
Лыжкі не мыты, талеркі пабіты,
Дзеці плачуць, хочуць есць.

— Дзе ж ты, мужу, пабываў,
— Там, на Украіне, у маладой дзяўчыны
Цёмную ночку начаваў.

## 242б. ПАСАДЗІЛА РУЖУ КРАЙ АКНА

Пасадзіла ружу край акна [1],
Мела я мужа, мела я мужа,
Мела я мужа басяка.

Нічога не робіць, толькі п'е,
А прыдзе дадому, а прыдзе дадому,
А прыдзе дадому, жонку б'е.

— Не бі мяне, мужу, не карай,
Бо цябе я кіну і дзяцей пакіну,
А сама паеду за Дунай.

Ой, як я на лодку садзілась,
Праваю ручэнькай, белаю хустэнькай,
Белаю хустэнькай махала.

— Ой, вярніся, жонка, дадому,
Не буду я біці, а буду любіці,
Ой, вярніся, жонка, дадому.

Ой, як я вярнулась дадому,
Ложкі не мыты, посуд пабіты,
А дзетачкі плачуць, хочуць есць.

— Мілы чалавеча, дзе ты быў,
— Там, на Украіне, у адной дзяўчыны,
У адной дзяўчыны начаваў.

## 242в. ПАСАДЖУ Я РУЖУ КРАЙ АКНА

Пасаджу я ружу край акна,[1]
Ой, вазьму я мужа, ой, вазьму я мужа,
Ой, вазьму я мужа прымака.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Нічога не робіць, толькі п'е.
Як прыдзе дадому, як прыдзе дадому,
Як прыдзе дадому, жонку б'е.

— Ой, не бі мяне, муж, не карай,
Бо цябе пакіну, бо цябе пакіну,
А сама паеду за Дунай.

Ад'язджала жонка за Дунай,
Праваю ручэнькай, праваю ручэнькай,
Праваю ручэнькай махала.

Ой, вярніся, жонка, з Дунаю,
Лыжачкі не мыты, міскі перабіты,
А дзетачкі плачуць, хочуць есць.

Вярнулася жонка дадому,
Лыжачкі пад лаўкаю зараслі мураўкаю,
А дзетачкі плачуць, хочуць есць.

## 243. ДОБРЫ ВЕЧАР, ГАСПАДЫНЬКА МАЯ *

— Добры вечар, гаспадынька мая,
Ці здарова ды сямеюшка твая?
— Не пытай ты сямеюшкі маёй,
Папытай ты ліхога мужыка.
А я ж яму вячэру гатую,
А ён мяне журыць, маладую.
А я ж яму вячэрацы паднашу,
А ён мяне палоўнікам па насу.
А я ж яму кашкі з маслам,
А ён мяне палоўнікам ляпнуў.
А я ж яму кашуліцу шыю,
А ён мяне кулаком у шыю.
Я ж яму ні слова, ні паўслова,
А ён мяне кулаком узнова.

## 243а. ДОБРЫ ВЕЧАР, ГАСПАДЫНЬКА МАЯ

— Добры вечар, гаспадынька мая,
Ці здарова сямеечка твая?

— Не пытай ты сямеечкі мае,
А пытайся злога духа — мужыка.

Я ж яму рэчы не паўрэчы,
А ён мяне кулаком у плечы.

Я ж яму слова не паўслова,
А ён мяне кулаком знова.

Я ж яму куляшку навару,
А ён мяне палоўнікам па насу.

Я ж яму кашкі з маслам,
А ён мяне палоўнікам ляснуў.

Я ж яму кашулю памыю,
А ён мяне кулаком у шыю.

Я ж яму пасцель пасцялю,
А ён мяне галавой аб сцяну.

## 2436. ДОБРЫ ВЕЧАР, ГАСПАДЫНЬКА МАЯ

— Добры вечар, гаспадынька мая,
Ці здаровая сямейка твая?

— Не пытайся пра сямейку маю,
А пытайся пра няўдала мужыка.

Я ж яму ды абед гатую,
А ён мяне журыць, маладую.

Я ж яму кашачкі з маслам,
А ён мяне палонікам ляснуў.

Я ж яму слова не паўслова,
А ён палонікам знова.

Я ж яму ды кашуліцу мыю,
А ён мяне кулаком у шыю.

Я ж яму рэчы не паўрэчы,
А ён мяне кулаком у плечы.

Я ж яму ды пасцельку сцялю,
А ён мяне галавой у сцяну.

Я ж яму на талерцы пірог,
А ён мяне з хаты за парог.

## 243в. КАЦЯРЫНА ГРЭЧКУ КАЧАЛА

Кацярына грэчку качала,
Кацярына праўду казала.

У Кацярыны чорныя вочы,
Кацярына хораша да ночы.

А ў мяне муж добры,
А дай бог яму век доўгі.

І паходачка яго часценькая,
І гаворачка ласкавенькая.

Я ж яму кашкі з маслам,
А ён мяне палонікам ляснуў.

Я ж яму пасцель белую сцялю,
А ён мяне галавой аб сцяну.

## 244. НУ Ж, МАЯ, НУ Ж *

Ну ж, мая, ну ж,
Біў мяне муж,
Біў мяне віткаю,
Прывязаўшы ніткаю,
Ну ж, мая, ну ж.

Ну ж, мая, ну ж,
Біў мяне муж!
А я з таго болю
Спаць лягла аднюсенька,
Ну ж, мая, ну ж!

Ну ж, мая, ну ж,
Біў мяне муж!
А я ўстала раненька,
Умывалася бяленька,
І паснедала:

З'ела я вала,
З'ела барана,
І гаршчочак кашачкі,
І чатыры качачкі,
Семдзесят парасят —
Не наелася!

## 244а. МУЖ У МЯНЕ БЫЎ *

Муж у мяне быў,
Ён жа мяне біў,
Начапіўшы нітачку
Ды на саламіначку,
І косць праламіў [1].

А я, малада,
Ой, злая была,
Ані паабедаўшы,
Ані павячэраўшы,
Спацькі лягла.

А назаўтра я
Раздабрылася,
Устала ранюсенька,
Умылася бялюсенька
І паснедала.

З'ела вала,
І паўбарана,
І чатыры качачкі,
І гаршчэчак кашачкі,
І ўсё галадна.

## 244б. БІЎ МЯНЕ МУЖ

Біў мяне муж
І ўпоперак і ўдоўж —
Галаву расшчапіў.
Начапіў нітачку
На саламіначку:
Косць перабіў.
Злая была, абіжаная,
Спацькі лягала
Не вячэраўшы.
А назаўтра раненька
Умылася бяленька
Ды й паснедала.
З'ела вала, з'ела барана,
Чатыры качкі, гаршчэчак кашкі,
А ўсё галодна.

---

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 244в. БІУ МЯНЕ МУЖ ТРЫ РАЗЫ НА ДЗЕНЬ

Біў мяне муж тры разы на дзень,
Начапіў нітачку
На саломіначку,
Косць перабіў, косць перабіў.

Я з таго жалю не вячэрала,
Так спаць лягла,
Так спаць лягла.
Назаўтра раненька
Умылася бяленька,
Паснедала, паснедала.

З'ела я вала і паўбарана,
Чатыры качачкі,
Гаршчочак кашачкі,
Семдзесят парасят,
Васьмёра гусянят,
Так галодна, так галодна.

Выпіла я куфру віна,
Чатыры барэлкі,
Той самай гарэлкі,
Так не п'яна,
Так не п'яна.

## 244г. МУЖ У МЯНЕ БЫУ

Муж у мяне быў,
Ён жа мяне біў,
Начапіўшы нітачку
Да й на саламіначку,
І косць перабіў, косць перабіў.

Я, молада, злая была,
Не вячэраўшы,
Не вячэраўшы,
Спацькі лягла,
Спацькі лягла.

А назаўтра
Я ранюсенька
Умылася бялюсенька,
Умылася бялюсенька
І паснедала:

З'ела вала,
І паўбарана,
Сем баброў, вераб'ёў,
Семдзесят парасят
І сямёра гусянят,
І чатыры качачкі,
І гаршчэчак кашачкі,
І так галадна.

## 245. НАБІУ МЯНЕ ТАТКА

Набіў мяне татка
Саламянай пужкай,
А я з таго бою
Не піла, не ела.
Не піла, не ела,
Нядзелю хварэла.

Набіў мяне мужык
Ды раменнай пугай,
А я з таго бою
І піла, і ела.
І піла, і ела
І дня не хварэла.

## 246. ЧАМУ Ж ТЫЯ СВЯТКІ

Чаму ж тыя святкі
Не сем нядзель?
Гу-та-та, гу-ля-ля,
Гу-та-та, гу-ля-ля.[1]

Адна нядзелька —
Тая караценька.

---
[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

На вуліцы арэлькі —
Калышуцца дзеўкі.

А я, маладзенька,
Паміж іх сядзела.

Біў мяне свёкар
Шоўкавай стужкай.

Мне ж тыя раны
Тры дні балелі.

Тры дні балелі,
Тры дні чарнелі.

Біў мяне мілы
Раменнаю плеццю.

А мне тыя раны
Ні дня не балелі.

Ні дня не балелі,
Ні дня не чарнелі.

## 247. ЯК ПАСЕЮ Я ЛЯНКУ

Як пасею я лянку
Ў агародзе, вугалку.
Калінка мая,
Мая малінка, мая [1].

Як удаўся мой лянок,
І з карэння караніст.

І з карэння караніст,
І з галовак семяніст.

Палю, палю я лянок,
Прыпалюся к беражку.

Прыпалюся к беражку,
Увалюся ў травачку.

Як я ў мамачкі жыла,
Тонка праллейка была.

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Тонка праллейка была,
Удзень па нітачцы віла.

Што дзянёк — то зубок,
Што нядзельку — то радок.

Як пастаўлю я ставок —
Ад мясаеда да талок.

Нешта ў бёрдзе не бярдзіцца.
Як з калоды, не вярціцца.

З-пад калоды, з-пад ніцей,
Вывела курка дзяцей.

Восем курак-курачак,
А дзевяты петушок.

Пеўнікі мае пяюць,
Курачкі кудахтаюць.

Выпушчу вон курыцу,
Сама пайду на вуліцу.

Вы паслухайце, суседзі,
Што свякроўка гаварыць.

А свякроўка гаварыць,
На свайго сына крычыць.

— Чаму жонкі ты не б'еш,
Жонцы волю ты даеш?

Як узяў жа сын паплець,
Давай сваю жонку сеч.

Як ударыць па сцяне,
А гаворыць: па жане.

Як ударыць па падушцы,
А гаворыць, што па жонцы.

Ды муж жонкі не набіў,
Толькі славы нарабіў.

Ды муж жонку не скалечыў,
Родну мамачку пацешыў.

## 248. ЦЕРАЗ СЕНІ, ЦЕРАЗ ХАТАЧКУ

Цераз сені, цераз хатачку —
Ды к міламу на краватачку.

А мой мілы на кравацї ляжыць,
Мне, маладой, разуваць вяліць.

Я, малада, рагачу, рагачу
І разуваць не хачу, не хачу.

Узяў мілы ды раменную плець
Ды й стаў па заплеччайку сеч.

## 249. А МОЙ МІЛЫ Ў КРАВАЦІ ЛЯЖЫЦЬ

А мой мілы ў кравацї ляжыць,
Мне, моладзе, разуваць вяліць.

А мне, моладзе, не хочацца
Каля п'яніцы варочацца.

Мае ручачкі бяленькія,
А кольчыкі залаценькія.

Мае ручкі памараюцца,
А кольчыкі паламаюцца.

## 250. ЛЮДСКІЯ МАЛОДАЧКІ

Людскія малодачкі
Пайшлі па ягодачкі.
Вот ягада ж мая,
Спелая, чырвоная [1].

Усе малодачкі набралі,
Я, молада, так прыйшла.

Я, молада, так прыйшла,
У доме журбу знайшла.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Не бі ж мяне п'яную,
Бі мяне цвярозую.

Бі мяне цвярозую,
Кудравай бярозаю.

## 251. МОЙ МІЛЕНЬКІ ЗАХВАРЭЎ

Мой міленькі захварэў,
Ён кіселю захацеў.
Ах, маці, кісель,
Гасударыня, кісель [1].

Як пайду я па сялу
Даставаці кісялю.

Не дастала кісялю,
А дастала аўса.

Як пайшла я малоць
Ў лубяны жаронцы.

Змалола я муку,
Учыніла кісялю.

Паставіла я кісель
Ў добрым месцы пад сталом.

Ой, кісні, кісель,
Паўтараста нядзель.

А ўжо кісель кісніць,
А мілога чорт цісніць.

Яшчэ кісель не зварыўся,
А мой мілы ўжо скончыўся.

Схаваю яго пад жарнамі
І накрыю яго дзвярамі.

---

[1] Апошнія два радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

## 252. А МОЙ МІЛЫ УМІРАУ

А мой мілы уміраў
Да кіселю зажадаў.
— Праўда, мужу, праўда мой,
Праўда, мужу маладой! [1]

— Пайдзі, міла, да сяла,
Пазыч жа ты кісяля.

Не дастала кісяля,
Да дастала мукі.

Расчыніла кісель
Да на дзевяць нядзель.

— Пайдзі, міла, да сяла
Да пазыч рэшата.

Не пазычыла рэшата,
Да пазычыла барану.

Прапусціла кісяля
Цераз тую барану.

Пукі кісель закіпеў,
Ужо мілы адубеў.

Як на лаўцы ляжаў,
Тады жаль мяне браў.

Сталі з лаўкі ды здымаць —
Мяне смехі парываць.

Як вынеслі ў сяло,
Стала мне весяло.

Як вынеслі ў канец,
Пайшла жа я ў танец.

— Ой, памалу нясіце
Да аб плот не таркніце,

Каб мілы не таркнуўся
Да каб зноў не прачхнуўся.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

## 252а. МОЙ МІЛЕНЬКІ ЗАХВАРЭЎ *

Мой міленькі захварэў,
Кіселіку захацеў.
Ой, рана-ранюсенька,
Кіселіку захацеў [1].

Пайшла міла па сялу
Даставаці кісялю.

Не дастала кісялю,
Ды дастала аўса.

Пасыпала той авёс
На халодную печ.

Ой, ды сох жа той авёс
Васемнаццаць нядзель.

Пайшла міла па сялу
Даставаці жарон.

Не дастала камянных,
А дастала дубавых.

Пайшла міла па сялу
Даставаці рэшата.

Не дастала рэшата,
А дастала барану.

Стала кісель цадзіці,
Па тры каплі капаці.

Паставіла той кісель
На сем сажняў ад агню.

Пачаў кісель кіпеці,
Стаў міленькі ўміраці.

А ўжо кісель на місцы,
А міленькі на лаўцы.

Як на лаўцы ляжаў,
Трохі мяне жаль узяў.

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

А як з лаўкі зышоў,
Усё неяк жаль прайшоў.

Як дадому вязла,
Тры музыкі наняла.

Як вывезла за сяло,
Стала міла, весяло.

А як ў далок спускала,
То рукамі спляскала.

— Прыдзі, прыдзі, мой харошы,
Бо ўжо памёр даўганосы.

Бо ўжо памёр даўганосы,
Пакінуў мне торбу грошы.

Буду піці і гуляці,
Даўганоса спамінаці.

## 2526. А МОЙ МІЛЫ ЗАХВАРЭЎ *

А мой мілы захварэў,
Кіселіку захацеў.
Ох, ну, ды ох, ну! [1]
Кіселіку захацеў.

Ой, цыц, мілы, не ўмірай,
Кіселіку дажыдай.

Пайшла баба па сялу
Даставаці кісялю.

Не дастала кісялю,
Ды дастала аўса.

Намачыла кісель
На дванаццаць нядзель.

На баране цадзіла,
А на лёдзе варыла.

---

[1] Прыпеў «Ох, ну, ды ох, ну!» спяваецца ў кожнай страфе з паўторам другога радка тэксту.

Пакуль кісель укіпеў,
Мой міленькі адубеў.

Як на покуці ляжаў,
Яшчэ было трошкі жаль.

Цераз сяло як вяла,
Яшчэ трошкі загула.

Як вывела за сяло,
Ужо стала весяло.

## 252в. А МОЙ МІЛЫ ЗАКАНАЎ

А мой мілы заканаў,
Кісялёчку зажадаў.

А пашла я па сялу
Стараціся кісялю.

Не нашла я кісялю,
А нашла я аўса.

А ўсыпала у печ,
Не вымешбаючы.

А малола кісель,
Не вытоўкаючы.

Расчыніла кісель
На дванаццаць нядзель.

І кісель кісне,
І мілога цісне.

А пашла я па сялу
Стараціся рэшата.

Не нашла я рэшата,
А нашла я барану.

І цадзіла кісель
Я дванаццаць нядзель.

А варыла кісель
На ўчарашнім агні.

Яшчэ кісель не ўскіпеў,
А ўжо мілы удубеў.

І кісель наліваць,
І мілога абмываць.

І кісель есці
І мілога несці.

Як на покуце ляжаў,
Крыху было яго жаль.

А як вынеслі за сяло,
Тады стала весяло.

А унеслі у крыжы,
Я наставіла брыжы.

Як унеслі у капліцу,
Я й паправіла спадніцу.

Як уставілі у яму,
Я на дзесяць хлопцаў гляну.

Засыпала, закапала,
Чаравічкам затаптала.

## 252г. ЗАХВАРЭЎ МОЙ МУЖЫК

Захварэў мой мужык,
Захацеў кісялю.
Гэй, гэй, о-хо-хо!
Захацеў кісялю [1].

Я й пабегла па сялу,
Шукаючы кісялю.
Не знайшла я кісялю,
Ды знайшла я аўса.
Панясла яго малоць
Да пустога млына.
Не змалола на муку,
А змалола на крупу.

[1] Прыпеў «Гэй, гэй, о-хо-хо!» паўтараецца пасля кожнай страфы з паўторам другога радка.

Расчыніла я кісель
На дванаццаць нядзель.
Паставіла я варыць
На такрошнім агні.
Пака кісель закіпеў,
То мой мужык адубеў.
Як на лаўцы ляжаў,
Як сабачка дрыжаў.
Як на могілкі няслі,
То я раўла, раўла.
Як вынеслі за сяло,
То мне стала весяло.
А як мужа ў пясок,
То я ўгору свой насок.

## 252д. МОЙ МУЖ ЗАХВАРЭУ

Мой муж захварэў,
Кісялю захацеў.
Ой, мужу, мужу мой,
Ой, мужу маладой [1].

Пайшла кісель малоць,
Лубяныя жорны папалам
дзёрла.

Зарасчыняла кісель
На дванаццаць нядзель.

Яшчэ кісель кісне,
А ўжо мужа цісне.

Паставіла кісель варыць
На ўчарашнім жары.

Пакуль кісель закіпеў,
То ўжо і муж адубеў.

Як на лаўцы ляжаў,
Тады мяне жаль браў.

Як вывезлі за сяло,
Тады стала весяло.

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

## 252е. МОЙ МІЛЕНЬКІ ЗАХВАРЭЎ

Мой міленькі захварэў,
Кісялёчку захацеў.
Пайшла баба па сялу
Даставаці кісялю.
Не дастала кісялю,
Ды дастала аўса
Некалочанага,
Немалочанага.
Не дастала рэшата,
Дык дастала бараны.
На тры зубы цадзіла
Ды ўсё дзеду гадзіла.
А ўліла я той авёс
Ды ў дзіравы ў гаршчок.
Паставіла той гаршчок
Ды ў нятопленую печ.
Ды мой кісель клакоча,
А стары не хоча.
Яшчэ кісель не астыў,
А дзед мой ужо ўстыў.

## 252ж. МОЙ МІЛЕНЬКІ ЗАХВАРЭЎ

Мой міленькі захварэў,
Кіселіку захацеў.
Ай, люлі, люлі,
Ай, люлі малады! [1]

Яшчэ кісель не ўскіпеў,
Мой міленькі адурэў.

Яшчэ кісель не зварыўся,
Мой мілы з печы зваліўся.

Мілага ў труну ўлажу,
Вось тады я патужу.

Мілага ў труну ўлажыла
І тады я не тужыла.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Я міёначка схавала
І ножкамі прытаптала.

Як да хаты я прыйшла
І ў прысядачку пайшла.

## 253. ТРЫ ДНІ, ТРЫ ДНІ

Тры дні, тры дні
І чатыры нядзелі.
Майго мужа
Камары заелі.

Людзі кажуць,
Што я не тужуся.
Пайду, млода,
Хоць я засілюся.

Тры дні, тры дні
І чатыры нядзелі.
Майго мужа
Камары заелі.

Людзі кажуць,
Што я не тужуся.
Пайду, млода,
Хоць я разаб'юся.

Тры дні, тры дні
І чатыры нядзелі.
Майго мужа
Камары заелі.

Людзі кажуць,
Што не тужуся.
Пайду, млода,
Хоць я утаплюся.

Утаплюся
У мёдзе-гарэлцы,
Разаб'юся
Ў пуховай пасцельцы.

Разаб'юся
Ў пуховых падушках,
Засілюся
На белых малойцах.

## 254. ГУЛЯЙ, ГУЛЯЙ, МАЛАДА

Гуляй, гуляй, малада,
Яшчэ табе не бяда!
А па маёй галаве
Ўсё застанецца табе:
Ступа, жорны і ражон,
І старожа, і прыгон.
Ў ступе, што хочаш таўчы,
Ражном хату падапрэш,
Ў жорнах, што хочаш, змелеш.
Рагоззем пасцелі засцелеш,
А да ступы ёсць таўкач,
Хоць ты плач, хоць ты скач.

## 254а. АХ ТЫ ДУЙ, АХ ТЫ ДУЙ

Ах ты дуй, ах ты дуй,
Мая міла, не бядуй,
Па маёй галаве
Астанецца ўсё табе.

Ах ты дуй, ах ты дуй,
Мая міла, не бядуй —
І таўкач, і ражон,
І старожа, і прыгон.

Ах ты дуй, ах ты дуй,
Мая міла, не бядуй.
Астанецца ўсё табе —
І сарочка з мяне.

Ах ты дуй, ах ты дуй,
Мая міла, не бядуй —
І хамут, і дуга
І я табе не слуга.

## 255. А МОЙ МІЛЫ МІКАЛАЮ

А мой мілы Мікалаю,
Дзе ж я цябе пахаваю?

Ў агародзе пры даліне,
Каб па табе воўкі вылі.

І сабакі скавыталі,
Чэрці душу спаміналі.

Ой, умёр мой нябожчык
Да пакінуў бяды горшчык.

Чарапочкамі накрыла,
Да каб хуценька забыла.

## 255а. А МОЙ ЖА ТЫ ГАРАСІМ

А мой жа ты Гарасім,
Учора араў і касіў.

Сягоння зрабіў слаўку,
Расцягнуўся на ўсю лаўку.

А мой жа ты Мікола,
Дзе ж цябе пахаваю?

Ці ў гародзе, ці ў саду,
Нідзе месца не знайду.

Пахаваю пры даліне,
Каб па табе воўкі вылі.

Пахаваю ля дарогі,
Там вырыюць свінні ногі.

## 256. ШЭСЦЬ ДЗЁН МАЛАЦІЛА

Шэсць дзён малаціла,
Шастак зарабіла.
Сама сабе дзівавала,
Што так мала зарабляла.

Жыў-быў — не любіла,
І памёр — не тужыла.
І на лаўцы ляжыць,
Я не думаю тужыць.

Я тады патужу,
Як у гроб палажу,
І шчэ богу памалюся,
Што нікога не баюся.

## 257. ЖЫЎ-БЫЎ — НЕ ЛЮБІЛА

Жыў-быў — не любіла,
Як памёр — не тужыла.
На лаўцы ляжыць,
Не думаю тужыць.
Як у труну улажу,
Тады па ём затужу.
А цераз тую яму
На другога гляну,
Кіўну, маргну,
З сабою спаць палажу.
Як памёр мой нябожчык,
Я тую бяду ў горшчык,
Чарапочкам накрыла,
Каб я боле не тужыла.

## 257а. ЖЫЎ-БЫЎ — НЕ ТУЖЫЛА

Жыў-быў — не тужыла,
І памёр — не тужыла.

Толькі тады патужыла,
Як на лаўку палажыла.

Ён на лаўцы ляжыць,
Я не думаю тужыць.

Пару коней запрагла,
У магілу павязла.

Ручкамі прыкапала,
Ножкамі прытаптала.

Навярнула камянём,
Сама пайшла хамянём.

## 258. А Ў БАЛОЦЕ НА КАЛОДЗЕ*

А ў балоце на калодзе
Сарокі шчакочуць,
А там майго мілага
Сабакі валочуць.
Валачылі, валачылі,
Валачылі кожу,
Валачыце й косці,
Не сушы і не нудзі
Мае маладосці.

## 258а. А ЗА ЛЕСАМ-ПЕРАЛЕСАМ

А за лесам-пералесам
Сарокі балбочуць.
А там мілага майго
Сабакі валочуць.

Валачыце яго,
Валачыце косці.
Ён не ўмеў шанаваці
Маёй маладосці.

## 259. А МОЙ МУЖ ДЫ Й НЯДУЖ

А мой муж ды й нядуж,
Ляжыць у запечку,
Каб даў бог, каб ён здох,
Паставіла б свечку.

Яму свечачку даюць,
Мяне смешачкі бяруць.
Ён на лавачцы ляжыць,
А я й не думаю тужыць.

Як занеслі за сяло,
То мне стала весяло.
На магільнічак ішла,
Я й галованькай трасла.

На магільнічак ішла,
Я й галованькай трасла,
Я з магільнічка ішла,
У прысядачку пайшла.

І ручанькай прысыпала
І ножанькай прытаптала.
Прытаптала і дзвюма,
Дзякуй богу, што няма.

Слава богу і цару,
Што мілы на цвінтару.
І водачкі напілася,
І з бедачкі пазбылася.

# СТАРЫ МУЖ. БЛАЗНОТА. КУМ ДЫ КУМА

## 260. ДЗІВА Ж МНЕ, ДЗІВА

Дзіва ж мне, дзіва,
Што дзед з барадою.
Як жа мне, маладой,
Жыці з табою?
Завуць мяне ў бяседу
І кажуць мне сесці.
Як гляну на бараду,
Не магу я есці.
Памёр барадаты
У нядзелю рана.
Я ж, маладзенька,
Па ім запяяла.

## 260а. ДЗІВА МНЕ, ДЗІВА

Дзіва мне, дзіва,
Што дзед з барадою.
Як жа мне, маладой,
Жыць з табой.

Памёр барадаты
У нядзелю рана.
Я ж, маладая,
Па ім запяяла.

Вечны пакой,
Што не пайшоў рукой,
Вечны пакой,
Душу ў неба здаці.

Я на яго магілачцы
Буду танцаваці.

## 261. ПАМЁР, ПАМЁР МОЙ ХАРОШЫ

Памёр, памёр мой харошы,
Пакінуў мне торбу грошай,
Каб піла я і гуляла,
І мілога ўспаміналa.
Як пайду я мукі браць
Ды вазьму ў дуду іграць,
Сама пайду танцаваць.
То ў прысядку, то ў далоні,
Пайшла мука па каморы.
Нечым дзяжу учыняць,
Пайшла к куме пазычаць:
— Пазыч, кума, мучыцы,
Нечым дзяжу учыніці.

## 262. ЯК ПАМЁР МОЙ ДАВЫДКА

Як памёр мой Давыдка,
Задрыжала мая лытка.

Як на лаве ляжаў,
То мне ж было яго жаль.

Як вынеслі за сяло,
То мне стала весяло.

Цераз яго яму
На другога гляну.

## 263. ПА БАЛОЦЕ ВАЛАЧЫЛАСЯ

Па балоце валачылася,
Ой, люлі-люлі, валачылася.

Па каленечкі намачылася,
Ой, люлі-люлі, намачылася.

Забіла ліпа Піліпа,
Ой, люлі-люлі, Піліпа.

Белая бяроза — Хвядоса,
Ой, люлі-люлі, Хвядоса.

Не дыша Хвядос, не дыша,
Ой, люлі-люлі, не дыша.

Толькі ножкамі калыша,
Ой, люлі-люлі, калыша.

## 264. А ШТО ГЭТА ЗА ТРАВА?

А што гэта за трава
Ў маім садзе парасла?
Раз, два, тры, лю-ля!
Ў маім садзе парасла [1].

Ў маім садзе парасла,
Жоўтым цветам пацвіла.

А што гэта за дружок,
Што далёка ад мяне?

Што далёка ад мяне,
Не ведае пра мяне?

Паслала б я старога —
Стары туды не дайдзець.

Стары туды не дайдзець,
У паўдарожанькі памрэць.

Паслала б я малога —
Малы таго не знаіць.

Паслала б я роўнага —
Роўны праўды не скажыць.

Запрагайце мне каня —
Паеду я сама!

Пад'язджаю да мяжы —
Абарваліся гужы.

Пад'язджаю да вёскі —
Паламаліся атоскі.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Пад'язджаю да двара —
Паламалася дуга.

Уз'язджаю я на двор,
Кажуць міленькі памёр.

Стану, стану думаці,
Як мне па ім плакаці.

Ах вы, ножанькі мае,
Вы хадзілі да мяне.

Ах вы, вочанькі мае,
Вы глядзелі на мяне.

Ах вы, ручанькі мае,
Абымалі вы мяне.

Ах вы, вусанкі мае,
Цалавалі вы мяне.

## 264а. А ШТО Ж ГЭТА ЗА ТРАВА

А што ж гэта за трава
На ўсе стораны лягла.
Ох, я, бедная,
На ўсе стораны лягла.

А што ж гэта за дружок
Не адведае разок.
Ох, я, бедная,
Не адведае разок.

Запрагайце мне каня,
Я адведаю сама.
Ох, я, бедная,
Я адведаю сама.

Даехала да варот,
Сабіраецца народ.
Ох, я, бедная,
Сабіраецца народ.

Даехала да мяжы,
Абарваліся гужы.
Ох, я, бедная,
Абарваліся гужы.

Даехала ў падвор,
Кажуць міленькі памёр.
Ох, я, бедная,
Кажуць міленькі памёр.

Трэба стаць, падумаць,
Як па міленькім плакаць.
Ох, я, бедная,
Як па міленькім плакаць.

Ох вы, ножкі мае,
Вы хадзілі да мяне.
Ох, я, бедная,
Вы хадзілі да мяне.

Ох вы, ручкі мае,
Абдымалі вы мяне.
Ох, я, бедная,
Абдымалі вы мяне.

Ох вы, вочкі мае,
Вы глядзелі на мяне.
Ох, я, бедная,
Вы глядзелі на мяне.

Ох вы, губкі мае,
Цалавалі вы мяне.
Ох, я, бедная,
Цалавалі вы мяне.

## 265. НАШТО МНЕ ЖАНІЦЦА

Нашто мне жаніцца,
Нашто мне жонка?
Ёсць у мяне суседачка,
Добра прыяцелка.

Нашто мне жаніцца,
Хлопцу маладому.
Вялела мне прыходзіць,
Як да свайго дому.

— Прыдзі, прыдзі, млады хлопча,
У першай гадзіне.
Ідзі, ідзі, стары муж,
У лес па каліну.

Ідзі, ідзі, стары муж,
Каліну ламаці.
Не наломіш каліны,
То не ідзі дахаты.

Ох, ідзі ж ты, мой сынок,
Тату пільнаваці.
Як будзе ісці з калінай,
Давай мне ты знаці.

А прыходзіць стары муж
З калінай у хату.
Як сядзела, так і упала,
Стала яго гнаці.

— А пайдзі ж ты, стары муж,
Укалупі мёду.
Цяжка, важка мне на сэрцы,
Галоўкі не звёду.

Ой, як пайшоў стары муж
Мёду калупаці.
Ой, на той час міленькага
Выпусціла з хаты.

Ідзе, ідзе стары муж,
У далоні трэпле.
— О, быў жа тут ашуканец:
Яшчэ мейсца цепла.

## 266. Я Ў СЕРАДУ РАДЗІЛАСЯ

Я ў сераду радзілася,
Якое мне гора!
За старога не пайду
Барадою коле [1].

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараліся двойчы.

Старога за бараду
На ярмолак павяду,
Ды й усё буду тужыці,
Каб хутчэй дзе пазбыці.

Ці за грош, ці за два,
Ідзі, стары, да д'ябла,
А я буду гуляці
Й маладога шукаці.

За таго я пайду,
Што малыя вусы,
Ой, абыму, пацалую,
Сама засмяюся.

Дам на люльку капеечку,
На цыбучак грошык.
Куры, куры, мой міленькі,
Бо ты мне харошы.

Куры, куры, мой міленькі,
Ды й не накурайся
І на сваю красавіцу
Да й не наглядайся.

## 267. ОЙ ТЫ, СТАРЫ, СТАРЫ ПЕС

Ой, ты, стары, стары пёс,
Ты ўжо ў зямлю урос!

Ой ты, стары дзядуга,
Ты схіліўся, як дуга.

Да ты стары, як калода,
Я молада, як ягода.

Ой ты, стары, іх, ох, а!
Я молада, ха-ха-ха.

## 268. ОЙ, ДОЛЯ, ТО НЯДОЛЯ

Ой, доля, то нядоля,
Пайшла замуж за старога.
Ой, лі, ой, люлі,
Пайшла замуж за старога.

Пайшла замуж за старога,
Захацела пагуляці.
Ой, лі, ой, люлі,
Захацела пагуляці.

Захацела пагуляці,
Стары кажа: сядзі ў хаце!
Ох, лі, ой, люлі,
Стары кажа: сядзі ў хаце!

## 269. УСЕ ЛЮДЗІ ВЯЧЭРАЮЦЬ

Усе людзі вячэраюць,
А я спаць лягла.

Стары муж мой прачнуўся,
А я гуляць пайшла.

Я ж там доўга не бавілася,
Вячэрняя зорачка закацілася.

Іду дамоў — развідняецца,
А мой муж умываецца.

А мой муж умываецца
Ды на мяне, маладу, прызіраецца.

Я ж, маладзенька, дагадалася,
За пярыну ды на гору узабралася.

А мой стары ўслед за мною,
Зваліўся з гары з драбіною.

Я ж думала, што задушыцца,
Прызіраюся — ён варушыцца.

## 270. ОЙ, ДОБРА ВАМ, МАЛАДЗІЧУНЬКІ

Ой, добра вам, маладзічунькі,
Што ў вас маладыя чалавечунькі.

А ў мяне, маладое, стары старычышча.
Не пускае мяне на йгрышча.

Я старога старычышчу ды прыспала,
Сама на гуліцу на йгрышча ўцякла.

Ой, здаецца, я ж і не бавілася,
А вячэрняя зорачка закацілася.

Ой, прыходжу я, малада, дадоменьку,
А мой стары старычышча вымываецца.

А мой стары старычышча вымываецца,
На мяне, на маладую, усё ўглядаецца.

А я, маладая, дагадалася,
За пярыну ды на гору спаць пабралася.

А мой стары за пярынаю,
А я яго адапхнула ўсёй драбінаю.

Ляжыць стары, не варушыцца,
А я рада, маладая, што задушыцца.

## 271. ВА ЎСІХ МУЖЫ МАЛАДЫЯ

Ва ўсіх мужы маладыя,
А ў мяне старычышча.

На гулянне не пускае,
Мяне, маладу, у клеці запірае.

А я тайком выхадзіла,
За сабою нарад вынасіла.

За сабою нарад вынасіла,
У суседа ў канаплях апраналася.

А суседавы сабакі ўвідалі,
На мяне, маладу, забрахалі.

— Ох, сабакі вы мае, не брашыце,
Вы маю маладосць не губіце.

Дайце ж вы мне нагуляцца,
З мілым дружком павідацца.

Ох, нуда мяне заела,
Жыць на свеце надаела.

Надаеў мне старычышча,
Да пояса барадзішча.

## 271а. ВЫЙШЛА ЗАМУЖ ЗА СТАРОГА СТАРЫЧЫШЧА

Выйшла замуж за старога старычышча,
Не пускае на вуліцу на ігрышча.

Як уклала старычышчу свайго спаці,
А сама трушком бягу гуляці.

Ціханькімі спосабамі выхадзіла,
Пад палою светла плацце вынасіла.

Пад заборам, маладзенька, надзявалася
І к суседу на бяседу паспяшалася.

Я ж, здаецца, маладзенька, не барылася,
А ўжо ясна зорка нахвацілася.

Зорка ясна занімаецца,
А мой стары старычышча абуваецца.

А мой стары старычышча абуваецца,
А ў мяне, маладзенькай, ды пытаецца:

— Дзе ты, мая міла, забарылася?
— Бурая каровачка ацялілася.

— Бурая каровачка ацялілася,
Там я, маладзенька, забарылася.

Як пайшоў жа старычышча цяляці шукаць,
Шамаў, шамаў на саломе — цяляці няма.

Шамаў, шамаў на саломе — цяляці няма:
— Брэшаш ты, мая малодка, няпраўда твая.

— Сучка, я чула, занадта раўла,
Яна ж таго цялёначка даўно спажыла.

## 2716. ДОБРА ТЫМ ЖАНКАМ

Добра тым жанкам,
У якіх мужы маладыя.
А мой старычышча
Не пускае на йгрышча.

А я свайго старычышчу
Ды прыспала была,
Сама, маладая,
Ды на йгрышча пайшла.

Першым крупяр'ерам
Я й пагулівала,
Другім крупяр'ерам
Я й патурывала.

Другім крупяр'ерам
Я й патурывала,
Трэцім крупяр'ерам
Я й дадому ступала.

Новыя вароцейкі
Адчыняюцца,
Знаць, мой старычышча
Прачынаецца.
— Знаць, ты на йгрышчы
была?

— Брэшаш, старычышча,
То няпраўда твая,
А я ў хляве была,
Каровачку сцерагла.

Чорная каровачка
Ацялілася,
А я, маладая,
Весялілася.

Чорная каровачка
Ды бычка прывяла,
А я, маладая,
Ды на йгрышчы была.

## 271в. БЫЎ У МЯНЕ СТАРЫ ЧОРТ

Быў у мяне стары чорт,
Старычышча.
Не пускае на вуліцы,
На ігрышча.

А я, маладая,
Дагадалася.
Яшчэ сонца не зайшло,
Я паслалася.

Яшчэ сонца не зайшло,
Я паслалася.
Усе людзі з поля ідуць,
А я ўклалася.

Усе людзі з поля ідуць,
А я ўклалася.
Тады свайго старыка
Я прыспала.

Тады свайго старыка
Я прыспала.
Сама пайшла на вуліцу,
Пагуляла.

А ўжо пеўні пяюць,
Я дамоў не іду.
А другія пяюць,
Я не думаю.

Як зара ўзыйшла,
Я дамоў прыйшла.
Аж мой стары чорт
Абуваецца.

Аж мой стары чорт
Абуваецца
Ды на мяне, маладу,
Прыглядаецца.

— Знаць, знаць, малада,
Ты на йгрышчы была.
— Брэшаш, брэшаш, стары чорт,
Няпраўда твая.

Я ж у хляве была,
Кароў сцерагла.
Рабая карова
Бычка прывяла.

Сучка на лычку
Двора сцерагла.
Вот тая сучка
Быка спажыла.

Трасцы, стары чорт,
А не малака,
Бо было сцерагчы
Рабога быка.

На цялегу, стары чорт,
На цялегу
Да павязу, стары чорт,
Прадаваці.

Прадам не прадам,
Такі збуду,
А з табою, стары чорт,
Жыць не буду.

### 271г. ЭЙ, Я СВАЙГО СТАРЫКА

Эй, я свайго старыка
Спаць уклала,
А сама, малада,
Ды удрала.

Першы пеўні заспявалі —
Я гуляю,
Другі пеўні заспявалі —
Я й не дбаю.

Трэці пеўні заспявалі —
Я прыйшла дамоў.
Старычышча устаў —
Абуваецца.

Старычышча ўстаў —
Абуваецца,
На мяне, маладу,
Прыглядаецца.

— Знаю, знаю, маладухна,
Ой, дзе ты была.
— Я ў хляве была,
Карову глядзела.

Наша чорная карова
Цяля прывяла.
— Маніш, маніш, маладухна,
Няпраўда твая.

Маніш, маніш, маладухна,
Няпраўда твая.
Я ў хляве быў,
Цяляці няма.

— На цялёнка, на цялёнка,
Старычышча.
Павяду я на базар,
Не на йгрышча.

Ці аддам, ці прадам,
Ці так збуду,
А з табою, старыком,
Жыць не буду.

## 272. Я СТАРОГА ЗМАЛКУ НЕ ЛЮБІЛА

Я старога змалку не любіла,
Я старога і цяпер не люблю.
З хаты дымам выкурыла,
З сеняў памялом вымятала,
З двара сабакамі зацкавала,
Вароты камнем закаціла,
Каб камень назад не адкаціўся,
Каб стары назад не вараціўся.

## 273. ДА СЕЮ ЖА Я *

Да сею жа я
У гародзе чарнушачку,
Пад гародам пятрушачку,
Да сею жа я [1].

Да палю жа я
У гародзе чарнушачку,
Пад гародам пятрушачку,
Да палю жа я.

Да бяру жа я
У гародзе чарнушачку,
Пад гародам пятрушачку,
Да бяру жа я.

Навару жа я
Да старому качана з бураком,
Маладому кісяля з малаком,
Навару жа я.

Пасцялю жа я
Да старому на узапечкі,
Маладому ды на покуце,
Пасцялю жа я.

Падлажу жа я
Што старому да дзяружачку,
Маладому ды падушачку,
Падлажу жа я.

Прабуджу жа я
Што старога да таўкаючы,
Маладога абдымаючы,
Прабуджу жа я.

Праваджу жа я
Як старога із сабакамі,
Маладога із музыкамі,
Праваджу жа я.

---

[1] Чацвёрты радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 273а. СЕЮ Я, СЕЮ Я

Сею я, сею я
Да ў гародзе пятрушачку,
За гародам чарнушачку.

Паліваю я, паліваю я
Да ў гародзе пятрушачку,
За гародам чарнушачку.

Палю я, палю я
Да ў гародзе пятрушачку,
За гародам чарнушачку.

Капаю я, капаю я
Да ў гародзе пятрушачку,
За гародам чарнушачку.

Вару я, вару я
Маладому каплун тлусты,
А старому качан капусты.

Салю я, салю я
Маладому саліцаю,
А старому жарытвіцаю.

Даю есці я, даю есці я
Маладому на трынозе,
А старому на парозе.

Маладому на паўмісачку,
А старому у карытачку.

Сцялю пасцель я, сцялю пасцель я.
Маладому пярыначкі,
А старому шыпшыначкі.

Лягу спаць я, лягу спаць я
К маладому вачыма,
А к старому плячыма.

## 274. НІЧЫЙ МУЖ НЕ ТАКІ

Нічый муж не такі,
Як мой неўдалака:
І стары, і малы,
І нізкага росту.

І стары, і малы,
І нізкага росту.
Трэба яго утапіць
З высокага мосту.

Валачыла, валачыла,
Села адпачыла.
— Ляжы, мілы, тут,
Пайду знайду прут.

А міленькі не ляжаў,
Да суседа пабяжаў.
— Ой, суседзе, браце мой,
Кепска мая жонка.

Ой, суседзе, браце мой,
Кепска мая жонка.
— Ой ты, браце, не кажы,
Мая яшчэ горша.

Каровы, валы прадала,
Шчэ мяне набіла.
Ручкі, ножкі павязала,
Шчэ й скакаць сказала.

## 275. А КУМАЧКА, ЛЮБАЧКА, ДЗЕ ІДЗЕШ?

А кумачка, любачка, дзе ідзеш?
Скажы ж ты мне праўданьку, дзе жывеш?
Чаму мяне ў госці не завеш?
— Жыву я з краю мора, ля вады,
Збудавала хатачку з лебяды.
Я да яе сені дапляту
З вялікага дзерава — з асату,
Тады цябе ў госці пазаву.

## 275а. КУМА МАЯ, КУМАЧКА

— Кума мая, кумачка,
Дзе жывеш?
Чаму мяне ў госцікі
Не завеш?

— Ці ты, кумок,
Розуму не маеш,
Што ты маёй хатачкі
Не знаеш.

Ой, ды мая хатка
Ля вады,
На ёй крыша з беленькай
Лебяды.

Як налаўлю рыбачкі
Акуня
Ды зазаву ў госцікі
Я кума.

Ой, смачная рыбачка
Акунёк,
Дарагія госцікі,
Мой кумок.

## 276. ОЙ, КУМ З КУМОЙ

Ой, кум з кумой [1]
Ды й на рынку былі.

Ой, кум з кумой
Ды гарэлку пілі.

Ой, кум куме
Чаравічкі купіў.

Чаравічкі купіў
Ды на ножкі надзеў.

Ды на ножкі надзеў,
На куму паглядзеў.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

— Ой ты, кумачка,
Ой ты, кумка-душа.

Пагляджу на цябе,
Як жа ты хараша.

## 277. ХТО ПАЙШОЎ

— Хто пайшоў?
— Кум да кумы.
— Што панёс?
— Куль саломы.
Як дагналі кума,
Развязалі куля.
А ў тым жа кулі
Чаравічкі для кумы.

— Хто пайшоў?
— Кум да кумы.
— Што панёс?
— Куль саломы.
Як дагналі кума,
Развязалі куля.
А ў тым жа кулі
Плацце для кумы.

— Хто пайшоў?
— Кум да кумы.
— Што панёс?
— Куль саломы.
Як дагналі кума,
Развязалі куля.
А ў тым жа кулі
Шалі для кумы.

## 278. КУМ ДА КУМЫ ЗАЛЯЦАЎСЯ

Кум да кумы заляцаўся,
Лянок рваць абяцаўся.
Як ён рваў, прырываў,
Прырываючы, казаў:
— Ты кума, ты душа,
На ўсё кума хараша.

Кум да кумы заляцаўся,
Лянок слаць ён абяцаўся.
Як ён слаў, прысцілаў,
Прысцілаючы, казаў:
— Ты кума, ты душа,
На ўсё кума хараша.

Кум да кумы заляцаўся,
Лянок праць абяцаўся.
Як ён праў, прыпрадаў,
Прыпрадаючы, казаў:
— Ты кума, ты душа,
На ўсё кума хараша.

Кум да кумы заляцаўся,
Красёнцы ткаць ён абяцаўся.
Як ён ткаў, прытыкаў,
Прытыкаючы, казаў:
— Ты кума, ты душа,
На ўсё кума хараша.

## 278а. КУМ ДА КУМЫ ЗАЛЯЦАЎСЯ

Кум да кумы заляцаўся,
Сеяць канапелькі абяцаўся.
Ён сеяў, прысяваў,
Прысяваючы, казаў:
— Ой ты, кума мая,
Ты галубка мая,
На ўсё кума хараша!

Кум да кумы заляцаўся,
Ірваць канапелькі абяцаўся.
Ён ірваў, прарываў,
Прарываючы, казаў:
— Ой ты, кума мая,
Ты галубка мая,
На ўсё кума хараша.

Кум да кумы заляцаўся,
Церці канапелькі абяцаўся.
Ён цёр, прыціраў,
Прыціраючы, казаў:

— Ой ты, кума мая,
Ты галубка мая,
На ўсё кума хараша.

Кум да кумы заляцаўся,
Прасці канапелькі абяцаўся.
Ён праў, прыпрадаў,
Прыпрадаючы, казаў:
— Ой ты, кума мая,
Ты галубка мая,
На ўсё кума хараша.

Кум да кумы заляцаўся,
Ткаці канапелькі абяцаўся.
Ён ткаў, прытыкаў,
Прытыкаючы, казаў:
— Ой ты, кума мая,
Ты галубка мая,
На ўсё кума хараша.

## 2786. КУМ ДА КУМЫ ЗАЛЯЦАЎСЯ

Кум да кумы заляцаўся,
Рваць канапелькі абяцаўся.
А ён рваў, вырываў,
Вырываючы, казаў:
— Ох ты, кума-душа,
На ўсё кума хараша [1].

Кум да кумы заляцаўся,
Абіць канапельцы абяцаўся.
Ён і біў, аббіваў,
Абіваючы, казаў.

Кум да кумы заляцаўся,
Сцяліць канапельцы абяцаўся.
Ён і слаў, насцілаў,
Насцілаючы, казаў.

Кум да кумы заляцаўся,
Мяць канапельку абяцаўся.
Ён мяў, вымінаў,
Вымінаючы, казаў.

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Кум да кумы заляцаўся,
Ткаць канапельку абяцаўся.
Ён ткаў, прытыкаў,
Прытыкаючы, казаў.

# ЗЯЦЬ І ЦЕШЧА

## 279. ЦІ УСЕ Ж ТЫЯ ЧАБОТЫ *

Ці ўсё ж тыя чаботы,
Што зяць даў,
Да за тыя чаботы
Дачку ўзяў.
Чаботы, чаботы вы мае,
Нарабілі клопату да вы мне[1].

Як на рэчку ішлі,
Чаботы скрыпелі,
А як з рэчкі ішлі,
Чаботы хлыпалі.

Павешу я чаботы
На кручку,
Ліха ж вашай мацеры
За дачку.

## 279а. ГЭТА Ж ТЫЯ ЧОБАТЫ, ШТО ЗЯЦЬ ДАЎ *

Гэта ж тыя чобаты, што зяць даў,
А за тыя чобаты дачку ўзяў.
Чобаты, чобаты вы мае,
Нарабілі клопату вы мне[1].

Як на рэчку йшла — чобаты рыпелі,
А як з рэчкі йшла — чобаты скрыпелі.

Як на рэчку йшла — чобаты з прачам,
А як з рэчкі йшла — чобаты з плачам.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Як павешу чобаты на кручку,
Няхай робяць дзелачка за дачку.

Чобаты, чобаты і з бычка
Ды й не робяць дзелачка, як дачка.

## 280. ОЙ ТЫ, ЗЯЦІКУ, ТЫ, ЗЯЦІКУ, ТЫ МОЙ

— Ой ты, зяцiку, ты, зяцiку, ты мой.
А ні вуса, ні бародачкі,
А ні вуса, ні бародачкі,
А на стале ні краюшачкі,
А ў хляве ні цялушачкі.

— Ой ты, цешчухна, ты, цешчухна мая,
Харошая да й дачушка твая.
Сем нядзель кросны ткала,
На панажах трава парасла,
На прысесці зелянюсенькая.

— Ой ты, зяцiку, ты, зяцiку, ты мой.
Вазьмі коску да навюсенькую,
Вазьмі коску да навюсенькую,
Скасі траву зелянюсенькую,
Скасі траву зелянюсенькую.

## 281. ЦЕШЧУХНА, МАМУХНА

Цёшчухна, мамухна,
Я твой зяць буду!
Я ж тваю дочухну
Шанаваць буду!

То кнутам, то лутам,
То дубінаю,
То тою крутою
Беразінаю.

## 281а. ЦЕШЧУХНА, МАМУХНА

Цешчухна, мамухна,
Я твой зяць буду,
Я тваю дочачку
Навучаць буду.

То прутом, то кнутом,
То нагайкаю,
Каб была дочачка
Ды хазяйкаю.

То прутом, то кнутом,
То лазінкаю,
Каб не была дочачка
Ды разінкаю.

## 282. ХАДЗІЎ КАЗАК Ў ЧУЖЫ СТРОНЫ*

Хадзіў казак ў чужы строны,
Шукаючы сабе жоны.
Ён прывёз красу Марусю,
Яна, бедна, рабіць мусіць.
Ох я, бедная, бедна галоўка мая! [1]

Скідай, міла, свае шаты
Побач маёй курнай хаты.
Скідай, міла, рукавічкі,
Памый сталы і дайнічкі.

Скора міла разузнала,
Да матулі ліст падала,
А матуля прачытала
Ды сем пар каней прыслала.

— А дзе, доню, тыя дары,
Што я табе даравала?
— Мама, дары прадавала,
Хлеба, солі купавала.

Я прадала злоты чэпчык,
Купіла сівы жарэбчык,
Я прадала злоту лісу,
Купіла карову лысу.

---

[1] Апошні радок паўтараецца пасля кожнай страфы.

— А дзе, зяцю, тыя коні,
Што вазіў да нас паклоны?
— Былі, мама, ды не мае,
Кожны пабраў так як свае.

## 283. РАСПАШУ Я ЛЯДЦА

Распашу я лядца, тпру ды но! [1]
Распашу другое,
Пасею я рэпку.
Урадзілась рэпка,
Ні густа, ні рэдка.
Павадзіўся вор, вор,
Не чужы жа, свой, свой —
Радзімая цешча.
Вартаваў я ночку,
Вартаваў другую,
На трэцюю ночку
Як паймаў я цешчу
За правую ручку.
Загадаў я частаваць,
Па затылку даставаць.
Як вырвалась цешча,
Як пабегла уцякаць.
Як бегла йна поле,
Як бегла другое,
А на трэцім полі
Яна села аддыхаць.
Як бягуць жа дзеткі:
— А дай, мамка, рэпкі!
— А скулля вам, дзеткі,
Бо мне не да рэпкі,
Вы бяжыце да дзяка,
Я паеду да папа.
Папу грахі раскажу,
Дзяку душу пакажу.
А поп грахі адпусціў,
А дзяк душу прасадзіў.

---

[1] Прыпеў «Тпру ды но!» паўтараецца пасля кожнага радка.

## 283а. ПАСЕЯУ ДЗЕД РЭПКУ

Пасеяў дзед рэпку,
Серая.

Чатыры магеркі,
Серая.

Павідаўся вор, вор,
Серая.

Не чужы, свой, свой,
Серая.

Сцерагу я ночку,
Серая.

Сцерагу другую,
Серая.

На трэцюю ночку,
Серая.

Ды паймаў я цешчу,
Серая.

За ніжнюю клешчу,
Серая.

Паставіў я ракам,
Серая.

Па спіне кулакам,
Серая.

А мая ж ты, цешча,
Серая.

У ладошкі плешча,
Серая.

Пайдзём-ка да хаткі,
Серая.

А дзеткі за намі,
Серая.

А вы, дзеткі, дзеткі,
Серая.

Ды збірайце шчэпкі,
Серая.

Ды тапіце баню,
Серая.

Будзем парыць Ваню,
Серая.

### 2836. ПАСАДЗІЎ Я РЭПКУ *

Пасадзіў я рэпку,
Ні густу, ні рэдку,
Калін-малін мая,
Ні густу, ні рэдку [1].

Стала рэпка узрастаць,
Сталі ворыараваць.
Калін-малін мая,
Сталі ворыараваць.

Воры не чужыя,
Ўсё свае, радныя.
Калін-малін мая,
Ўсё свае, радныя.

Сцерагу я ночку,
Сцерагу другую.
Калін-малін мая,
Сцерагу другую.

На трэцюю ночку
Прысцярог я цешчу.
Калін-малін мая,
Прысцярог я цешчу.

Эх, сарвалась цешча,
Пабегла ўцякаці.
Калін-малін мая,
Пабегла ўцякаці.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

А бягуць жа дзеткі:
— Мамка, дай жа рэпкі.
Калін-малін мая,
Мамка, дай жа рэпкі.

— Адчапіцесь, дзеткі,
Ўжо мне не да рэпкі,
Калін-малін мая,
Ўжо мне не да рэпкі.

## 284. БЫЛО У ЦЕШЧЫ СЕМ ЗЯЦЕУ

Было ў цешчы сем зяцёў:
Грышка, Пішка, Саўка, Макарка,
Дзям'янка, Мяллянка,
А Іванка — самы младшы зяць.

Частавала цешча сваіх зяцёў:
Грышку — румку,
Пішку — румку,
Саўку — румку,
Макарку — румку,
Дзям'янку — румку,
Мяллянку — румку,
А Іванку — стаканчык віна.

Стала цешча зяцёў частаваць:
Грышку — ляпёшку,
Пішку — ляпёшку,
Саўку — ляпёшку,
Макарку — ляпёшку,
Дзям'янку — ляпёшку,
Мяллянку — ляпёшку,
А Іванку сто плецей дала.

## 284а. БЫЛО У ЦЕШЧЫ СЕМ ЗЯЦЕУ

Было ў цешчы сем зяцёў:
Цішка — зяць,
Макарка — зяць,
Захарка — зяць,

Дзямідка — зяць,
Архіпка — зяць,
Ягорка — зяць,
А Іванушка — палуччай усіх.

Стала цешча зяцёў за стол саджаць:
Цішку — на лаўку,
Макарку — на лаўку,
Захарку — на лаўку,
Дзямідку — на лаўку,
Архіпку — на лаўку,
Ягорку — на лаўку,
А Іванушку — на скамеечку.

Стала цешча зяцёў частаваці:
Цішку — румку,
Макарку — румку,
Захарку — румку,
Дзямідку — румку,
Архіпку — румку,
Ягорку — румку,
А Іванушку — стакан віна.

Стала цешча закуску даваці:
Цішку — булку,
Макарку — булку,
Захарку — булку,
Дзямідку — булку,
Архіпку — булку,
Ягорку — булку,
А Іванушку — з комам пірог.

Стала цешча зяцёў спаць класці:
Цішку — на лаўку,
Макарку — на лаўку,
Захарку — на лаўку,
Дзямідку — на лаўку,
Архіпку — на лаўку,
Ягорку — на лаўку,
А Іванушку — на падушачку.

Стала цешча зяцёў выпраўляці:
Цішку — ў шышку,
Макарку — ў шышку,
Захарку — ў шышку,

Дзямідку — ў шышку,
Архіпку — ў шышку,
Ягорку — ў шышку,
А Іванушку — ў патыліцу.

## 2846. БЫЛО Ў ЦЕШЧЫ СЕМ ЗЯЦЁЎ

Было ў цешчы сем зяцёў:
Вот і Цішка — зяцёк,
І Мікітка — зяцёк,
І Захарка — зяцёк,
І Макарка — зяцёк.
І Дзяменцій — зяцёк,
І Кляменцій — зяцёк,
Ай, Ванюша — луччы ўсіх.

Прыехалі зяці ў госці:
Вот і Цішка прыехаў,
І Мікітка прыехаў,
І Захарка прыехаў,
І Макарка прыехаў,
І Дзяменцій прыехаў,
І Кляменцій прыехаў,
Ай, Ванюша ўперадзі ўсіх.

Стала цешча зяцёў частаваці:
Вот і Цішку — стакан,
І Мікітку — стакан,
І Захарку — стакан,
І Макарку — стакан,
І Дзяменцю — стакан,
І Кляменцю — стакан,
Ай, Ванюшу — стакан мёду.

Стала цешча закуску даваць:
Вот і Цішку — ляпёшку,
І Мікітку — ляпёшку,
І Захарку — ляпёшку,
І Макарку — ляпёшку,
І Дзяменцю — ляпёшку,
І Кляменцю — ляпёшку,
Ай, Ванюшку — гарачы блін.

Стала цешча зяцёў спаці класці:
Вот і Цішку — на пол,
І Мікітку — на пол,
І Захарку — на пол,
І Макарку — на пол,
І Дзяменцю — на пол,
І Кляменцю — на пол,
Ай, Ванюшку — на куце.

Стала цешча напрадкі даваці:
Вот і Цішку — дзяружку,
І Мікітку — дзяружку,
І Захарку — дзяружку,
І Макарку — дзяружку,
І Дзяменцю — дзяружку,
І Кляменцю — дзяружку,
Ай, Ванюшку — адзяяла.

Стала Цешча зяцёў праважаці:
Вот і Цішку — дубінкай,
І Мікітку — дубінкай,
І Захарку — дубінкай,
І Макарку — дубінкай,
І Дзяменцю — дубінкай,
І Кляменцю — дубінкай,
Ай, Ванюшка — хай тут.

### 284в. БЫЛІ У ЦЕШЧЫ СЕМ ЗЯЦЁУ

Былі ў цешчы сем зяцёў:
Грышка — зяць,
Мікішка — зяць,
Захарка — зяць,
Макарка — зяць,
Вікенці — зяць,
Кляменці — зяць,
Ванюшачка-душачка любімы быў зяць.

Стала цешча ў госці зваць:
Грышка — ў госці,
Мікішка — ў госці,
Захарка — ў госці,

Макарка — ў госці,
Вікенці — ў госці,
Кляменці — ў госці,
Ванюшачку-душачку за ручку прывяла.

Стала цешча гасцей частаваць:
Грышку — румку,
Мікішку — румку,
Захарку — румку,
Макарку — румку,
Вікенцю — румку,
Кляменцю — румку,
Ванюшачку-душачку дзве румкі паднясла.

Стала цешча спаць лажыць:
Грышку — на лаўку,
Мікішку — на лаўку,
Захарку — на лаўку,
Макарку — на лаўку,
Вікенцю — на лаўку,
Кляменцю — на лаўку,
Ванюшачку-душачку пярыну дала.

Стала цешча зяцёў будзіць:
Грышку — ў шыю,
Мікішку — ў шыю,
Захарку — ў шыю,
Макарку — ў шыю,
Вікенцю — ў шыю,
Кляменцю — ў шыю,
Ванюшачку-душачку за ручку правяла.

## 285. ПАРАДЗІЛА ЧАЧОТАЧКА

Парадзіла чачотачка
Семера разам дачок,
Парадзіла невялічка,
Семера разам дачок.

Як стала чачотачка
Хрысціны спраўляць,
Як стала чачотачка
Імя ўсім даваць:

Першая — Яўеня,
Другая — Макрыня,
Трэцяя — Кацюха,
Чацвёртая — Насцюха,
Пятая — Грыпіна,
Шостая — Макрына,
Сёмая — Хімка.

Як стала чачотачка
Замуж выдаваці:
Гаўрылу — Яўеню,
Харытону — Макрыну,
Радзівону — Кацюху,
Кузьме — Хімку...

Як стала чачотачка
Пасаг выдаваці:
Яўені — кажушок,
Макрыне — фартушок,
Кацюсе — суконкі,
Насцюсе — пялёнкі,
Грыпіне — дзве кошкі,
Хімцы — падвязкі.

Хвала ж табе, божа!
І вясёла чачотка была.
Хвала ж табе, божа!
І вясёла, невялічкая,
Каб сына нарадзіла,
Нас на хрысціны прасіла.
Першы судар сударчыну,
З Масквы Іванец —
І песні канец.

## 285а. СПАРАДЗІЛА ЧАЧОТАЧКА СЕМЕРА ДАЧОК *

Спарадзіла чачотачка семера дачок,
Спарадзіла невялічкіх семера малых:
І Аўгіння, і Аксіння,
І Тацюха, і Насцюха,
І Макрына, і Грыпіна,
Сёмая Хімка.

Спарадзіўшы і ўзрасціўшы, замуж аддала:
Аўгінню за Мірона,
Аксінню за Сапрона,
Тацюху за Дзяміда,
Насцюху за Свірыда,
Радзівону — Макрына,
А Хрытону — Грыпіна,
Хімку за Кузьму.

Як пачала чачотачка пасагі даваць,
Як пачала невялічкім усім даравацъ:
Аўгінні — кажушок,
Аксінні — фартушок,
Тацюсі — пялёнкі,
Насцюсі — суконкі,
Макрыні — дзве кошкі,
Грыпіні — панчошкі,
Хімцы — падвязкі.

Зазывала чачотачка дзесяцёх мудрых,
Зазывала чачотачка братцоў родных:
Адзін быў Савацей,
Другі быў Цілямей,
Трэці быў Атрахім,
Чацвёрты — Гарасім,
Быў Барыс і Дзяніс
І арганец, пузанец,
І слуга Карпец.

Былі дзеўкі на вяселлі і маладзіцы,
Былі старанькія бабкі і ўдавіцы:
Яся, Кося і Скірпуся,
Была Хадора і Барбуся.

Нанімала чачотачка многа музыкі,
Нанімала чачотачка ўсю капэлю:
Верабей на скрыпцы,
Салавей на прытыцы,
А сарокі у прыскокі,
А вароны у далоні,
Чорны галкі на цымбалкі,
Дробны пташкі насунулі,
Люба слухаць, як зайгралі.

А чачотка не гуляла,
Чорну блаху гатавала.
Тры дні госці банкет мелі,
Пакуль чорну блаху з'елі.
А на трэцюю нядзелю
Госці дамоў захацелі,
За вяселле дзянкавалі —
Пара дамоў!

### 2856. ПАЕХАЛІ ХЛОПЦЫ НА ЛОЎЛЮ ГУЛЯЦЬ

Паехалі хлопцы на лоўлю гуляць,
Ой, чачотка мая, ой, лябёдка мая.
На лоўлю гуляць, усё чачотку шукаць,
Ой, чачотка мая, ой, лябёдка мая.
Сыйскалі чачотку ў цёмным лясочку,
Ой, чачотка мая, ой, лябёдка мая.
Пасадзілі чачотку ў цёмную клетку,
Ой, чачотка мая, ой, лябёдка мая.
Спарадзіла чачотка сем дачок,
Спарадзіла невялічка сем малых:
Аксінню, Аўгінню, Марыну, Грыпіну, Насцюху,
Кацюху, сёмую Хімку.
Гадавала, гадавала, замуж аддавала,
Гадавала, жаніла донек сваіх,
Дружына, вяселле было, вяселле было.
Ой, як стала чачотачка замуж выдаваць:
Аксінню за Мірона, Аўгінню за Сапрона,
Марыну за Дзяміда, Грыпіну за Свірыда,
Насцюху за Радзівона, Кацюху за Хрытона,
Хімку за Кузьму.
Ой, як стала чачотачка пасаг даваці,
Пачынала невялічка усіх даруваці:
Аксінні — кажушок, Аўгінні — хвартушок,
Кацюсе — пялёнкі, Насцюсе — суконкі,
Грыпіні — панчошкі, Марыні — дзве кошкі,
Хімцы — падвязкі.
Ой, як стала чачотачка вяселле гуляць,
Ой, як стала чачотачка вяселле гуляць,
Пачынала невяліка музык нанімаць:
Варабей на скрыпіцу, салавей на языцу.
Малы пташкі голас мелі,

Люба слухаць, як запелі.
Было, было на вяселлі ды з усяго свету,
Што папілі, што паелі, таго ужо нету.
З Кракава Бярыла, з Полацка Гаўрыла,
З Расеі Іванец — маёй песні канец.

## 285в. СПАРАДЗІЛА ЧАЧОТАЧКА СЕМЕРА ДАЧОК *

Спарадзіла чачотачка семера дачок,
Спарадзіла невялічка семера малых:
Аўгінню і Аксінню,
І Тацюху, І Насцюху,
І Макрыну, і Грыпіну,
Сёмую Хімку,
Сёмую Хімку.

Спарадзіўшы і ўзрасціўшы, замуж аддала,
Спарадзіўшы і ўзрасціўшы, замуж аддала:
Аўгінню за Мірона,
А Аксінню за Сапрона,
А Тацюху за Дзяміда,
А Насцюху за Спірыда,
Радзівону — Макрыну,
А Хрытону — Грыпіну,
Хімку за Кузьму,
Хімку за Кузьму.

Як пачала чачотачка пасагі даваць,
Як пачала невялічка ды ўсім надараць:
Аўгінні — кажушок,
А Аксінні — хвартушок,
А Тацюсе — пялёнкі,
А Насцюсе — суконкі,
А Макрыне — дзве кошкі,
А Грыпіне панчошкі,
Хімцы падвязкі,
Хімцы падвязкі.

Зазывала чачотачка дзесяцёх мудрых,
Зазывала чачотачка брацітkaў усіх:
Адзін быў Савацей,
Другі быў Цімапей,
Трэці быў Атрахім,

А чацвёрты Гарасім,
Быў Барыс, Дзяніс,
І дудар удалец,
Ды й слуга Карпец,
Ды й слуга Карпец.

Былі дзеўкі на вяселлі і маладзіцы,
Былі старэнькія бабкі і ўдавіцы·
Яся, Кася і Скірпуся,
Была Хадора з Барбусяй,
І хвалёныя, і хвалёныя.

Нанімала чачотачка скочну музыку,
Нанімала чачотачка ўсю капэлю:
Верабей — на скрыпіцы,
Салавей — на прытыцы,
А сарокі — у прыскокі,
А вароны — у далоні,
Чорны галкі — на цымбалкі,
Дробны пташкі — на свісталкі,
Люба слухаць, як зайгралі
Усякіх музык,
Усякіх музык.

А чачотачка не гуляла — варыла блаху,
Тры дні госці блаху елі, пакуль з'елі ўсю.
А трэцюю нядзелю
Госці дамоў захацелі,
Дзякаваюць за вяселле
Ды едуць дамоў,
Ды едуць дамоў.

## 285г. СПАРАДЗІЛА ЧАЧОТАЧКА СЕМЕРА ДАЧОК *

Спарадзіла чачотачка семера дачок,
Спарадзіла невялічка семера малых:
Аўгіню і Аксіню,
І Тацюху, і Насцюху,
І Макрыну, і Грыпіну,
Сёмую Хімку,
Сёмую Хімку.

Спарадзіўшы і ўзрасціўшы, замуж аддала,
Бадай наша чачотачка здарова была:
Аўгіню за Мірона,
А Аксіню за Сапрона,
А Тацюху за Спірыда,
Радзівону — Макрыну,
А Хрытону — Грыпіну,
Хімку за Кузьму,
Хімку за Кузьму.

Як пачала чачотачка пасаг выдаваць,
Як пачала невялічка усіх надараць:
Аўгіні — паясок,
А Аксіні — кажушок,
А Тацюсе — панчошачкі,
А Грыпіне — чаравічкі,
А Макрыне — рукавічкі,
Хімцы — істужкі,
Хімцы — істужкі.

Нанімала чачотачка скочну музыку,
Нанімала чачотачка капэлю усю:
Верабейка на скрыпцы,
Салавейка на прытыцы,
А сарокі у прыскокі,
А вароны у далоні,
Чорны галкі ў цымбалкі,
Дробны птушкі на свісталкі,
Люба слухаць, як зайгралі,
Музыку сваю,
Музыку сваю.

## 285д. ПАРАДЗІЛА ЧАЧОТАЧКА СЕМЕРА ДАЧОК

Парадзіла чачотачка семера дачок,
Парадзіла, невялічка, семера малых:
І Аўгеню, і Аксеню,
І Тацюху, і Насцюху,
І Макрыну, і Грыпіну,
Сёмую Хімку.

А як стала чачотачка замуж аддаваць,
А як стала, невялічка, замуж аддаваць:
А Аўгеню за Супрона,
А Аксеню за Мірона,
А Тацюху за Дзяміда,
А Насцюху за Спірыда,
А Макрыну за Рамана,
А Грыпіну за Сцяпана,
Хімку за Кузьму.

А як стала чачотачка пасагу даваць,
А як стала, невялічка, усіх абдараць:
А Аўгені — кажушок,
А Аксені — фартушок,
А Тацюсе — пялёнкі,
А Насцюсе — суконкі,
А Макрыне — дзве кошкі,
А Грыпіне — панчошкі,
Хімцы — падвязкі.

Зазывала чачотачка дзесяць мудрых;
Сабірала, невялічка, брацейкаў сваіх:
Быў Трахім, Гарасім,
Быў Барыс і Дзяніс,
І слуга Карпец.
І ішлі дзеўкі на вяселле
І малайцы.
Ішлі старэнькія бабкі і ўдавіцы:
Яся, Кася і Каруся,
Была Тадора і Бабруся —
Усе хвалёныя.

Нанімала чачотачка скочну музыку,
Нанімала, багатырка, усю капэлю:
Верабей — на скрыпачцы,
Салавей — на хрытачцы,
Вароны — ў далоні,
Чорны галкі — ў цымбалкі.
Міла слухаць, як зайграюць
Усялякіх музык.
Чачотка не гуляла,
Варыла гусю,
Тры нядзелі госці елі,
Пакуль з'елі ўсю.

## 285е. ОЙ, НАРАДЗІЛА КАКАЦІНА СЯМЁРА ДЗЯТОК

Ой, нарадзіла Какаціна сямёра дзяток
Ды ўсе сем дачок:
Фядосю, Антосю, Кацярыну, Марыну,
Варвару, Алёну, Настульку.
Ой, нарадзіўшы, згадавала,
А згадаваўшы, замуж аддавала:
Фядосю за Стаську, Антосю за Грыцку,
Кацярыну за Івана, Марыну за Рамана,
Варвару за Навума, Алёну за Давуда,
Самую меншую Настульку за Самуйла.
Ой, прыехалі к Какаціне
Мілыя госці, любыя зяці:
І Стаська, і Грыцка, і Іван, і Раман,
І Навум, і Давуд,
І самы меншы ды Самуйлік.
Ой, прыехалі к Какаціне
Мілыя госці, любыя сваты:
І Сапун, і Гапун, і Юсцін,
І Дзянісік, і Барыс, і Марцін
Ды й яшчэ Макідон.
Ой, прыехалі к Какаціне
Мілыя госці, любыя свахі:
Пуся, Муся, Гануся,
Кася, Мася, Дануся
Шчэ й Адаліна.

# ПРА ДЗЕДА І БАБУ

## 286. ТРУНДА БАБА, ТРУНДА ДЗЕД *

Трунда баба, трунда дзед,
Хапіліся — хлеба нет.

Пайшлі пабірацца,
Хлеба не набрацца,

Баба села на барана
І паехала не рана.

А з барана на казла —
Чуць да ночы дапаўзла.

## 287. А ЯК ДЗЕД З БАБАЙ ПАЙШОЎ ПА КАЛІНУ

А як дзед з бабай пайшоў па каліну,
Цераз рэчку, азярцо пераходзіць дзеду.
— А дзеду мой, дзеду, наламай каліны,
Не наломіш каліны — люблю ды й пакіну [1].

А ўжо дзеду вада па калена паняла,
Сядзіць баба на беражку, дзеду веры не няла.

А ўжо дзеду вада ды па пуза паняла,
Сядзіць баба на беражку, дзеду веры не няла.

А ўжо дзеду вада па пояс паняла,
Сядзіць баба на беражку, дзеду веры не няла.

А ўжо дзеду вада па грудзі паняла,
Сядзіць баба на беражку, дзеду веры не няла.

А ўжо дзеду вада ды й па глотку паняла,
Сядзіць баба на беражку, дзеду веры не няла.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

А ўжо дзед патануў, толькі задам баўтануў,
Рада баба, рада баба, што дзед утапіўся:
— Ды паднялась пранца-хваля, за куст учапіўся.

## 287а. ПАСЫЛАЛА БАБА ДЗЕДА *

Пасылала баба дзеда
У луг па каліну:
— Не наломіш каліанькі,
Далібог, пакіну,
Не наломіш чырвонае,
Яй-богу, пакіну!

Пайшоў дзед, пайшоў дзед
А ў луг па каліну.
Ужо дзеду вадзічанька
Займае па спіну.

А ўжо дзеда вадзічанька
Па пояс займае,
Сядзіць баба на беражку,
Далей пасылае:

— Ідзі, стары, ідзі, стары,
У луг па каліну,
Не наломіш каліанькі,
Далібог, пакіну,
Не наломіш чырвонае,
Яй-богу, пакіну!

Ужо дзеда вадзічанька
Па шыю займае,
Сядзіць баба на беражку,
Далей пасылае:

— Ідзі, стары, ідзі, стары,
У луг па калінку.
Не наломіш каліанькі,
Далібог, пакіну,
Не наломіш чырвонае,
Яй-богу, пакіну!

Ужо дзеду вадзічанька
Ў самы рот ліецца.
Сядзіць баба на беражку
І з дзеда смяецца:

— Дзякуй богу, дзякуй богу,
Што няма старога,
Заўтра пайду на рыначак,
Куплю маладога!

Села баба на беражку
І загаласіла:
— Ой, божа мой, ой, божа мой,
Што я нарабіла,
Маладога не купіла,
Старога ўтапіла!

## 288. МЯЦЕЛІЦА КУРЫЦЬ

Мяцеліца курыць, курыць,
А дзед бабу журыць, журыць:

— А ідзі, баба, дамоў,
Напячы ты нам бліноў.

— Ох, як жа мне не хочацца
Каля печы варочацца.

Ды ў беленькай сарочачцы,
Ды ў беленькай намётачцы.

## 288а. А ПАД ЛЕСАМ КУРЫЦЬ, КУРЫЦЬ *

А пад лесам курыць, курыць,
А дзед бабу журыць, журыць:
— Ідзі, баба, дамоў, дамоў,
Напякі мне бліноў, бліноў.

А бабусі не хочацца
Каля печы варочацца:
На ёй тонка сарочачка
Ды кужэльна намётачка.

Ды саянік зялёненькі,
Хвартушочак чырвоненькі,
А саянік лушчыць, лушчыць,
Хвартушочак блішчыць, блішчыць.

## 289. БАБКА МАЯ, ГАЛУБКА МАЯ

— Бабка мая, галубка мая!
Будзем хату тапіць,
Будзем саву варыць.
Саколка мая, галубка мая!

— Дзедзюхна мой, лябедзюхна мой!
На што хату тапіць,
На што саву варыць,
Калі нечым саліць,
Саколіку мой, лябедзіку мой!

— Бабка мая, галубка мая!
А ідзі ж ты к суседу
Ды пазыч солі ложку,
Пасаліць саву трошку,
Саколка мая, галубка мая!

— Дзедзюхна мой, лябедзюхна мой!
На што ж нам пазычаць,
Калі нечым аддаваць?
Саколіку мой, лябедзіку мой!

— Бабка мая, галубка мая!
Будзем пашню пахаць,
Будзем даўгі аддаваць,
Саколка мая, галубка мая!

— Дзедзюхна мой, лябедзюхна мой!
А ўжо ж наша пашня
Ўсё за даўгі пайшла,
Саколіку мой, лябедзіку мой!

## 290. СЕЯЎ МУЖЫК ЯЧМЕНЬ

Сеяў мужык ячмень,
Жонка кажа: грэчка!
Няхай, няхай, няхай, няхай,

Няхай будзе грэчка.
Не моў жа мне ні славечка,
Няхай будзе грэчка![1]

Да ўжо ячмень і ўзыйшоў,
Жонка кажа: грэчка!

Да ўжо ячмень пара жаць,
Жонка кажа: грэчка!

Мужык ячмень зжаў,
Жонка кажа: грэчка!

Мужык ячмень насадзіў,
Жонка кажа: грэчка!

Мужык ячмень змалаціў,
Жонка кажа: грэчка!

Мужык піва наварыў,
Жонка кажа: грэчка!

Мужык гасцей запрасіў,
Жонка кажа: грэчка!

Яны й піва выпілі,
Жонка кажа: грэчка!

## 290а. КУПІЎ МУЖЫК ШУБУ

Купіў мужык шубу,
Жонка кажа: фрак, фрак!
Няхай так, няхай сяк,
Няхай шуба будзе фрак.

Купіў мужык рыбу,
Жонка кажа: рак, рак!
Няхай так, няхай сяк,
Няхай рыба будзе рак.

Сеяў мужык рэпу,
Жонка кажа: мак, мак!
Няхай так, няхай сяк,
Няхай рэпа будзе мак.

[1] Апошнія чатыры радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Купіў мужык бізун,
Жонка кажа: пастарнак!
Калі гэта пастарнак,
Пакаштуй жа яго смак.

## 290б. ПАСЕЯЎ МУЖЫК ГРЭЧКУ

Пасеяў мужык грэчку,
Жонка кажа: мак, мак.
Няхай так, няхай сяк,
Няхай з грэчкі будзе мак.

Пасеяў мужык жыта,
Жонка кажа: мак, мак.
Няхай так, няхай сяк,
Няхай з жыта будзе мак.

Злавіў мужык шчучку,
Жонка кажа: рак, рак.
Няхай так, няхай сяк,
Няхай з шчучкі будзе рак.

## 291. ДАНУ, ДАНУ, СТАРЫ

Дану, дану, стары,
Дай не жэнішся,
Прыдзе табе зімачка,
Дзе ты дзенешся?

Ці на печы ў куце
Зімаваць будзеш?
Ці чорную сопагу
Абдымаць будзеш?

У нашага старога
Вочы як талеркі,
Рукі як граблі,
Ногі як качэргі.

## 292. А Ў ВЕРАСНІ МЕСЯЦЫ

А ў верасні месяцы
Выпала пароша.
Дзед бабу палюбіў,
Бо яна хароша.

І крывая, і сляпая,
Яшчэ к таму злая:
І крычыць, і бурчыць,
Слова дзеду не змаўчыць.

— Убярыся, бабка,
У белае белле:
Я ж цябе павяду
З сабой на вяселле.

Убралася бабка
Ды ў белае белле.
— Цяпер вядзі, дзед, мяне
З сабой на вяселле.

Узяў дзед ды бабку
За белую ручку,
І спіхнуў дзед бабу
З моста ды ў рэчку.

— Цяпер, бабка, кайся,
Крыху пакупайся!
А як бабка панырне,
То дзед кіем папіхне.

Прыйшоў дзед дадому
І стаў ён бажыцца:
— І ё-ёй, і яй-богу,
Не буду жаніцца.

Раздумаўся дзедка
Ды ў далоні плешча:
— Калі буду жыў-здароў,
Ажанюся яшчэ!

## 292а. РУТА МАЯ, РУТА МАЯ

Рута мая, рута мая,
Рута зеляненька.
Я думала, што старая,
А я — маладзенька.

Узяў дзед бабу за ручаньку
Ды й павёў у садочак.
— Вот тут сядай, мая баба,
Макавы цвяточак.

Узяў дзед бабу за ручаньку
Дый павёў у святліцу.
Паважае стары бабу
Як бы маладзіцу.

Узяў дзед бабу за ручаньку,
Стаў пільна дзівіцца,
Прыгледзеўся бабе ў зубы —
Яна не гадзіцца.

Узяў дзед бабу за ручаньку
Ды й павёў да броду.
Ўзвёўшы бабу на масток,
Піхнуў яе ў воду.

— Вот тут, бабка мая,
Ў грэхах сваіх кайся,
Тут вадзіца халодная,
Трохі пакупайся.

Як вярнуўся дзед дадому,
Дык у ладкі плешча:
— Калі буду жыў-здароў,
Ажанюся ешчэ.

## 2926. ЖЫЎ ДЗЕД У РЫЗЕ

Жыў дзед у Рызе,
А баба ў Коўне.
Ажаніўся дзед і з бабай,
Узяў не пароўне.

Убраў дзед бабу
У шэрае пер'е
І павёў дзед бабу
К брату на вяселле.

Ішлі яны, шлі
І сталі на мосце,
А дзед бабу як піхнуў,
Аж у рэчку просце.

Стаіць дзед на мосце,
У далоні плешча:
— Дзякуй богу, што ўраніў,
Ажанюся ешча.

## 293. ДЗЕД БАБУ ТАПІЦЬ ІДЗЕ

Дзед бабу тапіць ідзе,
А баба крычыць, не йдзе:

— А ты ж мой дзедулечка,
Я ж твая бабулечка.

Пастаўлю кросны ў кутку,
Я ж табе штонікі сатку.

## 294. СТАРЫ СТАРЫЧЫШЧА

Стары старычышча,
Чаму не жаніўся?
Гэй, думай, думай, думай,
Чаму не жаніўся?

Рад бы жаніцца,
Да некага ўзяці.
Гэй, думай, думай, думай,
Да некага ўзяці.

Стару бабу ўзяці —
На печцы дзяржаці.
Гэй, думай, думай, думай,
На печцы дзяржаці.

На печцы дзяржаці,
Кісялём карміці.
Гэй, думай, думай, думай,
Кісялём карміці.

Кісялём карміці
Да сытой паіці.
Гэй, думай, думай, думай,
Да сытой паіці.

Маладую ўзяці —
Не будзе любіці.
Гэй, думай, думай, думай,
Не будзе любіці.

А хоць і палюбіць,
Мяне не абнімець.
Гэй, думай, думай, думай,
Мяне не абнімець.

А хоць і абнімець,
Да не пацалуець.
Гэй, думай, думай, думай,
Да не пацалуець.

А хоць пацалуець,
Да на землю плюнець.
Гэй, думай, думай, думай,
Да на землю плюнець.

## 294а. ЯК ЗАДУМАЎ СТАРЫЧОК

Як задумаў старычок
На млодзе жаніцца.
Сеў дзед, думаў, думаў
На млодзе жаніцца [1].

Узяў бы старую —
Старая не гадзіцца.

Узяў бы старую,
Пасцель не пасцеліць.

Узяў бы маладую,
Пасцелю пасцеліць.

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Хоць пасцель пасцеліць,
Ды спаць не ляжа.

І спаці не ляжа
І праўды не скажа.

— А скажы-ка, жана,
Якая ў дзеда барада?

— А ў старога старыка
Казліная барада.

— А скажы-ка, жана,
Якая ў дзеда хада?

— А ў старога старыка
Ўсё гусіная хада.

— А скажы-ка, жана,
Якая ў дзеда яда?

— А ў старога старыка
Ўсё свінячая яда.

Як узяў жа старычок
Ды за русую касу.

— А скажы-ка, жана,
Якая ў дзеда барада?

— А ў старога старыка
Шаўковая барада.

— А скажы-ка, жана,
Якая ў дзеда хада?

— А ў старога старыка
Салдацкая хада.

— А скажы-ка, жана,
Якая ў дзеда яда?

— А ў старога старыка
Ахвіцэрская яда.

## 294б. АЖАНІЎСЯ СТАРЫЧОК *

Ажаніўся старычок
Да ўзяў маладую.
Думаў думаў, думаў, думаў,
Да ўзяў маладую.

Тая маладая
Не хоча любіці.
Думаў, думаў, думаў, думаў,
Не хоча любіці.

Ні пасцелькі слаці,
Ні з старэнькім спаці.
Думаў, думаў, думаў, думаў,
Ні з старэнькім спаці.

— А хоць жа я пасцялюся,
То не палажуся.
Думаў, думаў, думаў, думаў,
То не палажуся.

А хоць жа я палажуся,
То не прысынуся.
Думаў, думаў, думаў, думаў,
То не прысынуся.

А хоць жа я прысынуся,
То не пацалую.
Думаў, думаў, думаў, думаў,
То не пацалую.

А хоць жа я пацалую,
То на землю плюну.
Думаў, думаў, думаў, думаў,
То на землю плюну.

## 294в. ЯК ЗАДУМАЎ СТАРЫ ДЗЕД

Як задумаў стары дзед
З маладой жаніцца.
Сеў на лаву, думаў, думаў,
З маладой жаніцца.

— Куды ў сваты ні пайду,
За мяне не пойдуць.
Сеў на лаву, думаў, думаў,
За мяне не пойдуць.

А хоць пойдзе, хоць не пойдзе,
А любіць не будзе.
Сеў на лаву, думаў, думаў,
А любіць не будзе.

А хоць пойдзе, хоць не пойдзе,
Са мной спаць не ляжа.
Сеў на лаву, думаў, думаў,
Са мной спаць не ляжа.

А хоць спаці са мной будзе,
Цалаваць не будзе.
Сеў на лаву, думаў, думаў,
Цалаваць не будзе.

Паехаў старычышча
Ў новае гарадзішча.
Сеў на лаву, думаў, думаў,
Ў новае гарадзішча.

Закупіў там старычышча
Для жаны кнуцішча.
Сеў на лаву, думаў, думаў,
Для жаны кнуцішча.

Я жану пад палу,
А кнут у руку.
Сеў на лаву, думаў, думаў,
А кнут у руку.

— Ах ты, муж, ты мой муж,
Які ты харошы.
Сеў на лаву, думаў, думаў,
Які ты харошы.

Барада ж твая
Чыста шоўкавая.
Сеў на лаву, думаў думаў,
Чыста шоўкавая.

А ты ж люб і харош
Усягды для мяне.
Сеў на лаву, думаў, думаў,
Усягды для мяне.

## 294г. ЗАДУМАЎ СТАРЫ ДЗЕД

Задумаў стары дзед
У суботу жаніцца.
Сядзеў ён, думаў, думаў,
У суботу жаніцца.

У суботу жаніцца —
Дзела не гадзіцца.
Сядзеў ён, думаў, думаў,
Дзела не гадзіцца.

Маладую жонку браць —
Пасцелькі не сцеліць.
Сядзеў ён, думаў, думаў,
Пасцелькі не сцеліць.

А калі пасцеліць,
Са мною не ляжа.
Сядзеў ён, думаў, думаў,
Са мною не ляжа.

А калі ляжа,
То не абдыме.
Сядзеў ён, думаў, думаў,
То не абдыме.

А калі абдыме,
То не пацалуе.
Сядзеў ён, думаў, думаў,
То не пацалуе.

Калі пацалуе,
Адвернецца, плюне.
Сядзеў ён, думаў, думаў,
Адвернецца, плюне.

## 294д. ЯК ЗАДУМАЎ СТАРЫ ДЗЕД

Як задумаў стары дзед
Жаніцеся.
Эй, ха, э-ха-ха,
Жаніцеся.

Ён сам сабе гаворыць:
— Маладая не пойдзе,
Эй, ха, э-ха-ха,
Не пойдзе.

А хоць жа яна пойдзе,
Любіці не будзе.
Эй, ха, э-ха-ха,
Любіці не будзе.

А хоць будзе абдымаць,
Са мной спаць не будзе.
Эй, ха, э-ха-ха,
Спаць не будзе.

А хоць будзе са мной спаць,
Цалаваць не будзе.
Эй, ха, э-ха-ха,
Цалаваць не будзе.

А хоць жа яна пацалуе,
Адвернецца назад.
Эй, ха, э-ха-ха,
Адвернецца назад.

— Ах ты, стары дзядзішча,
Дрэнна твая душышча.
Эй, ха, э-ха-ха,
Твая душышча.

## 294е. ЧАМУ СТАРЫ ДА Й НЕ ЖЭНІЦЦА

— Чаму стары да й не жэніцца,
Сеў-сеў, думаў-думаў, да й не жэніцца.

— Ой, як жа мне да жаніцеся,
Сеў-сеў, думаў-думаў, да жаніцеся.

Ой, за мяне молада не пойдзе,
Сеў-сеў, думаў-думаў, молада не пойдзе.

Хоць яна пойдзе, не будзе любіці,
Сеў-сеў, думаў-думаў, не будзе любіці.

Хоць будзе любіці, да не ляжа спаці,
Сеў-сеў, думаў-думаў, да не ляжа спаці.

Хоць ляжа спаці, не будзе абнімаці,
Сеў-сеў, думаў-думаў, не будзе абнімаці.

Хоць абніме, да не пацалуе,
Сеў-сеў, думаў-думаў, да не пацалуе.

Хоць пацалуе, да назад плюне,
Сеў-сеў, думаў-думаў, да назад плюне.

— Чаму ў цябе, стары, мядзвежая пахода,
Сеў-сеў, думаў-думаў, мядзвежая пахода.

Мядзвежая пахода, казловая барада,
Сеў-сеў, думаў-думаў, казловая барада.

Казловая барада, воўчыя зубы,
Сеў-сеў, думаў-думаў, воўчыя зубы.

Воўчыя зубы, кашачыя вочы,
Сеў-сеў, думаў-думаў, кашачыя вочы.

Пашоў стары ды на рыначак,
Сеў-сеў, думаў-думаў, ды на рыначак.

Купіў стары ды нагаечку,
Сеў-сеў, думаў-думаў, ды нагаечку,

Як стаў стары маладую біці,
Сеў-сеў, думаў-думаў, маладую біці.

Стала ж маладая старога любіці,
Сеў-сеў, думаў-думаў, старога любіці.

— Чаму ў цябе, стары, панская пахода,
Сеў-сеў, думаў-думаў, панская пахода.

Панская пахода, шоўкавая барада,
Сеў-сеў, думаў-думаў, шоўкавая барада.

Шоўкавая барада, перлавыя зубы,
Сеў-сеў, думаў-думаў, перлавыя зубы.

Перлавыя зубы, сакаловы вочы,
Сеў-сеў, думаў-думаў, сакаловы вочы.

### 294ё. ВОХ ТЫ, СТАРЫ ДЗЕД

Вох ты, стары дзед,
Чаму не жаніўся?
Дуня, Дуня, Дуня, да [1].

За старую не хачу:
Малада не пойдзе.

А хоць яна пойдзе,
То любіць не будзе.

А хоць яна любіць будзе,
То не пацалуе.

А хоць пацалуе,
То не ляжа спаці.

А хоць яна ляжа спаці,
То не прыхінецца.

А хоць яна прыхінецца,
То не абярнецца.

А хоць абярнецца,
То не абаймецца.

А хоць яна абаймецца,
То не пацалуе.

А хоць яна пацалуе,
То на зямлю плюне.

---

[1] Апошні радок паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 294ж. ОЙ, ЧАМУ Ж ТЫ, ДЗЕДКУ, ДА НЕ ЖЭНІШСЯ

— Ой, чаму ж ты, дзедку, да не жэнішся?
Да-ну, да-ну, да-ну, да не жэнішся?

Ой, як прыйдзе ліха, дзе ты дзенешся?
Да-ну, да-ну, да-ну, дзе ты дзенешся?

— Ой, як мне, старому, да жаніцісяʔ
Да-ну, да-ну, да-ну, да жаніцісяʔ

— Маладая за мяне не пойдзе,
Да-ну, да-ну, да-ну, да не пойдзе.

А старое да я сам не хачу,
Да-ну, да-ну, да-ну, да я сам не хачу.

Маладая й пойдзе, то не пацалуе,
Да-ну, да-ну, да-ну, да не пацалуе.

А як пацалуе, адвернецца й плюне,
Да-ну, да-ну, да-ну, адвернецца й плюне.

## 295. АЙ, ЛЮЛІ, АЙ, ЛЮЛІ

Ай, люлі, ай, люлі,
Сядзіць баба на ялі.
А дзед сядзіць на дубу,
Ён іграе на дуду.
У жалеечку, памаленечку.
Баба лупы надула,
Па лужыне паплыла.
Дзед ручку адвёў,
Бабе па вуху аплёў.

## 296. ПЕСНЯ УСЯ, ПЕСНЯ УСЯ

Песня ўся, песня ўся,
Песня скончылася.
Дзед бабу кулаком —
Баба скорчылася.

Дзед саломкаю накрыў,
Каб камар не ўкусіў,
А камар укусіў —
Дзед па бабе галасіў.

## 297. ОЙ, ЦЯЖКА, ЦЯЖКА СТАРОМУ

Ой, цяжка, цяжка старому,
Маладая жонка упроч пайшла.

Маладая жонка упроч пайшла,
Лапці-аборы з сабой панясла.

Не так шкода мне лапцей-абор,
Як мне шкода жонкі маладой.

Лапці-аборы сам саўю,
Маладой жонкі не вазьму.

## 298. СЯДЗІЦЬ ДЗЕД НА ПЯЧЫ, НА ПЯЧЫ

Сядзіць дзед на пячы, на пячы,
Бабка ў запечку, не абедаючы.
— Бабка мая, шчабятушачка,
Чаму не абедаеш, мая душачка?
— Чорт цябе з тваім абедам,
Біў ты мяне, калаціў ты мяне,
Сэрца-дзядулю, не навучыў ты мяне.

Сядзіць дзед на пячы, на пячы,
Бабка ў запечку, не палуднаючы.
— Бабка мая, шчабятушачка,
Чаму не палуднаеш, мая душачка?
— Чорт цябе з тваімі палуднямі,
Біў ты мяне і аглаблямі,
Біў ты мяне, калаціў ты мяне,
Сэрца-дзядулю, не навучыў ты мяне.

Сядзіць дзед на пячы, на пячы,
Бабка ў запечку, не вячэраючы.
— Бабка мая, шчабятушачка,
Чаму не вячэраеш, мая душачка?

— Чорт цябе з тваёю вячэраю,
Біў ты мяне качэргаю,
Біў ты мяне, калаціў ты мяне,
Сэрца-дзядулю, не навучыў ты мяне.

## 299. ДЗЯДУЛЯ ТЫ МОЙ, КАЛІ Ж ТЫ ПАМРЭШ?

— Дзядуля ты мой, калі ж ты памрэш?
— А ў сераду, бабка, а ў сераду, любка,
А ў сераду, ты мая, сызая галубка.

— Дзядуля ты мой, чым жа цябе спамінаць?
— Пірагамі, бабка, пірагамі, любка,
Пірагамі, ты мая, сызая галубка.

— Дзядуля ты мой, дзе пірагі браць?
— А ў шынкара, бабка, а ў шынкара, любка,
А ў шынкара, ты мая, сызая галубка.

— Дзядуля ты мой, ў шынкара сабака!
— Бараніся, бабка, бараніся, любка,
Бараніся, ты мая, сызая галубка.

— Дзядуля ты мой, чым жа бараніцца?
— А кіямі, бабка, а кіямі, любка,
А кіямі, ты мая, сызая галубка.

— Дзядуля ты мой, а дзе ж кія браць?
— А ў лесе, бабка, а ў лесе, любка,
А ў лесе, ты мая, сызая галубка.

— Дзядуля ты мой, чым жа кія сеч?
— Тапарамі, бабка, тапарамі, любка,
Тапарамі, ты мая, сызая галубка.

— Дзядуля ты мой, дзе тапара ўзяць?
— А ў каваля, бабка, а ў каваля, любка,
А ў каваля, ты мая, сызая галубка.

— Дзядуля ты мой, каваль так не дасць?
— А за грошы, бабка, а за грошы, любка,
А за грошы, ты мая, сызая галубка.

— Дзядуля ты мой, а дзе ж грошы браць?
— А ў караля, бабка, а ў караля, любка,
А ў караля, ты мая, сызая галубка.

— Дзядуля ты мой, кароль так не дасць?
— Пакланіся, бабка, пакланіся, любка,
Пакланіся, ты мая, сызая галубка.

## 299а. ДЗЯДУЛЬКА СІДОРКА, КАЛІ Ж ТЫ ПАМІРАЦЬ БУДЗЕШ? *

— Дзядулька Сідорка, калі ж ты паміраць будзеш?
— У сераду, мая бабанька, у сераду, Пахомаўна.

— Дзядулька Сідорка, з кім ты мяне кінеш?
— З дзеткамі, мая бабанька, з дзеткамі,
Пахомаўна.

— Дзядулька Сідорка, чым я буду дзетак карміць?
— Кусочкамі, мая бабанька, кусочкамі, Пахомаўна.

— Дзядулька Сідорка, а дзе ж я вазьму кусочкі?
— Па міру, мая бабанька, па міру, Пахомаўна.

— Дзядулька Сідорка, а я сабак баюся.
— З палачкай, мая бабанька, з палачкай,
Пахомаўна.

— Дзядулька Сідорка, дзе [redacted] вазьму палачку?
— У лясочку, мая бабанька, у лясочку, Пахомаўна.

— Дзядулька Сідорка, а дзе ж тапарка вазьму?
— У кузеньцы, мая бабанька, у кузеньцы,
Пахомаўна.

— Дзядулька Сідорка, а чым я плаціць буду?
— Капеечкай, мая бабанька, капеечкай,
Пахомаўна.

— Дзядулька Сідорка, а дзе ж я капеечку вазьму?
— Пад печкай, мая бабанька, пад печкай,
Пахомаўна.
Памірай, дзядуленька, паскарэй.

## 299б. А КАЛІ Ж ТЫ ПАМРЭШ

— А калі ж ты памрэш,
Мой дзядок,
А калі ж ты памрэш,
Міленькі мой?

— У сераду, бабка,
У сераду, любка,
У сераду, ты мая
Сівая галубка.

— А дзе ж цябе пахаваць,
Мой дзядок,
А дзе ж цябе пахаваць,
Міленькі мой?

— Пад прыпечкам, бабка,
Пад прыпечкам, любка,
Пад прыпечкам, ты мая
Сівая галубка.

— А што ж табе ў ручкі даць,
Мой дзядок,
А што ж табе ў ручкі даць,
Міленькі мой?

— Бутылачку, бабка,
Бутылачку, любка,
Бутылачку, ты мая
Сівая галубка.

## 299в. ДЗЯДУЛЬКА МОЙ

— Дзядулька мой,
Сівенькі мой,
А калі ж ты памрэш?

— У сераду, бабка,
У сераду, любка,
У сераду, ты мая
Сівая галубка.

— Дзядулька мой,
Сівенькі мой,
А як жа па табе плакаць?

— Ігі, ігі, бабка,
Ігі, ігі, любка,
Ігі, ігі, ты мая
Сівая галубка.

— Дзядулька мой,
Сівенькі мой,
Дзе цябе хаваці?

— На могілках, бабка,
На могілках любка,
На могілках, ты мая
Сівая галубка!

— Дзядулька мой,
Сівенькі мой,
Як па табе званіці?

— Дзылін, дзылін, бабка,
Дзылін, дзылін, любка,
Дзылін, дзылін, ты мая
Сівая галубка.

## 299г. ОЙ, КАЛІ Ж ТЫ ПАМРЭШ, ДЗЕДУХНА ТЫ МОЙ

— Ой, калі ж ты памрэш, дзедухна ты мой,
Ой, калі ж ты памрэш, дзедухна ты мой?
— У нядзелю, бабка, у нядзелю, любка,
У нядзелю, ты мая сівая галубка.

— З кім мяне пакінеш, дзедухна ты мой,
З кім мяне пакінеш, дзедухна ты мой?
— На людзей, бабка, на людзей, любка,
На людзей, ты мая сівая галубка.

— Каму ж пакінеш грошыкі свае,
Каму ж пакінеш грошыкі свае?
— Усё табе, бабка, усё табе, любка,
Усё табе, ты мая сівая галубка.

— А дзе ж ты схаваў іх, дзедухна ты мой,
А дзе ж ты схаваў іх, дзедухна ты мой?
— У падпечку, бабка, у падпечку, любка,
У падпечку, ты мая сівая галубка.

## 299д. ОЙ, КАЛІ Ж ТЫ ПАМРЭШ

— Ой, калі ж ты памрэш,
Мілы мой дзядок?
Ой, калі ж ты памрэш,
Сізы галубок?

— У сераду, бабка,
У сераду, любка,
У сераду, ты мая
Сізая галубка.

— На каго ж пакінеш,
Мілы мой дзядок?
На каго ж пакінеш,
Сізы галубок?

— На дзевера, бабка,
На дзевера, любка,
На дзевера, ты мая
Сізая галубка.

— Дзевер будзе біці,
Мілы мой дзядок.
Дзевер будзе біці,
Сізы галубок.

— Бараніся, бабка,
Бараніся, любка,
Бараніся, ты мая
Сізая галубка.

— А чым бараніцца,
Мілы мой дзядок?
А чым бараніцца,
Сізы галубок?

— Кiёчкам, бабка,
Кiёчкам, любка.
Кiёчкам, ты мая
Сiзая галубка.

— Дзе кiёчак ўзяцi,
Мiлы мой дзядок?
Дзе кiёчак ўзяцi,
Сiзы галубок?

— А ў лясочку, бабка,
А ў лясочку, любка,
А ў лясочку, ты мая
Сiзая галубка.

— А чым адрубiцi,
Мiлы мой дзядок?
А чым адрубiцi,
Сiзы галубок?

— Тапорыкам, бабка,
Тапорыкам, любка,
Тапорыкам, ты мая
Сiзая галубка.

— Дзе тапорык ўзяцi,
Мiлы мой дзядок?
Дзе тапорык узяцi,
Сiзы галубок?

— Ў магазiне, бабка,
Ў магазiне, любка,
Ў магазiне, ты мая
Сiзая галубка.

— А дзе грошы ўзяцi,
Мiлы мой дзядок?
А дзе грошы ўзяцi,
Сiзы галубок?

— Заработай, бабка,
Заработай, любка,
Заработай, ты мая
Сiзая галубка.

— А дзе ж заработаць,
Мілы мой дзядок?
А дзе ж заработаць,
Сізы галубок?

— А ў калгасе, бабка,
А ў калгасе, любка,
А ў калгасе, ты мая
Сізая галубка.

## 299е. А ДЗЕ БЫУ ТЫ, ДЗЯДУЛЬКА МОЙ *

— А дзе быў ты, дзядулька мой,
А дзе быў ты, міленькі мой?
— На кірмашы, бабка, на кірмашы, любка,
На кірмашы, сівая галубка.

— З кім гуляў ты, дзядулька мой,
З кім гуляў ты, міленькі мой?
— З мужыкамі, бабка, з мужыкамі, любка,
З мужыкамі, сівая галубка.

— Ці не трэба, дзядулька мой,
Табе доктара, міленькі мой?
— Трэба, трэба, бабка, трэба, трэба, любка,
Трэба, трэба, сівая галубка.

— Ці памрэш ты, дзядулька мой,
Ці памрэш ты, міленькі мой?
— У нядзелю, бабка, у нядзелю, любка,
У нядзелю, сівая галубка.

— У што званіць, ты дзядулька мой,
У што званіць, ты міленькі мой?
— У заслонку, бабка, у заслонку, любка,
У заслонку, сівая галубка.

## 299ё. ПАМРУ, ПАМРУ, БАБКА

— Памру, памру, бабка,
Памру, памру, любка,
Памру, памру, ты мая
Сівая галубка.

— А што ж я рабіць буду,
Сівенькі дзядок?
А што ж я рабіць буду,
Сівы галубок?

— Жабраваці, бабка,
Жабраваці, любка.
Жабраваці, ты мая
Сівая галубка.

— А сабакі кусаць будуць,
Сівенькі дзядок.
А сабакі кусаць будуць,
Сівы галубок.

— Бараніся, бабка,
Бараніся, любка.
Бараніся, ты мая
Сівая галубка.

— А чым бараніцца,
Сівенькі дзядок?
А чым бараніцца,
Сівы галубок?

— Кіёчкам, бабка,
Кіёчкам, любка.
Кіёчкам, ты мая
Сівая галубка.

— А дзе ж яго ўзяць,
Сівенькі дзядок?
А дзе ж яго ўзяць,
Сівы галубок?

— У лясочку, бабка,
У лясочку, любка.
У лясочку, ты мая
Сівая галубка.

## 300. АХ, ТЫ ДУЙ, АХ, ТЫ ДУЙ*

Ах, ты дуй, ах, ты дуй,
Мая міла, не бядуй,
Па маёй галаве
Астанецца ўсё табе.

Ах, ты дуй, ах, ты дуй,
Мая міла, не бядуй,
І таўкач, і мялён,
І старожа, і прыгон.

Ах, ты дуй, ах, ты дуй,
Мая міла, не бядуй,
Астаецца ўсё табе,
І сарочка з мяне.

Ах, ты дуй, ах, ты дуй,
Мая міла, не бядуй,
І хамут, і дуга,
І я табе не слуга.

Ах, ты дуй, ах, ты дуй,
Мая міла, не бядуй,
Не бядуй, не бядуй,
Мая міла, не бядуй.

## 301. БАБА ЕВА, ДЗЕД ТАЛАШ

Баба Ева, дзед Талаш, го-го-го,
Паехалі на кірмаш, го-го-го.
Што павезлі прадаваць, го-го-го,
Гэта трэба зрахаваць, го-го-го.
Баба пару петуноў, го-го-го,
А дзед вёз кабана, го-го-го.
Заехаўшы на кірмаш, го-го-го,
Сталі ўсё распрадаваць, го-го-го.
Распрадаўшы ўвесь тавар, го-го-го,
Пайшлі выпіць сінівар, го-го-го.
Дзед кажа: паўбутэлькі, го-го-го,
Баба: цэлую бутэльку, го-го-го.
Напіліся, наеліся ўрасплох, го-го-го,
Ледзь пралезлі праз парог, го-го-го.

Дзед сеў за пана, го-го-го,
Баба села за хурмана, го-го-го.
Покі баба не спала, го-го-го,
То й кабылка драмала, го-го-го.
Як дзед з бабай заснулі, го-го-го,
То й кабылку пацягнулі, го-го-го.
Прачыхаецца дзед, го-го-го,
Глядзь — кабылкі ужо нет, го-го-го.
Дзед на бабу зароў, го-го-го,
— Ах ты, старая псякроў, го-го-го.
Дзе кабылку ты падзела, го-го-го,
Ці не ў кашы яе з'ела, го-го-го.
Ці не ў кашы яе з'ела, го-го-го,
Ты ж наперадзе сядзела, го-го-го.
І ў нас так бывае, го-го-го,
Што кабылка прападае, го-го-го.
Хто кабылкі не мае, го-го-го,
Пехатой дамоў шагае, го-го-го.

### 301а. БАБА ЕВА, ДЗЕД ТУМАШ

Баба Ева, да дзед Тумаш,
О-го-го-го!
Паехалі на кірмаш,
О-го-го-го!
Што павезлі прадаваць,
О-го-го-го!
Гэта можна зрахаваць,
О-го-го-го!
Дзве курыцы, кабана,
О-го-го-го!
Паўасміны пшана,
О-го-го-го!
Баба села прадаваць,
О-го-го-го!
А дзед пайшоў мазі ўзяць,
О-го-го-го!
Распрадаўшы свой тавар,
О-го-го-го!
Пайшлі выпіць сіневар,
О-го-го-го!

Наеліся, напіліся да трыбухоў,
О-го-го-го!
Ледзь пралезлі праз парог,
О-го-го-го!
Дзед усеўся за пана,
О-го-го-го!
А баба за хурмана,
О-го-го-го!
Пакуль бабка не спала,
О-го-го-го!
Дык кабылка драпатала,
О-го-го-го!
Як дзед з бабай заснулі,
О-го-го-го!
Дык кабылку уцягнулі,
О-го-го-го!
Прачыхаецца дзед,
О-го-го-го!
Глядзь — кабылкі ўжо нет,
О-го-го-го!
Як на бабу ён зароў,
О-го-го-го!
— Ах ты, баба, псякроў,
О-го-го-го!
Дзе кабылку ты падзела,
О-го-го-го!
Каб ты, баба, прапала,
О-го-го-го!
Як кабылкі не стала,
О-го-го-го!

## 3016. БАБКА ЕВА, ДЗЕД ТАМАШ

Бабка Еева, дзед Тамаш,
Го-го-го!
Паехалі на кірмаш,
Го-го-го!
Што павезлі прадаваць?
Го-го-го!
Можна скора зрахаваць,
Го-го-го!
Дзве курыцы й певуна,
Го-го-го!

Паўасміначкі пшана,
Го-го-го!
Бабка села прадаваць,
Го-го-го!
А дзед пайшоў лекі браць,
Го-го-го!
А як тавар прадалі,
Го-го-го!
У карчомачку пайшлі,
Го-го-го!
Дзедка кажа: паўбутылек,
Го-го-го!
Бабка кажа: паўтарочак,
Го-го-го!
Дзед да тога ў карчме спіўся,
Го-го-го!
Што аж з лавы ён зваліўся,
Го-го-го!
Пакуль бабка не драмала,
Го-го-го!
То кабылка трапятала,
Го-го-го!
А як бабулька заснула,
Го-го-го!
То кабылка не цягнула,
Го-го-го!
Ішоў злодзей па дарозе,
Го-го-го!
Забраў кабылку з воза,
Го-го-го!
А як дзядуля прачнуўся,
Го-го-го!
Ён на бабу ўзвярнуўся,
Го-го-го!
— А дурную тваю кроў,
Го-го-го!
Ён на бабу зароў,
Го-го-го!
Ты бутылкі захацела,
Го-го-го!
Дзе кабылку ты падзела,
Го-го-го!

## 301в. КАЦЯРЫНА І ТАМАШ

Кацярына і Тамаш,
Га-га-га.
Паехалі на кірмаш,
Оха-ха-ха-ха.

Як паехалі учора,
Га-га-га.
То й сягоннейка няма,
Оха-ха-ха-ха.

Як павезлі прадаваць,
Га-га-га.
То й не можна распрадаць,
Оха-ха-ха-ха.

Зайшлі ў шынок на мамент,
Га-га-га.
Налыкаліся ушчэнт,
Оха-ха-ха-ха.

Баба дзеда за пасок,
Га-га-га.
Ды кульнула у вазок,
Оха-ха-ха-ха.

Пакуль бабка не драмала,
Га-га-га,
То кабылка чапыляла,
Оха-ха-ха-ха.

А як бабка задрамала,
Га-га-га.
Кабылка ў балоце стала,
Оха-ха-ха-ха.

Выйшаў злодзей з пастухом,
Га-га-га.
Украў кабылку з хамутом,
Оха-ха-ха-ха.

— Ой ты, баба, ой, халера,
Га-га-га.
Дзе кабылку ты падзела,
Оха-ха-ха-ха.

### 301г. КАЦЯРЫНА І ТУМАШ

Кацярына і Тумаш, го-го-го,
Паехалі на кірмаш, го-го-го,
А дзед узяў петуха, го-го-го,
Баба ўзяла парася, го-го-го,
Ўсе тавары пазбылі, го-го-го,
І кабылачку прапілі, го-го-го.
— Ах ты, дзеду, ты мой дзеду, го-го-го,
На чым я дамоў заеду, го-го-го.
— А дзед бабу запражэ, го-го-го,
Баба дамоў завязе, го-го-го,
Дзед бабу пугай лупяне, го-го-го,
А баба вышэй падбрыкне, го-го-го.

### 301д. БАБКА ЕЎКА, ДЗЕД ТАМАШ *

Бабка Еўка, дзед Тамаш, го-го-го!
Паехалі, на кірмаш, го-го-го!
Што павезлі прадаваць, го-го-го!
Што і цяжка захаваць,
Я-ха-ха-ха-ха! [1]

### 302. ІШОЎ ТОДАР З ТАДОРАЮ

Ішоў Тодар з Тадораю,
Знайшлі лапаць з абораю.
— А ты — Тодар, я — Тадора,
Табе — лапаць, мне — абора.

Ішоў пастух з пастушкаю,
Знайшлі каснік з істужкаю.
— А ты — пастух, я — пастушка,
Табе — каснік, мне — істужка.

Ішоў паніч з паненкаю,
Знайшлі місу з талеркаю.
— Ты — паніч, я — паненка,
Табе — міса, мне — талерка.

[1] Заўвага збіральніка. Далейшага тэксту выканаўца не помніць.

Ішоў Сашка з Пашкаю,
Знайшлі місу з кашкаю.
— Ты — Сашка, а я — Пашка,
Табе — міса, а мне — кашка.

Ішоў мужык з жонкаю,
Знайшлі мех з пшонкаю.
— Ты — мой муж, а я — жонка,
Табе — мех, а мне — пшонка.

Ішоў дзяк з дзячыхаю,
Знайшлі мех з грачыхаю.
— Ты — дзяк, я — дзячыха,
Табе — мех, мне — грачыха.

## 302а. ОЙ, ТАМ НА ГАРЫ

Ой, там на гары
Стаіць возера вады.
Чувер,
На прачувер, чувер, дудар,
На вудар, яшчэ чудар,
Прыкачудар, лагеры дамой! [1]

Ішоў Сак з Сачыхою,
Знайшлі мех з рачыхою.
— Ой, ты — Сак, я — Сачыха,
Табе — мех, мне — рачыха.

Ішоў Тодар з Аршулёю,
Знайшлі порткі з кашулёю.
— Ой, ты — Тодар, я —
Аршуля,
Табе — порткі, мне — кашуля.

Ішоў Юзік з Юзею,
Знайшлі мяшок з фузею.
— Ой, ты — Юзік, а я — Юзя,
Табе — мяшок, а мне — фузя.

[1] Чатыры апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Ішоў пан з паненкаю,
Знайшлі збан з гарэлкаю,
— Ой, ты — пан, я — паненка,
Табе — збан, а мне — гарэлка.

## 303. ЗАХАЦЕЛА БАБА ДЫ Й ПАБАГАЦЕЦІ

Захацела баба ды й пабагацеці,
Пасадзіла курачку, штоб вывела дзеці.
Выпусціла бабка піскляток папасці,
Сама села пры іх кудзелечку прасці.
Насунула хмара, дожджык пакрапае,
Бабулечка ў кучу пісклят сабірае.
Аднаго паймала, траіх затаптала,
А, устаючы, на астатніх ступала:
— Божа ж мой, божа, ды што ж я зрабіла!
Ды прыдзе ж мой варкун, будзе ж мне ліха.
Прышоў і дзед з лесу: што тут ціха ў хаце?
— Я пусціла іх троху гуляці.
Як на дзіва на якое сабраліся людзі,
Прызарылі пісклят, каб заперлі грудзі!
Ой, як узяў дзед у рукі сырую хлудзіну,
Пачасаў бабулі галоўку і спіну.
— Бадай твая, дзедзька, барада вылезла,
Забіў бабу зусім, насілу вынесла.
Бадай табе, дзедку, ручанька усохла,
Забіў бабку сваю, за ледзьве не здохла.

## 303а. ОЙ, СХАЦЕЛА БАБА УРАЖЖА

Ой, схацела баба ўражжа
Ды разбагацеці.
Пасадзіла кураненьку,
Каб вывела дзеці.

Ой, хмарыцца, туманіцца,
Стаў дожджык крапаці.
Стала наша бабусенька
Курчат заганяці.

Яшчэ ў хату не загнала,
Ўжо двое стаптала;
Назад трошку абярнулась,
На трэцяе спаткнулась.

Як прыехаў дзед з лесу,
Стаў бабу пытаці:
— Чом-та наших, бабусенька,
Курчат не відаці?

— Ой, не відна, дзядусенька,
Ўжо не відна будзе,
Як пагнала я іх пасці,
Пазарылі людзі.

Як выхваціў дзед з воза
Здарову лазіну,
Пабіў бабу, пакалоціў
Галаву і спіну.

— Бадай табе, стары чорт,
Галава аблезла:
Панявечыў мяне так,
Што на печ не ўзлезла.

Бадай цябе, стары чорт,
Права рука ўсохла:
Панявечыў мяне так,
Што й трохі не здохла.

## 3036. ЗАХАЦЕЛА БАБУСЕНЬКА ДЫ РАЗБАГАЦЕЦІ *

Захацела бабусенька
Ды разбагацеці,
Цып, цып, цырура [1].

Пасадзіла курачатку,
Каб вывела дзеці.

Выпусціла бабусенька
На падвор'е пасці.

[1] Прыпеў «Цып, цып, цырура» паўтараецца пасля кожнай страфы з паўтарэннем другога радка.

Сама села на улачку
Кудзелечку прасці.

Шура-бура наступае,
Дождж ык пакрапляе.

— Пара, пара, бабуленька,
Курчат збіраці.

Яшчэ курчат не сабрала,
Дзве растаптала.

Сюды-туды павярнула —
На трэцяе ступнула.

— Ой, да божа, божа, божа,
Ды што ж мне рабіці?

Ёсць у мяне стары дзедка,
Будзе мяне біці.

А як прышоў стары дзедка
Із лесу дахаты.

— Чаму, чаму, бабуленька,
Курчат не чуваці?

— Выпусціла на падвор'е,
Празарылі людзі.

Ой, як узяў, як узяў дзедка
Сырую дубінку,

Пабіў бабе, пакалаціў
Галаву і спінку.

— Бадай табе, стары дзедку,
Барада аблезла.

Забіў, забіў, закалаціў,
Аж на печ не ўзлезу.

## 303в. ЗАХАЦЕЛА БАБУЛЕНЬКА *

Захацела бабуленька
Ды разбагацеці,
Пасадзіла куратачку,

Каб вывела дзеці.
Ціп, ціп, ціпу, ціп,
Ціпу, ціпу, ціп, ціп![1]

Як пайшло той бубуленьцы
На бяду, на гора,
Як вывела куратачка
Ўсяго толькі двое.

Як пагнала бабуленька
Куратачак пасці,
Сама села на пянёк
Кудзелечку прасці.

Ой, хмарыцца, туманіцца,
Стаў дождж накрапаці,
Стала наша бабуленька
Курчат заганяці.

Ой, на адно спаткнулася,
На другое ўпала,
Сюды-туды павярнулась
Дый усіх патаптала.

Як прыехаў дзед із лесу,
Стаў бабу пытаці:
— Чаму ж тваіх, бабуленька,
Курчат не відаці?

Не відаць іх, дзядуленька,
І відаць не будзе,
Як выгнала на вуліцу,
Паўрочылі людзі.

Як выхваціў стары дзед
Із воза ляшчыну
І пахвастаў бабулечцы
Галаву і спіну.

— Бадай табе, стары дзеду,
Пакруціла рукі,
Ой, як ты мне, старой бабе,
Задаў столькі мукі.

---

[1] Прыпеў «Ціп, ціп...» паўтараецца пасля кожнай страфы.

Бадай табе, стары дзеду,
Барада аблезла,
Як ты мяне абязвечыў,
Тры дні на печ лезла.

## 303г. ЗАХАЦЕЛА БАБУЛЕНЬКА *

Захацела бабуленька
Ды разбагацеці,
Пасадзіла рабу курку,
Каб вывела дзеці.

Ціп, ціп, ціп, ціп, цю-ру-ру,
Ціп, ціп, ціп, ціп, ціп! [1]

Як спаткала бабуленьку
Няшчасце, нядоля,
Як вывела раба курка
Ўсяго толькі трое.

Як пагнала бабуленька
Куранятак пасці,
Сама села пад плоцікам
Кудзеліцу прасці.

Як пабеглі куры-буры,
І стаў дождж пакрапляць,
Стала наша бабуленька
Куранятак сазываць.

Сазывала, сазывала,
Парачкі не стала,
Набок ножку павярнула,
Трэцяга стаптала.

Сядзіць баба на прыпечку,
Галовачку дрэбча,
А курачка-сакатушка
Сама сабе шэпча:

[1] Прыпеў «Ціп, ціп...» паўтараецца пасля кожнай страфы.

— Бабулечка, бабулечка,
Сядзі цяпер ціха,
Як прыедзе стары з лесу,
Будзе табе ліха.

Як прыехаў стары з лесу,
Стаў бабку пытаці:
— Дык што ж гэта куранятак
Нешта не відаці?

А мой жа ты, дзядуленька,
Мусіць, і не будзе,
Як выгнала на вуліцу,
Паўрочылі людзі.

Падняў сварку стары дзед,
Топаў ён нагамі,
З усёй сілы па стале
Стукаў кулакамі.

Як паехаў стары ў лес,
Выразаў ляшчыну
І пахвастаў бабулечцы
Галаву і спіну.

— Бадай табе, стары дзед,
Барада аблезла,
Як ты мяне абязвечыў,
Тры дні на печ лезла.

## 303д. ЗАХАЦЕЛА БАБУЛЕНЬКА *

Захацела бабуленька
Разам збагацеці,
Пасадзіла курачку,
Каб вывела дзеці.
Ды нямнога, толькі трое,
Куранят прыждала,
Не паспелі з гнязда злесці,
Пасвіць іх пагнала.

Як пагнала бабуленька
Куранятак пасці,
Сама села на пянёчку
Кудзелечку прасці.
Яшчэ нітак не ссучыла,
А ўжо двух згубіла,
Туды-сюды павярнулась
Ды на трэцяе спаткнулась.

— Ой, божа ж мой, божа,
А што ж мне рабіці?
Як прыедзе дзед із лесу,
Будзе мяне біці.
Бедна, бедна, бедна я,
Бедна галоўка мая,
Будзе мяне біці!

Як прыехаў дзед із лесу,
Ды да сваёй хаты.
Пытаецца у бабулькі:
— А дзе ж кураняты?
Цып, цып, цып, цып, цып, цып, цып!
Пуль, пуль, пуль, пуль, пуль, пуль!
А дзе ж кураняты?

— Як не ведаў, дзеду,
Так не будзеш ведаць,
Вот садзіся лепш за стол,
Дам табе абедаць.
Хадзі, хадзі, мой дзядок,
Хадзі, хадзі, галубок,
Дам табе абедаць.

## 303е. СТАРА БАБУЛЕНЬКА *

Стара бабуленька
Стала багацеці,
Пасадзіла стару курку
Куранят сядзеці.

Ах, цып-цып, цып-ра-ра,
Цыпу-цыпу-рыпу,
Пасадзіла стару курку
Куранят сядзеці.

Як далося бабе
На бяду, на гора.
Выседзела стара кура
Ўсяго толькі трое.

Ах, цып-цып, цып-ра-ра,
Цыпу-цыпу-рыпу,
Выседзела стара кура
Ўсяго толькі трое.

Як пагнала бабка
Куранятак пасці,
Сама села на пянёчку
Кудзелечку прасці.

Ах, цып-цып, цып-ра-ра,
Цыпу-цыпу, рыпу,
Сама села на пянёчку
Кудзелечку прасці.

Хмарка наступае,
Дождждык пакрапляе,
Стара бабка куранят
Пад печ заганяе.

Ах, цып-цып, цып-ра-ра,
Цыпу-цыпу-рыпу,
Стара бабка куранят
Пад печ заганяе.

Яшчэ ж не сабрала
Ды двое стаптала,
Сюды-туды павярнулась,
На трэцяе ўпала.

Ах, цып-цып, цып-ра-ра,
Цыпу-цыпу-рыпу,
Сюды-туды павярнулась,
На трэцяе ўпала.

Прыехаў дзед з лесу,
Стаў бабу пытаці:
— Чаму тваіх, бабуленька,
Курчат не чуваці?

Ах, цып-цып, цып-ра-ра,
Цыпу-цыпу, рыпу,
Чаму тваіх бабуленька,
Курчат не чуваці?

— Не чуваці, дзедку,
І чуваць не будзе,
Выпусціла на падвор'е,
Паўрочылі людзі.

Ах, цып-цып, цып-ра-ра,
Цыпу-цыпу-рыпу,
Выпусціла на падвор'е,
Паўрочылі людзі.

Як выхваціў дзедка
Сырую ляшчыну,
Пабіў бабе галовачку,
Пакалечыў спіну.

Ах, цып-цып, цып-ра-ра,
Цыпу-цыпу-рыпу,
Пабіў бабе галовачку,
Пакалечыў спіну.

— Бадай табе, дзедку,
Барада аблезла,
Як ты мяне абязвечыў,
Што на печ не ўзлезла.

Ах, цып-цып, цып-ра-ра,
Цыпу-цыпу-рыпу,
Як ты мяне абязвечыў,
Што на печ не ўзлезла.

Бадай табе, дзедку,
Права рука ўсохла,
Як ты мяне пакалечыў,
Мала я не здохла.

Ах, цып-цып, цып-ра-ра,
Цыпу-цыпу-рыпу,
Як ты мяне пакалечыў,
Мала я не здохла!

29. Зак. 500

## 303ё. СТАРА БАБУЛЕНЬКА

Стара-стара бабуленька
Стала багацеці.
Пасадзіла стару куру
Куранят сядзеці.
Ах, цып-цып, цып-рара,
Цыпу-рыпу, рыпу [1].

Пасядзела кура з рання,
З рання да вячора,
Выседзела стара кура
Куранят чацвёра.

Пагнала іх бабуленька
На вуліцу пасвіць,
Сама села пад вярбою
Кудзеліцу прасці.

Прала яна, прала,
Трое затаптала,
Ах, божа ж мой мілюсенькі,
Ўся доля прапала.

Прыйшоў дзед з гарання,
Пытаецца ў бабкі:
— Скажы, скажы, бабуленька,
А дзе кураняты?

— З нашых куранятаў
Нічога не будзе,
Як пагнала я іх пасвіць,
Здзівавалі людзі.

Пайшоў дзед у даліну,
Выразаў дубіну.
Ды як збіў дзед бабе
Галаву і спіну.

— Бадай табе, дзеду,
Галава аблезла,
Як ты мяне чыста збіў,
Што й на печ не ўзлезла.

---

[1] Прыпеў «Ах, цып-цып...» паўтараецца пасля кожнай страфы.

Бадай табе, дзеду,
Права рука ўсохла,
Як ты мяне чыста збіў,
Мала я не здохла.

## 303ж. ЯК ПАГНАЛА СТАРА БАБКА

Як пагнала стара бабка
Гусянятак пасці,
Сама села на пянёчку
Кудзелечку прасці.

Прала яна, прала,
І лядзіць — ўсяго трое,
А як лезла праз парогі,
Затаптала двое.

Села бабка на парожку
І крэпка бядуе:
— Як прыедзе дзед мой з лесу,
Пэўна, адлупцуе.

Як прыехаў жа дзед з лесу
І пачаў пытаці:
— Чаму ж тваіх, бабулечка,
Гусак не відаці?

Як узяў жа тады дзедка
Дубову ляшчыну
І пахвастаў жа ён бабцы
Галаву і спіну.

— Бадай табе, мой ты дзедка,
Галоўка аблезла,
Як жа ты мяне ўгасціў,
Ледзь на печ узлезла.

## 304. ПАД ГАРОЙ ВАЎЧОК

Пад гарой ваўчок,
Пад другой казёл.
Як схапіў ён казла
Папярок жывата,

Як панёс ён казла
Цераз бабкін дварэц.
А там бабкін Пятрэц,
Ды ён дровы рубаў,
Усё гэта відаў.
Коршык-сотнік
Паляцеў на сяло
Курэй збіраць,
У дзярэўню прыцягаць.
— Дзедка-лябедка,
Адчыняй кватэрку,
Станаві бутэльку,
Будзем піць і гуляць
І козліка памінаць.

## 305. ПАГНАЛА БАБУЛЕНЬКА КАЗЮЛЬКУ Ў ПОЛЕ

Пагнала бабуленька казюльку ў поле,

Шалтаю, балтаю, манджыры, манджыкі,
Куку, піцую, бablейку, балбашу [1].

— А кізя, казюлька, а кізя ў поле.

Прыгнала бабулька казюлю з поля.

А стала бабулька казюльку даіці.

Яе за вымя — каза не стаіці.

Бадай ця, казюлька, бадай воўк з'еў.

## 306. А КОЗАНЬКА БЕЛАЯ

А козанька белая
Па надворку бегае.
Пераскочыла праз плот
Ды пабегла ў агарод.

Аб'елася цыбуліцы,
Крычыць, бяжыць па вуліцы.
Аб'елася часнаку,
Крычыць, бяжыць па таку.

[1] Прыпеў «Шалтаю, балтаю...» паўтараецца пасля кожнага радка.

А козанька белая
Па надворку бегае.
Аб'елася лебяды,
Крычыць, бяжыць да вады.

## 307. БЫЎ У БАБУШКІ КАЗЁЛ

Быў у бабушкі казёл,
Мусіць, быў!
У гаспадарушкі казёл,
У Масееўны казёл,
У Федасееўны казёл.
Ён на стаянцы стаяў,
Пастаяліцу хлябаў.
Захацелася казлу
У лясок на часок.
Як пайшоў казёл
Ды па сцежачках,
Па дарожачках.
Ён правай нагой патуквае,
Шаўковай барадой патрухвае.
І звярнуўся казёл
У лясок на часок
Травы ў волю паядаць,
Звера ў вочы павідаць.
Як сустрэў жа казёл
Семярых ваўкоў.
Як адзін жа воўк —
Абдзіраны бок,
Ён пад кусцікам ляжаў
Ды гавядзінкі бажаў.
Як узяў ён казла
Ды за грывачку,
Палажыў казла
Ды на спіначку
Ды панёс казла
Ды на бабін двор.
А на бабіным дварэ
Кабан дровы сячэ,
А лісіца носіць,
А бабушка топіць.
— Ты, дзедка, ты лябедка,

Бяры бутылкі, ідзі за гарэлкай,
Будзем казла памінаць,
Як астаткі называць:
Кабылка Марынка
Жарабец Гаўрылка,
Вутачка Хімка,
Селязенька Клімка,
Індык — капітан,
Цецярук — енаран,
Певень — хазяін,
Сарока — дупытата,
Выбівала на салдата,
Цір-тыр!

## 308. СУСТРЭЛІСЯ КАЗЛУ СЕМЕРА ВАУКОЎ

Сустрэліся казлу семера ваўкоў.
— Ну-це борацца са мной!
— Ах ты, дурань, ты, казёл!
Ды мы по палю ідзём,
Мы жарэбчыкаў кладзём.
— А паборайцесь са мной!
Як узялі ж казла ды за рогі
Ды ўдарылі казла аб дарогу —
У казла вочкі глядзяць,
Бытта свечкі гараць.
Як узялі ж казла ды за хвост
Ды ударылі аб мост —
У казла вочкі глядзяць,
Бытта свечкі гараць.
Быў у бабкі Іван
Ды ён дроўцы рубаў,
Усё гэта відаў,
Пайшоў бабцы сказаў:
— Ах ты, бабка, казлу матушка!
Памінай свайго казла,
Накладай казлу імя.
А бабка прала,
Дык пралку пад лаўку,
Верацяно на лаўку,
Пашла казла памінаць,
Казлу імя накладаць.

— Ах ты, попушка,
Да ты, бацюшка,
Памінай майго казла,
Накладай яму імя.
— Ах ты, дура баба!
А дзе казла памінаць,
Казла обухам забіваць.
А поп казла памінаў,
Казлу імя накладаў.
Казёл быў Мікіта,
Каза — Сцепаніда.

## 309. БЫЎ У БАБУЛІ КОЗЛІК РАСПУСНЫ

Быў у бабулі козлік распусны,
Выеў у бабулі пограб капусты,
Кутасам, возрасам, гоб, джыг, джыг,
Фіма, тута, тутэнькі, брабэнькі,
Мой мілы казленькі, ху-гу-у-у.

Дзед на бабусю сільна сварыўся,
— Дзе наш, бабуля, козлік падзеўся?
Кутасам, возрасам, гоб, джыг, джыг,
Фіма, тута, тутэнькі, брабэнькі,
Мой мілы казленькі, ху-гу-у-у.

## 310. А У НАШАГА АНТОНА КАЗА ПАМЕРЛА

А ў нашага Антона каза памёрла,
Ды некаму казу пахаваці,
Не так пахаваці, як памыці.
Прышла Уліта, прынясла карыта,
Узяла ды памыла.
А ў нашага Антона каза памёрла,
Ды не ў што казу прыбраці.
Прышла Аўдоцця, прынясла шкумоцця,
Ўзялі казу ды прыбралі.
А ў нашага Антона каза памёрла,
Да некаму па казе плакаць.
Дзе браўся Якаў, па казе плакаў.
А ў нашага Антона каза памёрла,

Ды некаму яму капаць.
Дзе ўзяўся Раман, ён яму капаў.
А ў нашага Антона каза памёрла,
Ды некаму пахаваці.
Дзе браўся Максім, пахаваў казу зусім.

## 311. БЫЛО У БАБКІ ЧАТЫРЫ БЫЧКІ

Было ў бабкі чатыры бычкі,
А зялёны сад вішнёвы.
Прышлі к бабцы чатыры купцы:
— Прадай, бабка, чорнага бычка.
— А мне чорны пакуе жорны — самой трэба.
— Прадай, бабка, рабога бычка.
— А мне рабы паполіць грады — самой трэба.
— Прадай, бабка, бурага бычка.
— А мне буры папасе куры — самой трэба.
— Прадай, бабка, краснага бычка.
— А мне красны — кудзельку прасці — самой трэба.

## 311а. ДА БЫЛО У БАБКІ

Да было ў бабкі,
Да было ў любкі
Ды дванаццаць валоў.

— Каторага, бабка,
Каторага, любка,
Ты вала прадасі.

— Ёсць у мяне рабы,
Што робіць грабы,
Я таго не прадам,
Да душы ж, не прадам [1].

— Ёсць у мяне лысы,
Што робіць місы.

Ёсць у мяне крутарог,
Гэй, ляціць з усіх ног.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Ёсць у мяне буры,
Што круціць дзюры.

Ёсць у мяне чорны,
Ды што робіць жорны.

Ёсць у мяне палавы,
Ды што ходзіць да вады.

Ёсць у мяне белы,
Ды што робіць дзверы.

Ёсць у мяне белавокі,
Ён ля мяне ходзіць бокам.

Ёсць у мяне круты,
Ён пільнуе руты.

Ёсць у мяне спяшлівы,
Ён пашаць нівы.

Ёсць у мяне красны,
Ён да дзетак ласы.

Ёсць у мяне мышаваты,
На ім ездзіць у сваты.

### 311б. А БЫЛО У БАБКІ

А было ў бабкі,
А было ў любкі
Чатыры бычкі,
Чатыры бычкі.

Прыехалі к бабцы,
Прыехалі к любцы
Чатыры купцы,
Чатыры купцы.

— Прадай, бабка,
Прадай, любка,
Бычка лысага,
Бычка лысага.

— Мой бычок лысы,
А ён мые місы.
Я ж яго не прадам,
Я ж яго не прадам.

— А прадай, бабка,
А прадай, любка,
Бычка чорнага,
Бычка чорнага.

— А мой чорны
Мелець на жорнах.
Я ж яго не прадам,
Я ж яго не прадам.

— А прадай, бабка,
А прадай, любка,
Бычка рабага,
Бычка рабага.

— А мой рабы,
Ён возіць бабы.
Я ж яго не прадам,
Я ж яго не прадам.

### 311в. БЫЛО Ў БАБКІ

А было ў бабкі,
А было ў любкі
Чатыры бычкі.

Прыехалі к бабцы,
Прыехалі к любцы
Чатыры купцы.

— Прадай, бабка,
Прадай, любка,
Прадай бычка чорнага нам.

— У мяне чорны
Куе жорны,
Я і таго не прадам.

— А прадай, бабка,
А прадай, любка,
Бычка лысенькага.

— А ў мяне лысы
Мне мые місы,
Я і таго не прадам.

— А прадай, бабка,
А прадай, любка,
Бычка буранькага.

— А ў мяне буры
Сам пасе куры,
Я і таго не прадам.

— А прадай, бабка,
А прадай, любка,
Бычка рабенькага.

— У мяне рабы
Павязе ў бабы,
Я і таго не прадам.

## 312. БЫЛО У БАБУЛІ СЕМ ВАЛОЎ

Было ў бабулі сем валоў,[1]
Сем валоў, валоў.

Узаралі бабцы сем лугоў,
Сем лугоў, лугоў.

Пасеяла бабка канапель,
Канапель, пель-пель.

Унадзіўся туды журавель,
Журавель, вель-вель.

Пайшла бабка яго пільнаваць.
Пільнаваць, ваць-ваць.

І спаймала бабка жураўля,
Жураўля, ля-ля.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Узяла яна яго пад палу,
Пад палу, палу.

Прынясла яна яго дадому,
Дадому, дадому.

Пасыпала яму пшаніцы,
Пшаніцы, ніцы.

Паставіла яму вадзіцы,
Вадзіцы, дзіцы.

Журавель пшаніцы не клюе,
Не клюе, клюе.

Журавель вадзіцы той не п'е,
Не п'е, ой, не п'е.

## 313. САБІРАЛІСЯ РАБЯТЫ МАЛАДЫЯ

Сабіраліся рабяты маладыя,
Думалі, гадалі адну думку,
Як муху з камаром жаніці.
Бестыя муха, не нявеста:
Ні ткаць, ні праць не умее,
Шоўкам вышываць не умее.
Толькі ўмее мушка тры дзельцы:
З полачкі на полачку лятаць,
З краю ды смятану збіраць.
З той таскі, з кручыны
Паляцеў камарочак на дубочак,
Звесіў ножкі на карашочак,
Прылажыў галовачку к лісточку.
Узняліся буйныя ветры і дробныя дажджы,
Скалыхнулі камарочка з дубочка.
Разбіў, расшыб дробны костачкі,
Праламіў галовачку ў трох месцах.
А прыляцелі ж тры мухі-чарухі,
Яны й вылі, галасілі трое сутак.
Узялі камара на нары,
Паняслі камара да ямы.
Насустрэчу камару баяры:
— Што гэта за пакойнік?
Ці ты пан, ці ты князь, ці палкоўнік?
Ці ты чужой зямлі чужаземец?
— І не пан, і не князь, не палкоўнік,
І не чужой зямлі чужаземец,
А ёсць гэта камарочак!
Закапалі камара ўсё міскамі,
Паміналі камара ўсё блінамі.

## 313а. ПРЫЛЯЦЕЛІ ПЧОЛКІ ЯРАВЫЯ

Прыляцелі пчолкі яравыя,
Сабраліся малойцы маладыя,
Думалі думу камарову.
Ажаніўся камар з мушкай.
Ліхая мушка не жанушка:
Не ўмее прасці, ані ткаці.
Стаў камар бедаваці.
Паляцеў камар у чыста поле
Ды сеў на дубочак,
Спусціў ножкі ў каранёчак.
Скуль заняліся буйны ветры,
Скінулі камара з дубочка.
Што за стук, што за грук ў цёмным лесе?
Ды зваліўся камар з дубочка.
Пабіў свае вялікія косці
На дробныя крошкі.
Прыляцелі мушкі з жанушкай,
Сталі па камару галасіці.
Ухвацілі камара на рукі,
Панеслі камара ў свяцёлку,
Палажылі камара пры сценку,
Чорным аксамітам накрывалі,
Залатую труну выбівалі,
Муравану яму муравалі,
Залажылі камару шэсць коней,
Палажылі камара на нары,
Павязлі камара да ямы.
Ехалі ксяндзы і панове,
Пры тым вялікі сенатове,
Пыталіся, што за цела:
— Ці князь, ці маёр, ці палкоўнік?
— Не, не князь, не маёр, не палкоўнік,
Не, не князь, не маёр, не палкоўнік,
Казачэнька старога полку,
Вечны пакой камару.

## 313б. ДЫ ЛЯЦЕЛІ ПЧОЛКІ РАЯВЫЯ

Ды ляцелі пчолкі раявыя,
Ды спаткалі рабяткі маладыя,
Ды камар з мушкай пажаніўся,
Ды ў зялёным лесе пасяліўся.

— Быць табе, мушка, няверная,
Не ўмееш шыці, шаўком вышываці.
Як паляцеў камар у чыстае поле,
Сеў сабе камар на дубочку,
Спусціў ножкі ў каранёчку,
Палажыў галовачку ў лісточку.
Дзе ўзяліся ў лесе сільныя ветры,
Скінулі камара з дубочка.
Ляцеў камар з высакосці,
Расшыб ды разбіў свае косці.
Ой, там войты вайтавалі
Ды камару трунку збудавалі,
Злацістаю бляхай выбівалі.
Ехалі туды дый панове,
Пыталіся: хто ж то за такі?
Ці князь, ці гапман, ці палкоўнік?
Ды ці з чужой зямлі чужаземшчык?
— Не, не князь, не гапман, не палкоўнік,
Ды не з чужой зямлі чужаземшчык.
Вечны пакой, камарышча,
Слаўнага войска казачышча.

### 313в. КАМАР НА МУШКУ ЗАВІХАЎСЯ

Камар на мушку завіхаўся,
Ў чырвоныя боцікі прыбраўся.
— Што мушка за нявеста?
А не ўмееш ні ткаці, ні прасці.
— Я ўмею па полі лятаці,
З гарлачыкаў смятану збіраці,
Мужа камарышча гадаваці.
Паляцеў камарышча ў чыстае поле,
Сеў камарышча на дубочку,
Палажыў галоўку к лісточку,
Спусціў ножкі к карашочку.
Ўсталі шуры-буры, скалыхнулі дубочак,
Зваліўся камарышча на пясочак,
Разбіў, расшыб сабе плечкі.
Сабраліся старыя бабы — бальшыя мухі,
Узялі камара пад рукі,
Павялі камара на траўку,
Пахавалі камара пры дарозе.
Хто ідзе, едзе, запытае:

— А ці цар, а ці князь, ці палкоўнік?
— А не цар, а не князь, не палкоўнік,
Тут ляжыць сам камарышча,
Вялікага гонару казачышча.

### 313г. ОЙ, ДУБ ДА ДУБА ПАХІЛІУСЯ

Ой, дуб да дуба пахіліўся,
Як камар з дуба зваліўся.
Ой, дзе там, дзе там,
Як камар з дуба зваліўся.

Аб карыначку
Разбіў камар галовачку.
Ой, дзе там, дзе там,
Разбіў камар галовачку.

Прыляцела муха сваці
Камарыка ратаваці.
Ой, дзе там, дзе там,
Камарыка ратаваці.

— Камарыку, родны браце,
А дзе цябе пахаваці?
Ой, дзе там, дзе там,
А дзе цябе пахаваці?

А ці ў полі, сасоннічку,
А ці ў лесе у хвойнічку?
Ой, дзе там, дзе там,
А ці ў лесе у хвойнічку?

Там дзявіцы грыбы бралі,
Камарыка услыхалі.
Ой, дзе там, дзе там,
Камарыка услыхалі.

Камарыку добры быў,
Ён дзявіцу спалюбіў.
Ой, дзе там, дзе там,
Ён дзявіцу спалюбіў.

Едзе к камару палкоўнік:
— А што гэта за пакойнік?
Ой, дзе там, дзе там,
А што гэта за пакойнік?

Ці не тое гэта стала,
Што учора з дуба ўпала.
Ой, дзе там, дзе там,
Што учора з дуба ўпала.

## 313д. ШТО ГЭТА ЗА ШУМ УЧЫНІЎСЯ

Што гэта за шум учыніўся,
Што камар муху ўзяў, ажаніўся.
Ды ўзяў сабе мушку-зелянушку,
Што не ўмее а ні прасці, а ні ткаці,
Толькі ўмее смятаначку сабіраці,
Свайго мужа камарыка гадаваці.
Як паляцеў той камарык у лясочак,
Ды як сеў жа той камарык на дубочак.
Ды ўзялі ветры падунулі,
Яны таго камарыка і сапхнулі.
Як упаў жа камарык на памосце,
Патрушчыў, паламаў свае косці.
Прыляцелі мушкі-зелянушкі
Ды узялі камарыка за крылушкі,
Ды прынеслі камарыка ды дадому,
Ды паклалі камарыка сярод долу.
Ой, там жа майстры майстравалі,
Кедровы гроб згатавалі,
Краснаю кітайкай абівалі,
У чыстым полі, край дарогі, пахавалі.
Хто ідзе, не міне ды спытае:
— А што ж гэта ляжыць за пакойнік,
Ці хвільмаршал, ці маёр, ці палкоўнік?
— Ні хвільмаршал, ні маёр, ні палкоўнік,
Гэта ж мушкі-зелянушкі палюбоўнік.

## 331е. ЛЯЦЕЎ КАМАРЫЧАК ЧЫСТЫМ ПОЛЕМ

Ляцеў камарычак чыстым полем
Ды сеў камарычак на дубочку,
Прыхіліў галовачку к лісточку,
Звесіў ножкі к каранёчку.
Падулі сільныя ветры,
Скінулі камарыка да долу,
Разбілі камарыку плеч, галоўку.

Прыляцелі мухі-гаварухі,
Зляпілі камарыку васковую галаву,
Сталі камарыка хаваці,
Дубовыя дошкі складаці,
Сталянымі гваздзьмі збіваці.
Зрабілі камарыку грабочак,
Палажылі камарыка ў грабочак,
Панеслі камарыка на могілкі,
Пахавалі камарыка край дарожкі.
Ехалі купцы-старадубцы, гавораць:
— Што гэта ляжыць за пакойнік?
А ці князь, ці маёр, ці палкоўнік?
— Не, не князь, не маёр, не палкоўнік,
Гэта той самы камарышча,
Што ў яго ногі з тапарышча.

## 313ё. ДУБ НА ДУБА ПАХІЛІУСЯ

Дуб на дуба пахіліўся,
Там камарычак зваліўся.
Ох, лета, лета, лета,
Там камарычак убіўся.[1]

Прыляцела муха-маці
Камарыка ратаваці.

— Камарыку-сударыку,
І дзе цябе пахаваці?

Пахаваем камарыка
У цёмным лесе пры арэсе.

Будуць дзеўкі грыбкі браці,
Камарыка ўспамінаці.

— А што гэта за пакойнік,
Генерал то ці палкоўнік?

Гэта ж тое ляжыць цела,
Што учора з дубу зляцела.

Гэта ж тое ляжыць сала,
Што ўчора з дубу ўпала.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

## 313ж. ГЭЙ, У ЛЕСЕ ПРЫ ДАЛІНЕ

Гэй, у лесе пры даліне
У нас сталася бяда.
Гэй-гэй, у лесе, ў лесе,
У нас сталася бяда [1].

Пры даліне ў гушчары
Калыхаліся камары.

Дуб да дубу пахіліўся,
Камар з дубу зваліўся.

Пабіў камар патыліцу
Аб дубовую карыцу.

Ой, пабіў камар бакі
Аб дубовыя сукі.

Ды пабіў камар калені
Аб дубовыя карэнні.

Высыпаліся ўсе зубы
З камаровае губы.

Ляцяць мухі ратаваці,
Зімнай вадой абліваці.

— Камарочак, родны браце,
Як жа цябе ратаваці?

— Пасылайце да аптэкі,
Можа будзе крыху лепей.

У бальніцу завязіце
І мяне там палажыце.

Там добрыя дахтары
Вымуць душу без пары.

— Камарочку, родны браце,
Дзе ж нам цябе пахаваці?

— Не хавайце пры даліне,
Бо вырыюць мяне свінні.

---
[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Не хавайце ўскрай дарогі,
Бо дратавацъ будуць ногі.

Пахавайце ў цёмным лесе,
Пры зялёненькім гарэсе.

Будуць гарэхі шчыпаць
І камара ўспамінаць.

— А ды чый жа гэта помнік,
Ці маёр тут ці палкоўнік?

Не маёр, не палкоўнік,
А сам камар супакойнік.

## 313в. У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ

Ў цёмным лесе, ў гушчары,
Калыхаліся камары.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе
Калыхаліся камары[1].

Дуб да дуба пахіліўся,
Камар з дуба зваліўся.

Разбіў камар галоўку
Аб дубовыя карэнні.

Разбіў камар калені
Аб дубовы карашок.

З камаровай тоўстай губы
Вываліліся ўсе зубы.

Ляціць муха ратаваці,
Зімнай вадой адліваці.

— Ах, камарык, родны браце,
Як жа цябе ратаваці?

— Давайце ў бальніцу знаці
І мяне там палажыце.

[1] Прыпеў «Гэй-гэй...» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

— А там добры дактары,
Вырвуць душу без пары.

— Ах, камарык, родны браце,
Дзе ж мне цябе пахаваці?

— Не хавайце ля дарогі,
Там патопчуць людзі ногі.

Не хавайце пры даліне,
Там вырыюць мяне свінні.

Пахавайце мяне ў лесе,
Пры зялёненькім гарэсе.

Будуць дзеўкі рэшкі рваці,
Камарыка ўспамінаці:

— А чый гэта помнік?
Ці маёр, ці палкоўнік?

— Не маёр, не палкоўнік,
Тут ляжыць камар пакойнік.

## 313і. ОЙ, ШТО Ж ТАМ ЗА ШУМ ПРЫКЛЮЧЫЎСЯ *

Ой, што ж там за шум прыключыўся,
Што камар ды на мусе ажаніўся [1].

Ён узяў сабе жонку невялічку,
Што не ўмее шыці, мыці, ніварыці.

Паляцеў наш камар у чыста поле,
Ў чыста поле зеляное думу думаць.

Ой, сеў наш камар на дубочку,
Звесіў свае ножачкі каранёчкам.

Як схадзілася вялікая бура,
Нашага камарыка з дуба здула.

Прыехалі родныя браццу
Беднага камарыка ратаваці.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Ой, што ж там ляжыць за пакойнік,
Ці то князь, генерал, ці то палкоўнік.

— Я не князь, генерал, не палкоўнік,
А я мухі-трапятухі палюбоўнік!

## 313й. ШТО ЗА ШУМ, ШТО ЗА КРЫК УЧЫНІЎСЯ

Што за шум, што за крык учыніўся,
То камарык на той мусе ажаніўся.

Узяў сабе жонку невялічку,
Што не ўмее шыці, прасці чалавечку.

Што не ўмее шыці, прасці, ні варыці
І не ўмее з камарыкам добра жыці.

Паляцеў той камарык ў чыста поле,
Ў чыста поле, ў зялёну дуброву.

Сеў той камарык на дубочку,
Звесіў свае ножанькі на лісточку.

Паднялася ўзяла шура-бура,
Яна таго камарыка з дуба здула.

Упаў той камарык з высакосці,
Рукі, ногі, паламаў, пабіў косці.

З'ехаліся і зышліся генералы,
Яны таго камарыка не пазналі.

І не зналі, хто такі быў пакойнік,
Чы то пан генерал, чы палкоўнік.

То не пан генерал, не палкоўнік,
Старой мухі-трапятухі палюбоўнік.

## 313к. У НЯДЗЕЛЮ СВАДЗЬБА БУДЗЕ

Гэй, ды у нядзелю свадзьба будзе, гэй, гэй!
У нядзелю свадзьба будзе,
Камар муху сватаць будзе ў нас!
Вось так у нас, вось так у нас!

Гэй, ды камар муху спадабаў, гэй, гэй!
Камар муху спадабаў.
Гарэлкаю частаваў, упіўсь!
Вось дык упіўсь, вось дык упіўсь!

Гэй, ляжыць камарык і не дыша, гэй, гэй!
Ляжыць камар і не дыша,
Ручак, ножак не калыша, спіць!
Вось так і спіць, вось так і спіць!

Гэй, скуль узяліся ды дзве мухі, гэй, гэй!
Скуль узяліся ды дзве мухі,
Узялі камара пад рукі, ўстаў!
Вось такі ўстаў, вось такі ўстаў!

Гэй, ды ў нядзелю свадзьба будзе, гэй, гэй!
У нядзелю свадзьба будзе,
Камар муху сватаць будзе, ўзяў!
Вось такі ўзяў, вось такі ўзяў!

## 313л. ОЙ, ДЫ У НАШЫМ СЯЛЕ СВАДЗЬБА БУДЗЕ *

Ой, ды ў нашым сяле
Свадзьба будзе. Гэй! Гэй!
У нашым сяле свадзьба будзе,
Камар муху сватаць будзе. Так!

Ой, ды камар муху спадабаў.
Гэй! Гэй!
Камар муху спадабаў,
Гарэлкаю частаваў. Упіўсь.

Ой, ды ляжыць камар
Ды не дыша. Гэй! Гэй!
Ляжыць камар ды не дыша,
Ручак, ножак не калыша. Спіць.

Ой, ды скуль узяліся
Ды дзве мухі. Гэй! Гэй!
Скуль узяліся ды дзве мухі,
Узялі камара пад рукі. Устаў.

Ой, ды ў нашым сяле
Свадзьба будзе. Гэй! Гэй!
У нашым сяле свадзьба будзе,
Камар муху сватаць будзе. Узяў!

### 313м. ПРЫЛЯЦЕЛІ ПЧОЛКІ ЯРАВЫЯ

Прыляцелі пчолкі яравыя,
Збірайцеся, дзеткі маладыя.
Камар з мухай палюбіўся,
Палюбіўшы, ажаніўся.
Шэльма муха — не нявестка,
На беражочку ляжала,
Зверху смятану пасубірала.
Камарочак узлаваўся на жонку,
Паляцеў камар да лясочку,
Палажыў галоўку на лісточку.
Узвінуліся штурмы-буры,
Таго камарочка з дуба здулі.
Як зваліўся камар з высакосці,
Паламаў, пакрышыў свае косці.
Прыляцела муха-зелянуха,
Таго камарочка бела мыла,
Тонкую кашульку ўзлажыла.
Прыйшлі цеслі з тапарамі,
Камару труну збудавалі.

### 313н. КАМАР З ДУБУ ЗВАЛІЎСЯ

Камар з дубу зваліўся
Да на пень бокам прабіўся.
Прыляцела мушка ратаваць:
— Дзе ж цябе, камарык, пахаваці?
— Пахавай мяне пры дарозе
Да пры белай бярозе.
Абтыч мяне стрэлкамі,
Абсей мяне кветкамі.
Прыдуць хлопцы стрэлкі браці,
Камарову душу спамінаці:
— Вечны пакой, камарышча,
Слаўнага войска казачышча.

Прыдуць дзеўкі кветкі рваці,
Камарову душу спамінаці:
— Вечны пакой, камарышча,
Слаўнага войска казачышча.

### 313о. ШТО ЗА ШУМ, ЗА ДРАКА

Што за шум, за драка усхадзіўся?
Ды камар з мушкаю ажаніўся.

Ды ўзяў сабе мушку-зелянушку
Ды ў чыстым полі палятушку.

Да яна ж не ўмее ні ткаці, ні прасці,
Да няма чым камарыка адзяваці.

Да ўпаў жа камарычак з высакосці
Ды пабіў жа, ды пацёр жа свае косці.

Прыляцелі мушкі-зелянушкі,
Як узялі камарыка пад крылушкі.

Сталі яны думаці і гадаці:
— З чаго нам трунaчкі ды скаваці.

Ды скуем мы трунaчкі ды з каліны,
Чорнымі сукнамі абабілі.

Сталі ж яны думаці і гадаці:
— Дзе ж нам камарыка пахаваці?

Пахаваем камарыка пры дарозе,
Хто ідзе, хто ідзе, то й пытае:

— Што ж бо гэта за пакойнік?
— Гэта ж мушкі-зелянушкі палюбоўнік.

### 313п. А У ЛЕСЕ У АМШАРЫ

А ў лесе у амшары
Калыхаліся камары.
Эй-эй, у лесе,
Пры зялёненькім арэсе [1].

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Дуб на дубу прыхіліўся,
Камар з дубу зваліўся.

Аб дубовыя сукі
Папабіў камар бакі.

Аб дубовую кару
Пабіў камар галаву.

Аб дубовыя карэнні
Папабіў камар калені.

А скуль браліся дзве мухі,
Узялі камара пад рукі.

Павялі яго на ложка,
На пуховую падушку.

Гэй жа, скарэй ў аптэку,
А то будзе крэкурэку.

Дык вашыя дактары
Вымуць сэрца без пары.

Стаў камарык паміраць,
Стаў ён людзям казаць.

— Не хавайце пры даліне,
Бо вырыюць мяне свінні.

А хавайце мяне ў лесе
Пры зялёненькім арэсе.

Будуць дзеўкі рэшкі рваць
І камара ўспамінаць.

— Што гэта за пакойнік,
Ці маёр, ці палкоўнік?

Ці маёр, ці палкоўнік,
Ці мухі спалюбоўнік?

Ой, не маёр, не палкоўнік,
А то мухі спалюбоўнік.

## 313р. ДУБ ДА ДУБА ПАХІЛІЎСЯ

Дуб да дуба пахіліўся,
Камарок з дуба зваліўся.
Ой, у лесе, лесе, лесе,
Пры зялёненькім арэсе [1].

Муха з хаты вымятала,
Камарынку ратавала.

— Камарочак жа ты мой,
Родны брацітка ты мой.

А дзе ж цябе пахаваці,
Каб хадзілі ўспамінаці?

Пахаваю край Дунаю,
Сама пайду пагуляю.

Сама пайду пагуляю,
Як рыбачка на Дунаю.

## 313с. Я ЎСЕ ПЕСНІ ПЕРАПЕЛА

— Я ўсе песні перапела,[2]
Перапела, перапела, перапела.

Аднаго камарыка ды не спела,
Я не спела, я не спела, я не спела.

Паляцеў камарык на дубочак,
На дубочак, на дубочак, на дубочак.

Скланіў буйну галаву на лісточак,
На лісточак, на лісточак, на лісточак.

Адкуль узяліся буйны ветры,
Буйны ветры, буйны ветры, буйны ветры.

Здулі камарыка з дуба ды на землю,
Ды на землю, ды на землю, ды на землю.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.
[2] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Адкуль узяліся ды тры мушкі,
Ды тры мушкі, ды тры мушкі, ды тры мушкі.

Узялі камара ды пад ручкі,
Ды пад ручкі, ды пад ручкі, ды пад ручкі.

Павялі камарыка да прылучкі,
Да прылучкі, да прылучкі, да прылучкі.

А ў прылукі ўсе майстры майструюць,
Майструюць, майструюць, майструюць.

Усё майструюць, не змайструюць,
Не змайструюць, не змайструюць, не змайструюць.

Камарыку труначку гатуюць,
Гатуюць, гатуюць, гатуюць.

## 314. КАЛІ ТОЙ ВЕЧАР БУДЗЕ

Ой, калі той вечар будзе,
Ой, трай-рай-рай-рай,
Ой, калі той вечар будзе,
Ры-ту, ры-ту, ры-ту, рай.
Камар муху сватаць будзе,
Ой, трай-рыту-рай.

— Сватай мяне, камарыку,
Ой, трай-рай-рай-рай,
Сватай мяне, камарыку,
Рыту-рыту, рыту-рай.
Твае дочкі работнічкі,
Ой, трай-рыту-рай.

Мае дочкі работнічкі,
Ой, трай-рай-рай-рай.
Мае дочкі работнічкі,
Рыту-рыту, рыту-рай.
Адна шыла, друга мыла,
Ой, трай-рыту-рай.

Адна шыла, друга прала,
Ой, трай-рай-рай-рай.
Адна шыла, друга прала,

Рыту-рыту, рыту-рай.
У пограбе зімавала,
Ой, трай-рыту-рай.

У пограбе зімавала,
Ой, трай-рай-рай-рай,
У пограбе зімавала,
Рыту-рыту, рыту-рай.
Сыр да масла сабірала,
Ой, трай-рыту-рай.

Сыр да масла сабірала,
Ой, трай-рай-рай-рай.
Сыр да масла сабірала,
Рыту-рыту, рыту-рай.
Камарыка ў госці звала,
Ой, трай-рыту-рай.

## 315. КАМАР ЛАЗНЮ ТАПІЎ

Камар лазню тапіў,
Муха парылася!
Дылі, дылі, гоца-ца-ца!
Ой, дыль, дыль, дыль, гоца-ца! [1]

З палка звалілася,
Насмерць забілася.

Блыха добрая была,
Запрагае ката.

Едзе ўміг па папа,
Крывапіўцу клапа.

А поп часу не мае,
Прусака спавядае.

Прэ блыха на мышы
Мужа ўжо без душы.

Пакуль муху памылі,
Пук лучыны спалілі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Пакуль муху прыбралі,
Пяюны ўжо пяялі.

Зайцы яму капалі,
Лісы труну збівалі.

Совы муху няслі,
Ваўкі голас вялі.

У пясочку хавалі
І памінкі спраўлялі.

Вылі ўсе, галасілі,
Падпілі, закусілі.

## 315а. КАМАР ЛАЗНЮ ТАПІЎ

Камар лазню тапіў,
Блыха парылася,
Блыха парылася,
З палку ўдарылася.

— Ай, бяжыце па папа,
Па запечнага клапа,
Няхай той прыбяжыць,
Няхай поп пачадзіць.

Няхай поп прыбяжыць,
Вугалём пачадзіць,
Запісачку прачытае,
Нябожчыка адпявае.

Жучкі ямку капаюць,
Яны блошку хаваюць.
Ай, ду-ду, ду-ду, ду-ду,
Трубіць жораў на дубу.

## 315б. КАМАР ЛАЗНЮ ТАПІЎ

Камар лазню тапіў,
А вош парылася,

Як звалілася з палка,
Дык і ўдарылася.

— Едзьце, едзьце па папа,
Па запечнага клапа.

Едзе клоп на блысе
У чырвоным кажусе.

Пакуль клоп да вашы —
Ляжыць вош без душы.

Камарыца галасіла,
Муха клёцкі мясіла.

Камар дошкі часаў,
А жук яму капаў.

Тры дні яму капаў,
Пакуль вош закапаў.

## 316. ЗАДУМАЎ РАЧОК ЖАНІЦЕСЯ

Задумаў рачок жаніцеся,
Заехаў к жабе радзіцеся.

Там жаба кросны ткала,
Госця ўбачыла і прывітала.

Ды не стала госця частаваці,
Заставіла рака цалкі сукаці.

— Нясі мне, рача, цэвачку,
Я табе буду за дзевачку.

Нясі мне другую,
Буду табе за маладую.

— Не буду табе цалок сукаці,
Бо я еду дзевак шукаці.

А ў цябе, жаба,
Чэрава раба.

— А ў цябе, ўроду,
Ззаду вочы зроду.

Хоць завеш пачварай,
Табе не буду парай.

Стала жаба крумкатаці,
Рачок паехаў дзевак шукаці.

## 317. ЗАПАХАЎ ВЕРАБЕЙ НА ПРЫПЕЧКУ НІЎКУ

Запахаў верабей на прыпечку ніўку
І на ёй пасеяў сваю пшанічку.
Намалаціў, наварыў пшанічнага піва,
Пшанічнае піва — вялікае дзіва.
Паўтычыны хмелю ўзяў,
Паўшэлега на музыку даў
І тут ледзве не прапаў —
Вялікая сума.
Паслаў верабей гасцей сазываць,
А сам пайшоў іх пераймаць.
Цэлы дзень ён стаяў
І нікога не спаткаў.
Аж вот прыехаў грунгач,
А з ім бацян,
Жораў арганісты
І сокал быстры.
Яны выехалі ў паўночы
Проціў сваёй мочы.
К заходу сонца сава прыляцела
Дый за сталом смела села.
За ёю прыляцелі шчыглiцы
І ўсе селі на паліцы.
Пазней прыляцелі чачоткі,
Былі яны яму родныя цёткі.
Прыляцелі і снігіры,
Па першай жонцы швагры.
Прыляцелі каўкі,
Селі на лаўкі.
Прыляцелі стрынадкі,
Паселі на градкі.
Прыляцелі чайкі,
Паселі на палкі.
Захацелася вераб'ю надвясела быць,
Вот і стаў ён усіх гасцей прасіць

Піць, есць, усё выпіваць,
Хазяіна вераб'я велічаць.
Госці пілі, елі і гулялі,
Хазяіна вераб'я велічалі.
— Будзем піць і есць да дня,
За здароўе вераб'я!
Захацелася вераб'ю
Ў другі раз жаніцца,
Жонку сабе засватаць
І піва напіцца.
Вот паехаў верабей
Па віночка і мядок,
Ўзяў з сабою пшанічкі
І рублёў пяток.
Багатыя плацці надзеў
І запрагці чатыры коні сказаў.
Улез у поезд шырокі
І абудвамі скрыдламі ўпёрся ў бокі:
— Паеду я, паеду ў залёты
Да панны сарокі стракаты.
Узяў ката за лёкая у тылу стаяць,
А індыка за клерыка песні пяяць.
Як наш верабей стукнуў чаботамі,
Дык сарока залілася слязамі.
Наш маладзец верабей малым не уняўся,
Тры гадзіны з ваўком на шаблі сражаўся.

## 317а. ЭЙ, ЗАДУМАЎ ЖАНІЦЕСЯ

Эй, задумаў жаніцеся
Верабейка радзіцеся,
Паляцеў да сваёй матушкі,
Да сваёй роднай цётушкі,
Да сястрыцы, да сініцы,
Да бабіцы-галубіцы.
Скора ўздумаў жаніцца,
Трэба ляцець гатовіцца,
Трэба піва і гарэлкі,
Мёду з чатыры бутэлькі
Для скрыпчыстых, арганістых,
Для басістых, басетлістых,
Каб быў пірог і хлеб чысты.

— Будзе, будзе. будзе!
Прылятае верабейка,
Сеў на лаву, думае:
— Што за першая работа?
Ячмень, жыта трэба зжаці,
Снапы ў копы паскладаці.
І звазілі, змалацілі,
Дзесяць зернят налічылі,
На баль госці запрасілі.
— Частуйцеся, бяседа!
Госці з лесу прыляцелі,
Ёсць пірогі і няма менса.
Хваціўшы блаху, забілі,
Саламахі нарабілі.
— Худа, я мёду не маю.
Скочыў верабей да чаю,
Знайшоў нясушную пчалу,
Гоніць, крычыць ён па сялу:
— Вы, мужыкі, завярніце,
У пчалы мёд адбярыце.
Мёдам сыціце, гатоўце,
Усе музыкі запрасіце.
Ляціць чапля з трубою,
Снегір ляціць са скрыпою,
З басетняю журавель,
А з алтарняю хрусцель.
Як урэзнулі усе музыкі,
Возьмуць плясаць у пляснушкі,
Ды ўсе кажуць: «Гуль, гуль, гуль, гуль!»
Ды ўсе кажуць: «Дылі, дылі!»
А крук кажа: «Былі, былі».
Напачонтку дзеля бока
Пайшла ў скокі сарока.
Перапёлка саскочыла,
Шчыгла за крылы хваціла:
— Пастой, друзю, павярніся,
Раз са мною закруціся,
Усех дзіваў павідай,
Гарэліца папівай.
Госці гуляць захацелі,
Усе на хату ўляцелі,
Красныя песні запелі,
Красныя, вясёлыя.

Гусь з гусянятамі,
Курыца з блізнятамі,
Воўк — дыскант,
Мядзведзь — бас.
Песня, васпанства, для вас.

### 3176. ЯК УЧЫНІЎ ВЕРАБЕЙ

Як учыніў верабей
На прыпечку жніва:
Змалаціў, наварыў
Пшанічнага піва.
Як пачаў верабей
Гасцей сазываці,
Гасцей частаваці.
Як пачаў верабей
Гасцей сустракаці:
Ідзе пан журавель
І твой бацька хрысцель,
І пані стрыгнатка —
То твая матка,
І пані чачотка —
Родная цётка.
Госці ідуць, замкі б'юць,
Самі дзверы адчыняюць,
А верабей не бача,
Весела дома скача.
А сава там была,
Пер'е не разадрала
І большаму жураўлю
Горла праклювала.
А ў той [птушыны]
Забілі камара з мурашынай:
Чатыры солы насалілі
І сто каўбас начынілі,
Да столу давалі
І гасцей частавалі.
А хрысцель упіўся,
Пад стол падваліўся,
А сарока з печы
Мусіла пацечы.

## 317в. ЗАХАЦЕЎ ВЕРАБЕЙ ЖАНІЦІСЯ

Захацеў верабей жаніціся,
Ў чыстым полі спарадзіціся:
Кірапатка да маткі,
Чачотка да цёткі,
А дзяцел да таткі.
Будзе свадзьба, будзе свадзьба,
Свадзьба вераб'я!
Стаў думу думаць,
Стаў рады радзіць,
Стаў жаць ячмень, малаціць:
Дзевяць дзядошак ляціць.
Стаў піва варыць,
Стаў гасцей паіць.
П'яны госці, п'яны,
П'яны ў вераб'я.
Яны блаху абвалілі,
На дзевяць міс аблажылі.
Пакуль тую блаху з'елі,
У іх ногі падамлелі.
Яны з лавак пазляцелі.
Як зайгралі музыканты,
Ударылі ў барабаны.
Снігірыца ў варганіцу,
А варона ў гармону,
А сініца падскачыла,
Журава з лаўкі схваціла:
— Хадзі, жураў, патанцуем,
Яшчэ трошку пажартуем.
Туды-сюды паплясалі,
Саве нагу адтапталі.
Стала саве больна,
Стала нездарова.
Прыехалі к саве ў сваты
Яшчэ савінага брата,
Сталі саву сватаць.
За белага луня,
За мілага друга:
— А ты, белы луня,
А ты, мілы дружа,
Ка мне ходзіш, ходзіш,
Ўсё праўды не кажаш.

Стала савіца мыцца,
Стала чапурыцца,
Села на лясінку,
На горкую асінку.
І ножанькай топне,
І крылачкам лопне,
І дзюбачкай люсне,
І вочкамі плюсне:
— Слава табе, божа,
Піць, есць ёсць што,
А пагуляць не з кім.
Насустрэчу соўцы
Маладыя ўдоўцы —
Стада варабняцоў,
Стада жураўняцоў.
Сава арабела,
Назад паляцела.
Прыляцела ка двару,
Так і села на калу.
Як расчаркалася,
Расшумаркалася:
— Што вы за людзі,
Што вы за татары?
Доўгія ногі,
Кароткія плацці,
Чортава рожа,
Ні к чаму не гожа,
Глядзець не прыгожа.
— Ці ты, сава, дурна,
Ці ты не разумна?
Ўсё то нашы людзі,
Ўсё то нашы хрысціяне,
Нашы дзераўляне.
А мы за морам былі,
А мы сена касілі.
Сама засмяецца,
Хахол затрасецца.
Сем карушак
Салёных лягушак.
Сем чацвярцей
Салёных чарцей.
Муха на пудзень,
Камар на закуску.

## 317г. ДА ЗАДУМАЎ ПАН ВЕРАБЕЙ

Да задумаў пан верабей
Хуценька жаніцца,
Смачных рэчаў скаштаваць
І віна напіцца.
Скочыў шчыголь на месца
Коньмі варанымі,
Накупаваў чаго трэба
Плаціў залатымі.
Ды вытраціў мяшок грошай,
Ды назад вярнуўся.
— Масце пане верабей,
Да шлюбу гатуйся!
Закладайце шэсці коней
Пад поезд шырокі.
Я паеду у залёткі
Да пані сарокі.
Рыцар моцны і багаты,
Сам мерны у роду.
Сеў певень і качур
Прад ім чапкаваці.
Два індзюкі зален фрукі
Песенькі спявалі.
Сядзіць мядзведзь на калодзе
У дудачку грае,
А сарока-белабока
Пайшла танцаваці,
А вароны, стары жоны,
Гэта прымячаці.

## 317д. ОХ ВЫ, ХЛОПЦЫ, ВЫ, МАЛОЙЦЫ

Ох вы, хлопцы, вы, малойцы,
Скажу вам уцеху:
На беднага вераб'я
Пала сава з лесу,
Ручкі, ножкі адбіла,
З хатанькі выгнала.
Некаму прыбыці
Вераб'я бараніці.
— Напішу ліст да сініцы,
Да роднай сястрыцы,

Каб на той час прыбыла
Вераб'я бараніці.
Сойка саву спаймала,
На смерць спавядала,
Шаўковым платочкам
Вочы завязала.
Як узяла саву-пані
Пад катнія рукі.
— Верабейка мой любы,
Хаця ж мяне не губі,
Колькі злата маю,
Ўсё табе аддам.
Ды паставіў верабей
На смятнічку хатку,
Ды палажыў у дзвярах
Баявую кладку.
Многа там дзіва было,
Многа там пташак прыбыло.
Адзін дзіваваўся,
А другі смяяўся.
Пасадзіў на покуце крука,
Як ліхага беса.
Варона хлеб кроіць,
А муха міскі строіць,
Снезір піва носіць,
Верабей гасцей просіць.
Французскаю каляскаю
Найдоць пад'язджае,
Залатою каляскаю
Жаўна паспяшае.
Тры акрэпты качуроў,
Дзевяць віцень лебядзей
І чорная галка,
І сіва кукаўка.
Адны млоды цецярове
Ішлі чарадою
Ды да пана вераб'я
Борам, сухадолам.
Адзін млоды журавель
Спазніў на вячэру.
Як дабраўся да віна,
Дабраў сабе меру
За здароўе вераб'я.

## 317е. НАВАРЫЎ ВЕРАБЕЙ ПІВА

Наварыў верабей піва
Без хмелю, без ячменю,
Без ярнае пшанічкі.
Зазваў пташак на дзіва,
Толькі аднае савы не зваў.
Сава сама прыляцела,
На прыпечку села,
Ў скрыпачку зайграла.
А як пайшоў верабей ў танец,
Адтаптаў саве палец.
Пайшла сава кульгаючы
Ды на сыча міргаючы:
— Пастой, сычу, пастой,
Я табе галаву скіну.
Каб не тыя госці,
Паламала б табе косці,
Каб не тыя людзі,
Развярнула б грудзі.

## 317ё. ЗАХАЦЕЎ ВЕРАБЕЙ

Захацеў верабей
Хутка ажаніцца,
Смачных рэчаў скаштаваці
І мёду напіцца.
Ён думаў, ён гадаў,
Каго тут прызваці,
Каб да панны сарокі
Ў запыты пасланці.
Ў млыне воўк куццю тоўк,
Аб том даведаўся.
— Пашлі мяне на запыты!
Ён сам напрашаўся.
Ворак дзень перабыў,
Назад павярнуўся.
— Мосьце пане верабей,
Да шлюбу гатуйся!
Закладайце чтэры коні
І павоз шырокі,
Бо паедзе верабей
Да панны сарокі.

Ты рыцар верабей,
Дабро на том знайся,
Як прыедзеш да сарокі,
Нізенька кланяйся.
Як прыехаў верабей,
Скарбнуў чабаткамі,
А сарока тое ўзнала,
Ручкі не падала.
— Ах ты, сват, ліхі брат,
Ліха табе мала,
Ты там бы гаварыў,
Табе шкада стала.
Ах ты, сват, воўчы брат,
Будзеш мяне знаці,
Як вераб'я рыцара
Смеў ты ашукаці.

### 317ж. НАРАБІЎ ВЕРАБЕЙ

Нарабіў верабей
На прыпечку жніва,
Вымалаціў пшоны колас,
Нарабіў ён піва [1].

З паўтычыны хмелю клаў,
Яшчэ тога жалаваў,
Не ўмеў гасцей спрашаці,
Піва гатаваці.

Як упіўся верабей,
Весела танцуе,
К яму госці прыехалі,
Ён таго не чуе.

Б'юць замочкі, адбіваюць,
Вароцечкі адчыняюць.
Верабей не бачыць,
Бо весела скача.

Вера-вера-верабей
Перастаў скакаці:
— Госці мілы, госці любы,
За сталы сядайце.

---

[1] Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

## 317з. ЗАЛАЖЫЎ ВЕРАБЕЙ НА ПРЫПЕЧКУ ЖНІВА *

Залажыў верабей на прыпечку жніва,
Накалоціў, намалоціў пшанічнага піва.
Тры тычыны хмелю даў, хмелю даў,
Яшчэ й таго жалаваў.
І пан арганісты, і крук цымбалісты,
Або ты, буцяне, зайграй на аргане,
А ты, жучак, пасвістай, пасвістай
І ў скрыпаньку зайграй,
Засталася сава з пугачом у хаце,
Танцавала, па-французску ім казала йграці.
— А вы, пугача, пугача, вы, слаўны трубача,
Скачэце даволі ў вераб'ёвым доме.
А на тым банкеце камара забілі,
Чтэры полці з камара саланіны злупілі,
Сто пар кілбас начынілі, начынілі,
Бочку солі высалілі,
Скібы прыпякалі, гасцей частавалі.
Верабей не бачыць, у сваім доме скача,
А грудзёлак упіўся, пад стол паваліўся
І старшаму жураўлю на ногі ўваліўся.
Ўсю дружыну разагналі, разагналі,
А вераб'я не злавілі,
А сарокі з печы мусілі ўцечы.

## 317і. НАВАРЫЎ ВЕРАБЕЙ ПІВА *

Наварыў верабей піва [1]
Без хмелю, без ячменю.

Сазываў верабей гасцей,
Аднае савы забыўся.

Прыляцела сава сама,
Села яна на прыпечку.

Ой, села яна на прыпечку,
Дый зайграла яна ў скрыпачку.

Як пайшоў верабей у танец,
Адтаптаў сініцы палец.

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Дзе ж дастаці нам тае масці,
К сінічаму пальцу класці?

Каб не тыя усе людзі,
Перабілі б вераб'ю грудзі.

Каб не тыя чалавекі,
Забілі б вераб'я навекі.

### 317й. ЯК ПАСТАВІЎ ВЕРАБЕЙКА *

Як паставіў верабейка
На сметнічку хату
Ды сазваў на вяселле
Госцейку багату.

Піва, квасу навaрыў,
Квашанінкі настудзіў,
Насмажыў кілбасаў
І ўсякага мяса.

Ў залачонай карэце
Дзяцел пад'язджае,
А за дзятлам на валах
Жоўна паспяшае.

А зязюля з шуляком,
Перапеліца з круком
Лугам, даліною,
Шпараць пехатою.

Заклікае верабейка
Усіх госцікаў есці.
Запрашае белу лебедзь
На покуце сесці.

А з лебеддзю жураўля
І савішчу, і лупя,
І стару чачотку,
Сваю родну цётку.

Сядзіць мядзведзь на калодзе,
На скрыпачцы йграіць.
Дзецяняты-медзвядзяты
Струны напраўляюць.

Як зайгралі дылі-дылі
Госці у далоні білі,
Адзін дзіваваўся,
А другі смяяўся.

Шчыгел важна пахаджае,
Цаплю ў танец просіць,
Ґалка піва налівае,
А удод разносіць.

За здароўе вераб'я
Пілі, елі аж да дня,
А бацян упіўся
Ды пад стол зваліўся.

## 317к. ЯК ЗАДУМАЎ ВЕРАБЕЙ ЖАНІЦЕСЯ

Як задумаў верабей жаніцеся,
Як паляцеў ён рачыцеся
На тры макушкі, на тры пакушкі.
— Сініцы-сястрыцы, бабіцы-галубіцы,
Просім мы разам вас усіх,
Калі ўздумаю жаніцца,
Трэба вам згатавацца —
Піва, мёду, гарэлкі
І віна чатыры бутэлькі.
Будзе, будзе ўсё для вас,
Йшлі госці ў пляс,
Неслі пірагі з мясам,
Пахапілі блаху ды забілі,
З блахі мяса накраілі,
А муху падаілі
І саламуху забялілі.
— Вось гуляйце, госці!
Як ударыла музыка
Дры-та-та, дры-та-та,
Ты-лі, ты-лі, ты-ля-ля.
Воўк бляшанцам,
Мядзведзь скрыпанцам,
Куры з цыплятамі,
Гусі з гусянятамі,
Воран і галка,
Варона — маршалка.

— Вось гуляйце, госці!
Тыя госці абалелі,
Пакуль тую блаху з'елі,
З лаўкі на зямлю паселі.
Перапёлка ўскачыла,
За скрыдлы яе ўхапіла.
— Ох ты, ліса, павярніся,
Са мной троху пакруціся!
Крычаць госці, гоц-гоц-гоц.
Мёд папілі, хлеб паелі
На дванаццатай нядзелі,
Многа страты вераб'ю нарабілі.
А я таму вераб'ю
Нагу калом пераб'ю.
Я на тую ножку
Апрану панчошку,
А на тое цельца
Апрану палаценца.
— Ці дома, кумка, верабей?
— Дома, кумка, дома, галубка.
— А што ён робіць?
— Хворы ляжыць.
— А што яму баліць?
— Баляць яму грудкі.
— Ідзі, кумка, у горад
Нарві травы муткі,
Папар яму грудкі.
— Парыла, кумка, парыла, галубка,
Яго пара не бярэ,
Толькі к сэрцу прыстае.
— Ці дома, кумка, верабей?
— Дома, кумка, дома, галубка,
Хворы ляжыць.
— Што яму баліць?
— Баляць яму пяткі.
— Ідзі, кума, у гарод,
Папар яму пяткі.
— Парыла, кумка,
Парыла, галубка,
Яго пара не бярэ,
Толькі к сэрцу прыстае.

## 317л. А У ПЕЧЫ ЖАР, ЖАР

А ў печы жар, жар,
На прыпечку дзіва:
Наварыў верабей
Пшанічнага піва.

А для дарагіх гасцей
Мурашку зарэзаў,
Кадку масла насаліў,
Шост кілбас навесіў.

Чалом, чалом, верабей,
Ляцяць к табе госці,
Ляці скарэй пераймаць
Важных ягамосцяў.
Ляціць доўгі журавель,
За ім чапля і хрушчэль
І пані странатка —
Яна яму матка,
І пані чачотка —
Яна яму цётка,
Сіняя сінічка —
Родная сястрычка.

Прыляцелі совы,
Селі па застоллю,
Прыляцелі каўкі,
Селі на лаўкі,
А варона хлеба кроіць,
Муха ж місачкі строіць,
Каму піва носіць,
Піці-есці просіць.
Елі кашу са швядамі,
Як пад'елі, напіліся,
Ўсе сказалі дзякуй!
Крук варону стук у бок,
Сойка сойку за чубок,
Завяліся біцца,
Не маглі ўмірыцца.
А хрушчэль напіўся,
Пад стол заваліўся,
А сарока пайшла ў скокі,
Узяўшыся ўбокі.

На вяселлі вераб'я
Весяліліся да дня.
Я таксама там быў,
Саладзенькі мёд піў.

## 317м. ЯК ЗАДУМАЎ ВЕРАБЕЙ

Як задумаў верабей
Хуценька жаніцца,
Сладкіх рэчаў скаштаваць
І мёду напіцца.
Узяў мех і з мяхом
І удаль панёсся.
— Ой, Сцяпане-верабей,
Да шлюбу гатуйся.
Крумкач, качар і пявень
Прад ім пляткавалі,
Два індыкі напярадзе
Ім песні спявалі,
А вароны, стары жоны,
Пайшлі танцаваці,
А сарокі-белабокі
Гэта заўважаці.
А вароны, стары жоны,
Пілі, елі аж да дня,
Пілі, елі аж да дня
За здароўе вераб'я.

## 317н. ЯК НАВАРЫЎ ВЕРАБЕЙ ПІВА

Як наварыў верабей піва
І зазваў усіх пташачак у госці.
Аднае ды савы не зваў.
А сава была смела
Ды сама прыляцела.
Як пайшоў верабей у танец,
Адтаптаў саве палец.
Верабей пайшоў скачучы,
А сава пайшла плачучы.
Як прыдзеш незваны,
Дык пойдзеш няслáны.

## 317а. ПАСЛУХАЙЦЕ ВЫ, МАЛОЙЦЫ *

Паслухайце вы, малойцы, скажу вам уцеху,
На беднага вераб'я спала сава з лесу.
Рукі, ногі адбіла і з хаты выгнала.
Некаму прыбыці вераб'я бараніці.
Напішу ліст да сініцы, да роднага брата,
Каб на той час прыбыў, вераб'я бараніў,
Каб саву саймаць, як ведзьму звязаць.
Як саймалі саву пані, так звязалі рукі,
Падкінулі саву паню пад катнія рукі.
Сойка саву саймала, на смерць спавядала:
— Ото ж табе, сава, было не біць вераб'я!
— Верабейка мой любы, хаця мяне не губі,
Колькі-колькі злота маю, усё табе аддаю.
Паставіў пан верабей на сметнічку хатку
І палажыў у парозе дубову кладку,
Запрасіў пан верабей усіх пташак з лесу.
Французскаю карэтаю удот прыязджае,
Залатою каляскаю жаўна пасняшае.
Тры афронты качароў, дзевяць вецей лебядзей
І чорная галка, сівая кукаўка.
Пане жураўлёве ішлі чарадою,
Ішлі борам, сухадолам, спазніў на вячэру.
Каторы прыбыў, то папіў і паеў,
Каторы спазніўся, то той не напіўся.
За здароўе вераб'я пілі, елі аж да дня,
Вераб'ю на славу, госцем на забаву.

## 318. А У НАШАГА ВЕРАБЕЙКА

А ў нашага верабейка
Жонка маленька.

Сядзіць на калочку,
Прадзе на сарочку.

Што выведзе нітку,
То вышые світку.

Астануцца канцы —
Верабейку штанцы.

## 319. Я НА ПАЛУ УЗАПЕЧКУ

Я на палу ўзапечку
Да высеку пасечку,
Да пасею канапель.
А ў тыя канаплі
Ўнадзіліся вераб'і.
А я таму вераб'ю
Калом ногі пераб'ю.
Верабейка скача,
Па ножачцы плача.
Вераб'ёва мамка
Сядзіць на калочку,
Плача па сыночку
І то выведзе нітку
Вераб'ю на світку.
А з тых канцоў
Да нашыла штанцоў.
А з тых драпак
Ды нашыла шапак.
Верабейка памёр,
Яму вечны пакой.
Прыйшлі куры на хаўтуры,
Тры дні дошчачкі часалі,
Тры дні ямачку капалі.
Паслалі па папа,
Па запечнага клапа.
Едзе поп на блысе,
У чырвоным кажусе,
Шапачка-магерачка,
Паясок-тасемачка,
Новы боты на нагах
І кадзіла у руках.

## 320. У ЗЯЛЕНЫМ САДУ

У зялёным саду [1]
Гадуецца верабей,
Як найму я стральцоў,
Як заб'ю я вераб'я,

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

І з таго вераб'я
Кублы мяса накладу
І каўбас нараблю.
Прадам яго дзюбку,
Куплю сабе румку,
А за яго галаву
Тарэлачкі набяру,
А за яго крылачкі
Куплю сабе вілачкі,
А за яго ножачкі
Куплю сабе ложачкі,
А тады я куму
К сабе ў госці зазаву.

## 321. ВЕРАБЕЙКА ПАМЕР

Верабейка памёр,
Яму вечны пакой,

А лісіца галасіла,
Муха цеста мясіла.

Паляцелі па папа,
Па запечнага клапа.

А поп часу не мае,
Таракана спавядае.

Едзе поп на мышы —
Верабейка без душы.

## 322. ШЧЫГЛІК НЕВЯЛІКІ ГРАМАДУ ЗБІРАЕ

Шчыглік невялікі грамаду збірае,
Сам не хоча адзін жыць, жаніцеся мае.

Узяў сабе пціцу — барову сініцу,
Красную, ясную, вераб'я сястрыцу.

Паслаў арла, паслаў арла усё птаства збіраці,
А арол папаў гусю, давай мардаваці.

Два снегіры, два снегіры шпака ды паймалі,
А вароны за той час каравай згібалі.

Два каплуны, два каплуны солад малацілі,
Курапатва і цяцер да млына насілі.

Буцян меле, буцян меле, а крук засыпае,
А варобчык, добры хлопчык, муку абірае.

Перапёлка, перапёлка хату замятае,
Сава сядзіць на пакуце, скоса паглядае.

Сядзіць дзяргач на парозе, сядзіць на парозе,
Пугач, пугач, упіўшыся, ляжыць на марозе.

А сарокі, як прыданкі, скачуць каля лаўкі,
Бедна мая галованька, лаўкі без падстаўкі.

А чаечка з кулічком на вяселлі граюць,
А кулічак чайку хваціў за чубайку.

А чайка кігіча: «Ды згінь ты, куліча!»
А зязюля-матуля, харошая пціца.

Залатыя крылы мае, так гучна лятае,
А шчамель мёд дае і гасцей прымае.

### 322а. ШЧЫГЕЛЬ ВЫЛЯТАЕ

Шчыгель вылятае,
Жаніцеся мае.
Паслаў арла
Пташак збіраці.
Арол нашоў гусі,
Давай мардаваці.
А ў клуні два каплуны
Гарох малацілі,
Курапаты з цяцерамі
Да млына насілі.
Бурш меле, бурш меле,
Крупы засыпае,
А купчык малойчык
Памер адбірае.

Сядзіць сава за сталом,
Скоса паглядае.
А жураў на дварэ
У скрыпачку грае.
Сарокі прыданкі
Скачуць паміж лаўкі.
Дзяркач у парозе
Стаіць на старожы,
А дзве сініцы,
То яго дружыцы.

## 322б. ПАСЛАЎ ШЧЫГЛА НА МЕСЦА

Паслаў шчыгла на месца
Коньмі варанымі,
Каб накупіў чаго трэба,
Плаціў залатымі.
Як запрасіў пан верабей
Ды ўсіх гасцей з леса
Ды пасадзіў на покуце,
Як сава песа.
Варона хлеб кроіць,
Муха місы строіць,
Снегір піва носіць,
Верабей гасцей просіць.
Сарокі-прыданкі
Скочуць каля лаўкі.
Бедна ж ваша галовачка,
Няма і забаўкі.

## 322в. ШЧАГЕЛЬКА, ТЫ ДУМУ ДУМАЕШ

Шчагелька, ты думу думаеш,
Сам не хочаш жыці,
Жаніцеся маеш.

Пасватаў сініцу, вераб'я сястрыцу,
Слічную, пракрасную
І гласную пціцу.

Сватка-салавейка шчабеча раненька,
А зязюля свахнай
І ўсё харашэнька.

Сарокі-прыданкі скачуць паверх лаўкі,
Бедна ж мая галованька,
Забыўся цымбалкі.

Два каплуны, два каплуны солад малацілі,
А какошкі-падвяшонкі
Да млына насілі.

Журавель іграе, гусак заклінае,
Сава сядзіць пад акном,
Гасцей паджыдае.

Пугач піва наварыў, гасцей запрасіў,
А цецярук стаў скакаць,
Усіх гасцей частаваць.

Муха з пчалою упаіла цаплю,
Бедна ж мая галованька,
Дадому не траплю.

## 322г. ШЧЫГЛІК МАЛЕНЬКІ УСЕ ДУМУ ДУМАЕ

Шчыглік маленькі ўсё думу думае,
Пташачкі сабірае, жаніцеся мае.
Бярэ сінічку, гараб'я сястрычку,
Слаўную, харошую, пракрасную пцічку.
Сватачка-салавейка, дружачка-зязюлька,
Сарокі-прыданкі скачуць паверх лаўкі.
Бедна ж наша галовачка, што няма чайкі.
Чайка гарою плыве другою.
— Бедна ж мая галовачка, не знае кудою.
Сядзіць сава на пакуце, скоса паглядае,
А перапяліцы сядзяць на парозе,
А шчыглік напявае, ляжыць на дарозе,
Галубочак на дубочку, седзячы смяецца:
— Гарабейка, канапелек нап'емося ешчэ.
Канаплі папілі, шчygліка пабілі,
А па той жа час вароны каравай мясілі.
Дзве кукошы, дзве кукошы жыта малацілі,
А кукушкі па дзве ношкі у млын валачылі.
Воран меле, воран меле, воран засыпае,
А крумкачык, добры хлопчык, кошы абмятае.

### 322д. ШЧЫТНІК МАЛЕНЬКІ

Шчытнік маленькі
Сам думаў,
Сам думаў,
Жаніцісй мае.

А бярэ сінічку,
Вераб'я сястрычку,
Ярную, харошую,
Пракрасную пцічку.

А ў суботу рана
Ўсе пціцы з'язджалі,
У нядзелю раненька —
Братка салавей.

Братка салавейка
І зязюлі сваткі,
І зязюлі сваткі,
Сарокі прыданкі.

Сарокі прыданкі
Скачуць паверх лаўкі,
А прыяцель цецярук
Пытаецца, што за гук.

Сава на покуці
Скрыва паглядае,
А перапёлка
Хату замятае.

А сыч у парозе
Стаіць на старозе.
Сыч утапіўся, паваліўся,
Лёг спаць на дарозе.

Дзяцел на калочку
У ладачкі плешча,
Верабей у каноплях
Насыціўся хешча.

Чайка гарою
Ляціць крутою.
Бедная галованька,
Не знаю, кудою.

Крук меліць, крук меліць,
Бацян засыпае,
А крумкачык, добры хлопчык,
З каўша адбірае.

## 323. ЗА МОРАМ СІНІЧКА НЕ БЕДНА ЖЫЛА

За морам сінічка не бедна жыла,
Яна соладу купіла, хмелю ў доўг узяла.
Назвала гасцей — дробных пташачак.
Сава-удава нязваная прыйшла,
Соўка па сенечках пахаджвае,
Сінічка па галоўцы пагладжвае.
— Малады сінічанька, чаму ты не жэнішся?
— Рад ажаніцца, ды некага ўзяці.
Узяў бы сароку — белабокая,
Узяў бы варону — даўганосая,
Узяў бы чачотку — ды то цётка мая,
Узяў бы сінічку — ды сястрычка мая.
Вот там, за ракой, перапёлка жыве:
Не сястрыца, не матка, не цётка мая,
Тую я вазьму, з тою буду жыць.

## 323а. ЗА МОРАМ СІНІЧКА НЕ ПЫШНА ЖЫЛА

За морам сінічка не пышна жыла,
Не пышна жыла, піва варывала.
Чорны крук вінакурам быў,
Ясны сокал піва варыў.
— Дай жа, божа, піва выварыці,
Віно выкурыці.
Усіх бы я пташачак у пір пазваў,
Толькі адну шэльму саву не зваў.
Шэльма сава і нязваная прышла,
Села, надулася, разгневалася.
Усе пташачкі па сенечках пахаджваюць,
Між сабою разгаварваюць:
— Чаму ты, снягірачка, не жэнішся?
— Рад бы я жаніцца, ды некага ўзяць:
Узяў бы я страгнадку — то матка мая,
Узяў бы я чачотку — то цётка мая,

Узяў бы я сінічку — сястрычка мая,
Узяў бы я варону — даўганосы чорт,
Узяў бы я сароку — шчабятлівая.
Ёсць у мяне за морам перапёлачка,
Тая мне не цётка, не матачка,
Тую я люблю, за сябе вазьму.

### 324. У-ДУ-ДУ, ДУ-ДУ-ДУ

У-ду-ду, ду-ду-ду,
Сядзіць голуб на дубу
І з галубкаю.
Прыляцела сініца:
— Давай, голуб, жаніцца.
— І з кім жа нам жаніцца?
— І з папом з Васілём.
— Ох ты, брат, ты Васіль!
Ды бяры-ка булдаву,
Сваю бабу па лабу.
А ты, баба, каціся
Ды ў тую дубінку.
А ў той дубінцы
Ды серыя гусі,
Пайшлі да Марусі.

### 325. САВА МАЯ, САВІНЬКА

Сава мая, савінька,
Удавіная ўдавінька,
Зарыцкая барыня, княгіня!
Заўтра ў нас свята —
Савінае вяселле:
Сава замуж ідзе
За мілага друга.
Ох ты, друг мой мілы,
Друг мой чарнабровы!
Што ж то за людзі,
Што ж то за баяры.
Савы не відалі, саву саклювалі,
Саву задзюўбалі.
Сена касілі

І ў стагі складалі.
Волік на прыпражку,
Волік на прысцяжку,
Волік — вадавознік,
Волік — паравознік.
Верабей — кучар,
Салавей — хвалетар,
Сычык — габурнатар.
Сінічка — чарнічка,
Жана майсцярычка,
Паляцела к бору,
К савінаму двору.
Села-пела на палу
І спусціла галаву
На правую старану.
Ну, раскохалася,
Ну, развохалася,
Свайму другу разжалілася.
Жораў — повар
Па двару ходзіць,
Вячэру гатуе,
Курэй заганяе.
Мышку, лягушку,
Тарача на юшку,
Камар — на закуску.

## 326. САВА МАЯ РАБАЯ

Сава мая рабая,
Крыллі тває тупыя,
Пер'е тваё рабое.
Як засваталі саву
І добрыя людзі
І чэсныя свацці.
Сарокі скакухі,
Вароны плясухі,
Рабчык-страпчык.
Па сялу лятае,
Курэй выбірае,
А вароны павары
Катлы завісаюць.

Саву велічаюць,
Курэй абіраюць,
У катлы кідаюць.
Сава разгулялася,
Ў крапіву схавалася.
У кусты галавой,
А наверх нагой,
Крылачкам накрылася.
Цяпер каго б паслаць
Саву разыскаць?
Сыча паслаць!
Сеў сыч на дубішча,
Глядзіць у дуплішча:
— Як яе разбудзіць,
Каб не угнявіць?
Ах, ці ўчасалася,
Мая савішча?
— Прападзі ты, міл друг,
Са сваёй жаніцьбай.
Яшчэ не ўчасалася,
Яшчэ не убралася.
Запатылак голы,
А каснік зялёны.
На тое пячэнне,
На тое адзенне
Злятаюцца пташкі
І ўсё ж табунамі.
Садзяцца радамі,
Кушанні ўжываюць,
Саву велічаюць.
І шыльнікі, і мыльнікі,
Шапавалы і канавалы —
Усе добрыя людзі,
Ліха ім у грудзі.
На пранцузкай павозцы
Хвядот ехаў у госці.
Муха місы страіла,
А варона хлеб краіла,
Камар каня адпрагаў,
Вадзень калёсы катаў.
А маленька цяцерачка
Ішла і падбілася,
На свадзьбу спазнілася.

Яна сваё віно мела,
Налівала і піла
За здароўе савінае
І гуляла да дня.

## 327. САВА МАЯ, СОВІНЬКА

— Сава мая, совінька,
Сава была ўдовінька.
Дзе ты бывала,
Дзе ты прабывала?
— Я бывала, совінька,
Я бывала, ўдовінька,
У полі ў палішчы,
У старым карабішчы,
У гнілым дуплішчы.
Ніхто тыя совінькі,
Ніхто тыя ўдовінькі
Ніхто не ўгадае,
Ніхто не ўвазнае.
Увазналі совіньку,
Увазналі ўдовіньку
Два савіных браты.
Адзін рабчык, другі карабчык —
Зубачкі тупенькі,
Кіпцікі вайстрэнькі.
Сталі саву скубці, драці.
Сава тарапілася, назад варацілася,
Села на куць — раскапусцілася
І скундзябілася.
— Ох ты, муж, ты мой муж,
Неспагадлівы муж,
Не спагадуеш па мяне,
Па няшчаснай па ўдаве.
— Не журыся, совінька,
Не журыся, ўдовінька,
Во тады мы разжывёмся,
Як у пасту наймёмся.
Во тады будзем багаты,
Як будзе кожны нам вінаваты.
Выйдзеш на ганкі,

Ножкаю тупнеш,
Вочкамі лупнеш,
І хахол затрасецца,
І сава засмяецца.

## 328. СЯДЗІЦЬ МЯДЗВЕДЗЬ НА ПАРОЗЕ

Сядзіць мядзведзь на парозе,
Чобат падшывае,
А лісічка-маладзічка
Чэпчык вышывае.

А кошачка ў лукошачку
Фарботкі тчэ, тчэ,
Касы заяц, касы заяц
У скрыпачку грае.

А бярэсцень-карасцень
Ды зваліўся на пасцель
Ды ножкамі туп-туп.
Сядзіць соўка на палічку
Ды вочкамі луп-луп.

## 328а. НА КАЛОДЗЕ МЯДЗВЕДЗЬ ЧАБОТ ПАДШЫВАЕ

На калодзе мядзведзь чабот падшывае,
Мядзведзіха за калодай узор вышывае,
Медзвяняты-пранцаняты у дудачку граюць,
А сава з-пад вугла вочкамі луп-луп,
А сініца на паліцы туп-туп,
А сарока-белабока пусцілася ў скокі.
Пайшоў мальчык верабей пташак заганяці,
Сеў на дубінку, зламаў сабе спінку.
Верабей, верабей, не клюй канапель,
А клюй сабе проса, ды не зламай носа.
А я к таму вераб'ю калом нагу пераб'ю.
Верабейка скача, па ножачцы плача.

### 3286. СЯДЗІЦЬ МЯДЗВЕДЗЬ НА ПОКУЦЕ

Сядзіць мядзведзь на покуце,
На скрыпачку грае,
Мядзведзіха на парозе
Чэпчык вышывае.
Два каплуны, два каплуны
Пашлі малаціць,
Дзве какошкі, дзве какошкі
Да млына насіць.
Муха меле, муха меле,
Камар засыпае,
Казянятка малянятка
Мерку адбірае.
Муха месіць, муха месіць,
Камар ваду носіць,
А варона, стара жона,
У печы саджае.
Крумкач смаркач, крумкач смаркач
Бохан пачынае.

### 329. САБРАЛАСЯ ЗВЕРЫНА

Сабралася зверына
З сваёю зверыною,
Пасадзілі мядзведзіка
За сталом суддзёю.

Стаў мядзведзь судзіці,
Каго ажаніці:
— Ажэнім мы зайца,
Шэрага кітайца.

А каго ўзяць за жонку,
Маладую куну?
Хай заяц жонку мае
Ды па лесе гуляе.

Воўка за службу,
Мядзведзіка за дружбу,
Ліса за музыку,
Ён іграе звеку.

Ды сарокі-белабокі
Каравай мясілі,
А вароны, стары жоны,
У печ пасадзілі.

Вепручышча-карпачышча
Пад парогам рые,
Ведзьмядзішча-касмацішча
Да вяселля вые.

Сядзіць сава за сталом,
Коса пазірае,
Каго ж куна палюбіла,
Ён хваста не мае.

Сядзіць заяц пад кустом
Ды сабе думае:
— Няхай сабе без хваста,
Абы жонку маю.

Сядзіць мядзьвець за сталом
Ды каравай крае
Ды ісподню скарыначку
Дый у горла пхае.

Як наехаў пан Чубоўскі
Ды з сваімі псамі,
Паразганяў зверыну
Паміжду лясамі.

Ды ваўчышча-кулачышча
Ды кладзецца ў зелле.
— Ой, божа мой, міленькі,
Дзе наша вяселле?

Сядзіць зайчык пад кустом
Ды сабе думае:
— Ды жаніўся і страціўся
Дый жонкі не маю.

## 329а. ЗАДУМАЛА ЗВЕРЫНА

Задумала зверына
Зайца ажаніці.
Пасадзілі мядзведзя
За суддзю судзіці:

— Ажанема зайца,
Чумака кітайца.
Няхай ў лесе не гуляе,
Няхай заяц жонку мае.

Камар месіць,
Муха ваду носіць,
А варона, стара жона,
На вяселле просіць.

А сарока-белабока
Каля лаўкі скача:
— Гора маё няшчаснае
Што няма кібалкі.

А варона, стара жона,
Вышла танцаваці.
А крук, а крук схапіў друк
Ды стаў разганяці.

А мядзведзь небарак
За дзяўчыну — чабарак,
За дзяўчыну — чабарак,
Ды папаў за ляжак.

## 330. СЯДЗІЦЬ ЗАІНЬКА ПАД КУСТОМ

Сядзіць заінька пад кустом,
Ходзяць ахвотнічкі папустом.

Сядзіць заінька, не дыша,
Ён сваю прыгоданьку слыша.

Страціўся заінька ў цёмны лес,
Ён сваім ахвотнікам хвост паднес.

— Вы, ахвотнічкі, прасціце,
На мой хвост паглядзіце.

Чым я вам, ахвотнічкі, дасадзіў?
Я ў вашы аўсы не хадзіў.

Вашыя грэчкі не з'ядаў,
Толькі ў капусту пабяжаў.

І то не капаў, не ірваў,
Толькі гатовую збіраў.

33. Зак. 500

## 331. ЗАІНЬКА, ТЫ ШЭРЫ МОЙ*

— Заінька, ты шэры мой,
Дзе ж быў да прабываў?
— Быў я, быў я, мамачка,
Ды па падвалах, заінька,
Быў я, быў я, мамачка,
Ды па падвалах, заінька.

— Заінька, да шэры мой,
Што ж там да сам відаў?
— Відзеў-відзеў, мамачка,
Тры дзяўчынкі харашы,
Відзеў-відзеў, мамачка,
Тры дзяўчынкі харашы.

— Заінька, да шэры мой,
Хто там з іх да лепша ўсіх?
— Да Маруся ўдала,
А Кацюша хараша,
А Дуняша расцвяла,
А Дуняша расцвяла.

— Заінька, да шэры мой,
Ці кармілі заіньку там?
— Ой, кармілі, мамачка,
Да Маруся ўсё блінцамі,
А Кацюша піражкамі,
А Дуняша твbooражкамі.

— Заінька, да шэры мой,
Ці паілі заіньку?
— Ой, паілі, мамачка,
Да Маруся ўсё піўцом,
А Кацюша ўсё вінцом,
А Дуняша ўсё мядком.

— Заінька, да шэры мой,
Раскажы, ці спаў ты там?
— Спаў я, спаў я, мамачка,
У Марусі ў палажку,
У Кацюшы на палу,
У Дуняшы на мяшку.

— Заінька, да шэры мой,
Як цябе правадзілі там?
— Правадзілі, мамачка,
Да Маруся памялом,
А Кацюша дзеркачом,
А Дуняша трапкачом.

## 332. ЎЧОРА ЛІСУХНА Ў ГОСЦЯХ БЫЛА *

Ўчора лісухна ў госцях была,
З зайцам пад ручку к дому ішла,
А ўлезла ў норку — ў норцы мароз:
Заяц-паганец снегу нанёс.

Каб я паваліўся,
Каб я утапіўся,
Каб я марна прапаў,
Як я лапкі абтрасаў.

# НЕВЕРАГОДНЫЯ ГІСТОРЫІ

## 333. ОЙ ТЫ, ДЗЯДЗЬКА-САМАСЕЙ

Ой ты, дзядзька-самасей,
Ці не бачыў чудасей,
Ці не бачыў чудасей?
Што ў моры-полі мужычок
Камарамі араў,
Камарамі араў,
Жалудамі паганяў.
Ён загончык не ўзараў,
Камарыкі патаміў,
Камарыкі патаміў.
Ой, у лузе мужычок
Шылам сена касіў,
Шылам сена касіў,
На воз іголкамі насіў,
На воз іголкамі насіў.
Ён вазочка не наклаў,
Дый іголку паламаў,
Дый іголку паламаў.
Ой, у лесе мужычок
Сярпом дровы рубаў,
Сярпом дровы рубаў,
Ён паленка не зрубаў
Дый сярпочак паламаў,
Дый сярпочак паламаў.
Ой, а дома мужычок
Жонку і матку запрагаў,
У лес па дровы выязджаў,
У лес па дровы выязджаў.
Ён на матку — дубінку,
А на жонку — былінку.
Ён на матку: но да но,
А на жонку: тпру да тпру.

## 333а. ОЙ ТЫ, БРАЦЕЦ МАЙСЕЙ *

— Ой ты, брацец Майсей,
Ці не бачыў чудасей,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Ці не бачыў чудасей.

— Ой, я бачыў, відаў,
Ды няволя была ўзяць.
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Ды няволя была ўзяць.

Як у полі мужычок
Камарамі араў,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Камарамі араў.

Камарамі араў,
Жалудамі паганяў,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Жалудамі паганяў.

Баразёнкі не прагнаў,
Жалудочкі пацяраў,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Жалудочкі пацяраў.

— Эй ты, брацец Майсей,
Ці не бачыў чудасей,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Ці не бачыў чудасей.

— Ой, я бачыў, відаў,
Да няволя была ўзяць,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Да няволя была ўзяць.

Як у лесе мужычок
Да сярпом дровы рубаў,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Да сярпом дровы рубаў.

І паленца не адрубаў
Да сярпок паламаў,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Да сярпок паламаў.

— Эй ты, брацец Майсей,
Ці не бачыў чудасей.
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Ці не бачыў чудасей.

— Эй, я бачыў, відаў,
Да няволя была ўзяць.
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Да няволя была ўзяць.

Як у лузе мужычок
Шылам сена касіў,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Шылам сена касіў.

Шылам сена касіў,
Эй, іголкамі насіў,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Эй, іголкамі насіў.

Яшчэ копні не паклаў,
Іголачкі паламаў,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Іголачкі паламаў.

— Эй ты, брацец Майсей,
Ці не бачыў чудасей,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Ці не бачыў чудасей.

— Эй, я бачыў, відаў
Да няволя была ўзяць.
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Да няволя была ўзяць.

Як у лузе на дубочку
Свіння гняздо савіла,
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Свіння гняздо савіла.

Нараджала парасят
Без аднаго семдзесят.
Ну-да, ну-да, ну, эй,
Без аднаго семдзесят.

## 334. А ШТО Ж ГЭТА ЗА ЧУТКА БЫЛА

А што ж гэта за чутка была,
Ды што курачка бычка радзіла,
Парасёначак яечка знёс,
А бязрукі яечка ўхапіў
Ды голаму за пазуху заклаў.
А бязногі іх пабег даганяць,
А сляпы на старожках стаяць,
А глухі стаў падслухваць,
А нямы закрычаў: калавур!

## 335. ДЗІВА, ДЗІВА ЗА РАКОЙ

Дзіва, дзіва за ракой,
Дзіўней таго ў нашым баку.

Качарга яйцо знясла,
Памяло выседзела,
Перапёлка вывадзіла.

## 336. А Ў НАШАГА СУСЕДА

А ў нашага суседа
Учора была бяседа:

Свіння ў дуду іграла,
А курыца скакала,

А пятух прыпяваў
І ножкай прыбіваў.

## 337. ОЙ, ДЗЕ Ж ГЭТА СЛЫХАНА

Ой, дзе ж гэта слыхана,
Ой, дзе ж гэта відана,
Каб курка бычка нарадзіла,
Парасёначак яечка знёс,
На высокую палічку ўзнёс,
А кот цыплят вывадзіў,
Скавароднік за цыплятамі хадзіў.
Сабіраліся на клешчы прадаць,
Галапузаму за пазуху пакласць.

А нямы падказваць,
А сляпы падглядваць,
А бязногі на вуліцу пабяжаў,
А нямы каравул закрычаў.
Па масту, масту, масту, масту, масту,
Па калінавым масту, масту, масту.
Вот тудой ішла бабулечка,
Рэшата бліноў нясла,
Паставіла на маім лужку,
Памінаць сваю радзіначку.

## 338. ВЫЙДУ ЗА ВАРОТЫ

Выйду за вароты,
Гляну на балоты.
Мядзведзь каня дзярэць,
А прус ваду нясець,
Блыха хату топіць,
Свіння дзяжу месіць,
Аўца муку сеіць.
Выйду за вароты —
Махі ды балоты.
Мядзведзь каня дзярэць,
А прус на марозе змёрз,
Блыха хату спаліла,
Свіння цеста паела,
Аўца муку пазлізала.

## 339. МАЕ ВЫ МУЖЧЫНАЧКІ

Мае вы мужчыначкі,
Навіну скажу вам:

Сівая свіння
На дубе гняздо звіла,

На дубе гняздо звіла,
Казлянятак прывяла.

А мой мужык хітры быў,
Сена шылам накасіў.

Пад прыпечкам стог злажыў
Кошку сенам накарміў.

## 340. АЙ, ЖЫЎ ЖА Я Ў МАРКАВІЧАХ

Ай, жыў жа я ў Маркавічах,
Начаваў я ў Мятлавічах.
Там дзіковіна была:
Курачка бычка прывяла,
Парасёначак яечка знёс,
На высокую палічку ўзнёс,
А палічка зламілася,
А яечка разбілася,
А сляпы ды паглядзеў жа,
Без'языкі каравул закрычаў,
Шалудзівага за кудры хватаў.

## 341. ЖЫЎ САБЕ ЧАРНЕЦ АДЗІНОКІ

Жыў сабе чарнец адзінокі,
Зрабіў сабе кельню лубяную,
Узяў сабе жонку маладую,
А сам пашоў за вадою.
Азірнецца чарнец, аж яго кельня гарыць.
Галовачка мая бедная,
Прапала ўся худобачка:
Арэхавы ночвы поўны мукі,
Жалудова чашка поўна масла.
Свіння каля печы сала пячэ,
Маленькая блошка хатку мяце,
Зелянушка жабка кросны тчэ,
На паліцы мышка крупы дзярэ.

## 342. А МОЙ ТАТКА БА́ГАТЫР *

А мой татка багатыр
Саломенны валы меў,
Ну-да, ну-да, ну-да,
Саломенны валы меў! [1]

Ён камарамі гараў,
А мухамі паганяў.

---

[1] Два апошнія радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Жонку, матку запрагаў,
Дубінаю паганяў.

— А ты, маці, но, но, но!
А ты, жонка, тпру, тпру, тпру!

Па матцы дубінаю,
Па жонцы пярынаю.

## 343. НА ГАРЭ ЖАБКА

На гарэ жабка
Красенцы ткала.
Прыехаў рачак
Ды к жабцы ў сваты.
— Зачым табе, жабка,
Чатыры лапкі?
— А зачым табе, рачак,
На задзе вочкі?

## 344. У МЯНЕ БЫЛА КАБЫЛА

У мяне была кабыла,[1]
Цераз курду-вердала,
Трынды-рынды-рэндала,
Кабыла!

Здохла мая кабыла,
Цераз курду-вердала,
Трынды-рынды-рэндала,
Кабыла!

Не плач, мая жоначка,
Цераз курду-вердала,
Трынды-рынды-рэндала,
Кабыла!

З вушка будзе паціхвон,
Цераз курду-вердала,
Трынды-рынды-рэндала,
Паціхвон!

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

